


**ВЫПУСК 93**

Вінцэсь Мудроў

# ЗАБОЙЦА АНЁЛА

Аповесці і апавяданні

**Мінск, «Кнігазбор», 2017**

# У ЛАЗНІ

Сакавіцкай парой прыемна пахнуць бярозавыя венікі. Высахлыя на ветры, яны струменяць даўкі водар, шамацяць, калі іх злёгку патрэсці, і гэтым сваім шамаценнем выказваюць гатовасць зараз жа апусціцца ў кіпень і хвацка прыкласціся да распаранага азадка...

Перадаўшы прадавачцы дваццаць тысяч, Макар схаваў твар у выпетранае лісце, хапануў ноздрамі паветра, і ад гаркавадурманлівага паху ў яго закружылася галава.

«Як добра пахнуць венікі ля лазні гарадской...» — нарадзіліся ў душы паэтычныя радкі. Макар спыніўся, задзёр галаву, шукаючы рыфму слову «венікі», але ў галаве круціліся толькі «варэнікі», і паэт, плюнуўшы пад ногі, борзда ўзбег па прыступках.

Звычайна на дзённыя сеансы народу ў лазню прыходзіла няшмат, сёння ж каля касы стаяла вялізная чарга.

Макар утрапёна агледзеў натоўп, маракуючы — ці варта займаць чаргу, бо квіткоў магло і не хапіць, — ды, павагаўшыся, голасна запытаў:

— Хто апошні?

Апошнім стаяў недаростак з чырвонай, усё адно як варам апаранай галавой, на макаўцы якой злавесна стаўбурыліся рэдкія валасы.

Не паспеў Макар прыліпнуць да хваста чаргі, як за спінай ягонай прымасцілася яшчэ некалькі чалавек.

— Адкуль столькі людзей? — сіпата дыхнулі яму ў патыліцу. Ззаду стаяў кучаравы мацак у камуфляжным бушлаце і ў аграмадных вайсковых чаравіках.

— Квіты ад ранку не прадавалі, — азвалася на тое вірлавокая цыба, што стаяла паперадзе недаростка. — Вунь, бачыце, —

цыба кіўнула ў бок разнасцежанага цеплавузла, — штосьці ў іх там зламалася. Кагадзе адрамантавалі.

З цёмнай проймы цеплавузла выпаўзаў, прычым задам наперад, здаравіла-слесар.

Пабачыўшы важкі мужчынскі азадак, цыба знянацку замітусілася, выбегла з натоўпу і, запусціўшы руку між грудзей, выцягнула зумклівы «мабільнік».

— Клава, я ў лазні... — засакатала кабета, ціснучы да вуха слухаўку і пазіраючы на слесара, які збіраў інструмент. — Мінулым разам пасля парыльні цэлы кілаграм скінула, цяпер вось думаю яшчэ пару кіло скінуць.

— Куды табе скідваць... і так худая, як вобла, — пачуўся за спінай знаёмы голас.

— Ды гэта проста вада выходзіць потам, а тлушч застаецца, — прамовіў Макар, і недаростак, азірнуўшыся, працяў яго дапытліва-суровым позіркам.

— Ты што, бандэра?

Макар напачатку не зразумеў пытання. Стаяў зніякавелы, і толькі потым уцяміў, што меў неасцярожнасць выдаць фразу па-беларуску. Яшчэ ніколі яго, беларускага паэта, аўтара трох паэтычных зборнікаў, так не абражалі. Паэту — у кароткае імгненне — стала халадна, потым горача, а пальцы правай рукі міжволі сцiснуліся ў кулак.

— Лёха, чаму так далёка ад касы? — крыкнулі ад уваходных дзвярэй, і да недаростка валюхастай хадой падышоў зладзеяватага выгляду бамбіза. Гэта быў мужчына сярэдняга веку, з нахабнай тыднёвай шчэццю і з арыгінальнай лысінай: яна ў яго пукацілася што тая балканская феска, прычым у атачэнні густых чорна-гудронных валасоў.

— Куды плішчыцеся? Чаргу займайце, — незадаволена бухнуў за Макаравай спінай усё той жа сіпаты голас, і недаростак з інтанацыяй пераможцы працадзіў: — Яшчэ адзін бандэра.

На міг усе сціхлі. Макар адчуў, як людзі ў натоўпе разам згорбіліся, наструніліся, прыціснуліся адно да аднаго. У гнятлівай цішыні злавесна шэрхнулі падэшвы вайсковых чаравікаў. Кучаравы мацак наблізіўся да недаростка, схапіў таго за каршэнь.

— Яшчэ адно слова, абгрыздыш, і заляціш вунь туды, — мацак тузануў падбароддзем, паказваючы на цеплавузел.

Макар адсунуўся ўбок і спалохана назіраў, як лысы бамбіза, ляснуўшы кулаком правай рукі аб далонь левай, развážліва прамармытаў:

— Ну што, хахляра, цябе зараз замачыць ці пасля таго, як памыешся? — пудовы кулак быў пазначаны наколкай крыжа і зламанай ружы.

Натоўп загаманіў на ўсе галасы. Цыба, паправіўшы збіты набакір капялюш, з гатовай радасцю ўсклікнула: «Мужчыны... знайшлі месца, дзе біцца!» — а перапэцканы ржою слесар, махнуўшы дзеля саліднасці развадным ключом, загадна выдыхнуў: «Усё, мальцы... разышліся».

Мальцы разышліся, паабяцаўшы сустрэцца пасля лазні.

Макар паглядзеў на ўваходныя дзверы.

«А можа, пайсці дахаты? А то ўліпну ў якую гісторыю... Пляшак, падобна, з зоны адкінуўся. Пырне фінкай — і не скрывеліцца», — апанаваны такімі думкамі, Макар уздыхнуў, але потым згадаў, што мыўся месяц назад, а тут яшчэ новы венік набыў... што ж яго цяпер — сухім дахаты несці? Прыціснуўшы венік локцем, паэт палез у кішэнь па грошы. Чарга рухалася надзіва хутка, і ён ужо быў недалёка ад касы.

Квіткоў прадалі больш, чым трэба, і шафак усім не хапіла. Макар вырашыў трымацца бліжэй да кучаравага хлопца, таму і прапанаваў павесіць вопратку ў адну шафку. Пляшак з недаросткам распраналіся непадалёку.

— Лёха, як толькі хто рыпнецца — кліч мяне. Ты ж мяне ведаеш — я б'ю два разы: адзін раз па кумпалу, другі — па веку дамавіны, — грымеў знявечаны шумам дожджыку і раскацістым рэхам плешаковы голас. — Аднойчы, яшчэ да зоны, пайшоў у лазню, і там адзін, такі ж вось фраер, пачаў залупацца. Дык я яго на распаленыя камні пасадзіў. Так і спёк яйцы. А з бандэраю ў мяне ўвогуле размова кароткая...

Слухаючы такое, Макар нават упрэў, а зыркнуўшы на плешака, зусім занепаў духам. Торс былога зэка быў скрозь у наколках, а ад шыі і да самай пахвіны сінеў завілы пісяг.

— А ты што, з Ільвова? — запытаўся тым часам кучаравы хлопец, сцягваючы з нагі нехлямяжы чаравік.

— Ды я там ніколі не быў, — пралепятаў Макар. Хацеў яшчэ сказаць, што ён беларускі паэт, але змаўчаў, бо невядома было, як на тое зрэагуе суразмоўнік.

Балей таксама ўсім не хапіла, але лазеншчык, кульгавы дзядзька ў белым халаце, голасна паведаміў, што неўзабаве прынясуць спісаныя медніцы са склада.

Кучаравы хлопец стаў пад дожджык, а Макар вырашыў перш-наперш наведаць сухую парыльню, а потым нырцануць у басейн.

Ён адчыніў дзверы саўны, удыхнуў гарачага паветра і тут жа ўгледзеў плешака, які з крэканнем залазіў на паліцу. Макар згадаў вусцішны аповед пра печаныя яйцы, пастаяў хвілю ў нерашучасці і пад незадаволены вокліч: «Зачыняй, дух выходзіць!» — грукнуў дзвярыма, так і не наведаўшы парыльню.

Абяцаныя медніцы дагэтуль не прынеслі, і тыя, каму не хапіла балей, з зайздрасцю пазіралі на недаростка, які, не раўнуючы герой Зошчанкі, прысабечыў аж тры балеі — у адной адмочваў ступакі, у другой мыўся, а на трэцюю, перакуліўшы дагары дном, паклаў мыла і вяхотку. Невядома, колькі б доўжылася такое мыццё, каб да Лёхі не падышоў Макараў «кампаньён». Макар быў далёка і не чуў іхнай размовы, але недаростак, відаць, сказаў штосьці крыўднае, бо кучаравы хлопец на міг сумеўся, а потым, узняўшы балею з вадой, абрынуў на Лёхаву галаву, ды так, што праламаў пластмасавае днішча. Недаростак войкнуў, паспрабаваў устаць, але тут жа плюхнуўся ўпоперак лавы, наставіўшы ўгору куртаты, з невядомай прычыны ўзбуджаны чэлес.

Акурат той хвіляй лазеншчык прынёс стос бляшаных медніц. Макар падхапіў самую верхнюю, сеў на крайнюю лаўку і здаля стаў пазіраць на Лёху, якога палівалі вадой і рабілі штучнае дыханне. Пазіраў з трывогаю, чакаючы таго моманту калі Лёхаў карыфан выкуліцца з парыльні. Той, аднак, не выкульваўся, і Макар, набраўшы вады ў медніцу, намыліў галаву.

— У нас у аддзеле таксама ўчора завяліся. Адны за Пуціна, другія за ўкраінцаў, — гугнявіў хтосьці праваруч, завіхаючыся з вяхоткай.

— Хахлы ў тую вайну Гітлеру прадаліся, цяпер вось пад Амерыку падбіваюцца, — азваліся леваруч.

— Пасля Сталіна не тое што Гітлеру — самому чорту душу закладзеш, — рэзюмаваў гугняк і нечакана, з інтанацыяй панікі, загарлаў: — Б’юцца!

Змахнуўшы з вачэй мыльныя хлапякі, Макар убачыў, як кучаравы хлопец заехаў плешаку кулаком у грудзіну, але той, як Фантамас, толькі злёгку хістануўся. Мыла выядала вочы. Макар плюхнуў вады на твар, слёзы засцілі свет, і ён толькі пачуў тупат босых ног, сіплую лаянку і бурлівы плёскат у лазенным басейне.

Калі падбег да басейна, кучаравы пускаў ужо бурбалкі. Пляшак, сядзеў на ім, прыцiснуўшы да дна, і не даваў хапануць паветра.

— Ратуйце! Патопіць чалавека! — гаркнулі адразу некалькі глотак, і Макар, разагнаўшыся, скокнуў на лысую галаву.

Ужо ў вадзе пляшак даў яму каленам у жывот, Макар глынуў смярдзючай хлёркі, усплыў, у два грабкі даплыў да нікеляванай лесвіцы, і галёнка ягоная знямела ад жалезнай сутаргі. Віснучы на парэнчах, Макар заехаў плешаку пяткай у нос і кінуўся ў прымыльнік. Думаў узяць у абярэмак апранахі і падацца да выхаду, але шафка была зачынена, а за спінай ужо грымелі здушаныя мацюкі — пляшак, падобна, бег, прыціскаючы далонь да разбітай нюхаўкі.

Фае, на шчасце, было пустое, каса зачыненая, і Макар непрыкметным ценем праслізнуў у цеплавузел. Тут, у цёмным катуху, не хапала паветра, і ён адчуў лёгкую млосць. Сэрца парывіста білася, трапятала ля горла, замарачным шумам адбівалася ў барабанных перапонках. У фае штосьці бразнула, пакацілася па падлозе, і замарачны шум увушшу пакрыў пранізлівы жаночы віскат. Лысы, няйначай, памкнуўся шукаць «бандэру» ў жаночым аддзяленні. Макар з адчаем падумаў, што вось зараз дзверы адчыняцца, лысы бандос выцягне яго,

голага і мокрага, са спрату і пачне душыць сваімі страшнымі лапамі, але за дзвярыма запанавала ціша, якую праз нейкі час парушыла бразганне дзвярэй і тупаценне.

Цэментавая падлога была халоднай, таму паэт увесь час пераступаў, як той смаргонскі мядзведзь, з нагі на нагу, адчуўшы раптам, што яму не проста млосна ў гэтым цёмным катуху, але і млосна жыць на белым свеце. І невясёлыя думкі віравалі ў галаве.

«Вось уліп дык уліп. Добра яшчэ, калі Лёха ачомаецца. А як памрэ? Завядуць крымінальную справу, пачнуць выклікаць на допыты. І добра яшчэ, каб у якасці сведкі. Не-э, пара завязваць з той паэзіяй, бо хутка за беларускую мову пачнуць збіваць нагамі. Гэта раней мы, беларусы, былі бэнээфаўцамі, цяпер вось ператварыліся ў бандэраўцаў. А з бандэрай, казаў той пляшак, размова кароткая — могуць і на той свет выправіць».

Фае ізноў абудзілася. Пачуліся кароткія воклічы, катаржны шоргат падэшваў. Ні жывы ні ўмерлы Макар прачыніў дзверы, зірнуў у вузкую пройму і ўбачыў двух міліцыянтаў, якія вялі пад рукі кучаравага маладзёна. Маладзён пры гэтым зацкавана азіраўся і, наглытаўшыся вады з хлёркай, голасна ікаў. На дне душы Макаравай абудзілася і пачало дымна тлець адчуванне віны перад хлопцам, і дрыготкія вусны з няўклюдным спачуваннем прашапталі:

— Згарэў ні за што.

Макар чакаў, што зараз з прымыльніка вывядуць лысага ды вынесуць Лёху, але нікога больш не выводзілі і не выносілі. Замест таго лазню скалануў жаночы лямант:

— Іх чацвёра было!..

Голас падаўся Макару знаёмым, і ён прыпаў да шчыліны. Ну вядома, гэта вірлавокая балбатуха выкулілася з жаночага аддзялення. Кабеціна была спавіта ў прасціну, а на галаве быў накручаны турбан з махровага ручніка.

— Адзін невялічкага расточку... за мной стаяў. Потым яшчэ падышоў... здаровы такі, лысы... і выгляд бандзюкаваты. І завяліся з двума другімі. Адзін быў у вайсковай адзежыне, а другі ў сіняй куртцы, і венік трымаў пад пахай... Мне яшчэ падалося, што ў яго крыху не хапае...

— Балаболка лупатая, — уголас прашаптаў Макар, спужаўшыся ўласнага голасу.

— Ну а за што яны завяліся? — запытаўся міліцыянт, які стаяў поруч і штосьці пісаў у нататніку.

— Ды той, дурнаваты, крыкнуў штосьці па-хахляцку, а маленькаму... ну, задрыпу таму, што за мной стаяў, гэта не спадабалася...

— А што ён крыкнуў? Пастарайцеся згадаць. Гэта вельмі важна. Можа, што пра майдан ці пра выбары?

— Ды не... я якраз з сястрой размаўляла, і сказала, што пасля парыльні кілаграм вагі скінула. А той хахол загарлаў, што гэта пот з арганізму выйшаў.

— Усё абшукаў — нідзе няма, — гукнулі знянацку з прымыльніка.

— Аббяжы вакол лазні, можа, дзе, голыя, у кустах сядзяць, — загадаў міліцыянт, піхнуўшы ў кішэнь нататнік, — і ў «хуткую» патэлефануй. Хай прыедуць, паглядзяць таго... кантужанага.

Макар вылез са спрату і на цырлах, сабраўшы ў прыгаршчы машонку, заляцеў у прымыльнік. Недаростак, дзякаваць богу, ачуняў: сядзеў на лаве, а перад ім, прыпаўшы на калена, завіхаўся лазеншчык з медычнай пляшачкай у руках. У паветры да свербу ў носе пахла нашатырам.

Шафка была расчынена, і вопратка валялася на падлозе. Няйначай, кучаравы небарака раскідаў, як збіраўся ў пастарунак.

Макар з цяжкасцю нацягнуў штаны, нахіліўся, каб падняць кашулю, ды так і замёр нерухомы. За тры метры ад яго стаяў пляшак і дрогкімі рукамі спрабаваў надзець трусы. На плешака было страшна глядзець: ён быў мокры ад макаўкі да пятак, дарэшты ссінелы, і яго ўсяго калаціла. І дрыжыкі былі нейкія дзіўныя: лыткі, чэрава, лысая галава і ліловы азадак тузаліся, дрыжэлі, пульсавалі ў нейкім дзікім разнабоі, а з расквашанага носа і пабітай макаўкі ценькімі струменьчыкамі збягала юха. Пляшак, відаць, хаваўся ў кантраснай ванне. Вада там ледзяная, таму і скарчанеў, як цуцык.

Макар падышоў да акалелага небаракі, дапамог насунуць кашулю. Кроў з пабітай макаўкі пайшла як мае быць, таму давялося адарваць кавалак газеты, што ляжала, прыціснутая мокрымі нагамі, на падлозе, пρыляпіць да раны.

... Міліцэйскай машыны каля лазні ўжо не было. Зірнуўшы на «хуткую дапамогу», што калывалася на выбоінах, Макар паляпаў па сцёгнах, шукаючы цыгарэты, і толькі тады заўважыў, што надзеў чужыя порткі. Ён дастаў пачак, працягнуў скалеламу гаротніку. Той памкнуўся вылушчыць цыгарэту, але пальцы зусім не гнуліся, і Макар сам уставіў цыгарэціну ў пасінелыя вусны, пстрыкнуў перад разбітым носам запальнічкай. Змагаючыся з дрыжыкамі, гаротнік зацягнуўся цыгарэтным дымам, і на змарнелым твары ягоным нарадзілася журботная ўсмешка.

# ТУЗІК І КУЗІК

Прадказанне, як вядома, справа рызыкоўная. Вось і матухна Пелагея штогоду кажа: «На габрэйскую Пасху халадэча, а на нашу — Божая цяплынь». А што маем? Чысты чацвер падаспеў, а ў паветры белыя мухі кружляюць, і Тузік з Кузікам — два ўвішныя, невядомай пароды, дварнякі, — не могуць угрэцца і сядзяць у сваёй будцы.

Дварнякі вартуюць будматэрыялы — дзесяць кубоў адфугаваных дошак, гару сілікатнай цэглы ды тузін мяхоў з вапнаю. Учора, поруч з будкай, ляжалі таксама лісты дэкаратыўнай фанеры, але з ночы цесляры, што тут завіхаюцца, занеслі іх у царкву і цяпер безупынна лупяць малаткамі, збіваючы «царскія брамы».

Тузік і Кузік яшчэ зусім маладыя псіны. На мінулыя Пакровы іх, гарэзлівых шчанюкоў, падкінулі ў двор айца Антонія, і матухна Пелагея — жанчына дарэшты чуллівая, — прытуліла гарэзаў у хлеўчыку, кінуўшы ў кут старую ватоўку і наліўшы ў бляшанку цёплага казінага малака. Завітаўшы наступнага ранку ў хлеўчык і пабачыўшы, як руды, з белымі «гамашамі» на пярэдніх лапах шчанюк тузае за вушы чарнявага, з белай «манішкай» на грудзіне сябрука, матухна Пелагея ахрысціла аднаго з іх Тузікам, а другога — Атлантавым. Надта ж падобны быў чарнявы шчанюк з «манішкай» на опернага спевака, якога калісь паказвалі па тэлевізіі і якога матухна любіла за густы бас і мужнае аблічча. Айцец Антоні, аднак, з другім імем не пагадзіўся. «Не варта псінам даваць чалавечых імёнаў», — мовіў, спехам перахрысціўшыся, і прапанаваў назваць шчанюка Кузікам.

На тлустых святарскіх харчах сабакі хуценька раслі і, што дзіўна, амаль не брахалі. І толькі адранку, пачуўшы, як гаспадар спрабуе непракерханы голас, з адчайным дзяўканнем кідаліся да парога гаспадаравай хаты. Блазнюкам здавалася, што гаспадара нехта душыць і ён лямантуе аб дапамозе.

— М-митропол-литу М-минском-му и Сл-луцком-му-у... — зычна цягнуў айцец Антоні, гэтак жа зычна керхаў, і матухна Пелагея, ступіўшы на ганак, дакорліва прамаўляла:

— Ну чаго, чаго ўсхадзіліся?..

У руках матухна несла слоік з малаком, і шчанюкі задаволена вілялі хвастамі — малако ім падабалася і дзяўкаць такою хвіляю нават самаму зласліваму сабаку не выпадала.

Тры месяцы гойсалі Тузік і Кузік па двары, а неўзабаве ім знайшлася праца: вартаваць недабудаваную царкву, дакладней, атачоны дашчаным плотам цвінтар, на якім ляжалі піламатэрыялы ды розны будаўнічы хломазд. Напачатку сабак пасадзілі на доўгія ланцугі, але ў першы ж вечар Тузік з Кузікам так у іх заблыталіся, што адзін з ланцугоў давялося перапілоўваць, а Тузіку яшчэ і прыпякаць ёдам да крыві намуляную лапу. Ад той пары сабакі вартавалі цвінтар без ланцуга і ставіліся да сваёй працы з усёй адказнасцю. Вось і мінулай суботы давялося Тузіку хапануць за калашынне прапара Патрыкеева. Прапар той прымачыць у хаце загадчыцы мясцовай крамы і трэці год запар будуе ля хаты лазню. «Ну што, гвардзейцы віславухія... службу несяце?» — стоена гукнуў Патрыкееў, завітаўшы а дванаццатай гадзіне ночы на цвінтар. Сабакам такі жарт не надта спадабаўся. Яны пацягнулі насамі, а ўнюхаўшы агідны пах вермута, якім быў працяты кадравы вайсковец, пакінулі віляць хвастамі і наструніліся. «Брус які ўзяць, ці што?» — прамармытаў, загаворваючы сабачыя зубы, начны госць, і не паспеў ускінуць на плячук даўжэзны брус, як Тузік схапіў яго за калашынне форменных штаноў. Сабакі заліліся брэхам, іх падтрымалі спакрэвічы з усяго пасёлка, і прапар паўпрысядкам, з мацюкамі на вуснах, пабег упрочкі, галавой адчыніўшы непадатныя весніцы.

Весніцы, дарэчы, на цвінтары адмысловыя: да іх прыбітыя спружыны, таму яны адчыняюцца з цяжкасцю. Зрабілі гэта, каб сабакі не давалі рады выскачыць на вуліцу. Ды тыя, з разгону, іх лёгка адчыняюць.

А яшчэ Тузік з Кузікам любяць ганяцца за жоўта-блакітнымі «жыгулямі», на якіх ездзіць даішнік Вазняк. Міліцыянт штодня прыязджае на абед да маці, старой Вазнячыхі, і сабакі,

яшчэ здаля пабачыўшы міліцэйскую «канарэйку», бягуць ёй насустрач, а потым аж да самай Вазнячысінай хаты зацята брэшуць у выхлапную трубу.

З усімі астатнімі жыхарамі пасёлка сабакі жывуць дружна. Нават з Вазнячысіным катом, які часцяком завітвае на цвінтар і грэецца на дошках, пазіраючы на свет круглявымі, не раўнуючы як працяты сонцам агрэст, зіркадламі. Тузік гыркае на ката толькі тады, калі вусаты свавольнік пнецца, на паўсагнутых лапах, да бляшанак, у якія матухна Пелагея налівае малако.

Дзесьці на другім канцы псёлка гудзе машына. Кузік, чыя галава тырчыць з будкі, прыўзнімае правае вуха, слухае — ці не Вазняк едзе? — і салодка, на поўную губу, пазяхае. Звычайна ад самага ранку на цвінтар забягае матухна Пелагея. Прыносіць малака, яшчэ якога едзіва... Сёння ж гаспадыня затрымліваецца, і Кузік раз-пораз наструньвае слых і з нецярплівасцю пазірае на весніцы.

Тым часам ляскатанне малаткоў на імгненне аціхае, і з царквы выкульваецца каржакаваты дзядзька ў шэрай бейсболцы — брыгадзір цесляроў.

— Ой, бля-а... — зморана выдыхае брыгадзір і абедзвюма далонямі абабівае з нагавіцаў пілавінне. Потым нахіляе галаву ды лезе рукой за каршэнь — пілавінне ўбілася і туды.

— Ну, дзе твой... айцец Ануфры? — пытаецца за брыгадзіравай спінай чарнявы дзяцюк, таксама абабіваючы нагавіцы і засяроджана міргаючы прыцярушанымі вачыма.

— Антоні... — папраўляе брыгадзір, дастаючы з пакамечанага пачка напаўпустую цыгарэту.

— Калі не прынясе — далібог памру, — гукае чарнявы і, мружачы прыцярушанае вока, цягне руку да брыгадзіравага пачка.

Мужчыны ўдыхаюць едкі дым, засяроджана сплёўваюць тытунёвыя крошкі.

— Цешча ўжо агуркі пасадзіла, а тут такая халадэча. Сабакі і тыя не ўгрэюцца, — чарнявы каротка свішча, крычыць: — Гэй, харэ спаць! — і Кузік з неахвотаю вылазіць з будкі.

Следам за ім на свет божы выбіваецца Тузік і задаволена, узняўшы ўгору хвост і выцягнуўшы наперад лапы, пацягваецца.

— Ну як вам тут, на папоўскіх харчах? — пытаецца чарнявы, і брыгадзір, пусціўшы струмень шызага дыму, з вясёлым смяшком адказвае:

— Пасціцца не прымушае. Зірні на іх — аж поўсць гарыць.

Тузік і Кузік, праўда, гэтага не чуюць, бо навыперадкі бягуць да вясніц. Вясніцы натужліва рыпаюць, і ў пройме паўстае мажная постаць айца Антонія.

— Фу! Фу! — загадзя крычыць айцец Антоні, падбіраючы крысо даўгой святарскай апранахі — дварнякі пры стрэчы спрабуюць узбіцца лапамі на калені — так яны аднойчы падралі айцу спартовыя штаны, а надоечы завэдзгалі святочную расу.

— Наце вам... скароміны, — святар кідае кавалкі ліявернай каўбасы, і Тузік з Кузікам лятуць да пачастунку.

Дварнякі, падазрона зыркаючы адно на аднога — ці не дастаўся каму большы кавалак? — глытаюць пачастунак і бягуць за гаспадаром.

Айцец Антоні прылашчвае кужэлістую бараду, папраўляе збітую набакір камілаўку, хрысціцца на кагадзе ўсталяваны царкоўны крыж.

— Ну, як... усю ноч працавалі?

— Усю! — адказвае брыгадзір, парукаўшыся з айцом Антоніем. — Шкуркай зараз пройдземся — і можна вешаць абразы.

— Малайцы... а я думаў — не паспееце, — айцец Антоні паварочваецца да сабак, сурова, як Мікола-ўгоднік, трасе пальцам: — Сядзець тут... у храм не заходзіць!

Але Тузік з Кузікам і без таго ведаюць — у царкву ім уваход забаронены. А так цікава прабегчыся па свежых габлюшках, пашукаць мышэй у цёмных закутках. Дварнякі цягнуць шыі, круцяць насамі, спрабуючы ўнюхаць мышэй, а ўдыхнуўшы драўлянага пылу, разам чхаюць.

— А што... у старавераў, як сабака ў царкву забяжыць, дык яе па-новай асвячаюць? — пытаецца брыгадзір, айцец Антоні штосьці адказвае, але словаў не чуваць з-за шоргату ног.

Тузік з Кузікам пазяхаюць, панылымі вачыма аглядаюць цвінтар. Вятрыска гоніць па сцяжыне шэры пыл... на кучу

сілікатнай цэглы прымасцілася і тут жа ўзнялася ў паветра натапыраная варона. Відаць, чагосьці спужалася. Ага! За крушняй сілікатнай цэглы мігнуў кудлаты каціны хвост. Кот падыходзіць да таго месца, дзе ляжала каўбаса, нюхае зямлю і, бязгучна вякнуўшы, ускоквае на плот. Вусаты прайдзісвет ступае па няроўных канцах дошак, і Тузік з Кузікам з зайздрасцю глядзяць на ката, дзівуючыся — як гэта можна хадзіць па такіх тонкіх, ды яшчэ і няроўна абрэзаных дошках?

Хвілін пятнаццаць сабакі ляжаць каля царкоўнага парога — Кузік пры гэтым грызе галінку з шэрымі катахамі — засталася ад Вербніцы, — і прыслухоўваюцца да гулкіх галасоў з царквы.

— Не пераблытайце: «Звеставанне» павесіце на гары, астатнія знізу...

— Не хвалюйцеся, не пераблытаем... Як скончым — усё лішняе вынесем, і габлюшкі прыбярэм...

— Я па абедзе жанчын прышлю, каб памылі...

— А што, у Бычках усё згарэла? Нічога не ўратавалі?

— Усё! — голас айца Антонія мацнее, і сабакі падхопліваюцца.

На Вербніцу, з-за ліхенькай электраправодкі, у суседніх Бычках згарэла драўляная царква. Таму і вырашылі сустракаць Вялікдзень у недабудаваным храме: на ўсяночную прыдуць бычкоўцы, а ў малой, перабудаванай з трансфарматарнай будкі капліцы, дзе служыць айцец Антоні, можа змясціцца чалавек дзесяць, не болей.

— Матухна з кулічамі завіхаецца. Як вызваліцца — прынясе вам падсілкавацца. Толькі ж глядзіце... — айцец Антоні хрысціцца на ўваходныя дзверы, — не ў царкве...

— Ну... няўжо не ведаем! — гамузам адзываюцца цеслі, і брыгадзір, закаціўшы вочы, ледзь чутна шапоча: «“Звеставанне” — угары, апосталы — на зямлі».

По абедзе мужчыны прымасціліся на лаўжы сухога галля за царквой і прагна, у восем рук, пачалі разбіраць прынесеныя матухнай Пелагеяй пачастункі. Пачастункі былі посныя, і мужчыны з тае нагоды ўголас абураліся («Нават сабакам няма

чаго кінуць!»), але, дастаўшы са дна бяздоннай кайстры дзве пляшкі гарэлкі, ураз павесялелі.

— Ну, з богам! — выдыхнуў праз пару хвілінаў брыгадзір, куляючы чарку.

У торбе знайшлася толькі адна шклянка, таму пілі па чарзе, піхаючы закарузлыя пальцы ў слоік з кіслай капустай.

Тузік і Кузік сядзелі поруч, шоргалі па траве хвастамі, варушылі азадкамі, а ўчуўшы пах гарэлкі ды перакіслай капусты, разам пырхнулі.

— Што, не смакуе? — гукнуў чарнявы маладзён: ён разліваў гарэлку. — Звыкайцеся... з трапезай нашай, — пасля такіх словаў мужчыны стрымана рагатнулі, а маладзён, адкаркоўваючы другую бутэльку, кіўнуў у бок царквы: — Відаць, Бог усё ж такі ёсць.

— Ёсць, ды не такі, якім яго малююць, — азваўся на тое брыгадзір і, хукнуўшы ў жменю, глынуў другую чарку.

— Усё гэта жыдоўскія штучкі, — падтрымаў размову трэці мужчына — таксама чарнявы і кучаравы, за што атрымаў мянушку Турак. Турак у свой час скончыў педінстытут і на ўсе выпадкі жыцця меў уласную думку. — Мы што, славяне, дурнейшыя за жыдоў? Ды наш фальклор куды больш красамоўны. Казку «Лёгкі хлеб» чыталі? Сапраўдная філасофская прыпавесць! — Турак глынуў гарэліцы, выцер далонню вільготныя вусны. — Адно што жыды пісаць маглі, усё гэта занатавалі. А мы, славяне... — выпускнік педінстытута махнуў рукой і куснуў салёнага гурка.

— Бязбожнік ты, Турак, — убіўся ў размову маладзён, — гарэць табе ў пекле. І габрэяў дарма крыўдзіш. Што яны табе кепскага зрабілі?

Гуркі былі пераспелыя, і хлопцы сплюнулі пад ногі семкі.

— Які ж бязбожнік, калі я перакананы, што Бог ёсць і ён валадарыць светам. Адно што мадэль боскай сутнасці, якую прапануюць папы... — Турак на хвілю задумаўся, маракуючы, як скончыць фразу, і ў гэты момант з-за царквы выйшлі, несучы ў поліэтыленавых мяхах габлюшкі, дзве старыя жанчыны.

— Хаця б далей адышлі... п'янтосы няшчасныя! — гукнула адна з кабет, цеслі нязлосна мацюкнуліся і трэцюю чарку кулялі моўчкі.

Калі, праз гадзіну, падпітыя мужчыны рушылі да хаты, чарнявы маладзён кінуў Тузіку скарынку хлеба і, не да каго не звяртаючыся, запытаў:

— А ці ёсць гэта душа ў сабак? — і Тузік, нават не нюхнуўшы пачастунку, каротка брахнуў:

— Ёсць!

Адвячоркам нібыта бралася на дождж, на даляглядзе пару разоў раскаціста грымнула, але потым усё сціхла, і ўскудлачаная, серабрыстая з краёў хмара няспешна прыхавалася за Бычкоўскім лесам. Наўзамен ёй над лесам паўстала Мілавіца, і ў паветры пранізліва запахла таполевымі пупышкамі.

Адну з таполяў, што расла на цвінтары, учора ссеклі, а галлё ды пацурбалкі — па недаглядзе — склалі тут жа, ля пня. Цяпер вось брыгадзір цесляроў з чарнявым напарнікам спехам цягаюць цурбакі да плота, аслабаняючы дарогу для хроснага ходу.

— Галіны ў зямлю ўторкніце, каб дошак не было бачна, — камандуе айцец Антоні, выкопваючы з нетраў святарскіх строяў кішэнны гадзіннік. Ляпнуўшы гадзіннікавым вечкам, бацюхна ўздыхае — час ісці ў царкву пераапранацца, а тут яшчэ нічога не гатова.

Тузік з Кузікам круцяцца ля гаспадаравых ног, задаволена вішчаць, а неўзабаве, выцягнуўшы з лаўжа доўгія пруты, пачынаюць іх шкуматаць.

— Матухна, сабак прыбяры! — гукае айцец Антоні, але матухна не чуе — у яе сваіх спраў па горла: жанчына махае камусьці рукой, а потым бяжыць пераймаць пажарніка, які нясе вогнетушыльнікі.

Праз хвілю, забыўшыся на кудлатых свавольнікаў, бацюхна крычыць штосьці падпітаму электрыку, які ўзлез на слуп, а Тузік з Кузікам кідаюцца да весніц, адкуль чуваць лямант:

— Госпадзі Ісусе Хрысце, Сыне Божыю-у... — спявае дзядок у заношаным палітоне, раз-пораз цалуючы кардонны абразок, які вісіць на грудзіне.

Людзі, што раз за разам уваходзяць на цвінтар, кідаюць дзядку грошы. Тузік тыцкае мокрым носам у шапку з грашыма, дзядок незадаволена сыкае:

— Прэч, паскуда! — і, настроіўшы голас на патрэбны тон, ізноў гугнявіць: — Го-оспадзі Ісусе-э...

Тым часам весніцы з рыпам адчыняюцца, і ў пройме з'яўляецца старая Вазнячыха. Трымаючы магутным азадкам фортку, старая перакідвае з рукі на руку вузел з кулічамі, хрысціцца і тут жа падхопліваецца, прыціскаючы кулічы да грудзіны.

— Куды лезеце... халера на вас... — Тузік з Кузікам унюхалі салодкі пах печыва, лезуць лапамі цётцы на грудзіну, і старая, успёршы кулічы на галаву, нема галосіць: — А людцы мае добрыя-а...

— Тузік! Фу! — чуецца з натоўпу, і сабакі, пачуўшы родны голас, круцяць ад захаплення не толькі хвастамі, але і галовамі. Матухна Пелагея з вясёлым дакорам тузае Кузіка за віслае вуха, выпускае сабак на вуліцу.

Сабакі радасна брэшуць, скачуць вакол гаспадыні. Радасць іх зразумелая: столькі народу наўкола, і светла, як днём, бо на слупе, на якім кагадзе завіхаўся электрык, запаліўся пражэктар і навылёт працяў густое, настоенае на паху таполі і велікодных кулічоў паветра.

Гаспадыня дробненька тупае па сцяжыне, сюд-туд глядзіць на гадзіннік, махае рукой, заклікаючы гадунцоў не марнаваць час, ды дзе там! Тузік раскапаў кратовую кучку, уважліва нюхае нару, а ягоны сябрук наогул знік з вачэй — забег, відаць, у чужы двор, бо непадалёку бразнуў ланцуг і надрыўна забрахаў чужы сабака.

Матухна ўся знервавалася, пакуль загнала гадунцоў у хлеўчык, а кінуўшы ім два кусы надоечы купленай крывянкі, крутнула засаўку.

— Пасядзіце тут... да раніцы. Ратунку ад вас няма.

Сядзець у цёмным хлеўчыку, поруч з курамі, якія сонна квахталі за сценкай, сабакам ніяк не выпадала. Тузік з Кузікам здушана скавыталі, торкалі насы ў дзвярную шчыліну, спрабавалі грызці шула, нарэшце суняліся і, брахнуўшы, леглі на

ватоўку — на тое месца, дзе калісь спалі шчанюкамі. Ляжалі з узнятымі галовамі, зацята глядзелі на зоркі — Тузік на белую, Кузік на чырванаватую, — зоркі тыя цьмяна блішчэлі ў дзвярной шчыліне, — і голасна ўздыхалі.

На гарышчы поркалася ў струхлелай саломе мыш, гаспадараў кот мякка ступаў па даху, за сценкаю прыспана варушыліся куры, і аднекуль здалёк начны ветрык прыносіў невядомыя і незразумелыя зыкі. Там, удалечыні, штосьці няўцямна гуло, мармытала, прыглушана спявала; Тузік з Кузікам нюхалі паветра, трэслі вушамі — каб лепей чуць і ўадначас каб адбіцца ад сянных скочак, — пару разоў падхопліваліся на ногі, нарэшце, змораныя, паклалі галовы — Кузік на край ватоўкі, Тузік на спіну свайму сябруку — і прымкнулі вочы.

Пад раніцу яны разам ускочылі і падбеглі да дзвярэй. Сабакам выразна пачуўся гаспадаравы голас. Голас абрываўся, згасаў, зноў абуджаўся і клікаў, клікаў да сябе! Якраз гэтым часам у царкве адчынілі ўсе вокны, і сціснуты чатырма сценамі густы бас айца Антонія вырваўся на волю.

«Гаспадар! Яго душаць... тыя сволачы, што сабраліся на цвінтары! Ён кліча на дапамогу!» Відаць, такія думкі апанавалі той хвіляй Тузіка і Кузіка, якія гучна забрахалі, забегалі з канца ў канец сваёй вязніцы, і неўзабаве Кузік пачаў рабіць падкоп пад дзвярыма, а Тузік стаў вадзіць лапаю па дзвярной шчыліне. Сабачы кіпцюр крануў драўляную засаўку — раз, потым другі, — засаўка адышла, і сабакі, наваліўшыся грудзінамі на дзверы, разам выкуліліся на двор.

У царкве было не прадыхнуць, старой Вазнячысе нават стала млосна ад задухі, і з правага боку — асцярожна, каб не замінаць службе, — выставілі рамы з вокнаў. Пяюны царкоўнага хору, адчуўшы, што галасы іх пры адчыненых вокнах пацішэлі, заспявалі на поўныя грудзі.

«И Слове, и Душе, треми соединяемое во ипостасех естество, пресущественне, и пребожественне, в Тя крестихомся-а...»

Заспявалі так зладжана і пранікнёна, што ў айца Антонія нават навярнуліся няпрошаныя слёзы; ён скасіў вока на ма-

тухну, але тая, як ні дзіўна, глядзела ў іншы бок — на ўваходныя дзверы.

«...И Тя благославим во вся веки-и...»

Матухна прыўзнялася на дыбачках, паправіла хустку на галаве, стала прабівацца да выхаду.

Ля дзвярэй, на бабінцы, чынілася штосьці незразумелае. Там брахалі і якаталі сабакі, сіпла лаяліся мужчыны, крычалі жанкі, і ўвесь гэты гармідар пакрываў немы лямант знадворку:

— А людцы мае добрыя, а што ж гэта робіцца-а?! — Гэта лямантавала старая Вазнячыха.

Ля ўвахода заскавытаў сабака, хор на імгненне аціх, і айцец Антоні, зірнуўшы ў бок кліраса, сурова і ўладна заспяваў:

«Прииде Тобою в мир Господь...»

І хор, ужо без ранейшай жарсці, падхапіў велікодную песню.

Пасля ютрані айцец Антоні доўга сядзеў, знясілены, не даючы рады скінуць святочнай рызы. Адзінае, што ён здолеў зрабіць, гэта расчасаць свае пасівелыя валасы — матухна называла іх «пэцаламі» — ды зняць з грудзіны цяжкі срэбны крыж. У галаве, як ні дзіўна, не было ніякіх думак. Галава злёгку кружылася ад бяссоння, і было ўражанне, што цела пазбылася цяжару і пасмай ладаннага дыму паплыло ў паветры.

Праз паўгадзіны фанерныя, дзеля выгляду навешаныя дзверы адчыніліся і ў пакой зазірнула матухна Пелагея.

— Ну што ты, далібог. Госці сабраліся, а цябе няма...

— Іду, — выдыхнуў айцец Антоні, але так і застаўся сядзець у нерухомасці, неадрыўна пазіраючы на завіток жаўтлявых габлюшак.

— Тузіку лапу перабілі... — матухна глянула на двор і, адказваючы на нечае вітанне, хуткагаворкай прамовіла: — Сапраўды ўваскрэс!

Айцец Антоні падняўся з крэсла:

— Хто перабіў?

— Сусед... Патрыкееў. Стаяў ля царквы, падпіты... ну і шпурнуў палена.

— Прасілі ж цябе... — плаксіва выдыхнуў айцец Антоні, і матухна незадаволена адказала:

— Загнала... і дзверы зачыніла... Дык вылезлі ж...

...Ля дзвярэй айца Антонія пераняў Кузік. Віскнуўшы, ён ліслівым катом падбіўся пад ногі і ціха брахнуў.

— Што, насваволілі? Цяпер лашчышся?

Айцец Антоні нахіліўся, каб патрэсці Кузіка за гагавіцу, але нечакана выпрастаўся і пасуровеў з твару. Ад кучы цэглы, скачучы, як спутаны конь, шкандыбаў Тузік. Задняя лапа ягоная была перабітая ў суставе і бездапаможна матлялася ў паветры.

— Што ж ты, братка... — са шкадобай у голасе выдыхнуў святар, прысеўшы над кудлатым гаротнікам, — бег мяне ратаваць? Эхэ-хэ-э...

Тузік глядзеў на гаспадара вільготнымі чорнымі вачыма, якія раптам затуманіліся і сталі падобныя на маціцовыя гузікі.

— У такі дзень... — прашаптаў святар, і твар ягоны злёгку прасвятлеў: на другім канцы вуліцы, гудучы на пад'ёме, азваўся міліцэйскі «жыгуль».

...Кузік хацеў адчыніць непадатныя весніцы, але сіл не хапіла, і ён, стаўшы на лапы, прыслухаўся. Да вушэй далятаў толькі голас даішніка.

— Ну што вы, які ветэрынар, калі ў суставе перабітая...

— Вы не хвалюйцеся. Шпокну ў вуха — ён нічога і не пачуе... Без лапы — якое жыццё... Ну, вядома, не тут... Адвязу ў лес... У мяне і рыдлёўка ў багажніку...

Праз няшчыльна падагнаныя дошкі было бачна, як гаспадар парукаўся з Вазняком, хацеў было ізноў ісці на цвінтар, ды тут убачыў ля сваёй хаты матухну Пелагею. Жонка раскрыліла рукі, ляпнула імі па сцёгнах. Жонка сердавала: у хату, на разговіны, прыйшлі госці — бычкоўскі бацюхна, швагер з жонкаю, сын з нявесткай, а ён ходзіць немаведама дзе... І айцец Антоні, махнуўшы рукой, рушыў следам за «жыгулём».

Пасля разговінаў айцец Антоні прылёг адпачыць і праспаў да вечара. Абудзіла яго бразганне посуду на кухні і прытоенае жончына мармытанне.

— Розуму ж у сабак зусім няма. Толькі яго пачуюць — кідаюцца, як ашалелыя. Ну і тут кінуліся. Вазнячыху перапудзілі... заікацца пачала. Ёй жа на ўсяночнай млосна стала, дык вывелі... Сядзела, да сцяны прытуліўшыся, ды, кажуць, заснула... А тут... гэтыя... брэшуць, у царкву лезуць... Вазнячыха і загарлала з перапуду, папаўзла ўздоўж сцяны. Карацей, і смех, і грэх... — матухна бразнула талеркамі і, звяртаючыся да нявесткі, прамовіла: — Бяры ручнік — праціраць будзеш.

Пасля выпітай чаркі балела галава, злёгку нудзіла, і айцец Антоні, пацёршы скроні, выйшаў на падворак.

На двары было цёпла і вільготна. Падсветленае згасальным сонцам паветра ружавела, дрыжэла ўваччу, і старая таполя, што стаяла пасярод двара і яшчэ ўчора была панылай і голай, пакрылася зялёным вэлюмам. Айцец Антоні скасіў вочы і да храбусцення ў суставах пацягнуўся.

— Любата! — вырвалася з грудзіны, і водгуллем вокліча святарскай душы стаўся глухі і няўцямны зык. Гэта выў на царкоўным цвінтары самотны Кузік. Айцец Антоні спахмурнеў, але тут жа страсянуў галавою.

«Што гэта я... пусціў у душу грахоўную маркоту, калі душа павінна весяліцца», — айцец Антоні падняў угору вочы, перахрысціўся на ружовыя аблокі, і сэрца ягонае крануў лёгкі халадок — ад адчування, што калісьці, у іншым жыцці, ён пабачыць жывога Тузіка, і ягоны ўлюбёнец тыцнецца яму ў далонь халодным носам, а яшчэ падумаў, што пабачыць родную маці і тую дзяўчыну, якую страшэнна кахаў і з-за якой ледзь не кінуў семінарыю, і, апанаваны такімі думкамі, прачытаў — ад пачатку да канца — сваю ўлюбёную Восьмую Песню. Гэта яна гучала ў царкве, калі туды лезлі кудлатыя недарэкі.

«Всю низложив смерти державу Сын Твой, Дево, Своим воскресением, яко Бог Крепкий совознесе нас и обожи...»

# КАВА АПОЎНАЧЫ

Рыгор Мікалаевіч — малады, збольшага непітушчы кандыдат навук — выбег з ваннага пакоя і, пакідаючы на падлозе сляды мокрых ног, падбег да шафы. Высунуўшы шуфляду, дзе ляжала ніжняя бялізна, ён выцягнуў адтуль трыкатажныя трусы фірмы «Puma», нацягнуў на жылістыя клубы і заклапочана спахмурнеў: жоўтая пляма на трусах так і не адмылася. Памацаўшы пляму дрыготкім пальцам, кандыдат скрывіўся і ўжо без ранейшага імпэту стаў насоўваць праз галаву выхадную кашулю. У галаве тым часам віравалі лічбы: сорак тысяч трэба будзе аддаць за шампан, пяцьдзясят тысяч за ружы, яшчэ дванаццаць тысяч «пацягнуць» новыя шкарпэткі: старыя ўсе скрозь прадзерліся. Агулам — сто дзве тысячы. Як для яго — вялікія грошы.

— У-ф-ф! — выдыхнуў Рыгор і тут жа застыў, зачараваны. Яму ўявіліся важкія дзявочыя грудзі, прымроіліся гладкія, шырока рассунутыя калені, вуха крануў гарачы Зінчын шэпт, і кандыдат, забыўшыся на грошы, захоплена пацёр спацелыя далоні.

Рыгор быў старым кавалерам і ўжо не першы год марыў аб жаніцьбе. Знайсці ў сталым веку годную жонку наогул цяжка, а тут яшчэ прыродная сціпласць, няўпэўненасць у сабе, малыя заробкі... Карацей, злядашчаў Рыгор без жонкі. І вось, акурат сёння, з халасцяцкай слязінай у сэрцы, сустракаў кандыдат сваё трыццаціголддзе. Адранку — была такая інстытуцкая завядзёнка — прынёс на кафедру пару пляшак віна, кіло памаранчаў, яшчэ нейкя закусь і, у час сяброўскай бяседы, пачуў ад калег шмат добрых слоў на свой адрас. «Адно кепска, Рыгор Мікалаевіч, — выгукнула пры канцы застолля загадчыца кафедры Еўдакея Ферапонтаўна, — не маеш ты спадарожніцы жыцця». Распалавініўшы памаранчу, загадчыца выцерла рукі аб насоўку і жартам прамовіла: «А вунь, Зіначка Якуніна... чым не пара? Маладая, энергічная... кандыдацкую піша...»

Пасля такіх словаў Зіначка Якуніна густа пачырванела і абдарыла Рыгора Мікалаевіча шматабяцальнай усмешкай.

Гэтая самая Зіначка працавала на суседняй кафедры і патрапіла на застолле выпадкова — прынесла нейкія паперы і, вядома ж, мусіла выпіць за здароўе юбіляра. Дагэтуль Рыгор не звяртаў на Зіначку аніякай увагі: была яна на пяць гадоў старэйшай, на два пальцы вышэйшай і нос мела кірпаты. Але тут штосьці зварухнулася пад сэрцам, і юбіляр, паправіўшы скасабочаны гальштук, убачыў, што Зіначка Якуніна прывабная жанчына і да таго ж — пра гэта яму гучным шэптам паведаміла Еўдакея Ферапонтаўна — мае ўласную двухпакаёвую кватэру.

Пасля бяседы Рыгор праводзіў Зіначку дахаты. Яны ішлі па шумных вуліцах, бязладна гаманілі, і з кожным крокам у душы Рыгоравай расло, убіралася ў сілу пачуццё хмельнай радасці з дамешкам восеньскага суму. Сум навявала бязважкая павучынка, што трымцела ў валасах спадарожніцы. Павучынка спрабавала зляцець у свой недалёкі вырай, але здолела гэта зрабіць толькі на парозе Зінчынага дом. Рыгор зняў яе, пусціў па ветры, і Зіначка, ачараваная такім абыходжаннем, ледзь чутна пралепятала: «Дык, можа, зойдзем да мяне? Пачастую вас кавай...»

Прапанова прагучала знянацку, і ў Рыгора ад нечаканасці нават закружылася галава. «Трусы падзертыя... памыцца трэба... кветку якую ўзяць...» — завіравалі ў галаве бязладныя думкі, і кандыдат, пералічыўшы квадраты вокнаў у Зінчыным пад’ездзе, у сваю чаргу шапялява прамармытаў: «А можна... увечары?»

Жанчына з радасцю кіўнула, і яны развіталіся на доўгія дзве гадзіны.

А дзявятай вечара, пад гукі музычнай застаўкі тэлепраграмы «Панарама» — у адной з кватэраў тэлевізар працаваў на поўную гучнасць, — кандыдат увайшоў у прыцемны пад’езд, падняўся на другі паверх і застыў перад браніраванымі дзвярыма. Перакінуўшы з левай рукі ў правую букет жоўтых ружаў (хацеў узяць чырвоных, ды не было ў продажы), Рыгор

з шумам перавёў дых, памкнуўся націснуць гузік званка, ды дзверы з рыпам адчыніліся і на парозе паўстала гаспадыня кватэры. Была яна ў белай празрыстай сукенцы і з чырвоным бантам у валасах.

— А вось і мы! — гукнуў кандыдат, злавіўшы вокам смочкі грудзей, што прабіваліся праз сукенку, і элегантным рухам — дзвюма рукамі — перадаў даме кветкі.

— Ой, Рыгор Мікалаевіч... ну навошта такія выдаткі? — з інтанацыяй лёгкай панікі прамовіла жанчына, прыціснула да твару бутоны і, увабраўшы носам паветра, прашаптала: — Божухна, які пах!

Рыгор Мікалаевіч пераступіў парог, другім разам перавёў дых і толькі тады згадаў, што прыйшоў на спатканне ў туфлях на босую нагу. Шкарпэткі ён набыў па дарозе, ды забыўся нацягнуць, і цяпер застыў ля дзвярэй, чакаючы, калі гаспадыня сыдзе з калідора. Тая, аднак, не сыходзіла.

— Ну што ж вы, Рыгор Мікалаевіч, не саромейцеся. Будзьце як дома. Вось вам тапкі, — гаспадыня кватэры нагнулася, яшчэ раз прашаптала: — Які пах! — падсунула да Рыгоравых ног мяккія жаночыя тэпці.

Госць муляўся ля ўвахода, і гаспадыня, па-свойму зразумеўшы сітуацыю, адчыніла прыбіральню...

«Лажануўся», — падумаў Рыгор, нацягваючы шкарпэткі і, каб пераканаць гаспадыню, што яго прыперла ўсяго толькі па малой патрэбе, спусціў ваду і выслізнуў з прыбіральні.

— Калі б вы ведалі — як я люблю жоўтыя ружы! — Зіначка завіхалася недзе ў кухні, і Рыгор, дастаўшы з поліэтыленавай торбы бутэльку шампану, агледзеўся. Пасярод пакоя стаяў сервіраваны на дзве персоны стол. На стале гарэлі васкоўкі, і палахлівыя вогнікі цьмяна бліскалі на металёвым цэптэраўскім посудзе, на ножках высокіх фужэраў, на баку пузатай бутэлькі. «Camus» — мільганулі ўваччу залацістыя літары, і Рыгор, уздыхнуўшы, прысуседзіў да пляшкі дарагога французскага каньяку бутэльку таннага айчыннага шампану.

Наступнай хвілінай госць з юрлівай асалодай назіраў, як гаспадыня ўкараноўвала стол букетам апырсканых вадою ружаў. Пад сукенкай Зінчынай былі толькі ажурныя трусікі, і

Рыгор, пабачыўшы гэта, няўлоўным рухам правёў рукой па тым месцы, дзе паўставаў з небыцця апрэлы дручок.

Ад выпітага кружылася галава і злёгку зыбалася падлога.

— Еўдакея Ферапонтаўна шмат пра вас казала, — гаспадыня кватэры каторым ужо разам наблізіла твар да ружаў.

— А што канкрэтна? — госць у сваю чаргу паднёс да носа фужэр, удыхнуў шакаладны пах каньяку.

Замест адказу жанчына апусціла вочы, прыкусіла ніжнюю губу, і Рыгор зразумеў, што Зіначка забегла сёння на кафедру не выпадкова.

Госць, з адчуваннем лёгкай перавагі (сам ён абараніўся яшчэ пазалетась), змяніў тэму гаворкі:

— Ну, а як кандыдацкая?

— Засталося стылістыку паправіць... — адказала Зіначка, і Рыгор падскочыў у крэсле.

— Стылістыку? Ды я яе ўжо траім правіў! — кандыдат памкнуўся зараз жа ўзяцца за справу, але гаспадыня яго спыніла.

— Ну што вы, Рыгор Мікалаевіч... у нас яшчэ будзе час... — жанчына папоўніла ягоны келіх, — ці не так?

Полымя ўсіх трох свечак гайданулася, твар гаспадыні дзіўным чынам засвяціўся знутры, і душу Рыгораву працяў нервовы халадок.

— Зіначка... у нас наперадзе цэлае... — ён не дагаварыў: захлынуўся ад хмельнага шчасця, якое аж па край напоўніла грудзіну.

Рухавыя вогнікі свечак мільганулі ў жаночых вачах, і Зіначка падхапілася на ногі. Яна відавочна хацела адцягнуць, затрымаць хвіліну галавакружных прызнанняў.

— А вы памятаеце, Рыгор Мікалаевіч, дзеля чаго я вас запрасіла?

Рыгор Мікалаевіч п’янавата таргануў плячыма.

— Хацела пачаставаць каваю. Ды не паспела змалоць, — гаспадыня выйшла на кухню і ўжо адтуль казала госцю, — так што закасвайце рукавы. Цэлы пачак сёння купіла.

Госць кульнуў дзеля смеласці фужэр каньяку, кінуў у рот скрылёк цытрыны і таксама падаўся на кухню.

Зіначка сядзела на кукішках і поркалася ў кухонным буфеце.

— Кавамолка, праўда, дапатопная. Яшчэ ад прадзеда засталася, — Зінчын задок напята пукаціўся, і Рыгор, аблашчыўшы вачыма спакуслівую лагчынку, што падзяляла яго на дзве палавіны, аж застагнаў ад юрлівай змогі. — Каб пачак змалоць, трэба круціць цэлыя суткі.

Кавамолка была і сапраўды дапатопная. Шэрая, з рэшткамі лаку, яна нагадвала мініяцюрную катрынку, і, здавалася, крутні выгінастую корбу — і кавамолка абзавецца зыкамі. Рыгор агледзеў млынок з усіх бакоў і на прыбітай спадыспаду блямбе разабраў зацёрты надпіс: «Заводъ “Везувій”. 1904 годъ».

Гаспадыня засыпала ў кавамолку жменю пахкіх зярнят, і госць з шалёным імпэтам крутнуў корбу.

— Не так шпарка, Рыгор Мікалаевіч. Круціць трэба паволі, каб зерне паспявала патрапіць у жорны.

Рыгор запаволіў хуткасць, і першыя зярняты з лёгкім храбусценнем перацёрліся на мліва. Гукі гэтыя лагодзілі слых. І наогул, малоць каву на старажытным млынку было надзвычай прыемным заняткам, і калі хвілін праз пяць гаспадыня зайшла ў кухню, госць адказаў ёй белазубай, па-дзіцячы наіўнай усмешкай.

У гэтым была нейкая зачараванасць, нейкае насланнё. Рыгор круціў корбу, і разам з корбай круціліся кухонныя сцены, газавая пліта, насценны гадзіннік, двухкамерная лядоўня «Ака», і ўвесь свет раскручваўся навокал, і кружэнне гэтае спынілася толькі тады, калі за спінай бразнулі дзверы і хтосьці голасна вымавіў ягонае імя.

Гэта была Зіначка: яна з нецярплівасцю ляпала па далоні донцам меднай туркі.

— Зіначка... яшчэ крыху, — малітоўна прашаптаў Рыгор і, звёўшы вочы да пераносся, са здзіўленнем адзначыў, што паспеў змалоць толькі жменьку кававага зерня.

Каб не разагнаць, не расплюхаць неасцярожным рухам зачаравання, Рыгор заплюшчыў вочы і шчасна ўсміхнуўся. Ён вырашыў змалоць увесь пачак.

— Рыгор Мікалаевіч... вы паўтары гадзіны круціце... мне заўтра на працу, — пачулася над вухам, але гэтым разам Рыгор нават не азірнуўся. Прыкусіўшы губу, ён малоў каву, і выгінастая корба ў той момант рабіла 1560-ы абарот.

Потым гаспадыня яшчэ пару разоў заходзіла ў кухню. Змучаным голасам казала, што ў яе хворае сэрца, што ёй трэба класціся спаць, тэлефанавала — Рыгор чуў краем вуха — Еўдакеі Ферапонтаўне, нарэшце сунялася, і ў Рыгора застракатала ўваччу. Зярняты ператварыліся ў прусакоў, заварушыліся перад носам; госць страсянуў галавой, і ў гэты момант млынок выртаўся з рук і важка абрынуўся на галаву. Адзінае, што госць паспеў заўважыць, гэта металёвую корбу, якая, мільгануўшы перад носам, гучна ляснулася ў насценны гадзіннік.

Стрэлкі гадзінніка застылі на лічбе «12», кухонныя сцены спынілі кругабег, пагрозліва атачыўшы Рыгора з усіх чатырох бакоў. Сусвет перастаў круціцца вакол Палярнай зоркі, замёр на імгненне, і за каршэнь Рыгораў струменьчыкам пасыпалася кававаe мліва.

Хвіліну ён сядзеў, утуліўшы галаву ў плечы, потым асцярожна, з утуленай у плечы галавой, устаў і, як той самнамбул — выставіўшы наперад рукі — рушыў да дзвярэй.

У суседнім пакоі здушана плакала Зіначка.

— Вар’ятка, — вырвалася з Рыгоравай душы, калі ён выходзіў з кватэры.

Дыхнуўшы прахалоды, кандыдат памацаў пабітую макаўку, выцягнуў са штаноў край кашулі, спрабуючы вытрусіць кававаe мліва, але яно прыстала да потнага карка і раздражняла нервы. Раздражнялі і туфлі, якія раптам пачалі ціснуць. Кандыдат памкнуўся зняць іх і закінуць у прыдарожныя кусты, ды ўгледзеў, што насунуў не на тую нагу. Ён сагнуўся, тузануў непадатны шнурок, і на мысок стаптанай туфлі адна за адной упалі дзве скупыя халасцяцкія слязіны.

# ПАЛЁТЫ ПРАЗ ЦЭНТР ЗЯМЛІ

*А. М.*

Кто же они, эти загадочные «жуки», имеющие такую фантастическую популярность? — спросит читатель. Увы, это всего-навсего английский эстрадный ансамбль «Битлз» (жуки), состоящий из четырёх человек... Трое с гитарами, один ударник — и все четверо... чуть было не сказал — поют! Трудно себе даже представить, какие звуки издают эти люди под собственный аккомпанемент, какое содержание в этих опусах.
...Бедные, наивные «жуки»! Вы, наверно, твёрдо уверены, что всё это — слава, бешеные деньги, рёв и визг поклонников, визиты к королям — всё это навсегда и по заслугам. Но готов биться об заклад, что протянете вы ещё год-полтора, а потом появятся молодые люди с ещё более дурацкими причёсками и дикими голосами, и всё кончится!..

*Никита Богословский. Из жизни «пчёл» и навозных «жуков» («Литературная газета», 1964 г.)*

Сонца паволі, як бы з неахвотаю кранаецца шторы, і ў квадраце святла паўстае Юркава постаць. Братан з шумам перагортвае старонку.

— «Для плазмасвідара з паветрана-віхравой стабілізацыяй дугі і паветраным ахаладжэннем хуткасць свідравання ў грана... ээ... у грана-ды-я-рытах сягае чатырох з паловаю метраў у гадзіну пры дыяметры свідравіны да 130 міліметраў», — уголас мармыча братан і соладка пазяхае.

Юрка вучыцца на чацвёртым курсе інстытута. Заўтра ў яго залік па новых метадах свідравання. Стрэлкі гадзінніка, які вісіць над Юркавым сталом, паказваюць палову на адзінаццатую, і з галавы маёй яшчэ не выпетрыліся рэшткі сну, у якім я прабіраўся бясконцай пячорай да цэнтра Зямлі.

— Юр, — гукаю я, масіруючы далонямі заспаныя вочы.

— Ну, — адгукаецца брат.

— Ты там пра свідраванне вучыш?

— Ну.

— А што, калі прасвідраваць Зямлю наскрозь?

— Паспрабуй, — муркае Юрка, не адрываючы вачэй ад падручніка. — Свідар у зубы, барабан на шыю.

Я закідваю рукі за патыліцу і малюю ў свядомасці пракапаную праз цэнтр Зямлі шахту. А калі ў яе скочыць? Вылеціш на амерыканскім баку, прычым наперад нагамі. Вось бы здзівіліся амерыканцы! Цісну далоні да павек і ўяўляю, як з яміны — там, на другім баку зямной кулі — вылятае русічка Марковіч. Расхлістаная, з задзёртай спадніцай, і штосьці гарлае амерыканцам. Ды не... не штосьці, а сваю ўлюбёную фразу: «Ізноў забалбаталі сваімі язычышчамі паганымі!» Можна падумаць, амерыканцы яе зразумеюць. А можа, вылятаючы з яміны, загадае іншаземцам падкрэсліць дзейнік адной рысай, а выказнік дзвюма?

— Юр...

Брат адрываецца ад падручніка, незадаволена крывіцца.

— А калі скокнуць?...

— Куды?

— У шахту... праз цэнтр Зямлі пракапаную.

— Ужо пракапаў? — Юрка адкідваецца на спінку крэсла, спружна, да храбусцення ў суставах пацягваецца.

— А калі пракапаю і скокну... я што — вылечу на амерыканскім баку наперад нагамі?

— Ты ўвогуле ўяўляеш — пра што гаворка? Дыяметр зямной кулі 12 тысяч кэмэ. А самая глыбокая... нават не шахта, а свідравіна не перавышае васьмі кіламетраў. Прабіць такую шахту — усё адно што змяніць вось вярчэння Галактыкі.

— А калі ўсё ж такі скокнуць?

— Да Амерыкі, Лёня, у любым выпадку не даляціш. Згарыш сінім агнём.

Я таксама пацягваюся і з думкай, што брат начыста пазбаўлены фантазіі, вылажу з-пад коўдры. Голая пятка натыкаецца на разгорнутую кніжку. «Вандроўка да цэнтра Зямлі» Жуля

Верна. Класная кніжка! Чытаў учора да самай ночы, аж пакуль маці не прыйшла ды не выключыла святло.

Замест цёплай вады ў кране глухое сіпенне. Даводзіцца плюснуць на твар халадзёнкі.

— Мыешся, як той Маркіз, адной лапай, — кажа братан, ідучы ў кухню.

У кухні пахне гарачымі сардэлькамі: маці ўчора адстаяла чаргу і ўзяла пару кіло. Юрка абдзірае сардэльку, кідае скурку Маркізу, і кот, падчапіўшы яе кіпцюром, падкідвае ўгору. Для ката скурка задужа гарачая.

Сядаю за стол, моўчкі гляджу на брата. Юрка злёгку змарнеў. Нават мяшкі з'явіліся пад вачыма. Дзіва што! Учора (дакладней, ужо сёння) прыцёгся дахаты а другой гадзіне ночы, а як развіднела — піхнуў нос у падручнік.

— Пакуль ты дрыхнуў, я і сардэлькі зварыў, і гарбату запарыў, — ратуючыся ад пякельнай гарчыцы, Юрка хапае ротам паветра. — Еш, а то стынуць.

Мне чамусьці зусім не хочацца есці.

— А што, у цэнтры Зямлі вялікая тэмпература?

— Не менш як пяць тысяч па Цэльсію, — Юрка налівае шклянку моцнай гарбаты. — Але ты да цэнтра не даляціш. Згарыш ад кантакту з паветрам. Я ўжо не кажу пра перагрузкі. Зрэшты, да перагрузкі, спадзяюся, справа не дойдзе: ужо на першай сотні метраў цябе пачне біць аб сценкі.

Гарчыца і сапраўды пякучая. Аж духі займае. Кот Маркіз нават выбег з кухні. Калісьці Юрка мазануў яму пад хвост, дык цяпер небарака нават паху гарчычнага не трывае.

Дзіўна, аднак... Чалавек можа згарэць ад кантакту з паветрам. А калі паветра адпампаваць?

З калідора далятае здушаны голас Мішкі Зыля:

— Лёнь, выходзім!

У калідоры, у нішы, вісіць электралічыльнік, такі ж лічыльнік вісіць у суседскай кватэры, і калі сусед у нішу крыкне, голас чутны нават на кухні.

Толькі цяпер згадваю, што сёння ў нас, аб адзінаццатай гадзіне, піянерскі сход, і, на хаду жуючы неаблупленую сардэльку, бягу апранацца.

Мішка чакае мяне на лесвічнай пляцоўцы, з нецярплівасцю стукаючы каленам па партфелі.

— Кніжку тваю да ночы чытаў, таму і праспаў, — мармычу, збягаючы па прыступках.

— «Прыгоды капітана Гатэраса» чытаў ці «Вандроўку да цэнтра Зямлі»? — Мішка абганяе мяне, з'язджаючы на азадку па парэнчы.

— «Вандроўку». На самым цікавым месцы спыніўся: калі Аксель заблудзіў у цёмным лабірынце. Маці святло выключыла, а так бы яшчэ ўчора дачытаў.

У Мішкі ў хаце поўны збор твораў Жуля Верна. Усе дванаццаць, шызага колеру тамоў стаяць на паліцы.

Мы выходзім з пад'езда, мружымся на сонца.

— Во жылі людзі... на паветраных балонах лёталі, на Паўночны полюс вандравалі. Ты вось, напрыклад, куды б хацеў з'ездзіць? — пытаецца Мішка.

— У Вентспілс, да бацькі, — адказваю пасля кароткага роздуму.

— Вось яшчэ вандроўка. Сеў у цягнік — і там. А я кажу пра сапраўднае вандраванне. Куды-небудзь на край свету.

Сонца адбірае вочы, і я нацягваю на бровы брылёк кепуркі.

— У Амерыку мару злятаць... праз цэнтр Зямлі.

Мішка на імгненне спыняецца:

— Як гэта?

— А вось так: пракопваем праз цэнтр Зямлі скразную шахту, скочым у яе і вылятаем на тым баку, у Амерыцы.

Сябрук шморгае носам — ёсць у яго такая звычка, — азадачана чухае скронь.

— Разганяцца, відаць, будзеш толькі да цэнтра Зямлі, а потым хуткасць будзе згасаць, — Мішка мружыцца на сонца, галасна чхае. — Думаю, метраў сто не даляціш. Назад абрынешся.

Уяўляю, як русічка Марковіч, не даляцеўшы ста метраў да краю ямы, ляціць назад у чорную пройму, і стоена ўздыхаю. А калі выкапаць у тым месцы катлаван? І калі русічка падляціць — схапіць яе за лыткі!

Нінэль Іванаўна Марковіч — мой галоўны школьны вораг. Другую чвэрць запар ставіць трайбаны. Кажа: аніводнага правіла не ведаеш. А я, між іншым, дыктанты на чацвёркі пішу.

Звычайна дарогу ад школы дадому адольваем за шэсць хвілін. У Мішкі на руцэ гадзіннік, і ён любіць, выходзячы з пад'езда, засякаць час. У нашым 5-м «А» гадзіннік ёсць толькі ў яго ды ў маёй суседкі па парце Галкі Патрыкеевай. Дзесьці прыканцы ўрока толькі і чутны шэпт: «Міш, колькі засталося?» А мне і шаптаць не даводзіцца. Бяру суседку за руку, падцягваю рукаво і гляджу — колькі там націкала. І, што дзіўна, суседцы гэта падабаецца. Галка, дарэчы, законная дзеўка. Як і Мішка, вучыцца на адны пяцёркі і часцяком дае спісаць хатнія заданні.

Мы яшчэ толькі на сярэдзіне дарогі — пераходзім бульвар, — а ўжо звініць званок на перапынак, і школьны будынак — гэта чутна нават тут, на бульвары, дрыжыць ад галасу і тупаніны. Клас наш займаецца ў другую змену, таму Чыпаліна — так мы называем старшую піянерважатую — здадумалася збіраць савет дружыны перад заняткамі. Нас з Мішкам ад гэтых сходак цягне на ваніты. Але мусім на іх хадзіць, бо Мішка старшыня савета атрада, а я звеннявы і, да таго ж, адказны за збор металалому.

Пакуль дайшлі да школы, пакуль прабіраліся праз гаманкі натоўп першакласнікаў, пакуль узбягалі на чацвёрты паверх, пасяджэнне савета ўжо пачалося, і ў пройме дзвярэй піянерскага пакоя нас сустрэў роблена-саладжавы голас Чыпаліны:

— Ёсць такія грызуны — суркі. Яны паспаць любяць.

Усе глядзяць у наш бок, задаволена пасміхаюцца, а старшыня савета дружыны — круглатварая, спрэс абсыпаная рабаціннем васьмікласніца Ждановіч — ліслівa пырскае ў далонь.

— Сама ты грызуніха, — шапоча Мішка, і мы сядаем на вольныя крэслы.

Піянерважатую завуць Святлана Іванаўна, але ўсе скрозь, нават настаўнікі, завуць яе Чыпалінай. Мянушку Святлана Іванаўна атрымала пасля таго, як зрабіла аднойчы мадняцкую

прычоску: сабрала свае караткаватыя, нявызначанага колеру валасы ў пучок ды завязала на макаўцы.

— Дык вось, паўтару для тых, хто не чуў... — піянерважатая ўжо сур'ёзнымі вачыма зыркае на Мішку. — На мінулым тыдні дадзены старт патрыятычнай ініцыятыве: сабраць металалом для зборкі дзесяці магістральных цеплавозаў. Як вы разумееце, наша піянерская арганізацыя павінна самым актыўным чынам уключыцца ў гэтую справу. Я ўчора ўвечары пайшла да майстэрань і паглядзела — колькі там сабрана металалому. Самая маленькая кучка, таварышы, у 5-га «А»! Міша Зыль... — у голасе піянерважатай з'явіліся трывожная ноткі, — адказвай: чаму так мала сабралі?

Мішка панурвае вочы, вушы ягоныя пунсавеюць.

— Больш было, ды старшакласнікі на свае кучы перацягнулі, — гугнявіць Мішка і па старой звычцы шморгае носам.

Чыпаліна круціць галавой.

— Мы ўвечары разам пойдзем і паглядзім — што ў цябе там перацягнулі.

За спінай маёю сядзяць, выставіўшы голыя каленкі, дзве рудавалосыя сямікласніцы. Яны ўвесь час аб нечым шэпчуцца, і я міжволі наструньваю слых.

— Ленка з 8-га «А» бачыла. Выходзілі, кажа, з Карпавічам са спартзалы, а ў Марковіч ззаду спадніца да трусоў задзёртая... Не паспела паправіць.

Піянерважатая цягне ўбок галаву, выглядаючы гаманкую сямікласніцу.

— Матрунчык... ты ж у нас адказная за збор металалому. Ты ж мусіш запісваць тое, пра што мы гаворым. А ты з Цвіцінскай балбочаш.

Палкі шэпт за спінай аціхае, і я не магу даўмецца, чаму ў русічкі задзерлася спадніца. Ці не на канат узлазіла, а потым спускалася?

Пасля заняткаў, убіўшыся ў хату, адразу ж хапаю том Жуля Верна і кладуся на канапу, піхнуўшы пад галаву падушку. Маці надоечы патушыла святло якраз у той момант, калі герой аповеду Аксель згубіўся ў падземным лабірынце, — і перад тым,

як чытаць далей, перабіраю старонкі, каб пераканацца, што герой не загінуў у падземных лёхах.

Аксель, на шчасце, знайшоў у цемры сваіх спадарожнікаў; удзельнікі экспедыцыі вылезлі з вузкага лабірынта на шырокі прасцяг, і перад імі зашумела хвалямі падземнае мора. Прачытаўшы з дзясятак старонак, адчайна пазяхаю. Так класна ўсё пачыналася: цыдулка з тайнапісам, тарфяныя балоты Ісландыі, жарало патухлага вулкана, спуск у падземны лабірынт... Цікава, а калі б хто прапанаваў Жулю Верну напісаць аповед пра палёты праз цэнтр Зямлі? Ухапіўся б ён за гэту ідэю? Праўда, адразу б узнікла пытанне: як пракапаць такі тунэль? Тут ніякай фантазіі не хопіць. Ды Жуль Верн бы выкруціўся. Згадаў які старажытны манускрыпт, дзе напісана, што Зямля ад часу стварэння навылёт працятая, і што адзін выхад знаходзіцца на Паўночным полюсе, а другі — на Паўднёвым. На поўдні свідравіны не відаць, бо лёдам пакрытая, а на поўначы Ледавітым акіянам прыхаваная. Так што прыкладна на сарака старонках героі будуць дабірацца да Паўднёвага полюса, потым пачнуць расчышчаць лёд. Ці тоўсты ён там, дарэчы? А як расчысцяць, дык тут і вада папрэ з Ледавітага акіяна. У нас аднойчы ў школьным двары пасля залевы таксама вада перла. З каналізацыйнага люка. Уся школа прыліпла тады да вокнаў. А можа, вада да Антарктыды і не дойдзе, спыніцца недзе пасярэдзіне? Так што, як скочыш у шахту, спачатку разагрэешся, а потым у халодную ваду бухнешся.

У калідоры рыпаюць дзверы. Гэта Юрка вярнуўся з інстытута. Ні слова не сказаўшы, брат кідае ў кут тэчку з тубусам.

— Ты што, нічога не еў? — гукае братан праз хвілю, бразнуўшы на кухні накрыўкай рандолі.

— Юр! А калі пракапаць шахту...

— Праз цэнтр Зямлі? — Юрка сёрбае дзеля спробы халодны суп.

Я вытрымліваю паўзу.

— Ну, так... і адзін канец выйдзе на мора. Вада што, папрэ на другі бок?

— Папрэ, толькі не наперад, а назад, — Юрка чыркае запалкай. — Ужо ў мацерыковай корцы тэмпература сягае сямісот градусаў, таму...

— Таму ўтворыцца вялізны гейзер? — перабіваю я, адарваўшы галаву ад падушкі.

Юрка маўчыць, збіраючыся з думкамі, а потым, ужо незадаволена, азываецца:

— Ды адчапіся ты, далібог... дай паесці.

Не, з Юркі пісьменніка не атрымаецца. Ані каліва фантазіі. Цікава, ці зменіцца клімат у Антарктыдзе, калі з дзіркі шугане гарачая пара?

У кухні сквірчаць яйкі на патэльні, і Юрка загадна крычыць:

— Есці ідзі! Два разы клікаць не буду.

«Вандроўку да цэнтра Зямлі» дачытваю позним вечарам, у пасцелі. А дачытаўшы, кладу кніжку на грудзіну, летуценна паглядаю на столь і чую сцішаны вокліч:

— Лёнь...

Гэта Мішка гукае ў нішу электралічыльніка.

Выходжу ў майцы і трусах на лесвічную пляцоўку.

— Слухай, ты можаш збегчы з дому на гадзінку? — сябар, мяркуючы па голасе, прыкметна хвалюецца.

— Магу... калі маці не прачнецца. А што такое?

— Знайшоў месца, дзе металалому на дзесяць цеплавозаў.

...Вакол ужо сапраўдная ноч, і вецер, які знянацку ўсхадзіўся, зацята шуміць у шатах разложыстых хвояў. Хвоі стаяць пасярод могілак, падпіраючы вершалінамі цёмнае неба. На сэрцы трывожна. Відаць, такі ж настрой быў у жульвернаўскіх герояў, калі яны спускаліся ў цэнтр Зямлі.

Мішка тыцкае мяне ў бок, ківае на кучу смецця. Да кучы прыхіленая жалезная, аблытаная жалобнымі стужкамі агароджа.

— Усё ж такі няёмка... з могілак цягнуць, — кажу я сябру, але Мішка рашуча хапаецца за жалезныя пруты:

— Яшчэ адзін Маа Цзэ-бздун. Агароджу на сметнік выкінулі, значыць, яна нікому не патрэбная.

З натужлівым крэканнем выцягваем агароджу са смецця.

Да школы ідзём дварамі. Добра яшчэ, што час позні і на вуліцы няма мінакоў. За ўсю дарогу толькі аднаго дзядзьку і сустрэлі. Дый той быў упіты і йшоў хістаючыся.

Металалом, невялікімі грудамі, ляжыць на пазаддзі школьнага двара, поруч з майстэрнямі. Наш грудок зусім маленькі: колькі пакарабачаных труб, іржавая рысора ды бляшаныя начоўкі, на дне якіх крэйдай напісана: 5 «А». Ускідваем металёвую гаргару на грудок, абіваем далоні.

— Пайшлі, яшчэ чаго пашукаем, — кажа Мішка.

Вяртацца на могілкі няма ахвоты. Я зацкавана гляджу на Мішкаву спіну, і толькі калі сябрук азіраецца, шаргатлівай хадою іду следам.

...Наваколле і без таго апанаваў змрок, а тут, пад шатамі векавых хвояў, пануе сапраўдная цемра. Над галавою злавесна каркае варона, і я спалохана здрыгаюся.

— Што, перапудзіўся? — пытаецца Мішка, спрабуючы пасміхнуцца. Сябрук і сам, відаць, перапужаўся, бо ўсмешка ягоная нежывая і насцярожлівая.

На шчасце, далёка не йдзём. Якраз на ўскрайку ляжыць, вывернуты з магілы, металёвы, звараны з тоўстай трубы крыж. Удвох падхопліваем яго, выцягваем на дарогу. Крыж і без таго цяжкі, а тут яшчэ да ніжняга канца прыстала бетонная камлыжына. Яна баранує зямлю, не дае разагнацца. Цягнуць крыж дварамі, па ўтравелых сцяжынах, не выпадае, таму шыбуем напрасткі, па асфальтавым ходніку.

Нябачная ў цемры варона — ці не тая, што пужала нас на могілках, ляціць над нашымі галовамі, картава гарлае, і нейкая цётухна ў чорным палітоне, якая шыбуе насустрач, адскоквае ўбок і хрысціцца.

Цягнем крыж за будынак школьнай спартзалы, ставім старчма, збіраемся перавесці дух, ды тут надараецца неверагоднае: з задніх дзвярэй спартзалы, што заўсёды стаяць замкнёныя, выходзіць русічка Марковіч. Пакуль яна папраўляе валасы на галаве і абівае спадніцу, мы ціхенька, каб не нарабіць груку, кладзем крыж на асфальт, мерымся сігануць у кусты — і чуем зычны голас:

— Зыль! Каролік!

Следам за русічкай з дзвярэй — асцярожнай ступою і азіраючыся — выходзіць настаўнік фізкультуры Міхал Карпавіч.

— А што ж гэта робіцца?! — не сваім голасам войкае русічка. — Міша... э-ээ... Міхал Карпавіч. Зірні на сваіх выха-

ванцаў! Вывернулі з магілы крыж і цягнуць у школу! Зараз жа цягніце назад!

— Нінэль Іванаўна, можна крыху цішэй? — Выцершы насоўкай упацелы лоб, Міхал Карпавіч ідзе да нас, падхоплівае крыж, цягне да бліжэйшых кустоў. — Адзін прыперлі ці некалькі?

— Адзін! — выдыхаем мы з Мішкам і разам паглядаем спадылба на русічку. Тая таксама злёгку ўпацелая, і ў валасы ўбіўся кавалак шэрай ваты. Няйначай, кулялася на ліхенькіх школьных матах.

— Так... заўтра а восьмай гадзіне чакаю вас ля дырэктарскага кабінета, — русічка змахвае вату з валасоў.

— Ды хлопцы металалом збіраюць. Ну, крыху перастараліся. Ці варта шум уздымаць?..

— Міхал Карпавіч... я вас папрашу, — перарывае калегу русічка, а Мішка Зыль, шморгнуўшы носам, заўважае: — Мы ў другую змену вучымся.

— Паўтараю: а восьмай гадзіне прыйсці да дырэктара!

Русічка рашуча паварочваецца, цокае па асфальце туфлямі-лодачкамі. Міхал Карпавіч яшчэ імгненне стаіць нерухома, а потым, пацёршы няголеную шчаку, нясмелым крокам рушыць следам.

Наступнай раніцы мы стаім з Мішкам насупраць дырэктарскага кабінета: глядзім на падлогу, стоена ўздыхаем.

— Што, салагі, дастукаліся? — гукаюць хлопцы-старшакласнікі, якія гаманкой чарадой праходзяць міма.

А восьмай гадзіне гучыць званок, і няўцямны гул ды лямант, якімі поўняцца калідоры, паволі аціхаюць. Дзесьці на доле яшчэ тупаюць, галасна смяюцца, потым бразгаюць дзвярыма, і ўсё змаўкае.

Я апускаюся на калені, прыпадаю вухам да замочнай шчыліны. Чутны толькі асобныя фразы.

— Наталля Леанідаўна, я сапраўды заклікала збіраць металалом. Але ж пры гэтым не заклікала выкарчоўваць крыжы з магілаў, — сакоча Чыпаліна.

На лесвіцы чуюцца нечыя крокі, і мы адскокваем ад дзвярэй. Па калідоры, спінай да нас, тупае школьная прыбі-

ральшчыца з вядром і швабрай у руках, і я ізноў прыпадаю да шчыліны.

Гэтым разам прамаўляе дырэктарка:

— Думаю, у гэтым ёсць і наша віна. Бо мы, педагогі, не прышчапілі вучням... — чаго там нам не прышчапілі, я не дачуўся: Мішка адцягнуў мяне ад дзвярной шчыліны і сам прыхінуўся да яе скронню.

— Ну, што там? — шапчу я. Сябар, прыклаўшы палец да вуснаў, утрапёна лыпае вачыма.

— Дырэктарка кажа — трэба крыж некуды вывезці. І арганізаваць суботнік на могілках, — шапоча нарэшце сябрук і адскоквае ад дзвярэй.

Адскочыў Мішка своечасова, бо ў той жа міг дзверы адчыніліся і ў пройме паўстала дырэктарка школы Наталля Леанідаўна.

— Зыль і Каролік? Пяты «А»?

Мы ківаем галовамі.

— Які ў вас зараз урок?

— У другую змену вучымся, — адказвае Мішка.

Дырэктарка дакорліва ківае галавой, і я не магу ўцяміць: у чым яна нас дакарае. У тым, што мы прыцягнулі крыж з могілак ці таму, што вучымся ў другую змену.

— Добра, — з уздыхам прамаўляе дырэктарка. — Ідзіце, рыхтуйцеся да заняткаў. Я з вамі пагаманю пазней.

Дзверы прычыняюцца, і я, счакаўшы хвіліну, ізноў прыпадаю да замочнай шчыліны.

— Мы нічога не павінны пускаць на самацёк, — кажа Наталля Леанідаўна, стукаючы абцасамі па падлозе. — Вы чулі, што надарылася ў 19-й школе? Вучні сцягнулі на металалом накрыўку каналізацыйнага люка, і туды ўпаў мужчына. Сківіцу зламаў, ляжаў у рэанімацыі... — Мішка цягне мяне за рукаво, і за спінай адзываецца школьная прыбіральшчыца.

— Ай-я-яй! Падслухоўваюць чужыя размовы! Як не сорамна! — прыбіральшчыца ідзе па калідоры, піхаючы перад сабой швабру з мокрай анучай.

Прыбіральшчыца штосьці абурана прамаўляе нам услед, але мы не чуем: бяжым з Мішкам па лесвіцы, ляпаючы па парэнчах вільготнымі далонямі.

— Як ты думаеш, бацькам паведамяць? — ужо на ганку пытаецца сябар.

Я торгаю плечукамі.

— Табе добра. Бацька ў моры. Забыўся ўжо, калі цябе лупцавалі, — гугніць сябар, ды, злавіўшы мой незадаволены позірк, аціхае.

Мой бацька — рыбак. Ужо трэці год плавае на сейнеры. Летась цэлае лета быў з намі, а сёлета не прыехаў. Адно прыслаў поштай на братава імя дзевяцьсот рублёў. Маці хацела грошы назад адаслаць, ды Юрка не даў. Наогул маці на бацьку страшэнна злая. Як пабачыць ліст з Вентспілса, так адразу рве, не чытаючы. Так што, ідучы ў школу, я заўсёды зазіраю ў паштовую скрыню — а раптам пісьмо ад бацькі?

На гадзінніку палова на дзявятую. Гэтым часам маці збіраецца на працу. Зрэшты, цяпер яна не адна: з кухні даносіцца голас цёткі Акуліны — Мішкавай маці.

— Там, у портах, столькі сучак круціцца... Ты сабе і ўявіць не можаш. Так што любога абкруцяць...

Маці з суседкай грукаюць услонамі, выходзяць з кухні.

— Што, ужо скончыўся ваш збор? — пытаецца цётка Акуліна, і я, сцягваючы кеды, няўцямна мармычу:

— На заўтра перанеслі.

Сябрук, як ішоў у школу, наплёў пра збор. Не казаць жа, што нас ад самай раніцы выклікалі да дырэктаркі.

— Пайду Мішку пакармлю, — ад парога азываецца суседка і, сцішыўшы голас, дадае: — Так што, Фруза, не перажывай. Пагуляе ды вернецца.

Праз пяць хвілін маці ідзе на працу, і я сядаю за стол. Сёння серада. Першы ўрок — батаніка. Трэба штосьці пачытаць. Перагортваю падручнік, тупа гляджу на кветку канюшыны ў разрэзе і пераводжу позірк на братаў прайгравальнік. Прайгравальнік — навачасны, маркі «Камета» — Юрку падараваў бацька. А нядаўна, замоўленай бандэроллю, прыслаў замежную кружэлку з дзвюма песнямі «Бітлз». Як толькі яна з'явілася, у нашай кватэры не зачыняліся дзверы: кружэлку

пераслухаў ледзь не ўвесь Юркаў чацвёрты курс. Пару чалавек прыцягвалі магнітафоны, а акулярысты бамбіза з суседняга пад'езда — Юрка кажа, што ён фотамастак, — прыходзіў з вялізным фотаапаратам і пераздымаў капэрту, у якую ўкладзена кружэлка. Капэрту таксама ўсе перагледзелі-перамацалі. Цяпер стаіць у сервантце, за шклом, і Юрка не дазваляе яе адтуль выцягваць.

Спаўзаю з крэсла, падымаю накрыўку прайгравальніка, але кружэлкі на дыску няма. Няма і капэрты за шклом. Брат, відаць, прыхапіў на занятkі.

Вучыць батаніку зусім неахвота. Дый вочы смыляць ад недасыпу: учора цягаўся да ночы, а сёння падняўся з цёмнага рана. Кладуся на сваю ўлюбёную канапу, закідваю рукі за галаву і думаю пра тое, што русічка да Амерыкі і сапраўды не даляціць. Вунь, ля 19-й школы, дзядзька ўпаў у каналізацыйны люк і то апынуўся ў рэанімацыі. А тут шахта глыбінёй 12 тысяч кэмэ. Заплюшчваю вочы і ўяўляю, як падхорцісты, у высокім цыліндры і з рэдкай бародкай амерыканец — такіх увесь час малююць у карыкатурах — зазірае ў цёмную зеўру шахты і ў лабешнік яму стукае русічкін туфель. Амерыканец ловіць яго няўклюднай рукой, штосьці абурана гарлае — я нават чую ў зямных нетрах глухое рэха, — і шпурляе абутак назад у шахту. Амерыканец пацірае лабешнік. Добра яшчэ, туфель быў пры канцы лёту, згубіў былую хуткасць. — Ху іс эбсэнт тудэй?! — гучна крычу амерыканцу і заўважаю ў яго руках бліскуча-чорную бомбу. На баку бомбы — як падалося, Мішкавай рукой — крэйдай напісана літара «А». Падхорцісты падлюка хоча кінуць яе ў шахту, каб тая гакнула на нашым баку. — Сіт стыл! Оупэн ё бук! — гарлаю штосілы і размежваю павекі... Кот Маркіз, пабачыўшы, што я прачнуўся, трэцца вусамі аб ножку крэсла, бязгучна яўкае — просіць даць смятаны. Здаецца, і заснуў на хвіліну, а на гадзінніку палова на адзінаццатую. Трэба збірацца ў школу.

Батаніку ў нас вядзе Капіталіна Іванаўна. Сухарлявая і задышлівая пенсіянерка. Ад яе манатоннага голасу кожнага разу цягне на сон. І калі добрая палова класа пачынае торкаць на-

самі, пенсіянерка прахопліваецца, тыцкае ўказкай у схематычную выяву кветкі, што вісіць на дошцы, і голасна прамаўляе:

— Вось гэта што? Гэта тычы...

— ...Нка-а! — абуджана гукаем мы.

— А вось гэта што? Гэта пес...

— ...Ці-ік! — гарлаем на ўвесь клас, і Капіталіна Іванаўна, ляпнуўшы ўказкай па стале, штораз заўважае: — Каролік! Навошта так гучна? Я не глухая. — Пенсіянерка згадвае звычайна толькі мяне, нібыта толькі я адзін і крычу.

Сёння сяджу ціха, маракуючы, якім чынам героі Жуля Верна маглі б прабіць тоўшчу антарктычнага лёду.

Усё ж такі цікава б было сустрэцца з Жулем Вернам. Зайшлі б з ім у Мішкаву кватэру, уключылі тэлевізар. Вось бы падзівіўся стары. У Мішкі класны тэлевізар: «Тэмп-6». Мы з братам таксама марым набыць такі.

Суседка Галка тыцкае мяне локцем, і я трасу галавой.

— Каролік! Ты што там, заснуў? Ану паўтары: хто апыляльнік канюшыны?

— Чмялі, — падказвае Галка Патрыкеева, і я з неахвотаю прамаўляю: — Ну, чмялі...

— А чаму менавіта яны?

Галка штосьці шапоча, але батанічка папераджальна стукае ўказкай па стале, і суседка змаўкае.

— І аб чым ты ўвесь час марыш? — выдыхае Капіталіна Іванаўна, і Мішка Зыль гукае ад задняй парты:

— Марыць даляцець да цэнтра Зямлі і вылецець у Амерыцы наперад нагамі!

У класе смяюцца.

Гляджу праз плячук на сябра: той з вінаватым выглядам тузае плечукамі, маўляў, а што я такога сказаў? Ёсць у Мішкі такая паганая звычка — пацвельваць сяброў.

— Так, а цяпер адгарніце падручнікі на 45-й старонцы, — пажвавелым голасам прамаўляе Капіталіна Іванаўна, але гучыць званок, і мы падхопліваемся на ногі.

Наступны ўрок — геаграфія. Хоць я і не дзяжурны, але іду ў настаўніцкую, прачыняю дзверы і адшукваю вачыма

геаграфічку Ксенію Спірыдонаўну. Тая, стаўшы рукі ў бокі, штосьці распавядае дырэктарцы.

— Я ёй, Наталля Леанідаўна, кажу: як табе не сорамна, васьмікласніцы, так фарбавацца. А яна рукі вось так... у бокі, узяла і скрозь зубы адказвае: а для чаго тады макіяж прыдумалі? Што яшчэ за макіяж? Я і слова такога не ведаю...

Кашляю ў далонь, і Ксенія Спірыдонаўна, азірнуўшыся, паказвае рукой на парэпаны шыфаньер.

— Вазьмі, Каролік, фізічную мапу СССР. Вунь яна, у трубку скручаная. І схему артэзіянскага калодзежа.

— А глобус браць? — пытаюся я.

— Вазьмі, — прамаўляе, не гледзячы на мяне, дырэктарка Наталля Леанідаўна. Ёй відавочна карціць пачуць, што было далей.

З глобусам у руках і з фізічнай мапай пад пахай выходжу ў калідор і сутыкаюся з Мішкам Зылём.

— Чаго гэты ты ўсхапіўся? Сёння ж я дзяжуру, — Мішка вінавата адводзіць вочы.

— Не, нездарма цябе кампазітарам Падкавыравым завуць, — я даю Мішку несці фізічную мапу і, пазіраючы на глобус, прыкідваю — дзе можа выйсці шахта, калі яе пачаць капаць у нашых мясцінах.

— А што я такога сказаў? — Мішка бяжыць поруч, спрабуючы зазірнуць мне ў вочы. — Ты ж сапраўды марыш патрапіць у цэнтр Зямлі.

— Я не мару, а даследую праблему, — папраўляю сябра: гэты мудрагелісты выраз я пачуў аднойчы з вуснаў Мішкавага бацькі, і ён мне вельмі спадабаўся.

У класе стаўлю глобус на стол і, прыцiснуўшы палец да цэнтра Еўропы, пераконваюся, што другі канец шахты губляецца ў бязмежных акіянскіх прасторах. А вось праз полюсы ніякай шахты і капаць не трэба. Зямная куля працятая там бліскучым стрыжнем.

Вакол мяне збіраецца купка аднакласнікаў.

— Чаго, Лёня, глобус торгаеш? — пытаецца Пецька Мацапура. Пецьку я недалюбліваю, бо той задавака і хлус.

— Вывучае праблему падарожжа да цэнтра Зямлі, — тлумачыць Мішка Зыль, але ўжо голасам спакойным і разважлівым.

— Як гэта? — Пецька дробна міргае вачыма.

— А вось так... Пракопваем праз цэнтр Зямлі шахту...

— Чым, рыдлёўкай? — перабівае мяне Мацапура, і я не ведаю, як адказаць задаваку.

— Мы разглядаем не практычны, а тэарэтычны бок праблемы, — прыходзіць на выручку Мішка. Слоў такіх Мішка, вядома, нахапаўся ад бацькі. — Ты вось, Мацапура, адкажы... Калі скочыць у такую шахту — ці вылеціш на другім канцы?

— Вылеціш, — без вагання адказвае Мацапура, — і не проста так, а наперад нагамі.

— Вось гэта нумар! — захоплена выдыхае другагоднік Васька Хвошч. — Скочыў у трубу — і адразу ў Амерыцы!

— Слухайце сюды, — кажа Мішка Зыль і малюе крэйдай на дошцы вялікае кола. — Вось гэта Зямля, вось тут... — Мішка перацінае кола пункцірнай лініяй, — мы прабіваем шахту і скочым у яе наперад нагамі. Дык вось, мы да Амерыкі не даляцім. Будзем лётаць туды-сюды, пакуль не захраснем у цэнтры Зямлі. — Сябрук, няйначай, паўтарае тое, што дачуўся ад бацькі, выкладчыка транспартнага тэхнікума.

Я таксама хапаю крэйду.

— А калі вось тут, на другім баку, — крэйда крышыцца, пакідаючы на дошцы крывую дугу, — выкапаць глыбокую яміну. Даляціш да краю ці не?

Мішка чухае лоб, пэцкаючы крэйдай левае брыво.

— Тады, відаць, даляціш, — няўпэўнена прамаўляе сябрук, і ў клас рашучай хадой уваходзіць геаграфічка.

Ксенія Спірыдонаўна ніколі не падвышае голасу. Вось і цяпер, ні слова не сказаўшы, стаіць ля стала і чакае, пакуль мы сядзем за парты.

— Каролік... чаму дошка не выцертая?

— Сёння Зыль дзяжурны, — паведамляе Галка Патрыкеева, але я іду да дошкі, сціраю мокрай анучкай Мішкавы крамзолі.

— Ксенія Спірыдонаўна, — звяртаюся, выціраючы рукі аб нагавіцы.

— Слухаю цябе, Каролік.

— А якая таўшчыня лёду ў Антарктыдзе?

— У сярэднім таўшчыня лядовага покрыва складае два кіламетры. Аднак пра Антарктыду мы пагаворым пазней. А зараз праверым, ці вывучылі вы тапаграфічныя знакі.

Геаграфічка вядзе тупым канцом асадкі па класным журнале, а я плюхаюся на сваё месца, усведамляючы, што такую тоўшчу ломам не праб'еш. Тут і атамны выбух наўрад ці дапаможа.

На перапынку нікуды не йду. Чытаю «Літаратурку» — выцягнуў з паштовай скрыні, як ішоў у школу. На перадапошняй старонцы артыкул пад назвай «З жыцця "пчол" і "жукоў-гнаевікоў"». Вочы чапляюцца за радкі: «Хто ж гэтыя загадкавыя "жукі"? На жаль, гэта ўсяго толькі ангельскі эстрадны ансамбль "Бітлз"... — Чытаю, соўгаючыся азадкам па лаве: гэта ж пра Юркавых улюбёнцаў! — Цяжка нават уявіць, якія гукі выдаюць гэтыя маладыя людзі, які змест у іхных опусах», — чытаю далей і чую ля вуха гарачае дыханне суседкі.

— Там што, пра «Бітлз» напісалі?

— Можна падумаць, ты іх чула, — гмыкаю, не адрываючыся ад газеты.

— А ты сам хоць чуў?

— Ды ў мяне, каб ты ведала, дома кружэлка ёсць, — я піхаю газету ў партфель, падымаюся на ногі.

— Дай паслухаць! — Галка таксама падхопліваецца, бліскае раскосымі вачыма.

— Не магу... братава.

Ужо на калідоры чую зычны Галчын воклік:

— Усё, Лёнік, скончыліся твае перапісоны.

Такая заява прымушае спыніцца.

— Ладна, — выдыхаю я, перахапіўшы Галку ў дзвярах. — Прынясу для пачатку капэрту з фотаздымкам.

Звініць званок. Па калідоры, узняўшы над галавой разгорнутую мапу Рымскай імперыі, бяжыць Мішка Зыль. Наступны ўрок у нас — гісторыя.

Артыкул пра бітлоў прачытала палова класа. Нават газету пакамячылі. Уяўляю, што што будзе з Юркам, калі ён прачытае такое. І вось, вярнуўшыся са школы, ад парога крычу брату:

— У газеце пра «Бітлз» напісалі!

Юрка выхоплівае з маіх рук «Літаратурку», перагортвае старонкі, а я іду на кухню, ляпаю створкамі кухоннай шафкі і, не знайшоўшы нічога спажыўнага, цягну са слоіка маласольны гурок.

— Не, якую лухту пішуць! — абураецца за сценкай братан. — «Давядзецца жабраваць па шынках...» І хто піша: Мікіта Багаслоўскі! «Як на шахце вугальнай х... знайшлі адрублены». Ды гэты ёлупень іх ніколі не чуў!

Я задаволена пасміхаюся, надкусваю гурок і йду да серванта. Капэрта з «Бітламі», на шчасце, стаіць на сваім месцы. Да свайго сораму, з усіх чатырох музыкаў ведаю толькі двух. Імёны ў іх мудрагелістыя, нават не ведаю — ці правільна прамаўляю. Вось гэтага, што скраю, завуць Джоленан, а вунь таго, напалову прыхаванага вялізным бубнам, — Рынгастар. Перад Галкай трэба бліснуць дасведчанасцю.

— Слу... хай, — бубню, тыцкаючы пальцам у шкло, — а як завуць вось гэтага, з гітарай-скрыпкай?

— Пражуй, — незадаволена адзываецца братан. Юрка нервовымі рукамі складвае газету ў столку, падаецца ў калідор і, ужо адчыніўшы дзверы, крычыць:

— Поль Макартны!

Братан пабег да сябра — фотамастака, што жыве ў суседнім пад’ездзе. Трымайся, Мікіта Багаслоўскі! Зараз табе Юрка з фатографам дадуць дыхту!

Каб не забыцца, выцягваю з партфеля падручнік расейскай мовы і на адваротным баку вокладкі запісваю прозвішчы бітлоў: Джоленан, Рынгастар, Поль Макартны. Трэба будзе спытацца, як завуць чацвёртага, які стаіць паміж Джоленанам і Макартным. Ён мне, дарэчы, найбольш падабаецца. Вырасту, абавязкова пашыю сабе такія ж скураныя порткі, як у таго, чацвёртага, і адгадую такія ж даўгія валасы.

На першы ўрок, на ненавісную мне расейскую мову, мы з Мішкам, як заўсёды, познімся. Марковіч ужо і дзверы ад-

чыніла, а тут мы бяжым па калідоры. Русічка, з грымасай на твары, запускае нас у клас, з грукатам зачыняе дзверы.

Саджуся за парту, спрабую перавесці дых.

— Ну як, прынёс? — шэпча суседка.

Моўчкі ківаю галавой.

— Так... усе прыйшлі, хворых няма? — пытаецца русічка, штосьці пазначаючы ў класным журнале.

Я лезу ў партфель, цягну капэрту за ражок, і тая, выслізнуўшы з рукі, падае на падлогу. Прыціскаю капэрту нагой.

— Каролік, што там у цябе? — русічка надта порстка падхопліваецца. — Ану-ка, дай сюды...

Пальцы — доўгія, з наманікюранымі пазногцямі — ушчапераюцца ў капэрту, адрываюць левы ражок.

— Што вы робіце? Гэта ж «Бітлз»! — крычу я, хапаю Марковіч за руку, і пакамечаны ражок ляціць на падлогу.

Дагэтуль, відаць, ніхто з вучняў за рукі Марковіч не хапаў. Разявіўшы рот, настаўніца глядзіць спачатку на руку, потым на мяне і страшным голасам выдыхае:

— Каролік... Зараз жа выйдзі з класа!

Я нікуды не йду: падхопліваю адарваны ражок, выпростваю гарачымі далонямі.

— Ну тады давядзецца выйсці мне.

Русічка бярэ са стала журнал, вылятае з класа, а праз хвіліну, падхапіўшы партфель і азірнуўшыся на Галку Панцялееву, выходжу і я. Каля дырэктарскага кабінета прыцішваю крок.

— ...Сёння прынёс нейкіх кудлатых фашыстаў, а заўтра прынясе ў школу парнаграфію! — вырываецца з праймы няшчыльна зачыненых дзвярэй звяглівы русічкін голас.

Я бягу па лесвіцы, і чую за спінай голас:

— Куды ты? Сёння ж кантрольная па матэматыцы!

Мішка даганяе мяне, спрабуе схапіць за пінжак.

— У Вентспілс еду! — выдыхаю я, не азіраючыся.

Мішка спыняецца, крычыць штосьці, але я не слухаю, бо думкі мае занятыя іншым. Я ліхаманкава падлічваю: колькі патрэбна грошай, каб даехаць да Вентспілса. У маці, у шуфлядзе трумо, прыхавана пяцьдзясят рублёў. Усе браць не буду. Хопіць і трыццаткі.

Мой цягнік ідзе праз тры гадзіны. Седзячы ў вакзальнай пачакальні, са схаладнелым сэрцам выглядаю — каго б папрасіць узяць квіток да Рыгі.

Ля бліжняй касы тры студэнты — з партфелямі і тубусамі ў руках. Можа, іх папрасіць? Студэнты, як мне здаецца, глядзяць на мяне, дружна рагочуць, і я ўцягваю галаву у плечы. Тым часам чаргу ў крайнюю касу займае дзядок у зацяганым плашчы. Гэты з мяне рагатаць не будзе. Ну, спытае, куды еду. Скажу: да бацькі ў Вентспілс. Скажу яшчэ, што маці захварэла, таму выправіла аднаго, а касірка квітка не дае. Я падымаюся з лавы, але тут жа зноў сядаю, бо па праходзе між лаваў сунуцца два міліцыянты. Яны глядзяць па баках, і я пасоўваюся бліжэй да цётухны, якая спіць на другім канцы вакзальнай лавы. Колькі часу сяджу, утаропіўшыся на брудную падлогу, а калі зноў падымаю вочы, бачу сярод людзей Мішку Зыля і Галку Патрыкееву. Галава мая міжволі ўгінаецца, я спрабую неяк прыхавацца, але позна: Галка махае мне рукой.

— Ведалі, што ты тут, — яшчэ здалёк галёкае Мішка, абудзіўшы маю суседку па лаве.

— Ой, што было!... — выдыхае ў сваю чаргу Галка Патрыкеева. — У школу жонка Карпавіча прыбягала... Крыку было-о... — вочы Галчыны круглеюць і далоні ляпаюць на шчоках.

— А чаго крычалі? — пытаюся, адчуваючы лёгкі пах парфумы, які струменяць Галчыны валасы.

— Ну ты што... не разумееш? Прыбягала з русічкай разбірацца. Вось пабачыце: Марковіч у іншую школу пяройдзе. Так што, Лёнік, можаш уздыхнуць з палёгкай.

Я уздыхаю, але без палёгкі, і Мішка стукае мяне па плячы:

— Ды не хвалюйся ты. Вунь і дырэктарка пасля ўрокаў прыходзіла, цябе шукала.

— Я сказала, што ты марыш праз цэнтр Зямлі калодзеж пракапаць, дык Наталля Леанідаўна паабяцала заўтра на класную гадзіну прыйсці і настаўніка фізікі прывесці. Ведаеш, высокі такі мужчына, — Галка аціхае, з насцярогаю пазірае мне ў вочы.

— Трэба ехаць, — кажу я, хоць і ведаю, што нікуды не паеду.

— Ведаеш, Лёня, калі ты з'едзеш... — Галка прыкусвае ніжнюю губу.

— І што будзе?

— Я буду сумаваць без цябе.

Кроў гарачай хваляй падкочваецца да твару, шчокі мае пачынаюць гарэць. Я насоўваю на вочы брылёк кепкі, іду да выхаду, і Галка акрыялым голасам распавядае пра маладога фізіка, які першы год працуе ў школе, у якога закаханыя ўсе дзесяцікласніцы і які распавядзе нам з Мішкам і ўсяму 5-му «А», ці можна заляцець у Амерыку праз цэнтр Зямлі.

За сценкай рыпаюць спружыны старой, даваеннай яшчэ атаманкі. Маці не спіць. Чакае Юрку, які ізноў швэндаецца недзе сярод ночы. Мне таксама не спіцца. Ляжу і з прытоенай радасцю думаю пра тое, як усё добра абышлося. Маці пра маю вандроўку ў Вентспілс нічога не ведае; грошы — трыццаць рублёў — неўпрыкмет паклаў назад у шуфляду; а русічка Марковіч, па чутках, збірае мэтлахі і падаецца ў іншую школу. Адзінае, што не дае спакою, гэта падраная капэрта. Я яе склеіў, але Юрка ўсё адно будзе лаяцца. І ў нядзелю не дасць грошай на кіно.

Куляюся на левы бок, і дзесьці непадалёку, усё адно як з матчынай спальні, гучаць прыглушаныя галасы.

— Куды ты? Сёння ж кантрольная па матэматыцы! — гэта Мішкаў голас.

— Я буду сумаваць без цябе, — адзываецца з-за сценкі Галка Патрыкеева.

Сэрца маё вылятае з грудзіны, і я адчуваю, што правальваюся ў цёмную бяздонніцу. Цела робіцца бязважкім, скроні казыча цёплы ветрык, я штосьці крычу Галцы, ды не чую ўласных словаў, бо яны застаюцца недзе там, высока над галавой. Міма мяне святлявымі вужакамі ляцяць каляровыя агні. Неўпрыкмет іх лёт запавольваецца, цела наліваецца цяжарам, ветрык ужо не казыча скроні, і нечыя моцныя рукі хапаюць мяне за калашынне штаноў. У жаху заплюшчваю павекі, а калі зноў расплюшчваю, бачу перад сабой нечыя смяшлівыя

твары. Мяне ляпаюць па шчоках, і адзін з чатырох маладых дзядзькоў, што схіліліся нада мной, з панікай у голасе выдыхае:

— Жывы!

Галава мая злёгку кружыцца, я выціраю ўпрэлы лоб і, толькі ўгледзеўшы электрагітары, якія трымаюць мае выратавальнікі, пазнаю музыкаў — тых самых, з падзёртай капэрты.

— А чаму вы тут, у Амерыцы? Вы ж ангельскі ансамбль.

— На гастролі прыехалі, а тут бачым — нехта з таго боку Зямлі ляціць, — весела азываецца дзядзька ў тонкім, пад самае горла швэдры, і я пазнаю Джоленана.

— Адчайны ты хлопец — скочыў у яму, а яна 12 тысяч кіламетраў глыбінёй, — з захапленнем прамаўляе Джоленан і тут жа пытаецца: — А скуль ведаеш, што мы ангельскі ансамбль?

— Дык вас усе ведаюць. У сённяшняй «Літаратурцы» артыкул змясцілі. Напісалі, што праз пару гадоў будзеце па шынках жабраваць. Толькі вы на тых пісак не крыўдуйце. Яны ж вашых песень, відаць, і не чулі.

— А ты што, збіраешся назад ляцець? — пытаецца Джоленан.

Я моўчкі ківаю ў адказ, і свядомасць маю апаляе панічная думка: «А як я дакажу, што бачыў "Бітлз"? З мяне ж толькі пасмяюцца». Наагул, я не люблю нічога прасіць, але тут выключны выпадак.

— Ці не маглі б вы мне падараваць сваю кружэлку? У брата ёсць адна, але русічка капэрту падзерла.

— На жаль, мы з сабой кружэлак не носім, — з уздыхам прамаўляе Джоленан і нечакана здымае з шыі электрагітару. — На вось, аддай брату.

Я спалоханымі вачыма гляджу на гітару, потым на Джоленанавых сяброў, і тыя ўхвальна ківаюць галовамі.

— Бяры, бяры, — кажа Рынгастар, — гэта падарунак ад усіх нас.

Я бяру гітару. Яна цяжкая, і ад рэменя прыемна пахне навюткай скурай.

— А можа, застанешся? — пытаецца Джоленан. — Сходзіш на наш канцэрт...

Я рашуча трасу галавой. Як я магу застацца, калі там, на другім канцы Зямлі, мяне чакаюць Мішка Зыль і Галка Патрыкеева?

Я павінен усё запомніць: рамонкавую паляну, празрыстае неба, вялізную яму з брустверам свежай зямлі па краях. Музыкі стаяць каля яміны дакладна ў тых жа паставах, што і на капэрце. Я нават заўважаю, што Джоленанавыя нагавіцы пукацяцца на каленях.

Набіраю поўныя лёгкія паветра, ныряцую ў апраметную, і слых мой поўніцца злавесным гудам электрабрытвы. Гэта Юрка голіцца ў ванным пакоі. Я пасміхаюся спрасонку. Ну што там галіць — так, адзін пух на барадзе, але братан шторанку зумкае электрабрытвай. Відаць, таму, што зумкалкі такой няма ва ўсім горадзе. Шведская, з ратацыйнымі лёзамі. Бацька прывёз з-за мяжы.

Юрка гучна, са свістам, дзьмухае — выдзімае з брытвы пух, і неўзабаве крычыць:

— Уставай, лежань!

Я падымаюся, у два крокі падыходжу да серванта, уважліва гляджу на фотаздымак, і мне здаецца, што Джоленан пазмоўніцку міргае мне правым вокам. Хоць і спраўна склеіў капэрту, але месца разрыву белай рысай бяжыць па паперы і верхні край прыкметна пакамечаны. Я азіраюся — ці не йдзе братан — і тут жа спалохана падскокваю: гэта кот Маркіз вырашыў пацерціся аб маю голую галёнку.

# КАРТЫ НЕ ХЛУСЯЦЬ

Па абедзе ўсчалася задуха і паветра стала такім густым, што яго, здаецца, можна было памацаць рукамі. Вуліца Прафінтэрнаўская ўражвала сваёй пустэльнасцю — нават куры, тутэйшыя заўсёднікі, некуды пахаваліся, — і толькі ў дальнім яе канцы, насупраць харчовай крамы, завіхаліся трое мужчынаў. Мужчыны ставілі піўную летамку — даўжэзную, падобную да авіяцыйнага ангара, з малюнкам пеністага кухля на тарцы і надпісам «Богров» на франтоне.

Вуліца была спрэс забудаваная драўлянымі хацінамі, і ў адной з хат — трэцяй па ліку, калі лічыць ад крамы, — сядзелі дзве старыя кабеты. Адна з іх, Макеіха, мажная целам і з твару непрывабная; другая, Аўрора Леанідаўна — былая настаўніца — на два гады маладзейшая, густа-сівая, сухарэбрая і, як той Бураціна, вастраносая.

Сухарэбрыца варажыла на картах. Паслініўшы палец, былая настаўніца спрытна ператасавала карты, працягнула калоду Макеісе.

— Здымі...

Макеіха тыцнула калоду закарузлым мезенцам...

— Колькі разоў казаць: ад сэрца трэба здымаць, ад сэрца, — з панікай у голасе азвалася Аўрора Леанідаўна і, ператасаваўшы калоду, зморана выдыхнула: — Божухна, задуха якая... навальніцай пахне.

— Па тэлевізары казалі: без ападкаў, — Макеіха зацята глядзела тэлевізійныя навіны і, як і ўсе астатнія пенсіянеркі Прафінтэрнаўскай вуліцы, верыла кожнаму прамоўленаму па целеку слову.

Карты пакладаліся роўным шыхтом, і варожка ўстурбавана шморгнула носам.

— Ізноў нейкія слёзы, нейкія непрыемныя размовы...

— А з кім жа я буду размаўляць? — Макеіха абмахнулася хусцінкай, выцерла пот з ілба.

— А вось з гэтай званковай дамай.

— Ці не з Хадорыхай? — старая абурана пачухала бульбаваты нос. — Але мы з ёю яшчэ пазаўчора аб усім пагаманілі. Я ж табе распавядала? Кот яе ў мяне трох пісклят падушыў. Пайшла да яе і кажу: калі яшчэ раз твая кацяра паганая на мой двор забяжыць, прыб'ю паленам, так і знай... Цяпер во галосіць ад самага ранку.

Аўрора Леанідаўна адарвала нос ад карт:

— Што, з-за ката?

— Ды якога ката... Піўнушку каля хаты ставяць. Цяпер во баіцца, што ёй п'янтосіны плот пазасцыкваюць. А то яшчэ і ў агарод уваб'юцца.

— А колькі ж гэта ўжо тых піўнушак паставілі? — Аўрора Леанідаўна шоргнула пальцамі па калодзе, няўцямна замармытала: — На Савецкай адна... на Урыцкага, каля базара, другая...

— Раней хоць гарэлку з «чарнілам» пілі, а цяпер адно піва жлукцяць, — перабіла няўцямны пералік Макеіха. — Дый якое там піва... я ж памятаю, як мой дзед варыў: і ячмень прарошчваў, і хмель збіраў-сушыў, і ваду цягаў з крыніцы. А цяпер што? Бухнуць ў чоп якой брыды, спірту дабавяць і гаўнянай палкай перамяшаюць. А то яшчэ і насцуць туды... каб лепш брадзіла.

Пачуўшы пра такую тэхналогію, Аўрора Леанідаўна прыціснула далонь да рота, а Макеіха баднула галавой:

— Ну, што там яшчэ наварожыш?

Былая настаўніца хвіліну змагалася з ірвотнымі сутаргамі, вочы яе звільгатнелі, напоўніліся слязьмі, нарэшце засяродзіліся на крайняй карце.

— Табе... увесь час... перашкаджае вось гэты віновы ніжнік.

— Калі б толькі перашкаджаў... Ён мяне зусім са свету зжывае, каб хату на сябе перапісаць.

— Хто, зяць?

— А хто ж яшчэ... Нядаўна пайшоў у адпачынак. Думала, ён мне дах падрамантуе — цячэ каля коміна. А ён, падлюга, да свайго стрыечнага брата паехаў у адведкі. Брат ягоны ў акадэміі выкладае, ну ў той, дзе заатэхнікаў вучаць. Казаў, на тры дні паеду, а тут і тры дні няма, і чатыры, і пяць... І мабільнік не адказвае. Люда мая ўся знервавалася, паехала ў тую... усё

забываю назву горада. Карацей, адчыніла дзверы, а падлюга ляжыць п'яны, і язык набок. Брат — выкладчык у акадэміі, экзамены прымае. Ну, гэтыя... старшыні калгасныя, ці як іх там цяпер называюць, прывезлі самагонкі аж дзве каністры. Падлюга і пачаў іх апаражняць... І на сям'ю забыўся, — старая плаксіва смаркanулася ў прыпол хвартуха. — Паваражы ж ты мне, Леанідаўна, калі ён ужо да смерці дап'ецца.

— Я на смерць не варажу, а па-другое, карты кажуць толькі пра таго, чыя рука іх здымае.

Макеіха чарговым разам абмахнула ўпрэлы твар.

— Не надта я веру тым картам. Нічога ж канкрэтнага ты мне не сказала. Можаш, напрыклад, сказаць: што са мною сёння надарыцца?

Аўрора Леанідаўна рашуча згарнула карты ў столку. Твар яе спахмурнеў, ніжняя губа па-дзіцячы закапылілася, а нос стаў яшчэ больш вострым.

— А цябе цікавіць канкрэтыка? — пальцы з нервовым спрытам перамяшалі калоду. — Тады здымі... левай рукой.

Угледзеўшы крыўду на твары варожкі, Макеіха кашлянула ў далонь, настроіла голас на ліслівы лад:

— І дзе ты, Леанідаўна, так спрытна варажыць навучылася?

Варожка неўпрыкмет уздыхнула.

— У цыганкі.

— У цыганкі? — Макеіха гэтак жа неўпрыкмет перахрысцілася.

— Даўно гэта было... Жылі непадалёку ад вакзала, а я, дзеўчынёха, любіла на паравозы глядзець, часцяком на вакзале круцілася. І вось аднойчы падышла да мяне цыганка і кажа: «Хочаш пеўніка пасмактаць?» Пеўнікі ў нас тады прадаваліся, на палачках... памятаеш? — Аўрора Леанідаўна на імгненне змоўкла, пасля чаго загаварыла скарагаворкай і з незразумелай рэзкасцю. — Зайшлі ў пачакальню, цыганка кіўнула на дзвюх кабет. «Сядзеш ззаду і паслухаеш, пра што яны гамоняць. І, галоўнае, даведайся — як іх завуць. Яны ж адна адну па імені называюць...»

— А навошта ёй было ўсё гэта? — задышліва перабіла Макеіха.

— А каб на варажбу спакусіць. Падкоціцца потым да тых маладзіц і сакоча: «Дайце, мілыя, на вашы рукі зірнуць ды па іх вашыя імёны назваць». Тыя і цягнуць далоні. Цікава ж, як гэта па руцэ можна імя вызначыць. Ну а потым і па грошы лезуць — даведацца, як там далей жыццё складзецца.

— Во як людзей дураць! — засакатала, што тая цыганка, Макеіха. — Я ж летась таксама ля вакзала ішла. І таксама цыганка прычапілася. Дай, кажа, пяць тысяч — скажу табе, чым сэрца супакоіш. А не дасі — заўтра ж паралізуе.

— І што — дала?

— Дала! А куды дзенешся? А як і папраўдзе якіх урокаў падпусціць?

За вокнамі знянацку пацямнела, і далёка дзесьці — глуха і важна — бухнуў гром.

— Я ж казала — навальніца будзе, — Аўрора Леанідаўна паднялася з крэсла, ды Макеіха схапіла яе за руку:

— Пакуль дабяжыш — змокнеш уся. Лепш на сённяшні дзень паваражы. Абяцала ж...

Гром бухнуў другім разам, цяпер ужо больш зычна і раскаціста. Аўрора Леанідаўна з відочнай неахвотай расклала карты, потым зірнула ў пацямнелае акно, за якім з шалёным гудам праехала іншамарка, і раптам, паказаўшы вачыма на чырвовую дзясятку, рашуча паведаміла:

— Цябе павязуць на казённай машыне.

На твары варожкі адбілася ліловая водцень бліскавіцы, і гэта надало моманту жудаснай урачыстасці. Макеіха паспрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешка атрымалася разгубленай і насцярожлівай.

— А куды ж гэта мяне павязуць? Ці не на машыне з елачкамі?

— Ціпун табе на язык, — прамармытала былая настаўніца, хацела яшчэ нешта сказаць, ды тут знадворку так гакнула, што са сталі, акурат на чырвовую дзясятку, сыпанула пацяруха.

Вятрыска шпурнуў у аконную шыбу жменю лёгкага пяску, следам паляцелі галінкі ссохлай вішні, што стаяла пад вокнамі, па даху штосьці настойліва заляскатала — ці не адарвала-

ся шыферына, — і Макеіха, падхапіўшыся на ногі, улякнута заенчыла:

— Авой-авой, а ў мяне ж парнік не зачынены! Парве ветрам!

Па-старэчы трымаючыся за паясніцу, хістаючыся, як качка, Макеіха кінулася ў сені.

— Плашч накінь, змокнеш! — крыкнула ўслед ёй Аўрора Леанідаўна і таксама падалася з хаты.

...Поліэтыленавы парнік і сапраўды хадзіў ходырам і ўжо гатовы быў сарвацца з месца. Макеіха толькі і паспела прычыніць парніковыя дзверцы, як наляцела залева. Буйныя кроплі seканулі па твары — старой нават падалося, што гэта былі не кроплі, а дробныя каменьчыкі, — і сярод пошуму ветру і лапацення кропель па напятым поліэтылене пачула немы вокліч: «Глянь, ляціць!» І цяжка было зразумець, хто гэта крыкнуў: ці то суседка Аўрора, што стаяла на ганку, ці то сам Пярун са свайго грымотнага прадоння.

Штосьці вялізна-шаргатлівае мільганула над галавой, і ў той жа момант усё знікла: і сагнутыя ў дугу бярэзіны на ўзмежку агарода, і раз'юшаныя бліскі маланкі ў небе, і попельна-шэрая завеса дажджу навокал. Стала задушна, цёмна, і толькі кроплі-шраціны аглушальна ляскаталі дзесьці над самай галавою.

«Смертухна мая прыйшла», — з гэтай думкай старая прапаўзла пару метраў, але тут жа і самлела, тыцнулася носам у качан лапушыстай капусты.

— Дзе ты? — крыкнула тым часам Аўрора Леанідаўна, але вокліч яе пакрыў аглушальным выбух грому.

Напачатку Аўрора падумала, што Макеіха прыхавалася ад дажджу пад піўным намётам, што гэтак дарэчы абрынуў з неба, а потым, крыкнуўшы яшчэ раз, з жахам падумала, што небараку прыбіла маланкай.

Дождж лупіў як мае быць, і на двары ўтварылася разлеглая лужына, якую раз'юшана бамбардзіравалі непамерна вялікія кроплі. Аўрора скочыла з ганка, паслізнулася, плюхнулася ў лужу. Памкнулася ўстаць, ды неба над галавой раздзерла траскучая маланка, і выбірацца з лужы давялося на карачках.

Сцяна дажджу была такой шчыльнай, што за два метры не было нічога бачна, дый вочы засцілі струмені вады. Залева прыбіла піўную летамку да зямлі, яна пляската ляжала на лехах і толькі ў адным месцы прыкметна пукацілася.

— Ці жывая ты? — запыталася Аўрора, абмацаўшы Макеішын азадак. — І праз шалёнае лапаценне дажджу аб цырату Аўроры падалося, што пад намётам ціха застагналі. Кабета адкінула намёт, схапіла небараку пад пахі, паспрабавала сцягнуць з капусных лехаў.

— Суседаўна, чуеш?... толькі не памірай!

Макеіха, падобна, была жывая, бо пад пахамі ў яе было цёпла і вусны злёгку варушыліся. Падцягнуўшы суседку да паркана, Аўрора зморана плюхнулася на лясе, уголас пралепятала:

— Божухна, а куды ж я цябе цягну?

Перабіраючы рукамі штыкеціны, жанчына стала выбірацца з агарода, падабрала па дарозе згубленую басаножку і ўжо амаль непрытомная ўвалілася ў хату.

Пальцы зусім занямелі, і «хуткую дапамогу» Аўрора набрала толькі з чацвёртага ці пятага разу. Потым яна зняла з сябе прамоклую сукенку і, пашнарыўшы вачамі па пакоі, падхапіла з крэсла лінялы Макеішын халат.

Жанчына выйшла на ганак, і навакольны свет падаўся ёй дзіўным і незнаёмым. І гэта ад таго, што пад вокнамі ўжо не было старой вішні — яна, як і яе гаспадыня, ляжала ля паркана, наставіўшы ўгору востра-зламаны, брунатнага колеру камель. Завеса дажджу рассунулася, наўкол павіднела, і Аўрора адчула раптам, што глядзіць на свет іншымі вачыма і што навальніца змяніла не толькі двор, але і саму яе. Штосьці змянілася, перайначылася ў душы. У той момант яна нават забылася на Макеіху і проста стаяла пад паветкай, з дзіўнай асалодай назіраючы, як аціхае залева. Старая настаўніца ўсё жыццё пражыла на самоце і саромелася гэтага. І заўсёды прыспешвала крок пад слінявымі позіркамі суседак — старых пенсіянерак, што днямі поркаліся ў агародах, пад вечар глядзелі серыялы, а ўвечары збіраліся тут, ля Макеісішынай хаты, каб папляткарыць ды панаракаць на сваіх баламутных зяцёў ды нявестак. Яна і варажыць пачала — на картах і на кававай гушчы — каб

убіцца да іх у давер, і нават пачала гаманіць на іхнай мове. І вось цяпер, дыхнуўшы азону, адчула, як сорам выпетрыўся з душы і замест яго там угняздзілася высакамерная грэблівасць да гэтых цёмных і неадукаваных пляткарак, да гэтай вуліцы і да ўсяго гэтага няўклюднага свету.

Струмені вады, што ліліся з паветкі, зрабіліся зусім ценькімі, разбэрсаныя хмары яшчэ кінулі некалькі буйных кропляў, уваслед ім сыпанула цёплая імжа, прыемна кранурўшыся шыі, але неўзабаве і яна сунялася. І апошняя грымота пакацілася за далягляд — усё адно як хтосьці вялізны і грозны пратупаў па небе. І да яе незласлівага вуркатання далучыўся перарывісты гуд машыны «хуткай дапамогі».

На двары з'явіліся дзве маладухі ў белых халатах. Яны ўважліва абміналі лужыны, пра штосьці гаманілі, але, убачыўшы мокрую і завэдзганую хворую, што ляжала скраю агарода, збянтэжыліся. Але толькі на імгненне, бо тут жа скочылі праз лехі, прыселі на кукішкі. Маладая лекарка прыўзняла хворай павекі, намацала пульс, штосьці — каротка і няўцямна — сказала медсястры. Тая адчыніла валізу, дастала шпрыц, і Аўрора Леанідаўна, якая надта ж баялася ўколаў, адышла да весніц. Паклаўшы рукі на брамку, зірнула ўздоўж вуліцы. Па вулцы, збоку крамы, шпаркай хадою ішлі трое мужчынаў. Яны круцілі галовамі, заклапочана азіраліся, і Аўрора Леанідаўна махнула ім рукой.

Праз вецце зламанай грушы было бачна, як маладухі паклалі хворую на піўны намёт — галава пры гэтым уперлася ў літару «О», а ногі спачылі на літары «В», — лекарка цісканула гумовую грушу, моўчкі кіўнула сястры, і тая пабегла да машыны, скалануўшы паветра агідным пахам лекаў. Сівагаловы кіроўца выцягнуў з машыны насілкі, гэтаксама моўчкі кіўнуў рабацягам, што падышлі да хаты, і неўзабаве, сапучы і дробна перабіраючы нагамі, мужчыны вынеслі Макеіху з двара.

— Што ж вы сваю халеру не замацавалі? — Аўрора Леанідаўна паспрабавала надаць голасу суровыя ноткі.

— Н-не п-паспелі... в-віхор наляцеў, — праз сілу выдыхнуў адзін з рабацяг, зачапіўшыся плечуком за пацямнелае ад дажджу шула весніц.

«Хуткая» ад'ехала не адразу. Праз акно было бачна, як хворай ставяць кропельніцу — нечая рука трымала бутэлечку. Нарэшце машына завялася, праехала колькі метраў, заднія дзверы прачыніліся, і медсястра, вытыркнуўшыся з праймы, радасна крыкнула:

— Ажыла! Просіць, каб вы хату замкнулі ды нейкай Людзе патэлефанавалі.

Аўрора Леанідаўна доўга глядзела ўслед легкавушцы, якая паволі калывалася па вуліцы: Прафінтэрнаўскую ўвесь час перакопвалі, і асфальт скрозь прасеў, — і калі тая, даехаўшы да крамы, павярнула направа, уголас прамармытала:

— А вось жа паехала на казённай машыне...

І ўжо ідучы дахаты, дадала:

— Карты не хлусяць.

# ДВАЦЦАЦЬ КРОКАЎ ДАРОГІ

## I

— Месца — дакладна тое? — гукнуў Мікола, выціраючы мокрую чупрыну калашыннем спартовых штаноў.

— Тое, — адгукнуўся дзед Трахім, — якраз ля каменя. Тады ён, праўда, на паверхні быў, а цяпер во... у зямлю ўехаў, — дзед прысеў на камень, выцягнуў пачак «Беламору».

— Можа, далей адплывем? — падаў голас Гасюта, зірнуў на дзеда, і той, чыркнуўшы запалкай, страсянуў галавой: — Самазвал на паўкола ў ваду ўехаў, як скідваў. Так што — шукайце. Дзесьці там і ляжыць.

Мікола памыляў ссінелымі ад холаду вуснамі, зморана ўздыхнуў і, пастаяўшы, як той скакун на вышцы, на носе лодкі, сігануў у ваду. Гэтым разам ён прабыў пад вадой як ніколі доўга: Гасюта нават сцягнуў з галавы кашулю, збіраючыся ратаваць сябра, ды тут Мікола вылецеў, па самы пояс, з вады і радасна выдыхнуў:

— Ёсць!

Пару хвілінаў Мікола аддзімаўся, трымаючыся за вясло, потым насунуў на плячук зашмаргу, нырцануў пад лодку і з такой рашучасцю адштурхнуўся нагамі ад днішча, што Гасюта, які стаяў у поўны рост і разблытваў вяроўку, ледзь не кульнуўся за борт.

Першыя, а таму самыя вострыя сонечныя промні працялі небасхіл, і рака з серабрыстай ператварылася ў ружовую.

— Глеем зацягнула... ледзь адшукаў, — прамармытаў Мікола, выбраўшыся на бераг: небараку даймалі дрыжыкі, ён увесь ссінеў, зуб паганяў зуба, і Гасюта, перш чым пачапіць да трактара канец вяроўкі, палез у кабінку і выцягнуў адтуль пачатую пляшку.

Мальцы глынулі на поўную губу, працягнулі пляшку дзеду Трахіму, але дзед піць адмовіўся.

За пару хвілін Гасютаў «Беларус» залескатаў на высокіх абаротах, вяроўка напялася, струной заспявала ў паветры. Дагэтуль дзед Трахім паглядаў на свет з лёгкай усмешкай, а ўгледзеўшы напятую вяроўку, ураз пасур'ёзнеў, прыхапіўся на ногі і застыў, з прыгаслай папяроскай у зубах.

Трактар натужліва завуркатаў, зямля здрыганулася, і з вады ўзнялося штосьці зялёнае і круглявае. Напачатку цяжка было ўгледзець у бясформеннай камлызе чалавечыя відарысы, і толькі калі камлыга прапаўзла па пяску, а затым успарола берагавы дзірван, пакінуўшы на ім пасму зялёнай твані, сталі праглядацца няўклюдная галава і шырокая грудзіна.

— Няkволы бюсцік... — выдыхнуў Мікола, з натхненнем выкручваючы свае шырозныя, у «сэканд-хэндзе» набытыя трусы.

Сябрук у адказ задаволена крэкнуў, перакінуў з рукі на руку пакарабачаную манціроўку і міжволі засяродзіўся, прыкідваючы, відаць, колькі «зялёных» ім адваляць за бронзавага балвана.

Манціроўка ляснула тупым канцом па балване, і гук ад удару атрымаўся глухім і няўцямным.

— Цэмент, — прамовіў дзед Трахім, а ўнук, паспеўшы нацягнуць трусы толькі на левую кумпячыну, перахапіў манціроўку і з амапаўскім натхненнем стукнуў балвана па няўклюднай галаве.

— Цэмент, — уголас прашапталі хлопцы і разам паглядзелі на дзеда.

— Ну што, дзядуля... дзе твая бронза? — голас Міколавы дрыжэў, як авечы хвост. — Папёрліся... з цёмнага рана... помнік... бро-онзавы... — унук мацюкнуўся, падцягнуў трусы і рушыў да «Беларуса» — дапіваць рэшткі гарэлкі.

Добрых паўгадзіны хлопцы моўчкі ляжалі на траве, смалілі цыгарэты, нарэшце Гасюта падняўся на ногі і, кіўнуўшы ў бок камлыгі, запытаў:

— Дык што, адвязваем?

— Ды не-е...— прыспана прамовіў Мікола, — цягні да дзедавай хаты. Будзе ведаць, як народу мазгі дурыць.

— Ты што, ашалеў? Навошта мне гэтая халера! — крыкнуў дзед Трахім, але Гасюта тым часам ужо залез у кабінку, паддаў

газу, і цэментавая гаргара, пакідаючы пасля сябе глыбокую баразну, папаўзла па беразе.

Унук Мікола ўжо трэці тыдзень гасцяваў у дзедавай хаце. Адранку глушыў рыбу на рачных затоках, удзень непрабудна спаў, а ўвечары хадзіў у мясцовы клуб альбо піў гарэлку на пару з дзедавым суседам — трыццацігадовым механізатарам Гасютам. Вось і пазаўчора, узяўшы пляшку, унук выправіўся да суседа, але неўзабаве вярнуўся, цягнучы на плячы двухвядзёрны, ззелянелы ад часу самавар.

— У Гасюты... на гарышчы знайшлі, — патлумачыў унук, а калі дзед з усмешкай спытаў, навошта ён прыпёр гэтае ламачча, безнадзейна махнуў рукой і падаўся з хаты.

Наступным ранкам Мікола спаў даўжэй звычайнага, а прачнуўшыся, працягнуў няскончаную размову.

— Гэта, дзеду, не ламачча, а каляровы метал. Мне за яго тры тваіх пенсіі дадуць, — унук пацягнуўся, вохнуў і пачухаў абедзвюма рукамі свае пакусаныя камарамі і пабітыя аб рачныя карчажыны ногі.

Словы такія пакрыўдзілі дзеда.

— Мне маёй пенсіі хапае. Сорак гадоў адрабіў на чыгунцы. І табе даю... на пляшку, — буркнуў стары, пайшоў да дзвярэй і ўжо з парогу дадаў: — Тут, непадалёку, гэтага металу цэлая тона ляжыць.

Сказаў гэта дзед не падумаўшы, а калі падумаў, унук ужо стаяў на ганку і чухаў голае чэрава.

— Ты што, сапраўды ведаеш, дзе медзь прыхавана?

Стары дастаў беламорыну, скамечыў набойніцу ў гармонік, потым выцягнуў запалкі, і ўнук, перахапіўшы пушку, паднёс запаленую сярнічку да дзедавага носа.

— У рацэ ляжыць, — выдыхнуў, разам з папяросным дымам, дзед Трахім, прысеў на край ганка і пасля глыбокай зацяжкі, ад якой нават пацямнела ўваччу, распавёў унуку гісторыю саракагадовай даўніны.

...Аднойчы, золкай восеньскай ноччу, Трахім пайшоў на раку ставіць донкі, і нечакана з прырэчных кустоў выйшаў міліцыянт у плашч-накідцы. Зыркнуўшы з-пад насунутага на

вочы капюшона, міліцыянт загадаў тэрмінова пакінуць бераг, бо тут мусяць адбыцца вайсковыя вучэнні.

«Ці не пантонны мост наводзяць?» — падумаў Трахім, адышоў метраў на дзвесце і залёг за кустом — вырашыў паглядзець, як там усё будзе. Ляжаў доўга, здранцвеў увесь, хацеў быў ужо дахаты падацца, ды тут на бераг — з натужлівым выццём — выехаў самазвал і, даўшы задам, заехаў у ваду. Месца, куды заехаў самазвал, было адметным: там, непадалёку ад берага, круціў хлапякі белай пены глыбокі вір — у віры, адразу па вайне, знайшлі тапельца, а таму тутэйшыя рыбакі ніколі не закідвалі туды вуды.

У цемры пачуліся галасы, мільганулі жарынкі цыгарак, самазвал загуў, цяпер ужо са страшнай натугай, і ў вір, узняўшы нябачныя пырскі, бухнулася штосьці цёмнае і важкае.

Раніцою, як толькі развіднела, Трахім пабег на раку і сустрэў па дарозе Сяргейчыка — аднаногага інваліда, які таксама быў заўзятым рыбаком і хата якога стаяла на другім баку вуліцы.

— Чуў? — вымавіў Сяргейчык, калі яны парукаліся.

Трахім таргануў галавой, і сусед, секанууўшы паветра бамбукавым вудзільнам, прамармытаў:

— Сталіна скінулі.

— Як скінулі? Куды? — гукнуў быў Трахім, прыцішыў крок, а пачуўшы пра бюст, што стаяў у парку, шпарка пайшоў, прыладжваючы крок да мернага рыпення Сяргейчыкавага пратэза...

— І што... сапраўды з бронзы? — запытаўся ўнук, не даслухаўшы дзедавага аповеду.

— Ну так... жоўты такі стаяў, — дзед павёў рукамі, малюючы ў паветры відарыс сталінскага бюста, і Мікола ў чарговы раз пачухаў ніз жывата.

— Гіпс, відаць... Пафарбавалі пад бронзу.

— Ды не-э... Гіпс бы ў вадзе разваліўся, а ён цалюткі, — Трахім вытрымаў паўзу і з разважнасцю патлумачыў: — У семдзесят другім годзе, як рака абмялела, макаўка паказалася. Мальцы яшчэ там нырца давалі...

Стары пацёр далонню санлівыя вочы, а калі зноў зірнуў на свет, унук ужо бег з двара, і на пытанне: «Куды ты паляцеў?» — коратка азваўся: «Да Гасюты!»

## II

Зялёная ад твані, спрэс залепленая куклянкамі камлыга не паспела як след прасохнуць, як на яе ўзбіўся гурт мясцовых падшыванцаў. Падшыванцы пры гэтым бязладна гарлалі, спіхвалі адно другога з бетоннай камлыжыны, а неўзабаве пачалі стукаць па ёй нечым жалезным.

— Во йоп...— вылаяўся Мікола, пачуўшы скрозь ранішні сон гучны бразгат. Сёрбнуўшы на хаду збружэлага квасу, ён выйшаў да весніц.

— Ану, малеча, прэч адсюль! — пагрозліва гукнуў Мікола, але голас пасля купання дарэшты асіп, і падшыванцы працягвалі валтузіцца на помніку.

— Каму сказаў... — Мікола выдзер з паркана збуцвелую штыкеціну, і гэта дапамагло: дзятва сыпанула ўбокі, але далёка не адбегла.

— А гэта што — помнік? — запытаўся адзін з падшыванцаў — малец грыз няспелы яблык і пры гэтым гучна чвякаў.

— Помнік... помнік, йоп вашу... — буркнуў Мікола, перакрывіўся і сплюнуў пракіслую сліну.

Ад недасыпу і выпітай гарэлкі галава Міколава балела, настрой быў паганы, а таму з языка злятаді мацюкі і глотку вярэдзілі глухія ўздыхі. Аднак, абышоўшы помнік, Мікола пажвавеў і, маракуючы пра штосьці сваё, павадзіў рукамі ў паветры, нібыта ён — у думках — укараноўваў снежную бабу важкай галавою.

— Ну і што ты будзеш рабіць з гэтай халерай? — гукнуў, перабіваючы думкі, дзед Трахім: дзед стаяў ля весніц і пыхкаў беламорынай.

— Як што? Адрэстаўруем. Выставім на продаж, — унук выцяў бетоннага балвана мыском чаравіка. — Думаю, пару тысяч баксаў возьмем.

— Эгэ-э, Міколка... Каму ён патрэбны? — стары папярхнуўся дымам, здушана закашляў. — Вунь і нос адбіты... і ў дзірах увесь...

— Каверны замажам, нос прылепім... пафарбуем. Карацей, будзе правадыр як навюткі... Ты вось што, дзеду... — унук азірнуўся, увабраў галаву у плечы, — трэба хлопцам... з пільні... пару пляшак паставіць... Пазыч да вечара... Гасюта прыедзе — аддасць.

Стары нічога не сказаў і толькі зварухнуў пальцамі, рахуючы — колькі яшчэ дзён унук прабудзе на пагасцінах.

Па абедзе Трахім прылёг на тапчан, адразу ж заснуў і неўзабаве быў абуджаны лескатаннем Гасютавага трактара. Трактар ехаў па вуліцы, і ззаду за ім, уздымаючы пылюку, валачылася на тросе таўшчэзная калода.

— Божухна, і калі гэта ўсё скончыцца? — прашаптаў стары і з вохканнем выйшаў на ганак.

Ля Трахімавай хаты тым часам ужо збіраўся народ.

— Чаго вылупіліся? — гыркаў Гасюта на цётак, што ішлі да крамы, ды спыніліся паглядзець — што мальцы будуць рабіць з цурбаном ды бетоннай камлыгай. Цёткі паправілі хусткі на галовах, стоена зашапталіся, а Гасюта падхапіў з-пад плота доўгую жардзіну, загнаў тонкі канец пад цурбан, і яны на пару з Міколам пакацілі яловы кругляк да весніц. Усё было б нішто, ды надарылася неспадзеўка: жардзіна з трэскам абламалася, стукнула Міколу па карку, і кампаньён, пачуўшы смех грамады, злосна выдыхнуў:

— Г'анд-доны...

Працаваць у атачэнні натоўпу не выпадала, а таму, падкаціўшы калоду да весніц, Гасюта абабіў перапэцканыя ў яловую жывіцу рукі і голасна, каб чула грамада, абвясціў:

— На сёння ўсё!

«І тузанулі ж мяне за язык,— падумаў Трахім, правёўшы далонню па няголеным падбароддзі, — ляжаў бы сабе на дне, пакуль не спрах, дык не... выцягнулі нячысціка...» — стары уздыхнуў, падаўся ў хату, і следам за ім, заглушыўшы трактар і абмацюкаўшы грамаду, рушылі Мікола з Гасютам.

— Ну што за людзі! З усяго пасёлка збеглася. Нібыта ніхто калоды не бачыў... — ад парога гукнуў знерваваны ўнук, а дзед, пазяхнуўшы ў далонь, лёг на тапчан, змучана перавёў дых.

На кухні рыпнула падлога, і Гасюта — з воклічам «Обана!» — грукнуў аб стол чымсьці цвёрдым.

— Ай, малайца-а! — акрыялым голасам азваўся Мікола.

— Хопіць ім і адной... Летась пілавінне грузіў — ні хера не праставілі...— растлумачыў Гасюта, а Мікола ўдарыў у ладкі і кінуўся ў сені, дзе стаяла газавая пліта.

— Зараз, бляха, яечню зглямэздаем.

Пакуль Мікола завіхаўся з патэльняй, Гасюта, падобна, адкаркоўваў пляшку, потым бразнуў шклянкамі і нягучна прамовіў:

— Яму выкапаеш... Сантыметраў на семдзесят, глыбей не трэба. Заўтра ад ранку калоду паставім, а ў абед Сівоха кран падгоніць.

У шклянцы — стоена, але разам з тым упэўнена — зацурчэла гарэлка, і пад тыя чароўныя гукі Трахім заплюшчыў павекі.

На наступны дзень, ад самага ранку, у Трахімавай хаце грукалі дзверы, звінелі шклянкі і лілася п'яная гамонка. Першымі завіталі два хлопцы з піларамы, і Мікола пабег да тутэйшых цыганоў па самагонку. Бліжэй да абеду ў хату ўваліліся Гасюта з вадзілам аўтакрана, усе разам дапілі цыганскую акавіту і, трымаючы пад пахі аднаго з пільшчыкаў, пайшлі ўздымаць правадыра на «п'едэстал».

Дзед Трахім зроду не хрысціўся, а тут, пабачыўшы, як п'яны ўнук убіўся пад бетонную камлыгу, што завісла, як той вісельнік, у паветры, тыцнуў самлелымі пальцамі ў лоб, жывот і ў левае плячо. Схоплены за шыю сталёвай зашмаргай, правадыр крутнуўся спачатку ў адзін бок, потым у другі, нарэшце спыніўся, Мікола абхапіў правадыра ўладнымі рукамі, і той паволі асунуўся на калоду.

Хвілін праз дзесяць, пабачыўшы ў дзвярах унука — цэлага і жывога, стары яшчэ раз перахрысціўся і без шкадавання аддаў Міколу пяцьдзясят тысяч адной паперкай — апошнія грошы, якія былі ў хаце.

Вечарам у хату завітаў яшчэ адзін госць — Данік Крываблоцкі. Данік той, немалады ўжо, сівагаловы мужчына, працаваў у цэху шырспажыву. Выбляў помнікі з мармуровай крошкі, ляпіў барэльефы памерлых персанальных пенсіянераў і, вядома ж, убачыўшы бюст з адбітым носам, тут жа зайшоў у хату, каб прапанаваць свае паслугі.

...За вокнамі ўжо святлела, а на кухні ўсё яшчэ гаманілі і здушана мацюкаліся.

— Калян... ты хоць ведаеш... з кім маеш справу? — п’яным голасам пытаўся Данік Крываблоцкі і, пасля страшэнна працяглай паўзы, адказваў: — Ты маеш справу з прафесійным скульптарам.

Калян доўга і неразборліва мыкаў, потым чхнуў — ды так гучна, што абудзіў Гасюту; Гасюта, у сваю чаргу, таксама мыкнуў, але тут жа суняўся, і на кухні чарговым разам зазвінелі шклянкі.

— У Гасюты, небаракі, ужо і галава не трымаецца... на стол падае, — прабубніў Крываблоцкі і зычнейшым голасам працягваў: — Карабейнікаву помнік бачыў?.. За дзень зляпіў!.. Зяць Карабейнікаў прыехаў, паглядзеў — даў пяцьсот «зялёных»... Казаў: «Кідай усё, прыязджай да нас у Піцер — табе цаны не будзе...» — на кухні зацурчэла гарэлка, і Мікола прасіпеў: — А но-ос?

— Алебастравы прыляплю... Будзе лепшы за твой...— выгукнуў Крываблоцкі, хлопцы чокнуліся, і ў гэты момант штосьці масіўнае і важкае абрынулася на падлогу.

Дзед Трахім адсунуў фіранку. На падлозе, нязграбна раскінуўшы рукі, ляжаў упіты Гасюта.

— Каб вас парвала ад той гарэлкі, — азваўся стары і з вохканнем кульнуўся на левую бачыну.

Пад самую раніцу хата напоўнілася нялюдскім храпам. На кухні, падклаўшы пад галаву палена, хроп Гасюта, а ў святліцы дзерлі тхара Мікола з Крываблоцкім. Данік з Міколам спалі на канапе ніжнікам, пры гэтым дзедаў унук часцяком падбрыкваў правай нагой, біў Крываблоцкаму пяткай у лоб; скульптар на кароткі міг аціхаў, мыляў вуснамі і пачынаў храпці з яшчэ

большай сілай. І вось, калі Данік схрапянуў ужо зусім ашалела, і дзед Трахім апусціў руку пад тапчан, шукаючы — чым кінуць у храпуна, на падворку пачуліся крокі, і нехта дробна пастукаў у шыбу.

— Ці ў вас мой апівуда? — крыкнула Гасютава жонка, і ад таго крыку забрахаў суседскі сабака, а Данік з унукам перасталі храпці і зморана застагналі.

Падняла мужа Гасюціха даволі хутка: плюснула з вядра халоднай вады, а потым, мацюкнуўшыся, агрэла небараку паленам. Удар атрымаўся глухім, але трапным. Дзед Трахім, лежачы за фіранкай, уражана залыпаў вачыма, а Данік з Міколам сталі дых і з жаласлівым гукам выпусцілі паветра.

Гасючысіны праклёны заціхлі на другім канцы вуліцы, навакольныя сабакі збрахаліся да сіпу, залезлі ў будкі, і змучаную дзедаву душу падхапіў і панёс па сваіх цёмных лабірынтах доўгачаканы, а таму цяжкі сон.

І прыснілася дзеду пахаванне Сталіна. Спачатку ў свядомасці нарадзіліся гукі: гул золкага ветру ў разбітых вокнах дэпо, ляскане жалобных сцягоў над галавою, галасісты, з засопленым прыдыханнем плач начальніцкай жонкі. Трахім страсянуў ува сне галавой і тут жа ўбачыў стрыжаныя патыліцы, чорную зеўру гучнагаварыльніка і заплаканую начальніцкую жонку.

— Міканор... як жа мы цяпер... без яго?.. — здушана галасіла кабеціна, уткнуўшыся лобам у пагон мужавага шыняля.

— Капа, нам усім цяжка... — мармытаў начальнік дэпо, неадрыўна пазіраючы ўгору — туды, дзе завіхаліся ўвішныя вераб'і і дзе вісеў бляшаны рупар гучнагаварыльніка.

Трахім агледзеў краем вока натоўп і знерухомеў ад нечаканасці. Праваруч, у атачэнні паравознікаў, стаялі Мікола з Гасютам. Абодва былі на ладным падпітку, абодва смалілі папяросы і задаволена пасміхаліся, падставіўшы золкаму ветру свае — Мікола малочна-белыя, а Гасюта пракурана-пажоўклыя — зубы.

«Божухна, забяруць!» — мільганула падспудная думка, і ў гэты момант бляшаны рупар крактануў, вераб'і разам узняліся ў паветра, і наваколле напоўніў хрыпучы левітанаўскі голас:

— Пайшоў з жыцця прадаўжальнік вялікай справы Леніна, друг і настаўнік працоўных усяго свету... — Левітан зрабіў паўзу, за спінай раней часу загуў ды асекся паравозны гудок, і чыйсьці знаёмы голас пакутліва выдыхнуў: — Фу, бл...ь, як цяжка...

Стары размежыў павекі. Уваччу паплыло, а потым замёрла на месцы квяцістая фіранка.

— Ой, бля, як цяжка! — застагнаў Данік Крываблоцкі, і Трахім адхінуў фіранку.

Гадзіннік на кухні паказваў палову на дзясятую.

— Паміраю... сэрца спыняецца...— чародным разам выдыхнуў Данік і з вохканнем раскінуў убокі рукі і ногі.

Мікола тым часам ужо ляжаў на падлозе. Сэрца ў скульптара, відаць, і сапраўды спынялася, бо Данік быў белы, як палатно, а ніжняя сківіца безупынку калацілася.

«Каб жа не памёр, халера на яго»,— падумаў стары і, апанаваны трывожнымі думкамі, палез пад тапчан, дзе яшчэ з Калядаў была прыхаваная пляшка «чарніла».

...Данік піў «Водар мяты» нагбом, з рыльца, а выпіўшы паўбутэлькі, задаволена адрыгнуў і гукнуў праз плячук: — Гасюта!

— Сышоў... яшчэ зранку, — азваўся дзед Трахім і, сцішыўшы голас, дадаў: — П’юць, пакуль на падлогу не зваляцца.

## III

Неўзабаве Данік пайшоў з хаты, але праз гадзіну вярнуўся.

— Дай... — неакрэслена выдыхнуў скульптар, з нецярплівасцю страсянуўшы рукамі.

— Чаго табе даць? — не зразумеў Трахім.

— Ну гэты, як яго?.. — Крываблоцкі скрывіўся, крутнуў пальцамі — гэткім рухам звычайна ўкручваюць лямпачкі — і з шумам увабраў паветра, згадваючы, як называецца тое, што яму трэба. — Ну гэты... во, — госць тыцнуў пальцам у кут, і дзед Трахім крутнуў галавою.

— Услон табе трэба, ці што?

— А во-во... услон, — прасвятлеў з твару Крываблоцкі.

Данік падхапіў услон, зірнуў на Міколу, які ляжаў на падлозе і пакутаваў з пахмелля, і падаўся на двор.

— Зусім мазгі прапіў, — уздыхнуў стары.

Не ведаючы, чым заняць рукі, Трахім спачатку схапіўся за дзяркач, потым запіхнуў у торбу пустыя бутэлькі, нарэшце адчыніў акно і ўпусціў у пракураную хату свежага паветра.

На двары цвыркалі вераб'і, на суседняй вуліцы гарлалі пеўні, непадалёку ляскатаў трактар — няйначай, Гасютаў, — і да ўсіх тых суладных зыкаў далучалася звонкае і разам з тым непрыемнае шаргаценне. Гэта Данік, узбіўшыся на ўслон, раскеўзваў кельняй па камлызе нейкую шэрую гліну.

«І што з усяго гэтага будзе?»— падумаў Трахім, вынес у сенцы торбу з бутэлькамі, а калі ізноў зірнуў у акно, дык убачыў нейкага дарэшты апухлага мальца, які стаяў за Данікавай спінай і паціраў далонню пляшывую макаўку.

— Хто гэта цябе так? — запытаўся Крываблоцкі, і стары пазнаў у апухлым мальцы свайго суседа Гасюту.

—Ваўчыца... хто ж яшчэ...— Гасюта ўздыхнуў, зацкавана паглядзеў на камлыгу: — Алебастрам мажаш, ці як?

— Алебастрам, — незадаволена выгукнуў Крываблоцкі, а замазаўшы чарговую дзірку, прамармытаў: — Ідзі... пакінулі там табе... на пахмелку.

Стары адышоў ад акна, соладка пазяхнуў наастачу і падаўся на тапчан.

— Калян! Ты там жывы? — грымнуў праз пару хвілін сіпаты Гасютаў голас, але стары не пачуў тых слоў — ён соладка спаў, і квяцістая фіранка ледзь прыкметна варушылася ў такт ягонаму дыханню.

У суботу дзед Трахім напаліў лазню. Мыўся цэлую гадзіну, да змору схвастаў сябе дубовым венікам і, відаць, схвастаў бы да смерці, калі б у прымыльніку не загрукацеў вёдрамі ўнук Мікола.

— Нітрафарба... і ацэтон не бярэ, — крыкнуў унук, шухнуў вады на камні і, сеўшы на палок, стаў шараваць кавалкам пемзы свае перапэцканыя белай фарбай далоні.

З лазні дзед выкуліўся на ватных нагах і, перш чым ісці да хаты, доўга збіраўся з сіламі, трымаючыся за дзвярны вушак. Сэрца парывіста тахкала, слых поўніўся звонам, а ў нос лез нейкі незнаёмы пах, які нагадваў водар чаромхі. Ён, гэты пах, хаця і не быў рэзкім, але вярнуў да жыцця. Трахім удыхнуў праз нос п'янкога паветра, і ў той жа міг галава прасвятлела, звон увушшу суціх і знямелыя ногі наліліся гарачай крывёю.

Пакуль ішоў гародам, увесь час маракаваў: чым гэта пахне? — і ўжо ля самай хаты, згадаўшы перапэцканыя Міколавы рукі, задыхана прашаптаў: — Фарбай засмярдзела.

Толькі што сэрца хваравіта замірала і гатовае было спыніцца, а тут ёкнула і спужанай птушкай забілася ў грудзіне. Стары ўбачыў СТАЛІНА!

У першае імгненне нават здалося, што правадыр жывы — стаіць, бялюсенькі, краем вока зазіраючы ў ягоны, Трахімаў, агарод. Трахім і так быў мокры пасля лазні, а тут увесь твар заліло потам. Стары падхапіў дрыжачай рукой прыпол кашулі, хацеў выцерці твар, ды пачуў раптам ломкі хлапечы голас:

— Дзядуля, а хто гэта такі?

Падшыванцы, як заўсёды, сядзелі на плоце і хрумкалі недаспелыя яблыкі.

— Гэта, мальцы, Сталін! — крэкнуў Трахім, выціраючы мокры лоб.

— А хто ён такі? — падаў голас светлавалосы малец.

Трахім уважліва паглядзеў на падшыванца: ці не пасмейваецца пракуда са старога чалавека? Але вочы хлапечыя свяціліся непадкупнай цікавасцю, і стары кашлянуў у далонь.

— Ну, гэта... — сказаўшы так, Трахім задумаўся, засяроджана пачухаў гарляк: — Ну, карацей, яго ўсе баяліся. Пры ім парадак быў — о-го-го! У нас у дэпо адзін на працу спазніўся, дык два гады далі... з правам перапіскі.

— А вы, дзядуля, таксама Сталіна баяліся?

— Анягож... і я баяўся.

— А ён кім быў? Тэрмінатарам? — русявы падшыванец з такой асалодай куснуў яблык, што нават сок пацёк па падбародку.

— Цябе як завуць? — запытаўся Трахім, пазіраючы то на падшыванца, то на бацьку-Сталіна.

— Пецькам, — адказаў малец і з невядомай прычыны пакутліва ўздыхнуў.

«І чым толькі ў іх галовы забітыя?» — падумаў дзед Трахім, ідучы да хаты, і, пакуль дайшоў да ганка, тры разы азірнуўся, каб паглядзець на правадыра.

Увесь вечар ля бюста тоўпіліся людзі.

«Як жывы, як жывы...»— наўзахваткі шапталі старыя цёткі, і ўнук Мікола, слухаючы праз адчыненае акно людскую гаману, задаволена паціраў рукі і раз-пораз гукаў:

— Чуеш, дзеду?! Здаю бюст за пяць тысяч баксаў! І ні цэнта меней...

— Эгэ-э... Міколка... Каму ён патрэбны? — азываўся з тапчана стары Трахім, — у людзей грошай на хлеб не стае, а яны табе будуць нейкія бюсты купляць.

— Гэта ў цябе не стае, а ў «крутых» грошай як гразі...— Мікола ўкінуў у рот цыгарэціну, пстрыкнуў запальнічкай і прыслухаўся: нападворку хтосьці зусім па-дурному загарлаў:

— Сталин — наша слава боевая-а...
Сталин — нашей юности полё-от...

Трахім падхапіўся з ляжанкі, падышоў да акна і незадаволена вылаяўся: на падворку, узяўшы пад руку Юстына Капітонавіча Дуба, былога ваенкама, стаяла і гарлала на ўсе застаўкі Аўгіння Міканораўна Кароткая — актывістка раённага савета ветэранаў вайны і працы.

— Прынёс нячысцік, — буркнуў Трахім і, прычакаўшы, калі Аўгіння праспявае апошні радок: — *Наш народ за Сталиным идио-от!* — зачыніў акно адразу на дзве аканіцы.

Аўгіння Кароткая ў час вайны мыла порткі партызанскаму камандзіру, а цяпер, начапіўшы медальку, цягалася па горадзе і, сустрэўшы Трахіма, кожны раз апавядала — як яны адбіваліся ад карнікаў, як яе ледзь не забіла асколкам гранаты і, уздыхнуўшы, абавязкова прамаўляла:

— Вам хоць добра было, вы ў тыле сядзелі.

— Пасядзела б ты, карга лупатая, у тыле... пад нямецкімі бомбамі, — суцішна казаў услед актывістцы Трахім і доўга потым хадзіў не ў гуморы.

...Дзве галавы — сівая ваенкамаўская ды чарнявая Аўгінніна — праплылі міма вокнаў, і Трахім, пятым разам згадаўшы нячысціка, патупаў да дзвярэй.

Ён сустрэў гасцей на ганку. Выставіў чэрава, абапёрся рукой на вушак і тым самым даў зразумець, што ў хату нікога не запрашае.

— Ну, Трафім Пятровіч, не ведаю, як табе і дзячыць! — прамовіў былы ваенкам, ціснучы Трахімаву руку. — Гэта, скажу табе, вялікі патрыятычны ўчынак.

— Я нават праслязілася, як Іосіфа Вісарыёнавіча пабачыла, — уставіла слова Аўгіння Кароткая, плаксіва шморгнула носам і палезла ў кішэнь па насоўку.

— Сёння ж патэлефаную ў цэка партыі і пашлю ліст Генадзю Андрэевічу Зюганаву. Пра такую падзею павінен ведаць увесь свет, — Юстын Капітонавіч кашлянуў у жменю, крыху прыцішыў голас. — Вось толькі месца для помніка няўдалае. Трэба яго ў цэнтр перанесці — туды, дзе стаяў...

— Каб дзятва нос адбіла? — весела крыкнуў з кухні Мікола.

Юстына Капітонавіча такая заўвага прыкметна азадачыла. Ён ускудлаціў сівыя валасы на патыліцы, з разважнасцю ў голасе прамармытаў:

— У савеце паставім. А там пабачым.

— Мы, як яго выцягвалі, дзесяць літраў салляркі спалілі, дзве бляшанкі нітрафарбы скарысталі і скульптару за працу трыццаць даляраў заплацілі. Так што задарма не аддамо! — крыкнуў Мікола, і госць, выцягнуўшы шыю, запытаўся:

— Дык колькі вы хочаце?

— Дзве скрыні гарэлкі! —гаркнуў Мікола.

Госць пасля такіх слоў нават хістануўся — задужа высокай падалася цана. Цётка Аўгіння падхапіла яго пад руку, павяла да весніц і на развітанне крыкнула праз плячо:

— Мы ў савеце падумаем.

— Падумайце... добра падумайце... — прасіпеў услед гасцям Трахім і з грукатам — аж парахня пасыпалася са столі — зачыніў дзверы.

— Дык што ж ты... То пяць тысяч хацеў, то на дзве скрыні пагадзіўся, — прамовіў Трахім, забіраючыся на тапчан.

— Ды пажартаваў я... — адказаў унук, стомлена зяхнуўшы ў далонь, — у гэтых сталінскіх пацукоў грошай і на бутэльку не знойдзецца.

Мікола пстрыкнуў выключальнікам і потым доўга мармытаў у цемры, услых прыкідваючы, колькі «бабак» давядзецца даць Гасюту і колькі «кінуць» дзеду.

## IV

Наступнага дня, ад самай раніцы, пачаў сеяць дакучлівы дождж. Трахім, запаліўшы ў печы, з ціхай радасцю падумаў, што гасцей такім часам не будзе, і тут жа ўгледзеў, як у змакрэлым акне мільгануў пакамечаны капялюш. Праз імгненне ў сенях затупалі, і на парозе паўстаў карэспандэнт раённай газеты Аркадзь Нічыпарук. Карэспандэнт зняў капялюш, страсянуў, збіваючы дажджавыя кроплі, і мутнаватымі, яшчэ дарэшты не працверазелымі вачыма агледзеў хату.

Аркашка Нічыпарук даводзіўся Трахіму сваяком: быў жанаты з дзедавай пляменніцай, і хаця пасля таго змяніў яшчэ дзвюх жонак, сваяцкіх сувязяў не цураўся — зрэдзьчасу забягаў у хату, куляў чарку і раз на год — звычайна на Вялікдзень — прывозіў на рэдакцыйным «Масквічы» мех крадзенага камбікорму.

Кіўнуўшы сваяку, Аркашка зазірнуў у святліцу, а ўбачыўшы брудныя Міколавы пяткі, што тырчалі з-пад коўдры, скамандаваў:

— Гвардыя, падйо-ом!

— Інтэрв'ю прыйшоў узяць, — патлумачыў Аркашка, выцягваючы з нутраной кішэні плашча пляшку «чарніла» і зашмальцаваны блакнот.

Хвілін праз пяць, глынуўшы віна, Нічыпарук стаў распытваць Міколу — з якіх віроў быў выцягнуты сталінскі бюст, — а

дзед Трахім, якому да млосці абрыдлі п’янкі, ціхенька выслізнуў з хаты. Стары сеў на ганку і стаў слухаць — як падаюць з капяжу рэдкія кроплі, як квохча ў хляве, наракаючы на дождж, стары певень і як на кухні, наракаючы на зладзюгу-рэдактара, бубніць Аркашка Нічыпарук:

— Немагчыма стала працаваць — рэжа ўсё пад корань. Пры камуністах і то лягчэй было...

Пазяхнуўшы, стары налёг спінай на дзверы, заплюшчыў вочы, і калі — праз паўгадзіны — сваяк выходзіў з хаты, кульнуўся таму пад ногі. Сваяк ад нечаканасці падскочыў, выпусціў з рота папяросіну і, дапамагаючы Трахіму падняцца, прамармытаў:

— Ну, Пятровіч, у цябе і жарцікі...

Потым карэспандэнт доўга шнарыў рукой па падлозе, шукаючы згубленую папяросіну, нарэшце знайшоў, прыпаліў ад падстаўленай Міколам запальнічкі:

— Карацей, даю два матэрыялы — адзін у сваю газету, другі ў «Праўду». У Маскве такія рэчы любяць.

— І аб’яву...— нясмела заўважыў Мікола.

— За аб’яву не хвалюйся. Сёння ж патэлефаную Хаміцкаму. Надрукуюць у лепшым камерцыйным выданні. Як там напісаць? «Прадаецца бацька-Сталін»?

Сваяк з Міколам яшчэ трохі пагаманілі — Мікола ўсё бедаваў, што помнік надта цяжкі і гэта можа адпудзіць пакупнікоў, — дзед Трахім той парой прыбраў на стале, сасмажыў яечню і з палёгкай уздыхнуў, калі пакамечаны капялюш таргатліва праплыў міма вокнаў. Ля весніц, аднак, капялюш крутнуўся вакол сваёй восі, і Аркашка, увабраўшы галаву ў плечы, пабег у адваротным кірунку.

«Ці не ў прыбіральню пабег?» — падумалася Трахіму; у гэты момант да помніка падкаціла шэрая «Волга», і з яе вылез, цяжка аддзімаючыся, старшыня райвыканкама Ганчарук і яшчэ нейкі, вайсковай выпраўкі чалавек, на носе якога віселі цёмныя акуляры. Агледзеўшы помнік, Ганчарук пачухаў патыліцу, сказаў штосьці напарніку, тыцнуўшы пры гэтым пальцам угору, пасля чаго абодва пайшлі да машыны.

Наступныя два дні выдаліся спакойнымі: у хату ніхто не завітваў, да весніц ніхто не пад'язджаў, і ўзрадаваныя дзедавы куры ізноў пачалі поркацца ў зямлі на сваім улюбёным месцы — пад помнікам правадыру. Але на трэці дзень да хаты пад'ехаў даўжэзны белы фургон, з яго выскачылі маладыя хлопцы ў рознакаляровых кепурках; хлопцы тут жа пачалі раскручваць нейкія шнуры, і ўнук Мікола, зірнуўшы ў акно, каротка патлумачыў:

— Тэлебачанне.

І дзед, і ўнук злёгку захваляваліся — а раптам паклічуць штосьці сказаць на камеру. Але хваляванне было дарэмным. У хату ніхто не заходзіў, а неўзабаве да весніц падрулііў «казялок», у запыленай шыбе якога мільгануў азызлы твар Юстына Капітонавіча Дуба.

— А гэты чаго тут? — уразіўся дзед Трахім.

— Эх, дзядуля... На тэлебачанні слова даюць толькі надзейным людзям, — унук адсунуў непадатныя аканіцы, расчыніў акно. — Пазнаеш, дзед, вунь тую стрыжаную сучку? «Панараму» вядзе.

Кабеціна, пра якую казаў Мікола, падвяла былога ваенкама да помніка, махнула нейкаму хлопцу і лагодным голасам праспявала:

— Вы, Юстын Капітонавіч, толькі не хвалюйцеся. І глядзіце не на мяне, а ў аб'ектыў тэлекамеры.

Кабета ізноў махнула рукой, састроіла лагодную ўсмешку, натхнёна загаварыла ў мікрафон на чысцюткай беларускай мове:

— Гісторыя не бывае добрай ці дрэннай. Гісторыя такая, якая яна ёсць — з яе ўзлётамі і падзеннямі, радасцямі і трагедыямі. І як бы ні сілілася сённяшняя апазіцыя даказаць адваротнае, гісторыя нашага народа заўсёды з намі, яна вяртаецца да нас, і яскравы таму прыклад — вось гэты помнік, які стаіць за маёю спінай. Імя Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна і дагэтуль выклікае шмат спрэчак. Але спытаем — як ставяцца да гэтага імя тыя, хто праліваў кроў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, хто з імем Сталіна на вуснах ішоў у смяротны бой...

— У які бой?! — вырвалася з Трахімавай грудзіны. — Знайшлі ваяку... у сорак шостым румынаў вартаваў, а потым нагавіцы ў ваенкамаце праседжваў, — Трахім сказаў яшчэ пару слоў на адрас Дуба, а ўнук, з адчаем зірнуўшы на сонца, чхнуў, ды так гучна, што кабеціна азірнулася і ўжо на чыстай расейшчыне гукнула хлопцу з тэлекамерай:

— Лёша, давай сначала...

Рэшту дня, аж да самага вечара, Трахім праседзеў у Сяргейчыка — аднаногага інваліда, які жыў па суседству. Сяргейчык з-за хваробы ўжо год як не выходзіў з хаты, а таму страшэнна ўзрадаваўся, пабачыўшы суседа. З гэткай нагоды інвалід нават дастаў пляшку самаробнай наліўкі, і хаця Трахім быў чалавекам непітушчым, але гэтым разам прапусціў чарку. Балазе і нагода была адпаведная: гэтым днём, пяцьдзясят пяць гадоў таму, Сяргейчык застаўся без нагі.

— Ляжалі ў кукурузе, а тут ён як джвагне з мінамёта, дык мяне нават з акопа выкінула, — слухаў Трахім суседаў аповед і з уздыхам прыгадваў, як і яго аднойчы, у час бамбёжкі, выкінула з паравоза. І ўваччу на кароткае імгненне паўстаў развернуты бомбаю тэндар, ахопленыя полымем цяплушкі санітарнага цягніка і перакошаная шыльда з надпісам «Вязьма» на будынку вакзала. Трахім спахмурнеў, кульнуў чарку, закашляўся — наліўка патрапіла ў нос — і Сяргейчык задаволена паляпаў яго па спіне.

Калі стары вярнуўся дахаты, тэлевізійнікаў пад вокнамі ўжо не было, але затое ўпоперак вуліцы — адзнака таго, што кіроўца быў не ў гуморы, — стаяў Гасютаў «Беларус».

Зрэшты, не ў гуморы быў і ўнук Мікола: з адчыненай форткі вырываўся на працяг ягоны гарачлівы голас:

— Цэлы месяц важдаліся... і дасталі... выспятка пад зад...

Адчыніўшы дзверы і пабачыўшы прымлелы Міколаў твар і панылага Гасюту, стары зразумеў: нешта здарылася.

— А можа, дадуць якую кампенсацыю? — нясмела перапытаў Гасюта: трактарыст сядзеў за кухонным сталом, утаропіўшы вочы ў нейкую паперчыну.

— Як жа... дадуць! Дручком спаміж вушэй, — азваўся са святліцы ўнук і вылаяўся.

Трахім моўчкі кіўнуў Гасюту, і той, у сваю чаргу, кіўнуў на паперчыну, што трымаў у руках.

— Во... прыслалі заказным лістом... «Бюст І. В. Сталіна работы скульптара Леапольда Кангалевіча з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы і мусіць быць перададзены ў фонд Дзяржаўнага мастацкага музея...»

— Не, ну якія казлы... Сорак гадоў у рацэ адваляўся... — выгукнуў Мікола, але фразы не скончыў — выбег на кухню і зацкавана прамармытаў:

— Юстын Пітонавіч...

— Што — Пітонавіч? — не зразумеў Гасюта.

— Што-што... Сплавім ветэранам за дзве скрыні гарэлкі, а там хай разбіраюцца, чыя гэта ўласнасць.

Яшчэ імгненне — і Гасюта з Міколам, нібыта падхопленыя віхурай, кінуліся да дзвярэй і, піхаючы адзін аднаго, вылецелі на падворак.

## V

І вось наспеў той хвалюючы момант, калі Мікола ўнёс у хату скрыню гарэлкі, паставіў яе на табурэт і з удумлівай разважнасцю аддыхаўся. Следам за ім, цягнучы другую скрыню, увайшоў Гасюта, а за хвілю, з трыма пляшкамі мінеральнай вады, — Данік Крываблоцкі.

— Карацей, тры дні да яго з Міколам хадзілі — грошай так і не выбілі, — прамаўляў, звяртаючыся да Крываблоцкага, Гасюта. — А сёння, бляха, заходжу з кувалдай у руках, маўляў, іду трушчыць правадыра, Пітонавіч і ўсхваляваўся. «Прыязджай па абедзе, — кажа, — атрымаеш грошы пад распіску».

— А хто той бюст да ветэранаў зацягнуў? — запытаўся Данік дрыжачым ад захаплення голасам.

— Мальцы з пільні падрадзіліся. Толькі дарма будуць пупы рваць, — уключыўся ў размову Мікола, — у Пітонавіча грошай

больш няма ні капейкі. — Мікола задаволена крэкнуў і, нібыта той цыркач, падкінуў на далоні пляшку гарэлкі.

Дзед Трахім выйшаў з хаты, падышоў да весніц, і, аблашчыўшы поглядам кола свежай зямлі — месца, дзе стаяў правадыр, — зморана ўздыхнуў. Стары мерыўся пайсці да Сяргейчыка — трэба ж было недзе пераседзець п'янку, ды яшчэ хацеў пазычыць грошай, бо не было за што купіць ні хлеба, ні папяросаў, — але ногі зусім не ішлі, і Трахім прысеў на лаўку.

Ён доўга сядзеў з заплюшчанымі вачыма і слухаў няўцямную гаману, якая лілася з адчыненых вокнаў хаты. Час ад часу гамонка перарывалася бразгатам шклянак, задаволенай керханінай, Данік Крываблоцкі раз за разам спрабаваў зацягнуць нейкую песню, нарэшце зацягнуў — ды так гучна, што на двары сярдзіта заенчыў певень, і нечакана дзесьці непадалёку абудзіліся сутаргавыя ўсхліпы.

Трахім размежыў вочы і ўбачыў русявага Пецьку. Падшыванец ішоў па вуліцы і надрыўна плакаў.

— Гэй, пакрыўдзіў хто? — крыкнуў дзед Трахім, але падшыванец не азваўся.

— Пакрыўдзіў хто? — давялося паўтарыць старому, і Пецька скрозь слёзы праенчыў:

— Татку... прыціснула... у бальніцу адвезлі.

— Як прыціснула?! Чым?! — выдыхнуў Трахім, паспрабаваў устаць, але тут жа ізноў плюхнуўся на лаўку.

— Бацька твой на пільні робіць? — крыкнуў стары ўслед падшыванцу, але той не адказаў — пайшоў, пацепваючы ад плачу худымі плечукамі.

«Божухна, усё з-за мяне», — бязгучна прашаптаў Трахім. Галава закружылася, твар апаліла задушлівая гарачыня. Полымя вырывалася з паравознай топкі і краналася русявых валасоў качагара. Пецька ляжаў на спіне, і зыркія вогнікі мітусіліся ў шырока расплюшчаных вачах.

— Пеця, ты што?! — гукнуў ён, не пазнаўшы ўласнага галасу.

Ён адцягнуў качагара ад топкі, павіс на парэнчах, збіраючыся клікнуць санітара, ды не клікнуў, бо з вышыні, са страшным гудам, на яго падаў нямецкі самалёт. Ад самалётнага чэрава адарвалася штосьці прадаўгаватае, і ў апошняе імгненне перад

выбухам ён убачыў за самалётным штурвалам бетонную галаву бацькі-Сталіна.

Трахіму часцяком мроілася тая страшная бамбёжка, мроілася ахопленая полымем станцыя Вязьма, да вушэй даляталі крыкі раненых, і нос казытаў саладжавы пах печанага людскога мяса, і ў свядомасці кожнага разу мільгацеў невыразны твар нямецкага лётчыка, якога ён угледзеў за імгненне да выбуху. І вось нарэшце ён убачыў, хто кінуў бомбу.

З вохканнем Трахім узняўся на ватных нагах, пайшоў, хістаючыся, да Гасютавага трактара, з цяжкасцю расчыніў непадатныя дзверцы. Млявая рука пашнарыла пад сядзеннем, намацала ліпучае дзяржальна кувалды. З апошніх сіл Трахім узваліў кувалду на плячук, стоена прашаптаў:

— Толькі б дайсці! — і рушыў па дарозе, у канцы якой — за дваццаць крокаў ад трактара — яго чакалі боская цішыня і вечны спакой душы.

## СВЕТЛАЙ НОЧЧУ

Ноч была надзіва светлай. Злавесна-барвовая поўня, што ўзнялася звечара па-над Дабранскай гарой, неўзабаве праяснела, зрабілася малочна-белаю і, павіснуўшы на голлі дрымотнай таполі, заліла наваколле туманным святлом. Адбіткі гэтага святла ляжалі на чорных люстрах лужын, на абмытым начной расой таполевым лісці, на дахах вясковых хат і на гладкай шэрстцы ката Барыса — аграмаднага сібірака, які сядзеў на шуле весніц і, лена варушачы канцом цяжкога, з руку таўшчынёй, хваста, мружыўся на поўню.

Панавала цішыня і толькі чуйнае Барысава вуха ўлоўлівала сярод гэтай цішы кволыя гукі: цвырканне конікаў, падзенне яблыкаў у садзе, храпенне гаспадара ў хаце і скавытанне шчанюка Дуроніка ў канцы агарода. На прамінулым тыдні сканаў у сваёй будцы стары Палкан, і ўзамен яму гаспадар прынёс аднекуль блазнаватага шчанюка, якога назваў Дуронікам. Шчанюк гэты дзень да ночы лётаў па двары, дзяўкаў на карову, ганяўся за курамі, ад якіх набраўся скочак і цяпер несупынна скавытаў і чухаў лапамі адвіслыя вушы.

Ката адольвала дрымота.

Ад самага ранку гаспадар стагаваў на Дабранскай гары сена — звозіў зляжалыя капешкі ды клаў вялікі стог. З-пад капешак, калі конь сцягваў іх з месца, уроссып разбягаліся палёўкі: Барыс цэлы дзень іх душыў і так захапіўся гэтай справай, што нават не прыходзіў у абед дахаты паласавацца сырадоем. Іншая кацяра пасля такой беганіны даўно б ужо дзе-небудзь прыкархнула, скруціўшыся абаранкам, але Барыс быў катом прынцыповым. Пад кустом ніколі не спаў. Упадабаў адно месца — толькі там і ўкладваўся. І месца гэтае было не абы-дзе, а на гарышчы хаты, ля цёплага коміна.

На гарышчы, апрача Барыса, спала на духмянай канюшыне і гаспадарава дачка Люська. Люська тая мела звычку цягацца ў суседнюю вёску на танцы, і Барысу даводзілася падоўгу ча-

каць дзяўчыну, бо самому яму адчыніць паддашкавыя дзверы не выпадала.

Паволі цішэлі зыкі: карова ў хляве пакінула сапці і толькі зрэдзьчасу ўздыхала; Дуронік больш не варушыўся ў бульбяніку, а снегавая поўня заблыталася ў таполевым вецці, і падворак апусціўся ў цемру. Цемра лёгкім цяжарам лягла на Барысавы павекі, кот на кароткае імгненне прыснуў, нават прыдушыў у сне пару палёвак, але варта было ўдалечыні чхнуць матацыклу, як ён абудзіўся, размежыў зіркатыя вочы і, з нецярплівасцю пераступіўшы з лапкі на лапку, ударыў нягнуткім хвастом па шуле.

Матацыклы, як заўсёды, спыніліся на ўскрайку вёскі. Хлопцы, што прывезлі дзевак, у іншых месцах насіліся на сваіх «Панонiях» аж да рання, будзячы пры гэтым нават глухаватых дзядоў. А вось па Гатаве гойсаць сярод ночы не асмельваліся. У Гатаве жыла загадчыца крамы, якую яны вельмі паважалі і таму берaглі яе сон. Да таго ж хлопцам і без матацыклетнага ляскату даводзілася часцяком будзіць магазіншчыцу, стукаючыся да яе сярод ночы ды здушана прамаўляючы:

— Міронаўна... выруч... брат прыехаў...

Ля крайняй хаты заглух, а потым зноў завёўся матацыкл, пачуўся дзявочы віск, хлапечы рогат, і кот, задаволена прагнуўшы спіну, пайшоў па паркане насустрач людскім галасам.

Ён ужо стаміўся ісці, і лапы забалелі ад вострых штыкецін, калі з цемры выплылі дзявочыя постаці. Дзевак было тры: Люська, яе сяброўка Манька Цыкіна і яшчэ адна, кірпатая і круглатварая, імя якой Барыс не ведаў і якая прыехала ў Гатава ў госці — ці то з Ленінграда, ці то яшчэ з якога вялікага места. Колькі часу дзяўчаты няспешна ішлі па вуліцы, спрытна пераскокваючы праз лужыны, а параўняўшыся з Барысам, разам азірнуліся і, пырснуўшы здушаным смехам, пабеглі навыперадкі, смешна раскідваючы цыбатыя ногі. Кот хацеў быў сігануць за імі ўслед, але перадумаў: сцежка была мокраю ад расы, дый бегчы не было сэнсу, бо «начныя бадзягі», як называла дзевак гаспадыня, адразу дахаты ніколі не ішлі — сядалі на бярвенне перад Маньчынай хатай і распавядалі адна адной розныя глупствы.

Вякнуўшы, Барыс пайшоў па паркане — цяпер ужо ў адваротным кірунку, — а дайшоўшы да Маньчынай хаты, пачуў усхваляваны голас ленінградкі:

— Божухна, які дурань! Які дурань! — парывіста выдыхала ленінградка, ківаючы галавой і летуценна пазіраючы на поўню.

Праваруч ад яе, на камлі таўшчэзнай хвоі, сядзела Манька Цыкіна, а ля іхных ног, на другім бервяне, месцілася Люська.

— Які дурань! — паўтарыла пасля хвіліны маўчання гараджанка, і Манька Цыкіна, тузануўшы сяброўку за спадніцу, запытала: — Што... што ён табе сказаў?

— Што трэба — то і сказаў! — адказала за гараджанку Люська, і ў голасе яе чулася лёгкае хваляванне.

— А ў цябе, Люсечка, ніхто і не пытаецца, — азвалася Манька Цыкіна.

Памаўчаўшы, Манька адламала ад камля кавалак кары, шпурнула ў лужыну, з'едліва дадала:

— Думаеш, ніхто не ведае, як ты з ім за клубам цалавалася?

— Хто? Я?! — голас Люсьчын дрыжэў і зрываўся. Люська падхапілася з бервяна, рванулася, на радасць Барысу, да хаты, але яе схапіла за рукаво збянтэжаная ленінградка.

— Ну, дзяўчынкі... ну чаго вы...

Хвіліну дзеўкі наструнена маўчалі, потым Люська фыркнула, плюхнулася на камель, ленінградка прымасцілася поруч і, уздыхнуўшы, пралепятала:

— Ну, хочаце, будзем хадзіць з клуба пехатою?

Словы гэтыя завіслі ў паветры. Люська з Манькаю прымірэнча пераглянуліся, разам зірнулі на сяброўку.

— Ноччу? Пехатою? Паўз могілкі?!

— Ну і што, што паўз могілкі? — запыталася ў сваю чаргу гараджанка, і ў яе голасе ужо не чуваць было ранейшай бадзёрасці.

— Ты ж, Маша, відаць, не ведаеш... — прашаптала Люська, вытрымала паўзу, збіраючыся распавесці ўсё па парадку, ды яе апярэдзіла Манька Цыкіна.

— Карацей, прыехаў адзін таксіст у Азярышча, стаў там ля базара і чакаў — каго падвесці. І тут падышла нейкая цётка. Высокая такая, прыгожая і ўся ў чорным...

— У белым, а не ў чорным...— паспрабавала была ўдакладніць Люська, але сяброўкі абурана махнулі рукамі, і тая змоўкла.

— Падыходзіць, значыцца, і кажа: «Адвязі мяне на гатаўскія могілкі», — і сто рублёў дае. Ну, таксіст грошы ўзяў ды паехаў... Прыехалі яны, а ўжо цемнавата было — гадзін, можа, дзесяць вечара. Цётка вылезла з машыны і загадала таксісту, каб чакаў. «Дачакаешся — яшчэ сто рублёў атрымаеш», — так і сказала... Ну і пайшла на могілкі. Таксіст гадзіну чакае, другую — няма нікога. Страшна стала. Хацеў ужо дадому ехаць, а тут бачыць — ідзе нехта, увесь у белым. Прыгледзеўся, а гэта тая цётка...

— Як цётка? Яна ж у чорным была, — спалохана перапытала жыхарка вялікага места і Люська, азірнуўшыся па баках, страшным голасам растлумачыла:

— З Хадоры, з нябожчыцы зняла. Яе якраз таго дня пахавалі — у саматканай кашулі.

— А т-таксіст?

— А што таксіст... Абамлеў. Націснуў... на што там яны ціснуць... машына рванула, нават дрэва зламала, — Люська яшчэ раз азірнулася. — Казалі — памёр праз тыдзень. Гэта таму, што сотню не выкінуў.

— Мы на наступны дзень туды хадзілі — сляды машыны бачылі і бярэзіну зламаную, — уставіла слова Манька Цыкіна, і Люська кіўнула галавой.

Барыс адчайна, аж да ёкаўкі ў горле, пазяхнуў. Ён зусім асавеў, а дзеўкі між тым і не думалі разыходзіцца. Кот саскочыў з паркана, задраў хвост і, асцярожна ступаючы па мокрай траве, падышоў да Люські.

— Пра «чорную руку» распавядзі, што людзей душыла, — прамовіла Люська, ды нечакана войкнула, падхапілася на ногі, а згледзеўшы Барыса, падчапіла таго мыском чаравіка і адкінула на дарогу.

— Не, пра «чорную руку» не цікава. Раскажу лепей, як дзяўчынка айчыма забіла.

Барыс быў абражаны. Абышоўшы дзевак з тылу, ён ускочыў на бярвенні, прайшоўся ў дальні канец, усеўся там і абурана закруціў хвастом.

— Мне пра гэта сястра распавяла, што ў Віцебску жыве. Прасіла, праўда, нікому не расказваць.

Манька Цыкіна, надаўшы голасу злавесныя ноткі, пачала новы аповед, а ленінградка, якая, відаць, ніколі такіх жахаў не чула, ад страху нават перастала дыхаць і сцягнула са спіны на галаву сваю гіпюравую кофту.

— У адной дзяўчынкі быў дужа паганы айчым. Увесь час за ёю падглядваў... І вось прыйшоў аднойчы гэты айчым дахаты, убачыў, што дзяўчынка пераапранаецца, і палез да яе...

— Як гэта — палез? — пудліва перапытала ленінградка.

— Ты што, не разумееш? Як Васька да цябе сёння лез, так і гэты...— растлумачыла Люська, і ленінградка пасля такіх слоў яшчэ больш скурчылася і нацягнула кофту да самых вачэй.

— Ну, палез, значыцца, схапіў дзяўчынку за руку. А ў іхнай хаце пад лаўкай сякера ляжала. Дзяўчынка да сякеры дацягнулася, схапілася за тапарышча і... карацей, па галаве айчыма гвазданула. Крывёю ўсе сцены запырскала. Айчым на падлогу паваліўся, зубамі заскрыгітаў, засіпеў: «Прыйду да цябе», — і падох. Дзяўчынка перапужалася, пабегла да маткі. А матка дворнічыхай рабіла. Пачула што ды як, кінула мятлу і дахаты пабегла. Пабедавалі яны, кроў змылі, у хаце прыбралі, а тут і міліцыя ўвалілася. Матка ўсю віну на сябе ўзяла: сказала, што гэта яна забіла, — яе і пасадзілі. І вось засталася дзяўчынка адна. Спаць лягла, а страшна ж адной... усё гэты айчым мроіцца. Святла нават не выключала. І раптам бачыць — на дзверцах шафы кропля крыві засталася. Хацела выцерці, ды перадумала: трэба было з пасцелі вылазіць, а ў хаце холадна, печка не паленая. А наступнай ночы ўспомніла яна пра пляму — глянула, а яна нібыта большаю стала. Схапіла анучку — давай церці. А кроў не адціраецца. Ну што, лягла ў пасцель, а пляма раніцою ў два разы павялічылася. І так расла цэлы тыдзень, а на восьмую ноч заліла ўсе дзверцы. І падобнай стала на чалавечы цень, — у гэтым месцы Манька перарвала аповед,

намалявала рукамі ў паветры вырыс чалавечага ценю. — А ў дванаццаць гадзін ночы пляма раптам пачарнела, дзверцы рыпнулі, пачалі расчыняцца, і з шафы выйшаў... — але хто выйшаў з шафы, Манька сказаць не паспела. Яе гарадская сяброўка нечакана падскочыла, нема крыкнула, апавядальніца пукнула, а кот Барыс сігануў з перапуду пад бліжэйшы куст.

— Люська, дурная-а! — гукнула ленінградка і жартам, але хвацка, выцяла кулаком па Люсьчынай хрыбціне.

— Вось так, Люсечка. Яшчэ раз тыцнеш пальцам — болей расказваць не буду, — пакрыўджана зазначыла Манька Цыкіна, а ленінградка, памацаўшы рукою пэўнае месца, дадала:

— Ледзь не абпісалася.

Люська, якая мела звычку пужаць сяброўак, тыцкаючы ім пальцамі пад драбы, сумелася, шморгнула носам.

— Ну добра, раскажу вам яшчэ адну гісторыю. Таксама пра айчыма. Але гэта ўжо была праўда, — забалабоніла Манька, а кот Барыс абтрос мокрую лапку і ўскочыў на паркан. — Памерла ў адной дзяўчынкі маці, і засталася яна з айчымам. І вось прыйшоў аднойчы айчым дахаты, прынёс радыёпрымальнік і кажа: «Слухай, але ніколі не ўключай кароткія хвалі». А наступным днём з’ехаў у камандзіроўку, і дзяўчынка адна засталася. Цікава ёй стала — што будзе, як кароткія хвалі ўключыш? Узяла і ўключыла. І вось слухае нейкую музыку... стра-ашную такую... але нічога не адбываецца. А ў дванаццаць гадзін ночы музыка раптам абарвалася і нехта ці-іха так сказаў: «Дзяўчынка, дзяўчынка — выключы радзіва, труна на колцах пад’язджае да твайго горада». Дзяўчынка перапужалася, выключыла радзіва, а на наступную ноч зноў уключыла. Прыслухалася, і раптам чуе — той жа голас, але больш гучна, кажа: «Дзяўчынка, дзяўчынка — выключы радзіва, труна на колцах едзе па тваёй вуліцы».

Кот Барыс, які сядзеў на паркане, пазяхнуў, памыў пысу падушачкамі правай лапкі.

— І вось трэцяя ноч... Падсела яна да радзіва...

— Ой, дурная-а... — прастагнала, перарываючы апавядальніцу, ленінградка, а апавядальніца, растапырыўшы пальцы абедзвюх рук, прашаптала: — Уключыла, і раптам чуе...

— Манька, зараз жа ідзі дахаты! — крыкнулі за Барысавай спінай, дзверы Маньчынай хаты гучна бразнулі, і Манька, гукнуўшы: — Іду-у! — прабачліва дадала: — Пайду, заўтра ўставаць рана — наша чарга гнаць у поле.

Шпаркія крокі заціхлі ў глыбіні двара, і ленінградка з Люськаю падхапіліся з бярвення. Сюд-туд азіраючыся, сяброўкі рушылі на паўсагнутых нагах уздоўж паркана, і Люська, падышоўшы да сваёй хаты, нечакана матлянулася ўбок.

— Куды ты? — гукнула было ленінградка, а ўбачыўшы, як сяброўка задзерла прыпол спадніцы, таксама прысела пад куст.

Люська ўжо абцягнула прыпол, калі ў агародзе зашамацеў бульбоўнік, і сяброўкі пужліва адскочылі на дарогу. Праз імгненне з-пад плота вытыркнулася кудлатая галава Дуроніка, дзеўкі ўголас аблаялі шчанюка, і гараджанка, дробна стукаючы зубамі, запыталася:

— Т-ты д-дзе с-спіш?

— На гарышчы, а ты? — адгукнулася Люська, гэтаксама граючы на зубарыках.

— І я на гарышчы, — Маша, бліснула ў цемры бялкамі вачэй і ў нерашучасці пацерла лабешнік.

— Слухай, пайшлі да мяне, — пралепятала, чытаючы сяброўчыны думкі, Люська. — Я раніцою ўстану, скажу маці, каб тваіх папярэдзіла.

Дзяўчыны крадком увайшлі ў двор, спыніліся пад вокнамі хаты, прыслухоўваючыся да храпення Люсьчынага бацькі, і, правёўшы дых, палезлі па драбінах на гарышча.

Кот Барыс праслізнуў у дзвярную пройму, у два скачкі дабег да сваёй ляжанкі. Колькі хвілін ён рупліва аблізваў мокрыя лапы і толькі пасля таго прыслухаўся да бязладнай валтузні на другім канцы гарышча. Дзеўкі, ужо накрыўшыся з галавою коўдрай, шалёна валтузіліся, вішчэлі, а навалтузіўшыся ўдосыць, аб нечым горача зашапталіся.

Кот памыў лапаю пысу, задаволена пацягнуўся. Потым яшчэ раз пазяхнуў і, перад тым як накрыцца хвастом, паскроб кіпцюрамі крокву.

— Ай, хто там? — крыкнулі на другім канцы гарышча, у крокву над Барысавай галавой стукнуўся дзявочы туфель, і Барыс, прыхаваўшыся за комін, падаў голас.

— Супакойся, гэта наш кот, — сонна прамармытала Люська, і яшчэ праз хвіліну сяброўкі суладна засаплі насамі.

Кот расцягнуўся на ляжанцы, прыціснуўся спінай да коміна. Комін быў яшчэ цёплы і злёгку дрыжэў ад волатаўскага храпа гаспадара. Барыс заплюшчыў вочы і, перад тым як заснуць, падумаў, што заўтра ў яго будзе цяжкі дзень — трэба будзе зноўку ісці на Дабранскую гару душыць мышэй.

Заўтра, як толькі ў хаце рыпнуць масніцы, ён прачнецца, правядзе падушачкамі лап па вачах і будзе доўга слухаць ранішнія зыкі. На доле бразне вядро, паліецца вада ў калодзеж, гаспадыня штосьці гучна крыкне суседцы. Потым у хляве будзе бясконца доўга зумкаць струмень у даёнцы, а калі гаспадыня падоіць карову і выйдзе на двор, ён прыціснецца пысай да паддашкавых дзвярэй і голасна вякне. Гаспадыня, як заўсёды, вылаецца, няспешна падымецца па драбінах, хвіліну-другую будзе тыцкаць прутом у шчыліну, скідваючы непадатную зашчапку, а спусціўшыся долу, плюхне ў чаропкі — у ягоную і Дуроньчыну — цёплага сырадою.

...Барыс ужо спаў і сніў палёвак, калі яму прымроіўся раптам саладкаваты, ні з чым не параўнальны пах малака, і ён аблізнуўся спрасонку.

# ВЕДЗЬМА

Пасля залевы сонца паліла па-чорнаму, і ў зале расчынілі вокны. Пахі цёплага асфальту, прывялай травы, таполевай лістоты завіслі ў паветры, перамяшаліся з пахамі парфумы, жаночага поту, віннага перагару, і дыхаць стала зусім цяжка.

— Ну, хто наступны? — млявым голасам запытаўся Першы, адною рукою перабіраючы паперы, а другою паслабляючы вузел гальштука.

Паслабіўшы вузел так, што сталі бачныя сівыя валасы на грудзіне, Першы зірнуў спадылба ў канец залы і запытальна выдыхнуў:

— Таварыш Мурленя?

Усе разам аціхлі, гудлівы чмель, які ўляцеў быў у расчыненае акно, плюхнуўся на штору, і запанавала ціша, якая надала моманту элемент злавеснай урачыстасці.

На мінулым тыдні Мурленя ездзіў у Віцебск на нейкія спаборніцтвы, патрапіў там у выцвярэзнік, і цяпер увесь партыйна-гаспадарчы актыў наструнена чакаў — як адаб'ецца гэтая падзея на ягоных паводзінах. Старшыня спорткамітэта ўскочыў на ногі, зірнуў на Першага затуманенымі ад грамадскіх турботаў вачыма і, ускудлаціўшы непаслухмяны віхор, з камсамольскім імпэтам заварушыў магутнай сківіцай.

«Ані ў знак... Хаця б сумеўся, сволач...» — падумаў Макар, скоса пазіраючы на Мурленеву сківіцу. Важкая, што той жарон, сківіца хадзіла ўбокі, ільснілася на сонцы, малола нейкую лухту пра спартыўныя поспехі таварыства «Ураджай».

«Што яму будзе, таму Мурленю... Зяць дырэктара базы... Гэта Хаміцкі патрапіў у мыцельнік, дык усю душу небараку вытраслі». — Апанаваны такімі думкамі, Макар уявіў на хвілю — што б было, калі б у выцвярэзнік убіўся не Хаміцкі, а ён сам, і па целе ягоным прабеглі халодныя мурашкі. Мурашкі беглі ад патыліцы да хвастца, і давялося нават зварухнуць азадкам, каб пераканацца, што пад ім не мурашнік, а райкамаўскае крэсла.

Крэсла рыпнула, чмель узняўся ў паветра, а Першы, перапыніўшы Мурленю, запытаў:

— Вы просіце слова, Макар Іванавіч?

Пытанне прагучала знянацку. Макар не паспеў нават уцяміць, што да чаго, замармытаў штосьці ў адказ, і па тым, як скасавурыўся Першы і як нервова заляпаў алоўкам па стале, можна было зразумець, што ён нечым незадаволены.

— ...За справаздачны перыяд падрыхтавана: значкістаў ГПА — 48 чалавек... — абудзіўся аціхлы было старшыня спорткамітэта, але яго ізноў перапынілі.

— Таварыш Мурленя, а ці не маглі б вы сказаць — як рэалізуюцца талоны на харчаванне, якія атрымлівае ваш камітэт? — Задаўшы гэтае пытанне, загадчыца райана Сцефурак адкінулася ў крэсле, чмель з дзіўнай для яго хуткасцю пачаў кружыць вакол Мурленевай галавы, а аловак у руцэ Першага перастаў стукаць і застыў у паветры.

Іншым бы разам Макар расхваляваўся, пачаў бы сябе ўпікаць за тое мармытанне: трэба ж было перапыніць Мурленю, спытаць пра ягоныя віцебскія прыгоды, але сёння на такія перажыванні ён быў папросту не здатны.

Мурленя зашамацеў паперамі, рыхтуючыся годна адказаць загадчыцы, мімаходзь баднуў галавой, адбіваючыся ад чмяля, і жартаўлівым голасам прамовіў:

— Ці не выгнаць адсюль гэтую заразу?

І хаця Мурленя меў на ўвазе пракуду-чмяля, усе разам паглядзелі на Сцефурак, і тая, гэтак жа, як і Макар, заклапочана заездзіла на азадку.

Актыў заварушыўся, зашаптаўся. Першы стукнуў алоўкам па графіне, а Фаіна Рыгораўна Сцефурак, прыхапіўшы са стала тэчку з надпісам «На подпіс», пачала махаць ёю ў паветры, выганяючы з залы абрыдлае насякомае.

Нарада доўжылася тры з паловаю гадзіны. За гэты час шафёры, што прывезлі ў райкам старшыню калгаса «Азяркі» і дырэктара саўгаса «Азярышчанскі», выпілі пляшку «чарніла», мужык загадчыцы райана, Мікола Сцефурак, прывёз дахаты і разгрузіў ля плота машыну крадзеных дошак, у раённай бальніцы — упершыню за два гады Пяцігодкі якасці — на-

радзілася двойня, Зямля крутнулася на колькі там градусаў, і выгінасты цень на яе паверхні прапоўз ад Далёкага Усходу да сіняга Байкала.

Усё ішло сваім, загадзя вызначаным ладам. Круцілася Зямля і свяціла сонца, нараджаліся двойні і лёталі чмялі, краліся дошкі і пілося «чарніла» ды заядалася няспелымі ранетамі, і сакавітае чвяканне ўперамежку з прыцішанымі шафёрскімі галасамі ўрывалася ў расчыненыя вокны.

Макар сядзеў ля акна і чуў, як адзін з кіроўцаў, бразнуўшы дзверцамі ўазіка, мацюкнуўся і, дажоўваючы яблык, прамовіў:

— Раней раз на месяц збіраліся, а цяпер штодня балбочуць, курвы...

Вадзіла казаў яшчэ нешта, але ягоныя словы пакрыў гаўклівы кашаль. Старшыня «Азяркоў» Мішка Мандрык, які сядзеў побач, нечакана закашляўся, зашоргаў нагамі па падлозе, а паслабіўшы па прыкладзе Першага квяцісты гальштук на шыі, голасам гогалеўскага мерцвяка прасіпеў:

— Ду-ушна!

У залі ізноў заварушыліся, загаманілі, графін чарговым разам дзынкнуў, а Мішка Мандрык, выдаўшы шэптам мудрагелістую тыраду, першымі словамі якой былі: «Выганю да д'ябла», — выцер канцом гальштука потную лабаціну.

Гадзіннік на сцяне паказваў палову на шостую.

Пры Калупайку такім часам жанчыны пісалі цыдулкі, просячы адпусціць іх — ці то ў паліклініку, ці то ў яслі па сына, — цяпер жа ніхто нічога не пісаў, і Макар, зыркнуўшы на апалыя стрэлкі гадзінніка, з няўцямнай трывогай згадаў тую пару, калі ён хадзіў на райкамаўскія імпрэзы, як на свята. Яму нават здалося, што гэта было немаведама калі. Ён нават паварушыў пальцамі, рахуючы дні і тыдні, а налічыўшы дваццаць адзін дзень, не даў веры сваім падлікам.

* * *

Раніцою, прачнуўшыся а восьмай, ён любіў хвіліну-другую палашчыцца ў пасцелі, любіў пазяхнуць, пацягнуцца, пачухаць жарсцвяныя валасы на пахвіне і толькі тады падымаўся

на ногі. Раней гэтага часу Макара не маглі абудзіць ні цвырканне вераб'ёў пад вокнамі, ні лаянка суседзяў за сцяною, ні сонца, што мела паганую звычку лезці ў вочы.

Тае раніцы ён прачнуўся а шостай.

Наўкол было ціха: суседзі яшчэ спалі, вераб'і недзе лёталі, і сонечны промень не лез у вочы, а светлаю плямай ляжаў каля ног, ліючы лагодную цеплыню на аголеную лытку. І ўсё ж такі ён прачнуўся, пачухаў потную пахвіну і ўздыхнуў, прымусіўшы мірыяды пылінак замітусіцца ў сонечным святле, зрабіўшы яго жывым і амаль адчувальным на дотык, і ад таго раення ў Макара закружылася галава і сон зляцеў з павекаў.

Ён адразу ж устаў, пайшоў, хапаючыся за сцены, у прыбіральню, а ўбіўшыся ў цёмны катух, доўга стаяў там, абапёршыся рукой на халодны стаяк.

Такімі хвілямі, калі вушы поўніліся бадзёрым цурчаннем і ніз жывата працінаў лёгкі халадок, Макар міжволі згадваў мінулую п'янку, і затуманеная вінным чадам, але чуйная і ўчэпістая на дэталі памяць яму ніколі не здраджвала, ды гэтым разам пахмельны чад выпетрыў з галавы рэшткі памяці, і ён не мог узгадаць: як там усё было, з кім даехаў да горада і як наогул патрапіў дахаты. Але адна згадка — няўцямная, як сон, і няўлоўная, як водар парфумы, — усё ж цвяліла свядомасць... Учора ўвечары ён танцаваў з Данутай... Макар прыплюшчыў павекі, намагаючыся вярнуцца ў зманлівы свет учарашняга вечара, і пакінуты без нагляду струмень стоена зашамацеў па падлозе. Не разнімаючы павекаў — каб не спужаць, не развеяць шчымлівай згадкі, — ён паспрабаваў на слых выправіць становішча, але не даў рады, і давялося намацваць у цемры ўнітаз — спачатку левай, а потым правай нагой.

Рука ўхапілася за фаянсавую гіру, бачок над галавой гартанна керхануў, завыў, як той воўк на Піліпаўку, і ў гэтым шалёным, дагэтуль нечуваным выцці Макару выразна пачуўся ягоны ўласны голас. Нават не голас, а роспачны крык, які вырваўся з прапітай глоткі і, скалануўшы каналізацыйныя трубы, суцiх, заглушаны аднастайным шумам вады.

Звычайна людзі не пазнаюць сваіх галасоў — яны ім здаюцца чужымі, але тут не столькі вуха, колькі сама душа

Макарава пачула той лямант, і Макар ужо гатовы быў крыкнуць штосьці самому сабе ў цёмную зеўру ўнітаза, ды не крыкнуў: выпусціў паветра і, не абабіўшы апошніх кропляў, выйшаў з прыбіральні.

Праз хвіліну, падпальваючы нягнуткімі пальцамі фаерку пад чайнікам, ён яшчэ раз прыслухаўся да пошуму вады ў прыбіральні і прамовіў:

— Дапіўся, бляха.

Чорныя мятлікі гэтым разам не лёталі ўваччу, галава амаль што не балела, а вось душа... душа заходзілася ад свербу, трымцела ў грудзіне, варушылася ў страўніку, а калі чайнік закіпеў-засвістаў на высокай ноце, раптам схаладнела, сціснулася ў камяк і зашылася некуды пад драбы.

Чайнік сіпеў не так, як раней, — адчайна, раскацiста, і сярод гэтага раскацістага свісту Макару выразна пачуліся нечыя галасы. Гаварылі двое — мужык і баба. Ён нават разабраў словы, сказаныя мужыком, штосьці накшталт: «Адпраўлю ў Акадэмію», — і, прыкруціўшы ручку пліты, пацёр дрыжачай рукой тое месца, куды, па ягоных меркаваннях, забілася спалоханая душа.

Насланнё не адпускала і пазней, калі ён чысціў зубы і галіўся. Электрабрытва «Харків», старая, з надтрэснутым корпусам, гудзёлка, якая звычайна працавала з натугаю і не столькі галіла, колькі дзерла шчаціннe, зумкала, як цыркулярка, а калі Макар паднёс яе да шчакі, — нібыта папярхнулася і немым голасам завішчэла: — Забудзь мой нумар, жывёліна! — Электрабрытва выпала з рук, стукнулася аб край ракавіны, завісла на шнуры і толькі тады загула ў сваім звычайным тэмбры.

З ваннай Макар выкуліўся, трымаючыся рукамі за сцены. Таямнічыя галасы яго не на жарты ўсхвалявалі, і ад таго хвалявання пот пацёк з-пад пахаў, і ногі зрабіліся нягнуткімі. Да таго ж душа Макарава, якая дагэтуль варушылася пад драбамі, падступіла да горла, і ён адрывіста ікнуў. Абапёршыся на дзвярны вушак, Макар ікнуў другім разам: зычна, ядрана, — а ўгледзеўшы свае штаны, якія віселі на люстры, ікнуў яшчэ раз — цяпер ужо зусім па-вар’яцку, страсянуўшы пры гэтым вялым чэравам.

Штаны злёгку варушыліся ад праймы, і гэта стварала ўражанне, што ў пакоі нехта засіліўся. Дрогкаю рукою ён зняў порткі з люстры, упіхнуў левую, больш гнуткую, нагу ў правую калошу ды зноў скамянеў, пачуўшы суседаў храп за сцяною.

«Дапіўся... да глюкаў дапіўся... Што ж цяпер будзе? Каму я такі патрэбны?» — віхурылі ў галаве панічныя думкі, і рукі цягнуліся да кніжнай паліцы, і вочы выглядалі карэньчык «Медычнага даведніка», і пазбаўленыя падтрымкі нагавіцы няспешна спадалі долу.

«Азааспермія...», «Актывацыя яйка...», «Алергіі» — пажоўклы ад курыва палец ліхаманкава гартаў даведнік, а адгарнуўшы трыццатую старонку, гэтак жа ліхаманкава праехаўся пазногцем па словах «Алкагольны галюцыноз».

«На першы план выступаюць слыхавыя галюцынацыі: шум, крыкі, галасы, якія звычайна асуджаюць дзеянні хворага альбо выказваюць пагрозы... Пры гэтым у хворага захоўваецца ясная свядомасць... Хворы апынаецца ва ўладзе “галасоў”, яму здаецца, што яго хочуць забіць альбо зняславіць».

«Забіць альбо зняславіць», — уголас паўтарыў Макар, хвіліну стаяў нерухомы, а калі за сцяною зноў храпянуў сусед, закрыў кнігу і з рашучасцю, на якую толькі быў здольны, прашаптаў:

— З сённяшняга дня — ні кроплі.

...Круглявы імбрычак стаяў пасярод стала і спалохана бразгаў накрыўкаю. Гэтае бразганне блытала думкі, напінала нервы, таму Макар, не дачакаўшыся, пакуль запарыцца гарбата, нацадзіў у конаўку рудаватай вадкасці, даліў кіпню, і ў паветры запахла нябожчыкам.

— Што ж там было? — выдыхнуў пахмельны пакутнік, парушыўшы ламінарную павольнасць пары, што падымалася з конаўкі.

Макар пацёр скроні, абхапіў рукамі галаву і стаў безуважна сачыць за кружляннем чаінак у віры не настоенай гарбаты.

Учора, упершыню за ўвесь час рэдактарства, яго запрасілі на райкамаўскую п’янку. Ладзілі яе з нагоды ад’езду Калупайкі — Іван Іванавіч ехаў у Віцебск, другім сакратаром абкама.

Выбіцца з Азярышча ў вобласць, ды яшчэ на такую пасаду — учынак амаль што неверагодны. Хадзілі чуткі, што Іван Іванавіч даў некаму хабар, а ягоная жонка ў час наведання сталіцы гуляла з міністрам сельскай гаспадаркі і — відавочна, у ложку — упрасіла таго прапіхнуць мужа ў абкам. Так гэта, ці не — сказаць цяжка, але Калупайка з'язджаў, і на загараднай турбазе арганізавалі развітальную вечарыну.

Пра п'янкі на «Качыным востраве» — так называлася турбаза — апавядалі шмат розных плётак. Слухаючы іх, Макар глытаў сліну, употай чухаў пахвіну, якая пачынала раптам свярбець, і на дне ціхмянай рэдактарскай душы кожнага разу варушылася крыўда. На загарадныя гулянкі яго не запрашалі.

І вось учора, па абедзе, пад рэдакцыйнымі вокнамі з нецярплівасцю квакнула легкавушка. «Мандрык», — мільганула тады ў Макаравай галаве; Макар схамянуўся, выцягнуў са стальніцы мутную шклянку — у Мандрыка ніколі не было з чаго піць, — і шырокім крокам падаўся на двор.

Сябрук часцяком прыязджаў такой парой: ехаў з абеду ў «Азяркі» і па дарозе зарульваў у рэдакцыю. Звычайна яны кулялі па дзвесце пяцьдзясят; похапкам, што тыя зайцы, закусвалі зялёнай цыбуляй і развітваліся да вечара. Гэтым разам Мішка быў за рулём. У машыне сядзеў яшчэ нехта, і Макар, раўніва памацаўшы шклянку ў кішэні пінжака, адчыніў заднія дзверцы ўазіка. Дакладней, дзверцы адчыніліся самі: ён толькі націснуў на ручку, і на грудзіну насунулася важкая, спавітая цупкім поліэтыленам, туша.

Тушы Мандрык вазіў і раней — і райкамаўцам, і абкамаўцам, і пракурору, але рабіў гэта ўпотай, па начах. Тут жа вёз сярод белага дня, у самую спёку.

— Залазь ужо як-небудзь, — прамовіў Мішка, і ў голасе ягоным чулася лёгкае хваляванне.

Абхапіўшы рукамі сцягняк, Макар убіўся разам з тушаю ў кабінку, стукнуўся галавою аб нешта брынклівае і гучна мацюкнуўся. На сядзенні, адна на адной, стаялі, падпіраючы брызентавы верх, скрыні з гарэлкаю.

— Не лайцеся! — прагучала над вухам, і Макар аслупянеў. Наперадзе, поруч з Мішкам, сядзела загадчыца сектара ўліку Азярышчанскага райкама Данута Станіславаўна Францкавяк.

Той хвіляй ён прагнуў толькі аднаго: знікнуць! Альбо праваліцца. Альбо ператварыцца ў адну з тых мух, што біліся ў шыбу.

Данута Станіславаўна была ягонай тайнай сімпатыяй. Доўгіх дзесяць месяцаў, ад дня свайго прыезду ў Азярышча, ён марыў спаткацца з гэтай жанчынай. У галаве Макаравай ужо быў распрацаваны сцэнар такога спаткання, а хвараблівыя, узбуджаныя алкаголем фантазіі кожнага разу пераносілі яго ў напоўнены чароўнымі пахамі і мілагучнымі песнямі пакой, пасярод якога, на мяккім варсістым дыване, ляжала ў паставе ўсходняй адаліскі загадчыца сектара ўліку.

І вось ён паўстаў перад Данутай — у абдымку з разабраным баранам, з мацюкамі на вуснах і з парэзаным аб вострую стужку, якімі былі ababітыя скрыні, ілбом.

— Трымай, паварочваю! — гукнуў Мандрык, пайшоў на разварот, і давялося ўперціся рукамі ў скрыні, каб тыя не абрынуліся на галаву.

Прыхаваўшыся за тушай, Макар пашукаў, — чым бы гэта прамакнуць юшку на лобе; нічога вартага не знайшоў і прамакнуў партбілетам.

За ўвесь час, пакуль яны ехалі да «Качынага вострава», Данута ані разу не азірнулася. Сядзела моўчкі, безуважна пазіраючы на дарогу. Маўчаў, адчуваючы настрой пасажыркі, і Мішка Мандрык. Але яно і добра: Мішка меў звычку пацвельваць сяброў у прысутнасці жанчын, і гэтае маўчанне было адзіным, што лагодзіла душу гэтай вусцішнай часінай.

Усю дарогу Макар хаваўся за тушай, шморгаў носам, і нават калі ўазік, квакнуўшы наастачу, спыніўся ля мураванкі з выяваю качкі на франтоне і Данута Станіславаўна, не сказаўшы ні слова, выйшла з машыны, ён усё яшчэ баяўся падняць галаву, і Мішку давялося ляпаць яго па карку і з гарэзлівай іскрынкай уваччу ківаць на скрыні з гарэлкаю.

Яны выпілі паўпляшкі, выпалілі па цыгарэце, прыхапілі тушу і падаліся да возера — кроіць мяса на шашлыкі.

Макар рэзаў мяса з шалёнай апантанасцю. Распрануты па пояс, з налепленым на лобе лістком трыпутніку — рана ўсё яшчэ крывавіла, — ён дэманстраваў Мішку сваю дасведчанасць у шашлычнай справе, а пачуўшы жаночыя галасы, што далятаў з суседніх кустоў, схапіў металёвы пожаг і з імпэтам пачаў налыгваць кавалкі бараніны.

Ён налыгваў трэці пожаг, калі ў вушах зазвінеў пералівісты жаночы смех.

— Што ж вы робіце? — прамовіла Данута Станіславаўна, падышоўшы бліжэй, а яе сяброўка — райкамаўская сакратарка Марына, — хаваючы ў далонь крывую ўсмешку, патлумачыла: — Мяса спачатку марынаваць трэба.

Жанкі пастаялі крыху, пагаманілі і, падхапіўшы мядніцу з гарою пакроенага мяса, пайшлі ў бок турбазы.

— Ну чаму, чаму я такі? — прамармытаў Макар, ляпнуў па лобе, забіваючы камара, і толькі тады зразумеў, чаму смяяліся жанчыны. На лобе, як той лазенны ліст на пэўнай мясціне, красаваўся лісток трыпутніку.

— Ну чаму?.. — прастагнаў ён удругарадзь ды нечакана сцепануўся ад ляманту і плёхання вады за спінай. Гэта Мішка Мандрык сігануў з масткоў у празрыстую глыбіню ляснога возера.

Потым яны зноў сядзелі ў кабінцы. Піў, праўда, толькі ён, Макар, — тапіў у гарэлцы сваю няўклюднасць, — і калі на базу завітаў Калупайка на шэрай «Волзе», пад нагамі Макаравымі ўжо зыбалася зямля, а ўвушшу звінелі званы. Потым ён піў за бяседным сталом, потым ля вогнішча, закусваючы недапечанай баранінай, потым яшчэ недзе, а таму і не дзіва, што наступным ранкам пахмельная памяць зеўрала праваламі, і адзінае, што запомнілася, дык гэта п'яная пыса дырэктара канторы кінапракату Даўгалёва, з якім ён цалаваўся і якому кляўся ў вечнай дружбе.

І яшчэ адна згадка не давала спакою: ён танчыў з Данутай. Згадка была цьмянай, амаль няўлоўнай, і калі Макар, дзьмухнуўшы на гарбату, заплюшчваў вочы, спрабуючы вярнуцца ў прыцемную залу, дзе ён кружыў з Данутай, уваччу кожнага разу паўставалі альбо вясёлкавыя шары, альбо барвовая

пыса Ваські Даўгалёва. І толькі калі ён сёрбнуў гарбаты і на шырокім лабешніку заблішчэлі пацеркі поту, нос адчуў раптам дзіўны, ні з чым не параўнальны пах Дануціных валасоў. У прадчуванні шчымлівых згадак Макар заплюшчыў вочы, але тут з носа ягонага сарвалася кропля поту, плюхнулася ў конаўку, і гук гэты канчаткова разагнаў салодкія мроі. Макар мацюкнуўся, выцер твар кухонным ручнікам і, дапіўшы гарбату, пайшоў збірацца на работу.

Галава пасля п'янкі была як цэбар, і дзесьці на самым дне душы варочалася хваравітае пачуццё — ці то віны, ці то крыўды, ці то яшчэ нейкай халеры. Такімі хвілінамі, а надараліся яны ледзь не штораніцы, Макар унікаў сустрэч з людзьмі, а таму, прачыніўшы дзверы, прыслухаўся — ці ёсць хто на лесвіцы.

Уніз бег, пераскокваючы праз тры прыступкі, і ўсё ж, вылятаючы з пад'езда, наляцеў на хахлушку з 10-й кватэры. На шыі ў суседкі вісела нізка зашчэпак, а да правага клуба была прыціснута алюмініевая мядніца.

— Добройі раныці! Доброго вам здоров'ічка! — праспявала хахлушка, і Макару пачулася ў тых словах злая іронія.

— Добрага... — буркнуў ён, не ўздымаючы вачэй, выйшаў на падворак, а заўважыўшы на вяроўцы хахлушкіны трусы з жоўтай мецінай, скрывіўся і сплюнуў пад ногі салодкую сліну.

Мястэчка Азярышча, што б там ні казалі, не самае страшнае месца ў свеце. Зялёнае, ціхае, аднапавярховае, з гусінымі чародамі на ўскраіне і з цыклапічнай ленінскай галавой у цэнтры, яно магло б улагодзіць якога-небудзь адстаўніка ў дачны сезон, але ніяк не Макара, які дагэтуль пяць гадоў пражыў у сталіцы і душа якога прыкіпела да людской мітусні, шкла, бетону, начнога неону, павільёна «Ясень», дзе давалі свежае піва, ды іншай урбаністыкі.

На апошнім курсе партшколы яму паабяцалі месца ў адной са сталічных газет, ён нават хадзіў у рэдакцыю і напісаў пару артыкулаў пад рубрыкай «Правафланговыя», але ў апошні

момант месца тое занялі, а яму, уручыўшы дыплом, загадалі ехаць у гарпасёлак Азярышча і ачоліць там раённую газету.

З'язджаць са сталіцы на край свету не хацелася. Тры дні Макар абмываў «корачкі», на пытанні сяброў — куды яго пасылаюць — адказваў кароткім мацюгом, і на чацвёрты дзень, завітаўшы ад ранку ў павільён «Ясень», паведаміў сабутэльніку — Лёньку Холаду — пра сваё размеркаванне.

Лёнька, віцебскі малец, які таксама вучыўся ў партшколе, адразу ж пасураўеў, выпіў нагбом кухаль піва і, паклаўшы на Макараў плячук сваю пудовую руку, выдаў фразу, ад якой Макару стала моташна і гарачыя голкі кальнулі пахвіну: «Гіблае месца».

Сябрук спаражніў без перадыху яшчэ адзін кухаль і распавёў вусцішную гісторыю пра рэдактара азярышчанскай газеты Несцяронка.

Несцяронак той, па словах сябра, піў горкую да поўнага ачмурэння: спаў пасярод вуліцы, з моста куляўся, а аднаго разу, схапіўшы калун, бегаў вакол хаты, намагаючыся забіць сваю жонку, з якой быў у разводзе. Паколькі журналісты наогул народ пітушчы, а рэдактар да таго ж меў заслугі перад радзімаю — у вайну завіхаўся ў СМЕРШы, — дык раённае начальства глядзела на ўсе гэтыя выбрыкі скрозь пальцы. І вось, калі да пенсіі Несцяронку заставалася нейкіх паўгода, у Азярышчанскі райкам прыслалі Галіну Спартакаўну Підуту.

Згадаўшы пра Підуту, сябра пасураўеў яшчэ болей, здушыў у бляшанцы папяросу, хрыплым голасам запытаў:

— Не чуў пра такую?

Макар страсянуў галавой, а Лёнька пасля паўзы прамовіў:

— Яе ў нас усе ведаюць. Страшная баба. Прышыбееў у спадніцы.

Сябра дапіў піва, выцер рукавом пузырыстую пену з вуснаў.

— Як толькі ў якім раёне хлопцы запіваюць, абкам туды Підуту шле, трэцім сакратаром. Яна там і лютуе. У Азярышчы адразу ж два павільёны зачыніла — на базары і каля аўтастанцыі. Дырэктару прамкамбіната за п'янку страгача ўляпіла, а потым за Несцяронка ўзялася. Па пяць разоў на дні ў рэдак-

цыю заходзіла, з вобласці брыгаду сацыёлагаў выклікала — даследаваць работу рэдактара. Карацей, увесь плех небараку праела. Аднойчы прыйшла ў рэдакцыю — Несцяронак якраз на гарышчы быў, у яго там у бутлях яблычнае віно даспявала, — падышла да лазу і гукае: «Таварыш рэдактар, што вы там робіце?» Ну, а Несцяронак ужо глынуў з бутлі, душа рвалася на волю, ён і вырашыў... пажартаваць. Раней у рэдакцыйным будынку бязногі інвалід жыў, пасля яго на гарышчы два старыя пратэзы засталіся. Ну і пажартаваў: зняў штаны, упіхнуў у калашынне пратэзы, загарлаў нема: «Бывай, Радзіма!» — і апусціў штаны ў лаз. Нібыта ён засіліўся. Підута, як толькі штаны пабачыла, адразу самлела: інсульт, заварот кішак і штосьці там па жаночай лініі. Несцяронак глянуў уніз і, як быў у трусах, так і скаціўся па драбінах. Пачаў штучнае дыханне рабіць — рот у рот. Тут прыбіральшчыца прыбегла — загаласіла на ўсё Азярышча. Падумала, што рэдактар трэцяга сакратара гвалтуе. Карацей, схапіў Несцяронак Галіну Спартакаўну за голыя лыткі, гукнуў свайго намесніка, і ўдвох паперлі самлелую бабу ў бальніцу.

Ну, вядома, людзі сабраліся — нават прадаўшчыцы з суседняй крамы прыбеглі. Убачылі Несцяронка ў трусах і вырашылі, што трэці сакратар пад ім самлела.

На наступны дзень розных камісіяў панаехала, крымінальную справу завялі, але неўзабаве ўсё аціхла. Підута ў бальніцы паўгода качалася, потым у санаторыі адпачывала, але так дарэшты і не ачуняла. Цяпер у Азярышчы таварыствам аховы помнікаў кіруе.

— А Несцяронак? — дрогкім голасам запытаў Макар.

— На Поўнач з'ехаў, да роднага брата. Брат ягоны ў Надыме працуе.

Хвіліну сябры палілі, засяроджана паглядаючы на пустыя кухлі, пасля чаго Лёнька Холад ікнуў і бадзёра паведаміў:

— Не сумуй, у мяне ў тых мясцінах стрыечны брат жыве — ён мне пра ўсё гэта і распавёў. Мішкам завуць. Прозвішча Мандрык. Калі што — дапаможа.

Уражаны аповедам, Макар запісаў рэквізіты Лёнькавага брата ў нататнік і ўспомніў пра іх толькі праз месяц, калі прыехаў у Азярышча.

Дзень той запомніўся да драбніц.

На дварэ быў верасень, і першы жаўталіст, узвіхураны цягніком, ціха ападаў долу. Скочыўшы з вагоннай прыступкі, Макар схапіў адзін лісцік, сціснуў зубамі чаранок і пасміхнуўся імглістаму сонцу, што прабівалася скрозь вецце высокіх бяроз. Ён паблукаў па прыстанцыйным базарчыку, на якім пяцёра скурчаных бабуль прадавалі грыбы ababкі і недаспелыя брусніцы, прайшоўся па галоўнай азярышчанскай вуліцы, пазначыўшы свае новыя, яшчэ не разношаныя туфлі попельна-шэрым пылам, пастаяў, як той віцязь перад Галавою, ля помніка правадыру і, спытаўшы п'янаватага дзядзьку, дзе месціцца рэдакцыя, падаўся ў той бок, куды кіўнуў азярышчук.

Рэдакцыйны будынак — прысадзісты, урослы ў зямлю, — нічым не розніўся ад вясковай хаты, адно што пад вокнамі не буялі флёксы, а на пазаддзі адсутнічаў хляўчук. Керхануўшы дзеля саліднасці, Макар увайшоў у вохкі прыцемак сяней, пашукаў вачыма прастакутнік лаза на столі і, не без хвалявання, піхнуў абабітыя дэрмацінам дзверы.

У маленькім, упрыгожаным выцвілымі плакатамі кабінеце сядзеў сярэдняга веку мужчына ў швэдры і, мылячы вуснамі, штосьці размашыста пісаў на абрыўку паперы.

Мужчына, не перарываючы пісаніны, скасіў пукатае вока, запытальна тарганyў падбародддзем, а ўбачыўшы валізу, ускочыў з крэсла.

— Хаміцкі... Сазон Пятровіч, — адрэкамендаваўся гаспадар кабінета, працягнуўшы хударлявую руку. — Даўно вас чакаем. Ужо і ў абкам тэлефанавалі. Ад працы ж проста захлынаемся. Вось, пішу, — вінавата пацёр далоні Хаміцкі, — справаздачу з партсходу на прамкамбінаце. Цікавы атрымаўся сход. Было некалькі прынцыповых выступленняў.

«П'е, — падумаў Макар, уабраўшы носам цяжкое, прыпраўленае піўнымі парамі і пахам мышынага гаўна паветра.

Сазон Пятровіч яшчэ добрыя паўгадзіны апавядаў аб складанасцях журналісцкай працы, казаў пра тое, што яму, адказнаму сакратару, даводзіцца выконваць рэдактарскія абавязкі — хадзіць на партсходы і нарады, пісаць справаздачы ды розныя афіцыйныя матэрыялы, а калі, суняўшыся на хвілю, спытаў, ці не схадзіць ім у мясцовы рэстаран паабедаць, Макар засцерагальна кашлянуў і, пасунуўшы бліжэй да сцяны валізу, паведаміў:

— Я ў райкам. Хутка буду.

«Развінціўся без начальства... Сядзіць у кабінеце і пляшка пад сталом, — падумаў Макар, грукнуўшы дзвярыма. — Я гэтаму Хаміцкаму рогі пазбіваю. Забудзе, у якім баку гарэлачная крама».

Апанаваны думкамі аб мацаванні працоўнай дысцыпліны, ён дабрыў да райкама — навюткай чатырохпавярховай будыніны — і, узбіраючыся на высокі ганак, вырашыў на першым жа пасяджэнні бюро райкама ўзняць пытанне аб пераводзе рэдакцыі ў больш прыстойныя апартаменты.

Паблукаўшы па пустых калідорах, ён знайшоў, нарэшце, сектар уліку, адчыніў дзверы і нечакана аслупянеў, забыўшыся і на Хаміцкага, і на працоўную дысцыпліну, і на новыя апартаменты. За перагародкай, якая падзяляла кабінет на дзве паловы, стаяла жанчына і, паставіўшы на крэсла зграбную нагу, падцягвала белую панчоху. Ён угледзеў маціцовае, не прыхаванае капронам сцягно, адчуў падатлівасць маладога жаночага цела, і душа ягоная, а разам з ёю і ніжняя сківіца суладна затрымцелі.

Іншая кабета ў такой сітуацыі схамянулася б, спалохана абцягнула спадніцу, а гэтая, убачыўшы наведніка, задуменна палашчыла калена, уздыхнула і толькі тады падышла да перагародкі.

Дрогкай рукой ён перадаў дакументы, разоў дваццаць перапісаў заяву з просьбаю паставіць яго на ўлік, а выкуліўшыся з кабінета, столькі ж разоў перачытаў па складах прозвішча загадчыцы на цьмянай шыльдзе.

— Да-ну-та Ста-ніс-ла-ваў-на Франц-ка-вяк.

Ну, а першае, што ён убачыў, вярнуўшыся ў рэдакцыю, былі пляшка гарэлкі і дзве бляшанкі кілек у тамаце.

— Абмыць жа трэба... — лісліва прамовіў адказны сакратар, прыхоўваючы за спінаю мітуслівыя рукі.

Думкі блыталіся ў галаве; ён не адразу ўцяміў — што трэба абмываць, і толькі праз хвіліну, суняўшы хваляванне, загадна махнуў рукой:

— Пайшлі на прыроду!

Яны прыселі пад кустом бузіны, непадалёку ад рэдакцыі, і Хаміцкі, завіхаючыся з пляшкай, раз-пораз паглядаў праз шчыліны штыкетніка на рэдакцыйны ганак. Разліваючы гарэлку, адказны сакратар нечакана наструніўся і злавесна прашаптаў:

— Підута...

У прасвецці між штыкецін варушылася нечая пахілая постаць.

Хаміцкі кульнуў шклянку, закінуў у рот кільку і, жуючы, распавёў страшную гісторыю пра тое, як ягоны былы шэф ледзь не збыў са свету трэцяга сакратара райкама. Хаміцкі рыхтык паўтарыў аповед Лёнькі Холада, за выключэннем аднае дэталі: штаны Несцяронак усё ж такі паспеў насунуць, але не паспеў зашпіліць; яны зваліліся, і рэдактар, заблытаўшыся ў калашынні, паваліўся разам з Підутаю пасярод бальнічнага двара.

— Ходзіць цяпер, віжуе ды дакладныя запіскі ў абкам пасылае, карга лупатая, — Хаміцкі наліў па другой і, узняўшы шклянку, дадаў: — Тут нядаўна яшчэ адзін стары псюк з'явіўся — Касьян Пракопавіч Зёх.

Адказны сакратар глынуў гарэліцы, а паколькі думаў аб непрыемным, дык папярхнуўся, закашляўся і скрозь кашаль растлумачыў:

— Адстаўнік... мемуары... эх-хы... эх-хы... піша. Я ад яго... эх-хы... эх-хы... у шафе хаваюся.

Калі гарэлка была дапітая, Хаміцкі падхапіўся, падцягнуў нагавіцы і, кінуўшы кароткае: «Я зараз», — знік за кустамі.

«Цудоўны хлопец!» — падумаў Макар пра свайго адказнага сакратара, і яшчэ падумаў, што выбіваць новыя апартаменты,

відаць, не варта, бо тут, сярод кустоў бузіны і глогу, яно зацішней і заўсёды можна ўзяць чарку, не адыходзячы далёка ад рэдакцыі.

Хаміцкі вярнуўся хвілін праз дзесяць і, зразумела, не з пустымі рукамі. Яны кульнулі яшчэ па сотцы, укінулі ў раты па цыгарэце, і Макар запытаўся пра тое, што даўно спела на канцы языка.

— А-а... Данута Станіславаўна... — прамармытаў Сазон у адказ, зацягнуўся пякучым дымам і распавёў пра трох Дануціных мужоў, адзін з якіх засіліўся, другі ўтапіўся ў Гатаўскім возеры, а трэці завербаваўся матарыстам на гандлёвы флот і з той пары яго ў Азярышчы ніхто не бачыў.

— Тут шмат хто да яе ласы, ды яна баба гордая. Усіх адшывае. — Сазон спахмурнеў, а Макара такія словы натхнілі і ўадначас засмуцілі. Данута, гэтая недаступная для мужчын кабета, дэманстравала свае ногі, а ён, недарэка, стаяў як слуп, не здолеўшы сказаць кампліменту.

Неўзабаве і другая пляшка паляцела ў кусты, і па шамаценні лісця Макар зразумеў: наспела ягоная чарга лезці ў кішэню.

Разам з грашыма ён выцягнуў зашмальцаваны нататнік, перагарнуў старонкі, п’янавата зірнуў на сабутэльніка.

— Ты, часам, Мандрыка Міхаіла не ведаеш?

— Мішку?! Мандрыка?! — не сваім голасам галёкнуў Хаміцкі і, нічога больш не кажучы, паведаміў, што бачыў Мішкаў «казёл» ля мясцовага рэстарана.

Азярышчанскі рэстаран «Каліна красная» скаланаўся ад папулярных песень і сіплага баса кучаравага здаравілы, які сядзеў за крайнім столікам, бязладна падпяваючы рэстаранным музыкам. Лёнька Холад нічога не казаў пра свайго брата, але Макар, убачыўшы здаравілу, інтуітыўна прызнаў у ім таго самага Мандрыка.

Пасля сталіцы азярышчанскі рэстаран выглядаў даволі ўбога. У зале панаваў прыцемак, афіцыянткі былі падобныя да піянерважатых — белы верх, чорны ніз, — а музыкі лабалі міма нот. Макар паглядаў на ўсё гэта з непрыхаванай іроніяй, а таму і рушыў па зале хадою рэстараннага заўсёдніка — валюхаста.

— Вам прывітанне ад Лёні Холада! — выгукнуў Макар, падышоўшы да століка.

Здравіла абарваў песню, колькі часу сядзеў з адкрытым ротам, а потым, усхапіўшыся на ногі з імпэтам Сазона Хаміцкага, адчайна загарлаў:

— Лёнька?! Холад?! Дзе ён?!

Сагнутая пастава, шалёны бляск вачэй і сціснуты ў кулаку відэлец выяўлялі рашучасць зараз жа бегчы на пошукі брата, таму прыйшлося тлумачыць таварышу, што Лёнька Холад жывы, здаровы і ў дадзены момант знаходзіцца ў сталіцы, дзе вучыцца на трэцім курсе Рэспубліканскай партшколы.

Здравіла махнуў рукой, загадваючы субяседнікам ссоўваць сталы, і шалёны імпэт ягоны выліўся ў грымотны вокліч:

— Маша! Яшчэ тры бутэлькі!

Мішка Мандрык гуляў у рэстаране не проста так, а абмываў пераходны Чырвоны сцяг, якім надоечы ганаравалі ягоны калгас за поспехі ў выкананні Харчовай праграмы. Разам з ім за сталом сядзелі галоўны інжынер калгаса — сівы і дарэшты п'яны чалавек, які ўжо не даваў рады адрэкамендавацца; кіраўнік раённай канторы кінапракату Даўгалёў — менавіта так, па прозвішчы, кіраўнік і прадставіўся, — а таксама старшыня спорткамітэта Аляксандр Мурленя, далучанасць якога да спорту выдавала трыкатажная масцерка з самаробным знакам фірмы «Адзідас» на грудзіне.

Мандрык ужо дрэнна валодаў языком, але, тым не менш, пачаў апавядаць пра сваё дзяцінства, пра стрыечнага брата Лёньку Холада, з якім яны выпілі аднойчы адразу адзінаццаць бутэлек гарэлкі, а пачуўшы ад Хаміцкага, што ў газеце цяпер будзе новы рэдактар, распавёў усё тую ж гісторыю пра Несцяронка. Як вынікала з аповеду, штаноў Несцяронак усё ж такі не губляў, бо іх падтрымліваў нейкі падшыванец, які бег следам аж да самай бальніцы.

Потым яны скакалі з Мандрыкам хуткі танец, потым ён, пад незадаволеныя позіркі старшыні спорткамітэта, запрашаў на танец афіцыянтку Машу, а раніцою, абуджаны галасістымі азярышчанскімі пеўнямі, доўга ляжаў на старой рэдакцыйнай канапе, няўцямна пазіраючы на столь, нарэшце, выпусціў

духі, — аж застагналі пад спінай ржавыя спружыны, — і падзячыў лёсу, які дараваў яму сустрэчу з Данутай.

Памяць людская ўладкавана даволі дзіўна: з яе выпетрываюцца падзеі мінулага дня і ў той жа час захоўваецца тое, што надарылася даўняй парой.

Вось і Макар: выпіў літровую конаўку гарбаты, згадваючы, як ён патрапіў дадому, сышоў пры гэтым потам, абпаліў кіпнем вусны, ды так нічога і не згадаў. Але затое ціхі вераснёўскі дзень, калі ён прыехаў у Азярышча, запомніўся ў самых дробных дэталях. Запомніліся пахі, зыкі, п'яныя песні Мішкі Мандрыка, запомніліся, нарэшце, маціцовае Дануччына сцягно і падрапаная, сталінскіх часін, канапа, якую ўвесну вынеслі на сметнік. Успаміны гэтыя прыходзілі не толькі гуллівымі вечарамі, але і пахмельнымі ранкамі, калі ён брыў у рэдакцыю. Вось і зараз, пераходзячы галоўную азярышчанскую вуліцу, Макар згадаў, як Данута падцягвала панчоху, запаволіў крок і ледзь не патрапіў пад колы шэрай райкамаўскай «Волгі».

Заскуголіўшы тармазамі, машына ўз'ехала на бардзюр, люта ўзвыла, і перапуджаны Макар убачыў за вясёлкавай шыбай Калупайку, які ці то жартам, ці то ўсур'ёз паківаў яму пальцам. З перапуду, а можа яшчэ з якой прычыны, тлумная галава ўраз прасвятлела, і ў ёй нарадзіліся словы:

— Я ведзьма. Са мною лепш не звязвацца.

Гэта памяць вярнула той зморany шэпт, які прагучаў учора ўвечары, калі яны танцавалі з Данутай у камінnай зале.

Калупайкава легкавушка зноў заскавытала, цяпер ужо на рагу Савецкай і Чырвонаармейскай, павярнула ў бок райкама, і Макар, адрыгнуўшы ўчарашнім шашлыком, прыспешыў хаду.

А дзявятай гадзіне ў раённым камітэце партыі павінна была пачацца нарада актыву, і таму пляц перад ленінскім помнікам быў спрэс застаўлены аўтатранспартам. Стаялі тут не толькі «Волгі» ды старшынёўскія «козлікі», але і бартавыя «газоны», тры «інвалідкі» і нават машына для адпампоўвання вады, вядомая ў народзе пад назваю «гаўнавоз»: гэта завітала на нараду арганізатар мясцовага радыё Газевіч, зяць якой праца-

ваў інжынерам у «Водаканале». Але дзівіцца такой колькасці машын не даводзілася, бо на сённяшняй нарадзе Калупайка мусіў развітацца з актывам і, да таго ж, чакаўся прыезд абласнога начальства.

Хаця Калупайка ўжо быў на месцы, заходзіць у райкам ніхто не спяшаўся. Актыў стаяў ля ганка — гаманіў, смаліў цыгарэты і зрэдзьчасу з лёгкім спалохам у вачах пазіраў на дарогу.

— Гасцей чакаем... з вобласці, — патлумачыў прычыну прыганкавага стаяння Сашка Мурленя, паціснуўшы потную Макараву руку.

Макар уплішчыўся ў натоўп, парукаўся з дырэктарам прамкамбіната Куксёнкам, з інструктарам раённага таварыства «Веды» Лукашонкам, яшчэ з нейкімі людзьмі і, выцягнуўшы з прапанаванага яму пачка цыгарэту, агледзеўся.

Мішкавага ўазіка на пляцы не было. Макар пакруціў галавой, нахіліўся да Мурленевай запальнічкі, і гарбата, якая поўніла страўнік, моташна падступіла да горла. Давялося стаіць дых, прыціснуць далонь да вуснаў, а калі бунтоўная вадкасць уляглася, выцерці ліпучы пот з лабешніка.

— Ну дык хто там будзе замест Калупайкі? — кволым голасам запытаўся інструктар таварыства «Веды» Лукашонак.

Усе замоўклі, зірнулі на Мурленю, і той, сабраўшы зморшчыны на пераноссі, паведаміў:

— Са Шклоўскага раёна таварыш. Былы загадчык звера-фермы. Кажуць — зусім не ўжывае.

Трывожная вестка гэтая павісла ў паветры. Куксёнак змораna крэкнуў, у Лукашонка ў зубах задрыжэла цыгарка, а па Мурленевым твары прабегла навальнічна-фіялетавае святло: да райкама ехала міліцэйская машына з мігалкай, следам — бліскучая чорная «Волга», а за ёю, на статутнай адлегласці, тузаўся на апошніх кроплях бензіну запылены Мішкаў уазік.

— Спазняешся, — выгукнуў Макар, калі сябрук вылез з машыны.

— З Даўгалёвымваждаўся. Усю веранду мне абванітаваў, — патлумачыў Мандрык, брыдка мацюкнуўся і, азірнуўшыся, крыкнуў свайму кіроўцу: — Пазычыш бензіну і стой тут. Чуеш?

— Чую! — незадаволена адгукнуўся кіроўца. Кіроўца выкінуў на асфальт пакарабачанае вядро, і Мішка, перакрывіўшыся ад бразгату, прыклаў далонь да хваравітай патыліцы.

Макар таксама пацёр патыліцу і як бы між іншым спытаў:

— Слухай, а хто мае штаны... на люстру павесіў?

— Я павесіў, — патлумачыў сябар.

Мішка ўставіў у рот цыгарэту, але тут жа зразумеў, што паліць няма калі, і ўпіхнуў цыгарэціну ў нагрудную кішэнь.

— Завёў цябе ў прыбіральню, а ты і апаратуру дастаць не можаш. Усе порткі засцаў. Я іх і павесіў на прасушку.

Мішкавы сіплы бас скаланаў перапонкі. Добра яшчэ, што людзі былі занятыя сваімі размовамі, і Макар цішком перавёў дых...

Пакуль ішлі райкамаўскім калідорам, Мішка апавядаў пра Даўгалёва, які, дапіўшыся да божай моцы, абванітаваў дарагі турэцкі палас, але Макар не слухаў сябра. Спыніўшыся пасярод калідора, ён наставіў на сябра дапытлівыя вочы:

— Я што... сапраўды танцаваў з Данутай?

Мандрык зірнуў па баках, узяў яго за штрыфлі пінжака ды тут жа адпусціў, даючы дарогу загадчыцы райана Сцефурак, і злавесным голасам прамармытаў:

— Трымайся далей ад гэтай бабы. Раю табе як сябар.

З нагоды прыезду абласнога начальства ў зале пасяджэнняў наваскавалі паркет, павесілі новыя люстры, стол заслалі зялёным сукном, а на задняй сцяне замест няўклюднага бэсэсэраўскага герба прымацавалі барэльеф правадыра. Гіпсавая аграмадзіна ўражвала настолькі, што пад ёю ніхто не насмельваўся садзіцца, і паколькі вольных месцаў паблізу не было, Макар усеўся пад правадыром. Ён дастаў нататнік, пстрыкнуў асадкай, але рабіў усё гэта машынальна, з адключанай свядомасцю. У свядомасці тым часам бясконцым паўторам гучалі апошнія Мішкавы словы. Мандрык, вядома ж, зайздросціў яму. Таму і вылез са сваімі парадамі. Але каму яны патрэбныя, гэтыя парады?

Думкі варушыліся ў галаве, і Макар не заўважыў, як поруч прымасціўся Сашка Мурленя, не пачуў, як яго паклікалі сесці

бліжэй да прэзідыума, і апрытомнеў толькі тады, як з бакавых дзвярэй выйшла абласное ды раённае начальства і ўсе ўдарылі ў ладкі. Пляскалі спачатку седзячы, потым стоячы, нарэшце суняліся і дружна зарыпелі рассохлымі крэсламі. Макар таксама памкнуўся сесці, але так і застыў на паўсагнутых: у залу, праз бакавыя «сакратарскія» дзверы ўвайшла Данута.

Пад пільнымі позіркамі прысутных загадчыца сектара ўліку прайшла па зале і, напоўніўшы прастору пахам польскай парфумы, села поруч з Макарам.

У тарцы стала, дзе сядзеў прэзідыум, заварушыліся, зашапталіся, усхвалявана кашлянулі: гэта Калупайка прачышчаў глотку перад выступленнем.

— Хвалюецца, — прамармытаў, дыхнуўшы перагарам, Мурленя, потым прамармытаў яшчэ нешта, але Макар не пачуў.

Той хвіляй ён наогул страціў здольнасць штосьці чуць, а рэдкія фразы, якія далятаалі да свядомасці, успрымаліся як фрагменты нейкай дурноты.

Валасы Дануціны струменілі пахі, ад якіх кружылася галава; ён стрымліваў дыханне, мружыў вочы і скрозь вясёлкавыя веі зладзеявата паглядаў на аголеныя жаночыя калені. Зрэшты, галава кружылася не толькі ад чароўных пахаў, але і ад шалёных фантазій. Макару мроілася, што ён цалуе гэтыя калені, лашчыць языком — вельмі пяшчотна і вельмі павольна — Дануціны сцёгны. Данута пры гэтым ціха стагнала, а калі ён — у думках — прыпаў вуснамі да празрыстых нейлонавых майтак, — менавіта такімі ён іх уяўляў, — застагнала ўголас і зморана папрасіла вады. Макар схамянуўся і насамрэч пачуў жаласлівыя енкі. Але енчыла не Данута, а Підута, якой стала млосна ад задухі.

Праз пару хвілін, калі самлелую Галіну Спартакаўну вывелі з залы, Калупайка дзясятым разам адкашляўся, пачаў знаёміць прысутных з кантрольнымі лічбамі, на якія мусіў выйсці раён, а першы сакратар абкама, дамагаючыся цішыні, пастукаў асадкай па графіне, неадрыўна пазіраючы пры гэтым на Дануціны калені. Данута перахапіла гэты позірк, закінула

нага на нагу і — о, жах! — прыціснулася цёплым клубам да Макара. Макар усхапіўся, выпрастаў хрыбціну, здрыгануўся ўсім целам і, прыхоўваючы хваляванне, пляснуў у ладкі, ухваляючы Калупайкаву заяву пра тое, што жывёлаводы раёна не толькі выканаюць, але і перавыканаюць даведзеныя планы.

З залы Макар выходзіў дарэшты збянтэжаны, змораны ад салодкай пакуты і з застойнымі з'явамі ў нізе жывата. Каб прыхаваць — цяпер ужо застойныя з'явы, — давялося сагнуцца, захінуць пінжак, прыціснуць да нізу жывата нататнік, а калі аднекуль з канца калідора пачуўся Мішкаў голас:

— Куды ты?! — ён, не павярнуўшы галавы, незадаволена выдыхнуў: — У прыбіральню!

...Пасля прыцемку райкамаўскіх калідораў сонца ўдарыла ў вочы, тупымі іголкамі кальнула ў скроні.

— Не забывайце нас, Іван Іванавіч! — гукалі з натоўпу, — выбачайце, калі што не так.

Іван Іванавіч — расчырванелы, расчулены, абдораны чырвонымі гваздзікамі, штосьці казаў у адказ, ціснучы руку ачунялай Підуце. Галіна Спартакаўна, аднак, поціскамі не абмежавалася — палезла цалавацца, і Калупайку прыйшлося ўхінацца і падстаўляць для пацалункаў танклявую шыю.

На добры лад, трэба было падысці да Калупайкі, развітацца, сказаць колькі словаў, але нейкая сіла стрымлівала Макара, а калі ён узняў нагу, каб ісці па сходах, за спінай зацюкалі туфлікі і хтосьці крануўся ягонага локця.

— Чаму вы мяне пазбягаеце? — голасна запыталася Данута, прымусіўшы здрыгануцца не толькі Макара, але і загадчыцу райана Сцефурак, якая стаяла поруч.

Краем вока ён бачыў, як людзі з натоўпу разам паглядзелі на Дануту.

— Я тут днямі артыкульчык накрэмзала. Хачу вам паказаць, — цяпер ужо ціха, амаль шэптам прамовіла загадчыца сектара ўліку, ускінуўшы на Макара даўжэзныя, шчыгульна пафарбаваныя вейкі.

— Ну вядома, Данута Станіславаўна, паглядзім. Альбо я, альбо Хаміцкі, — гэтак жа ціха прамармытаў Макар, і Данута,

крутнуўшыся на абцасіках, абдарыла яго шматабяцальнай фразай:

— Я пазваню, — і гэткай жа шматабяцальнай усмешкай.

Ад будынка райкама да рэдакцыі хады блізу кіламетра, а калі ісці напрасткі, агародамі, дык і таго меней. Летась супрацоўнікі рэдакцыі ўнадзіліся былі хадзіць кароткай дарогай, але гаспадар сотак абзавёўся сабакам, сабака падзёр Несцяронку штаны, калі той бег на пленарнае пасяджэнне, і пасля таго выпадку хадзіць напрасткі ніхто не наважваўся.

Шыбуючы ўздоўж плота, Макар супыніўся на імгненне, разважаючы — ці варта рызыкаваць, пасля чаго азірнуўся, адсунуў дошку ў плоце і зашапацеў калашыннем па бурачным лісці. Па гародзе ён ішоў мерным крокам, прыслухоўваючыся да сабачай звягі, — сабака брахаў недзе на другім канцы вуліцы, — а занурыўшыся ў кусты і пачуўшы, што кудлаты злодзей брэша недзе непадалёку, гізануў як мае быць.

Хаця і прабег няшмат, але дарэшты змарыўся і, задыханы, з лістком бузіны ў валасах, паўстаў перад Хаміцкім.

У кабінеце адказнага сакратара дурманіста пахла гарэлкай. Макар перавёў дых, незадаволена ўскінуў брыво, і паміж ім і адказным сакратаром адбыўся кароткі дыялог.

— Зноў?!

— Іванавіч! Расінкі ў роце не было.

— Дап'ешся. Выганю, н-нахер... — У гэтым месцы рэдактар уздыхнуў. — Мне хто-небудзь званіў?

— Званілі.

— Хто?!!

— Зёх.

— Фу ты, йоп... — Макар вылаяўся, зняў з валасоў лісцік і панылым крокам рушыў у свой кабінет.

Касьян Пракопавіч Зёх не даваў жыцця. Мінулым летам прынёс у рэдакцыю аўтабіяграфічны раман — дванаццаць дробна спісаных сшыткаў — і загадаў надрукаваць без правак і скарачэнняў. Хаміцкі ў прысутнасці аўтара прачытаў дзеля прыліку першую старонку, задаў пару пытанняў, а калі

за ганаровым чэкістам зачыніліся дзверы, запіхнуў сшыткі ў ніжнюю шуфляду.

Рэшту лета і ўсю восень стары псюк хадзіў у рэдакцыю як на працу. Прыйдзе, сядзе насупраць Хаміцкага і глядзіць таму ў вочы. І вось аднойчы, калі Сазон прагнуў пахмяліцца і пад сталом у яго ўжо стаяла адкаркаваная бутэлька, у кабінет увайшоў Касьян Пракопавіч.

Як потым апавядаў Сазон, той хвіляй з ім здарыўся нервовы прыпадак: уваччу пацямнела, увушшу зазвінела, правая нага міжволі тузанулася, і ён апрытомнеў толькі тады, як пачуў пах разлітай гарэлкі.

Макар яшчэ першы тыдзень працаваў рэдактарам: пачуў краем вуха здушанае вяканне, выйшаў на калідор і з жахам назіраў, як Хаміцкі, узяўшы наведніка за каршэнь, выносіў таго на свежае паветра.

Такія абыходзіны з ганаровым чэкістам маглі мець наступствы, таму Сазон, апрытомеўшы, выцягнуў са стальніцы сшыткі, тры дні і тры ночы разбіраў крамзолі, а потым цэлы месяц на старонках «Зары камунізма» друкаваліся ўрыўкі з аўтабіяграфічнага рамана, у якім галоўны герой, Касьян Зёх, граміў у ваколіцах Ферганы басмацкія банды Карым-башы і Назарбая.

Пасля той публікацыі нага ганаровага чэкіста доўга не ступала на рэдакцыйны ганак — Сазон з Макарам ужо з палёгкаю аддзьмуліся, прыбіральшчыца цётка Маша паставіла па іх просьбе васкоўку ў невельскай царкве, але пэўнага ранку ў Макаравым кабінеце пагрозліва грукнула кульба, і на стол леглі дзве важкія тэчкі з рукапісам новага аўтабіяграфічнага рамана «Расеі верныя сыны».

У першым раздзеле рамана, а Макар толькі яго і адолеў, апавядалася, як батальён пад камандаваннем капітана Зёха дэпартаваў з Каўказа сем'і здраднікаў. У порце Махачкала батальён сагнаў на баржу чачэнак з дзецьмі, баржу адцягнулі ў мора, а потым патапілі — разам са здраднікамі. Прачытаўшы гэта, Макар схаваў раман у сейф, а потым — ужо на поўным сур'ёзе — папрасіў прыбіральшчыцу паставіць васкоўку за спачын бязвінна патопленых чачэнак.

...Згадка пра Зёха сапсавала настрой. Макар плюхнуўся ў крэсла і, неадрыўна пазіраючы на тэлефон, падсунуў пад нос газетныя гранкі.

Чытаць гэтую лухту не хацелася, ды і нервы былі не на месцы; радкі скакалі ўваччу, і цяжка было дапяць да сэнсу прачытанага. Макар прабег вачыма нейкую нататку, але нічога не зразумеў, пацёр рукамі пераноссе і стаў чытаць па-нова-му — уголас і водзячы закарузлым пальцам па рухавых радках.

— «Да позняй ночы гараць агні ў вокнах Бычкоўскага клуба, — прамармытаў Макар і адкашляўся. — Сяльчане прыходзяць у клуб адпачыць, паглядзець цікавы фільм, азнаёміцца з кніжнымі навінкамі, у тым ліку і з матэрыяламі Ліпеньскага Пленума ЦэКа КаПэЭсЭс. Вялікую дапамогу ў падборцы літаратуры аказваюць наведнікам загадчыца бібліятэкі Э.А. Забыронька і прапагандыст...»

«Забыронька ці Забаронька?» — падумаў Макар, адарваўшыся ад тэксту, і ў той жа міг са столі пасыпалася парахня: гэта Хаміцкі выцяў кулаком у сценку.

Кожны раз, убачыўшы ў акне пакамечаны капронавы капялюш, ён бег хавацца ў катух, дзе прыбіральшчыца, цётка Маша, ставіла вёдры, але цяпер кульба ўжо стукала па калідорных масніцах, і Макар, пакрыўшы мацюгамі белы свет, палез хавацца ў шафу.

У шафе панавала цемра — адно маленькі струмок святла прабіваўся скрозь замочную шчыліну. Тут пахла мышамі, старымі газетамі і тут, у зацішку, добра думалася, і думкі прыходзілі ў галаву суладныя і чыстыя. Ну а калі разгарнуць сяннік, які, скручаны, ляжаў на падлозе, дык можна было і задрамаць. Сяннік той застаўся ад Несцяронка і, па словах Хаміцкага, былы рэдактар раскручваў яго у час начных дзяжурстваў, прымаючы разам з машыністкай Люсяй экстраныя паведамленні ТАСС.

Гэтым разам Макару і сапраўды добра думалася, і думаў ён пра Дануту. Думаў доўга — хвілін дзесяць, потым думкі сталі блытацца, аддаляцца, і ля самага вуха пачулася трывожнае буханне. Ён расплюшчыў вочы, роспачна матлянуў рукамі,

думаючы, што патрапіў у труну, а калі буханне паўтарылася, вохнуў і незадаволена запытаў:

— Ну чаго ты?

— Людзі прыйшлі, аб'яву прынеслі. Пытаюцца — хто там так страшна храпе? — растлумачыў адказны сакратар, і рэдактар, соладка пазяхнуўшы, вылез са схову.

...Тэлефон зазваніў а пятай гадзіне. Да таго часу ён ужо стаміўся хваляваіцца, і кашуля ўжо не прэла ад цыганскага поту. Але ўсё адно: пачуўшы Дануцін голас, Макар зніякавеў, і слухаўка памкнулася выслізнуць з рукі.

— Ну дык я вас чакаю, — гукнула Данута Францкавяк, і тэлефонныя глыбіні напоўніліся вясёлымі жаночымі галасамі. Данута была не адна, і гэтыя галасы, відаць, яе сяброваk, вярнулі ў душу пачуццё няўцямнай трывогі.

«А можа, гэта пастка? Можа, з яго хочуць пасмяяцца?» Ахоплены беспрычыннай трывогай, ён выйшаў з рэдакцыі і няпэўным крокам рушыў у невядомасць. Макар ішоў і быў амаль упэўнены: вось зараз, тут, у бузінніку, павінна надарыцца штосьці страшнае.

У бузінніку, аднак, нічога такога не надарылася. Ён вылез з кустоў, пералез праз жардзянік, і вось там, на бурачных лехах, сэрца ягонае абарвалася і закацілася на самы ніз жывата. У разоры, прыхаваны да самага ашыйніку чырвоным бацвіннем, сядзеў віславухі злодзей і шчэрыў іклы.

Сабака быў невялікі — звычайны дварняк. Аднак пра лютасць гэтай кудлы казалі страшныя рэчы, таму Макар, не зводзячы вачэй з сабакі, даў задні ход: рушыў да кустоў дробным крокам. Але хітрыкі такія не прайшлі. Чатырохногі злодзей страсянуў вушамі, яшчэ больш вышчарыўся і папераджальна гыркнуў.

— Божухна, дык што ж гэта робіцца? — плаксіва выдыхнуў Макар і нечакана для сябе самога плюхнуўся на калені. Плюхнуўся, а потым згадаў бацькаў аповед пра хлопца, які ўратаваўся ў першую пасляваенную зіму ад ваўка, які пераняў небараку ў чыстым полі. Хлопец той доўга стаяў, анямелы, а потым, стаўшы на карачкі, забрахаў па-сабачы. Гэта яго і

ўратавала. Пачуўшы брэх, ваўчара таксама знямеў і, падкурчыўшы хвост, знік.

Макар глынуў паветра і забрахаў з такім імпэтам, што не пазнаў уласнага голасу. У дадатак ён яшчэ і заскавытаў, прапоўз на карачках па баразне, і сабака, пабачыўшы такія жахі, збянтэжана крутнуў галавой, прыціснуў вушы, звёў да пераносся ўмэнт палагаднелыя вочкі.

Перавядзем разам з героем аповеду дых, абаб'ем разам з ім калашыны і згадаем тую пару, калі нашымі немаладымі ўжо душамі авалодала запозненае, а таму хваравітае і ўсёпаглынальнае каханне. Згадаем пару, калі недзе пад сэрцам нараджаліся новыя надзеі, ценька гучалі новыя песні, калі жар кахання казытаў пяткі і нам увесь час карцела некуды бегчы. І хаця жар той быў усяго толькі бенгальскім агнём, мітуслівым феерверкам у змроку шэрых будняў, душа ляцела на прывідны агонь, не раўнуючы, як начны матылёк на палахлівае полымя васкоўкі.

Вось і наш герой, напоўніўшы наваколле шапаценнем бурачнага лісця, ляцеў на згубны агонь, недзе пад сэрцам ягоным нараджаліся тамліва-трапяткія надзеі і гучалі... не, не песні, а словы кагадзе прачытанай нататкі. Словы ўбіліся ў памяць, з кожным крокам гучанне іх мацнела, убіралася ў сілу, а калі наш герой упіхнуў галаву ў пралом плота і азірнуўся, з вуснаў ягоных сарвалася малітоўная скорагаворка:

— Да самай ночы гараць агні Бычкоўскага клуба...

На трэці паверх узбег на адным дыханні, пужлівай чапляй прайшоўся па дывановым ходніку і толькі ў канцы калідора дазволіў сабе аддыхацца. Кашлянуў, крануўся пальцамі дзвярной ручкі ды так і застыў у непаразуменні: там, за дзвярыма, чуўся жаночы смех, прыглушана дзынкнулі шклянкі, і нехта, праўдападобна загадчыца райана Сцефурак, прамовіла:

— Абавязкова завітай у Лівадзійскі палац. Гэта цуд нейкі!

Сцефурак гучна чхнула, замармытала штосьці, выразна прамовіўшы словы «шчасліва адпачыць», і праз імгненне паўстала перад Макарам.

— Данута Станіславаўна! Да вас наведнік, — выгукнула загадчыца райана і, кінуўшы праз плячо: — Пазвані, як дадзеш, — выслізнула з кабінета.

Данута была не адна — у кабінеце, закінуўшы нага на нагу, сядзела райкамаўская сакратарка Марына і яшчэ адна кабета, прозвішча якой Макар не ведаў. На стале грувасцілася пляшка шампану, блішчэлі чатыры келіхі і ляжаў набор шакаладных цукерак.

— А-а... журналісты! — спеўна і з лёгкай іроніяй у голасе азвалася Данута Станіславаўна, і Макару ад тае іроніі стала не па сабе.

Ён спыніўся ля бар'ера, спалохана зірнуў на бутэльку.

— Заходзьце, Макар Іванавіч, — прамовіла гаспадыня кабінета, мелькам паправіўшы прычоску. — Гэта мы тут, дурныя бабы, гулянку арганізавалі. Адпачынак абмываем. Заўтра ў Крым еду.

Яшчэ колькі хвіляў Макар муляўся ля бар'ера, а потым, пад цікаўнымі позіркамі Дануціных сябровак, прайшоў на нягнуткіх нагах да крэсла, сеў і, ратуючыся ад жаночых вачэй, склаў далоні на тым месцы, дзе схадзіліся ў адно калашыны парусінавых портак.

Данута падхапіла недапітую бутэльку, спраўна, не раўнуючы, як кельнер, разліла рэшту шампану па келіхах.

— Я вам у свой наліла. Не пагрэбуеце?

Макар глынуў пітва і закашляўся, дробнымі пырскамі пакрыўшы парусінавыя нагавіцы.

— Ну што вы, Макар Іванавіч. Супакойцеся, нікога не бойцеся, — прамовіла, ці, лепей сказаць, праспявала Данута Станіславаўна, ляпнуўшы Макара па спіне.

Сітуацыя вымагала нейкай дзеі, нейкіх арыгінальных словаў, і Макар, адкерхаўшыся, афіцыйным тонам запытаў:

— Ну, а як там наконт артыкула?

Запытаўся, а потым пашкадаваў, бо Дануціны сяброўкі разам засмяяліся, а гаспадыня кабінета з робленай крыўдай выдыхнула:

— Вось якія пайшлі кавалеры. Іх не жанчыны цікавяць, а нейкія артыкулы.

Болей Макар не прамовіў ні слова. Сядзеў, увабраўшы галаву ў плечы, слухаў сакратарку Марыну, якая распавядала, як шмат ёй даводзіцца друкаваць рознай лухты, — і ніяк не мог уцяміць: дзеля чаго яго сюды запрасілі.

Нарэшце, хвілін праз дзесяць, Дануціны сяброўкі ўсхапіліся на ногі, плюхнулі па чарзе Дануту ў шчаку і ўсе разам выйшлі ў калідор. І ў той жа міг сектар уліку напоўніўся цішынёю і ўсё наўкол набыло суровае аблічча. З шафы сурова паглядаў гіпсавы Энгельс, стрыжаны «пад польку» Брэжнеў не менш сурова паглядаў з партрэта, і нават шыльда з надпісам «Наменклатура абкама» на даўжэзным, застаўленым аднолькавымі шэрымі тэчкамі стэлажы, набыла пагрозліва-патаемны сэнс. Дзесьці там была і ягоная асабістая справа.

Адчуванне таго, што ён, Макар, не шараговы партыец, а наменклатура абкама, кранула душу трапяткім халадком, утуленая ў плечы галава годна ўзнялася, але ў наступнае імгненне зноў убілася ў плечы: у кабінет, пазвоньваючы спаласнутымі келіхамі, увайшла Данута Станіславаўна. Нічога не сказаўшы, нават не зірнуўшы на яго, жанчына паставіла келіхі ў бранітраваны сейф, прыбрала са стала пустую пляшку, потым падышла да люстэрка і доўга папраўляла прычоску, раз за разам паўтараючы адну і тую ж фразу:

— Божухна, што з валасамі?

Каб нейкім чынам засведчыць сваю прысутнасць, Макар рыпнуў крэслам, стрымана кашлянуў, але гэта не дапамагло. Данута Станіславаўна глядзелася ў люстэрка, перабірала паперы, зачыняла фрамугі і па-ранейшаму не звяртала на яго аніякай увагі.

Макар пачаў быў хваляваццa і падумаў — ці не сысці, ды тут Данута, выцершы пыл з гіпсавага Энгельса, кінула на падвоканне анучку, крутнулася, як тая дзяўчынка, на адной назе і весела прамовіла:

— Ну дык што, ідзем?

Сказана гэта было з такой лёгкасцю, з такой іскрыстай бестурботнасцю, што ў Макара ёкнула сэрца, і ён, забыўшыся пра ўсё на свеце, усхапіўся з крэсла і зрабіў крок насустрач свайму шчасцю.

Ні ў калідоры, ні на сходах яны, дзякаваць богу, нікога не стрэлі, а вось на ганку сутыкнуліся са збоем жанчын — былі там і райкамаўкі, і райвыканкамаўкі, і яшчэ немаведама хто. Ідучы па прыступках, Макар паскорыў крок, намагаючыся абмінуць усіх гэтых пляткарак, але Данута схапіла яго за рукаво, сагнула руку абаранкам і, піхнуўшы пад локаць далікатныя пальцы, зацюкала абцасамі па асфальце. Так яны і пайшлі, пад ручку, і спіна Макарава свярбела ад пранізлівых жаночых позіркаў.

Злёгку замглёнае, даспелае сонца яшчэ было высока. Сонца вісела над будынкам райкама, па-над возерам, адбіваючыся ў яго спакойным люстры, над дымным комінам ільнозавода, які вытыркаўся з-за дахаў азярышчанскай ускраіны, што называлася Зарэччам. Там, у Зарэччы, гарлалі пеўні, крычалі вароны, бязладнай грамадой пералятаючы з месца на месца, і голасна мэкалі козы.

Макар не бачыў сонца, не бачыў крыклівых варон, не чуў казінага мэкання. З усіх органаў пачуцця ў яго працаваў толькі нюх — ён удыхаў водар парфумы, невідушча ступаў па ходніку, і Дануце даводзілася тузаць спадарожніка за руку, каб абмінуць лужу альбо конскія яблыкі.

Яны дайшлі да ўнівермага, павярнулі на Чырвонаармейскую, і тут, абмінаючы чарговую лужыну, Данута пацягнула яго за рукаво.

— Памятаеце, што я сказала, калі мы танцавалі?

Ступіўшы нагой у лужу, Макар спыніўся, асавела паглядзеў пад ногі.

— Вы што, як конь — на хаду кімарыце? — рагатнула спадарожніца, і гэтае параўнанне вярнула Макару слых і зрок. — Учора... на Качыным востраве... я сказала, што прыношу мужчынам няшчасце...

Макар няпэўна кіўнуў, паспрабаваў пасміхнуцца.

— І не баіцеся звязвацца... з такой ведзьмай?

Макар страсянуў галавой, а Данута, паправіўшы валасы на скронях, задуменна і разам з тым нерашуча прамовіла:

— Ну што ж, тады пойдзем да мяне. Пачастую вас кавай.

Ад такой прапановы можна было ашалець. У гарачкавых мроях Макар са слязьмі на вачах уяўляў — як ён пакахаецца з Данутай Станіславаўнай. Яму ўяўляліся прызнанні, нясмелыя пацалункі, прагулянкі ў фасфарычным святле ліхтароў. Але каб так, адразу, без нічога ніякага, Данута запрасіла да сябе піць каву — такога ён не ўяўляў нават у самых смелых лятунках. Таму і аслупянеў Макар, і Данута, абмінуўшы лужыну, з нецярплівасцю выдыхнула:

— Ну дык ідзем! Ці так і будзем стаяць?

Цагляны дом у канцы Чырвонаармейскай вуліцы быў адзіным пяціпавярховікам у Азярышчы і менаваўся Домам спецыялістаў. Там, у двухпакаёвай кватэры з усімі выгодамі, жыла Данута Францкавяк.

Цёмнымі вечарамі, кульнуўшы добрую чарку, Макар часта блукаў каля гэтага дома, заходзіў у пад'езд, крадком падымаўся на трэці паверх, каб крануцца рукой запаветных дзвярэй, а іншым разам, пад роспачны брэх сабак, залазіў на яблыню, што расла на другім баку вуліцы, і апантанымі вачыма глядзеў на зялёны квадрат — вакно Дануцінай спальні.

Пару разоў ён бачыў, як Данута распраналася, а аднойчы, угледзеўшы ў пройме рассунутых штораў нейкага мужыка ў салатавай майцы, ледзь не самлеў ад рэўнасці і, слізгануўшы нагой па суку, зваліўся долу.

Цяпер ён ішоў з Данутай па Чырвонаармейскай — уздоўж парэпанага плота, міма газетнага шапіка, міма смуроднай сметніцы — і горбіўся ад шчасця, якое на яго раптам абрынулася.

Каля пад'езных дзвярэй Данута на імгненне спынілася.

— Вось тут я і жыву, у дваццаць трэцяй кватэры.

Спыніўся і Макар. З захапленнем зірнуў на вокны трэцяга паверха, вінавата шморгнуў носам і раптам, у памкненні кінуцца немаведама куды, разявіў рот і выцягнуў шыю.

— Куды вы? — крыкнула Данута, калі ён сарваўся з месца.

— Я зараз... Я вомігам, — гукнуў Макар, завярнуў за рог дома і стаў на хаду поркацца ў кішэнях.

Сэрца парывіста білася, набойкі на абцасах лідскіх «гадаў» ляскаталі па ходніку, і язык, спрабуючы ўгнацца за тымі зыкамі, таропка паўтараў адну і тую ж фразу:

— Да позняй ночы гараць агні ў вокнах Бычкоўскага клуба...

У краме шампанскага не было, а таму давялося бегчы ў «Каліну красную». Разганяючы курэй ды качак, ён дабег да рэстарана, узляцеў на ганак і ў дзвярах сутыкнуўся з Мішкам Мандрыкам.

— Макар?! Ты куды ляціш?

Ён не адказаў, адно махнуў рукою, узбег на другі паверх і, перапудзіўшы афіцыянтку Машу, зморана прасіпеў:

— Шампанскага... бутэльку... за любыя грошы.

Каб ізноў не сутыкацца з Мандрыкам, ён скарыстаўся чорным ходам, пералез цераз плот і пашыбаваў агародамі, сціскаючы ў руцэ, нібыта апошнюю гранату, бутэльку рэстараннага шампану.

Здавалася, чаго прасцей — націснуць кнопку званка. Працягні руку, тыцні пальцам у пукаты гузік — і за дзвярыма пачуецца меладычнае бомканне. Аднак, падышоўшы да дыхтоўных, абабітых чорным дэрмацінам дзвярэй з лічбаю «23» на бліскучым ромбе-сукосніку, Макар увесь схаладнеў, прыслухаўся да навакольных зыкаў і, не рашаючыся пазваніць, з шумам перавёў дыханне.

На лесвіцы было ціха; так ціха, што ён чуў грукат уласнага сэрца. Сэрца білася, як спутаны певень. Каб суняць шалёнае біццё, Макар прыціснуў далонь да грудзіны, налёг лобам на дзвярны вушак і спалохана азірнуўся: за спінаю рыпнулі завесы, і ў цёмнай пройме бліснулі вочкі нейкай старой кабеты. Дануціна суседка пачала свідраваць яго сваімі вачыма-свярдзёлкамі, таму нічога не заставалася, як націснуць на кнопку званка.

Пасля першага званка яму не адчынілі. Макар прыслухаўся ў спадзеўцы пачуць парывістыя крокі, але за дзвярыма было ціха, і толькі аднастайны шум далятаў аднекуль здалёк, магчыма з іншай кватэры. Палец зноў націснуў на пукаты гузік, шум сціх, дзверы адчыніліся, і перад вачыма паўстала гаспадыня кватэры. Галава Дануціна была спавітая махровым ручніком.

Данута хмыкнула і, нічога не сказаўшы, знікла ў ванным пакоі.

Кватэра, у якую увайшоў Макар, уражвала: пад высокай столлю вісела шыкоўная люстра, на падлозе ляжаў варсісты дыван, але што ўражвала найболей, дык гэта няўлоўны, хвалюючы пах, які лунаў у паветры, ды абцягнуты зялёным аксамітам фатэль, у які ён плюхнуўся, агледзеўшы пакой.

Крэсла было на дзіва мяккім. Ён літаральна патануў у ім і, выпраставшы стомленыя ногі, задаволена крэкнуў. Дзіўна, але той хвіляй ён зусім не хваляваўся. Сэрца білася з разважлівай упэўненасцю, Макар паспрабаваў нават усхваляваць сябе, уголас прамармытаўшы: «Нарэшце я тут, у маёй багіні», — але гэта не дапамагло. Ён заставаўся спакойным яшчэ доўгіх чатыры хвіліны — аж да той пары, пакуль да таямнічага паху, што лунаў у пакоі, не дамяшаўся другі — пах даўно нямытых шкарпэтак. Макар убіў галаву між каленяў, варухнуў ноздрамі: шкарпэткі смярдзелі як мае быць. Не надумаўшы нічога лепшага, ён сцягнуў з пятак смярдзючкі, ліхаманкава піхнуў у кішэні.

Сядзець з голымі нагамі, аднак, не выпадала. Абламаўшы жоўты пазногаць на пальцы левай нагі, Макар прабег у калідор, стаў насоўваць свае стаптаныя «гады», і акурат у гэты момант дзверы ваннага пакоя расчыніліся і стукнулі яго у лабешнік.

— Ох, які вы разбэшчаны мужчына! — з асуджальнай вясёласцю прамовіла гаспадыня кватэры, і ў Макара ад такіх слоў гарачкава заірдзеліся шчокі.

Данута падышла да трумо, расхінула крысо кітайскага халата, пільным вокам агледзела ў люстры свае зграбныя, шчыльна ссунутыя ногі.

У Макара загарэліся не толькі шчокі, але і патыліца.

— Вы што там, заснулі? — гукнула Данута, а калі госць, не пачуваючы пад сабою ног, ступіў на мяккі дыван, павярнулася і гулліва запытала: — Як я вам, падабаюся?

На твары Макаравым адбілася сарамліва-разгубленая ўсмешка, а спакусніца, не чакаючы адказу, крутнулася перад люстрам і, расцягваючы зыкі, праспявала:

— Ды падаба-а-юся...

Потым яна села ў фатэль і ўжо сур'ёзным і крыху сіплаватым голасам дадала:

— Шмат каму падабаюся, ды толькі замуж ніхто не бярэ...

Запанавала ціша. Госць муляўся пасярод пакоя, цягнуў уніз штаны, каб прыкрыць голыя ногі, а гаспадыня тым часам сядзела ў фатэлі, безуважна паглядаючы некуды паўзверх Макаравай галавы. Колькі доўжылася маўчанне? Хвіліну, дзве, а можа ўсе пяць? Але Данута ў рэшце рэшт ачулася, ускінула вочы і, заўважыўшы пляшку шампану на стале, тыцнула пальцам у бок серванта.

— Вазьміце... там, за шклом... фужэры.

Келіхі былі адмысловыя, на высокіх ножках, з залатымі птушкамі на баках. Узяць іх дрыжачымі пальцамі ўяўлялася справаю даволі складанаю, данесці да стала было яшчэ складаней, але Макар з годнасцю справіўся з заданнем — напоўніў пакой крыштальным звонам і, пазмагаўшыся з пляшкаю, стрэліў у столь поліэтыленавым коркам.

У паветры запахла піўнымі дражджамі, няўрымслівая вадкасць зашыпела ў келіхах, паперла праз верх, а Данута, страсянуўшы галавой, задуменна прашаптала:

— Божа мой, тры гады мазгі кампасціраваў...

Макар глынуў напою, папярхнуўся, ікнуў; у нос яму дало салодкім пахам гнілых яблык.

— Калі б вы ведалі — як мне ўсё абрыдла. — Данута таксама глынула шампану і бязгучна ікнула. — Кожны дзень адно і тое ж. Усё тыя ж пысы, усё тыя ж размовы... Як... як вырвацца з гэтай сіласнай ямы? Вы не ведаеце? — жанчына наставіла на госця свае шэрыя вочы, і госць, не ведаючы, што адказаць, спешна напоўніў фужэры.

Віно палілося ў нутро, але да страўніка не дайшло — захрасла недзе ў шлунках.

— І навошта вы тады ўвайшлі? — уздыхнула Данута, утрапёна і з нейкім дзіўным шкадаваннем паглядзеўшы на Макаравы «гады».

— Калі? — не зразумеў Макар, неўпрыкмет адцягнуўшы калашынне і гэтак жа неўпрыкмет адрыгнуўшы дражджавым духам.

Гаспадыня кватэры не адказала: закінула на спіну вільготныя валасы, дастала з паддону стала парцалянавую попельніцу, пачак імпартных цыгарэт і мініяцюрную запальнічку.

Запальнічка пстрыкнула, і па тым, з якім імпэтам заскакалі ў Дануціных вачах увішныя вогнікі, можна было зразумець, што жанчына гатовая расплакацца.

— Ну дык што — ідзіце ў ванную.

Галавакружна-пахкі дым, які выдыхнула Данута, ачмурыў настолькі, што Макар забыўся на хвілю — дзе ён, што з ім і чыё гэта калена выбілася з ядвабнага, колеру марской хвалі, халата.

«Як жа так? Адразу ў ванную... Мы ж нават не пацалаваліся...» — думкі непрагляднай завірухай закружыліся ў галаве, ад іх зрабілася цёмна ўваччу, і збянтэжаны госць, выставіўшы наперад рукі, невідушча пасунуўся ў ванную.

Вільготны пах ці то мыла, ці то шампуню яшчэ больш ускружыў галаву. Вочы прабегліся па шыхце рознакаляровых бутэлек з шампунем, па бліскучых колцах, на якіх вісела поліэтыленавая заслона, і, нарэшце, засяродзіліся на запацелым люстэрку. Пальцы кранулiся вільготнай паверхні, намалявалі на ім размашысты квадрат, і ён убачыў у люстры свой вагняшчокі твар.

Ён скінуў штаны разам з трусамі, здзёр кашулю, залез у ванную. Знямелыя пальцы крутнулі кран, і ў патыліцу ўдарылі халодныя струмені душа.

Мыла было слізкім, духмяным, круглявым па форме і ўвесь час выслізгвала з далоні. Макар абмацваў рукамі выгінастае дно ваннай, а намацаўшы круглявую слізготу, з апантанасцю мармытаў:

— Сяльчане прыходзяць сюды адпачыць, паглядзець цікавы фільм...

Потым ён выцерся махнатым ручніком, выцягнуў са штаноў трусы, а згадаўшы імя загадчыцы бібліятэкі Забыронькі, прыкусіў дрыготкую губу. Трусы былі падзёртыя, ад іх тхнула мачой, таму, павагаўшыся, Макар нацягнуў штаны на голае цела. Ён паспрабаваў запіхнуць трусы ў кішэню, але яны туды не лезлі, і ў галаве нарадзіўся дзёрзкі план: адразу з ваннай пайсці на кухню і выкінуць трусню ў фортку.

Наструнена, каб не нарабіць груку, ён выйшаў у калідор, збіраўся ўжо праслізнуць на кухню, але, угледзеўшы Дануту, застыў, ачмурэлы.

Калі б гаспадыня кватэры паўстала перад ім голай, ён не ачмурэў бы так, як тою хвіляй. Але не, Данута не была голай, ды яе ўбор — белыя панчохі, карункавы пас, такія ж карункавыя пальчаткі да локцяў і празрысты станік у буйную сетку — перацяў дыханне, халодным жарам апаліў ніз жывата. Ногі зрабіліся ватнымі, таму Макар, схапіўшыся за вушак, апусціўся на калені, выцер вільготнымі трусамі агідны пот з ілба.

Данута сядзела, адкінуўшы галаву на спінку фатэля, паліла цыгарэту і ў час чарговай зацяжкі разам з дымам выдыхнула фразу:

— Ён заўсёды мяне так апранаў.

Дрыжачай рукой Макар паспрабаваў запіхнуць трусы спачатку проста ў штаны, затым у кішэнь, потым папоўз на карачках па мяккім дыване, неадрыўна пазіраючы на ружовыя смочкі, што прабіваліся скрозь белую сетку станіка. З кожным ягоным рухам Данута ўсё болей і болей рассоўвала калені, і перад вачыма паўставала карціна, ад якой, здавалася, пацелі вочы і варушыліся валасы, прычым не толькі на галаве. Макар падпоўз да фатэля, з трапяткой пяшчотай пацалаваў абцягнутае панчохай калена, памкнуўся да панадных вуснаў, але Данута, перакрывіўшыся, схапіла яго за чупрыну і тыцнула носам у грудок імшыстых валасоў, якія дурманліва пахлі шампунем...

Праз гадзіну, адчыніўшы ўдарам нагі рассохлыя дзверы, Макар выйшаў з пад'езда і парывіста ўдыхнуў звінючага паветра. За гэтую гадзіну нічога навокал не змянілася — дзесьці на верхнім паверсе ўсё так жа фальшыва пілікаў гармонік, па сметніку блукалі тлустыя гракі, ад першага пад'езда ад'ехала машына — Макару нават падалося, што гэта быў Мішкаў уазік, — а над Азярышчанскім возерам падымаўся ўгору вечаровы туман. І ўсё ж такі штосьці змянілася ў свеце, штосьці ў ім адбылося. І Макар, яшчэ раз удыхнуўшы паветра, зразумеў: змянілася ягоная душа. Душа стала маладой і лёгкай, яна варушылася ў грудзях, падступала да горла, адчайна прасіла песні.

Перапоўнены пачуццямі, Макар капнуў нагой трусы, якія ён кагадзе шпурнуў у фортку і якія цяпер ляжалі пасярод ходніка, і, згадаўшы, як дрыжэла Данута, як роспачна схапіла яго за вушы і зморана застагнала, раскінуўшыся ў крэсле, здрыгануўся і ад макаўкі да пятак пакрыўся гусінай скурай.

Адразу ж уваччу паўстала іншая сцэна — калі Данута, вохнуўшы раз астатні, уперлася яму ў грудзіну каленам і рашуча прамовіла:

— Не трэба.

Данута прамовіла гэта ў той момант, калі ён, Макар, ужо спусціў штаны і сапрэлы driчок слізгануў па імшыстых валасах, і гэтыя два словы ўтаймавалі юр, і дручок, зачапіўшыся за карункавы пас, абмяк, і разам з ім абмякла — бязвольна і пакорліва — усё ягонае цела.

Дома ён доўга і бязмэтна блукаў па пакоі, потым доўга мыўся пад душам, спяваючы на поўны голас, нарэшце, плюхнуўся на канапу і паліў да позняй ночы, зачараванымі вачыма паглядаючы на шэрую столь.

Тае ночы ён не спаў, і толькі на золку, калі ў вокны ўбіўся няўтульны світанак, унурыўся — ці то ў сон, ці то ў паўсонную замарач; яму мроіліся нейкія страшныя патарочы, увушшу звінелі нечыя галасы, і недзе на доле, у недасяжнай далечыні, ляжалі, спавітыя ранішнім сном, дзве размытыя плямы. Адна, вялікая, была Чорным морам, другая, меншая — Азоўскім. Плямы цьмяна блішчэлі, вабілі і ўадначас пужалі сваім халодна-ртутным бляскам, з кожным імгненнем яны павялічваліся ў памерах, і Макар, за хвілю да таго, як плюхнуцца ў марскія хвалі, прачнуўся.

Сонца ўжо грэла пятку, на гадзінніку была палова на восьмую, а за сценкай, як заўсёды такім часам, стрымана лаяліся суседзі.

Макар падхапіўся з ложка.

— Праспаў, халера! — вырвалася з самлелых грудзей, і левая нага патрапіла, як заўсёды, у правую калошу.

Праз дзесяць хвілін ён ужо ціснуў званок Дануцінай кватэры, і старая порхаўка, рыпнуўшы завесай, прамовіла ў спіну:

— У санаторыю з'ехала... на машыне... з мужыком нейкім.

Порхаўка зашамкала штосьці пра блудлівых мужыкоў, а Макар налёг ілбом на вушак, скрыгатнуў зубамі і застагнаў, ды з такім адчаем, што старая перахрысцілася і спалохана прычыніла дзверы.

* * *

— Сядайце, таварыш Мурленя. Вы нас не пераканалі. — Першы ляпнуў рукой па стале, а калі спорткамітэтчык стаў казаць штосьці ў сваё апраўданне, ляпнуў яшчэ раз, ды так, што ўсе аціхлі, і пранізлівую цішыню неабачліва парушыў чмель. Ён ізноў уляцеў у залу, скрыжаваўшы на сабе асавелыя позіркі раённых актывістаў.

— Ці той гэта? — суцішна запытаўся Мішка Мандрык, і тут жа, зірнуўшы на ўскудлачаную галаву Фаіны Сцефурак, вакол якой наразаў колы гудлівы свавольнік, з палёгкай прашаптаў: — Той самы.

Стрэлкі гадзінніка між тым канчаткова абвіслі, паказваючы палову на сёмую. Якраз гэтай хвілінай сімферопальскі хуткі спыняўся на станцыі Азярышча. Макар зыркнуў на райкамаўскі гадзіннік, потым на свае «камандзірскія», асуджана вохнуў і расшпіліў яшчэ адзін гузік на кашулі.

Апошнія тры дні даліся Макару ў знакі: ён пазбыўся сну, зблажэў з твару, і жыццё ягонае ператварылася ў суцэльны кашмар. Апанаваны мазахісцкімі мроямі, ён уяўляў, як Данута мілуецца на марскім беразе са старымі армянамі, уяўляў, як яе загарэлыя, абцягнутыя белымі панчохамі калені лашчаць нечыя валасатыя лапы, і ад тых мрояў рабілася млосна, кроплі халоднага поту беглі па драбах, і Макар у адчаі прагнуў лізнуць перасмяглым языком высокае неба.

Зрэшты, неба ён так і не лізнуў, але затое дастаў адрас санаторыя, у якім адпачывала Данута. Два дні круціўся ў райкамаўскай прыёмнай, а на трэці дзень, паклаўшы на край Марынінага стала размяклую шакаладку, пачуў:

— У Місхоры яна. Санаторый «Советская Белоруссия».

Зачыніўшыся ў кабінеце, ён да самага вечара круціў тэлефонны дыск, спрабуючы злучыцца з Місхорам, потым нейкім дзіўным чынам апынуўся ў «Каліне краснай», напіўся там, як павук, і проці ночы выправіўся на чыгуначную станцыю.

Наступным ранкам, раздзёршы павекі, ён угледзеў у вагонным акне жаўтлявы будынак з шыльдаю «Дно», утрапёна міргнуў вачыма і скаціўся з паліцы.

Ранак быў халодным. Вецер шкуматаў кашулю, ганяў па лобе пасму валасоў, казытліва пералічваў драбы, але Макар не адчуваў холаду. Стоячы на платформе, з пакамечаным рублём у кішэні, ён паспрабаваў уцяміць: як патрапіў на цягнік і чаму паехаў на поўнач, калі Місхор знаходзіцца на поўдні, і, нічога не ўцяміўшы, пайшоў шукаць рэдакцыю мясцовай газеты, каб пазычыць у калегаў грошай на адваротную дарогу.

Наогул, апошні месяц, пачынаючы ад векапомнай п’янкі на загараднай базе, Макару стала не толькі адбіваць памяць, але і пачала мроіцца розная лухта. Засынаючы, ён чуў Дануцін смех, Данута прыходзіла да яго ў снах; ён, укленчаны, кранаўся гладкага калена і, узняўшы вочы, з жахам бачыў, што перад ім не Данута, а страхамордлівая ведзьма. Раніцою, з пахмелля, ён чуў мармытанне, якое далятала з вадазліўнага бачка, а ўдзень яго часцяком ахопліваў жах, і ў такія хвілі яму карцела выкінуцца ў акно альбо гвазлануць бутэлькай па галаве небараку Хаміцкага. Вось і цяпер, пачуўшы вантробны голас Тарзана Пятровіча Куксёнка, якога сталі прабіраць следам да Мурленем, Макар памкнуўся гвазлануць дырэктара прамкамбіната графінам па галаве, але, адумаўшыся, скрыгатнуў зубамі і — нечакана для сябе самога — рушыў да выхаду. Ля самых дзвярэй за ім увязалася чмяліна, а яшчэ праз хвіліну з залы каціным крокам выйшаў Мандрык.

Што б там ні казалі паэты-песеннікі, а каханне — страшная рэч. Тлуміць, кроіць сэрца, а парой папросту нішчыць людзей. І якіх людзей! Можна налічыць не адзін дзясятак славутасцяў, якія, зазнаўшы няшчаснага кахання, засіліліся, атруціліся альбо, як талстоўская Ганна, кінуліся пад колы цягніка. Скажам

таксама, што і аўтар гэтага аповеду зведаў свойчас мілоснае ачмурэнне, а таму, апісваючы пакуты свайго героя, працяўся да яго шчыраю спагадай.

Ну сапраўды, ці можна было не паспачуваць герою, апісваючы, як той даставаў з рэдакцыйнай шафы ружы, якія тры дні прастаялі ў слоіку з-пад гарчыцы, а ружы аказаліся прывялымі; ці ж можна было не хваляваецца, апісваючы, як герой ішоў, пасля доўгай разлукі, на сустрэчу са сваёй каханай, і ці можна было не мацюкнуцца, згадаўшы старую порхаўку, якая сядзела ля пад’езда? І, падумаўшы, аўтар выкінуў гэтыя сцэны з аповеду, каб не надаваць твору залішняй шчымлівасці і не засмечваць яго нецэнзурнай лаянкай.

— Прыехала. Гадзіну таму, — паведаміла порхаўка, калі Макар падышоў да пад’езда.

Навіна напоўніла душу яшчэ большым неспакоем. Зрабіўшы выгляд, што нічога не чуе і не бачыць, Макар выцягнуў з газетнага скрутку прывялыя ружы, увабраў галаву ў плечы, нясмела пераступіў парог.

Гэтым разам ён адразу ж пазваніў, і ў той жа міг, як званок аціх, сэрца ягонае спынілася. Магчыма, калі б гаспадыня кватэры забавілася і не адразу адчыніла, Макар бы тут, ля дзвярэй, і памёр, але, на шчасце, за дзвярыма рыпнула падлога, кляцнуў замок і на парозе паўстала яна... Данута. Сэрца балюча сцялася і затахкала з такім імпэтам, што ў Макара закружылася галава і кветкі, якія трымаў за спінаю, выслізнулі з самлелых пальцаў.

Ён стаяў, баячыся зірнуць на Дануту, а калі, нарэшце, зірнуў, дык сэрца ягонае зноўку спынілася. На загарэлым Данупіным твары, дакладней, у куточках пульхнатых губ, блукала грэблівая ўсмешка. Акурат такая ж усмешка блукала на вуснах Фаіны Сцефурак, калі тая выганяла з залы гудлівага чмяля.

— Не прыходзьце сюды, — сказала, як адсекла, гаспадыня кватэры і, прычыняючы дзверы, дадала: — І не званіце.

Хвілін дзесяць, не меней, стаяў Макар перад дзвярыма і ачомаўся толькі тады, калі пачуліся шаргатлівыя крокі. Ён

падняў з-пад ног букецік, бліснуў слязлівым вокам і, збягаючы па сходах, усунуў прывялыя кветкі знаёмай бабулі.

Невядома, куды б кінуўся Макар і што б ён стаў рабіць, калі б не наляцеў у дзвярах пад’езда на шырокую спіну Мішкі Мандрыка. Мішка стаяў на парозе і смаліў папяросу.

Іншым днём ды іншым часам Макар здзівіўся б такой сустрэчы, але цяпер, асавела глянуўшы па баках, ён адно толькі мыкнуў ды рассунуў два пальцы, просячы ў сябра папяросіну. Не дачакаўшыся, пакуль Мішка вытрасе з пачка беламорыну, Макар яшчэ раз мыкнуў і няпэўнай хадою пайшоў сваёй дарогаю.

— Макар, што з табой? Дзе ты быў? — голас сябрукоў прагучаў глуха, усё адно як з нейкай бездані.

Мандрык схапіў яго за пінжак, паклаў на каршэнь сваю вузлаватую, упрыгожаную сіняй катвігай руку, зазірнуў у самыя вочы, і ў Макара адлягло ад сэрца.

Потым была «Каліна»: шалёная п’янка, песні, гарачыя румзы на сябруковым плячы, нарэшце тэлефонны званок з рэстараннай кухні, дакорлівыя Дануціны словы: «Ну я ж прасіла...», якія прыглушала сквірчэнне секунцоў на патэльні... Потым былі скокі да поўнай зморы, цьмянае святло ліхтароў, брэх сабак у Зарэччы і сіплыя Мішкавы мацюгі ля вуха: «Ды куды ты, йоп!.. Далася табе гэтая лярва».

Ноччу ён спаў на падлозе, не распрануўшыся, у сне яму мроіўся Дануцін смех уперамешку з Мішкавымі мацюкамі, мроілася чмялінае зумканне, сквірчэнне секунцоў на патэльні; ён ізноўку падаў у Чорнае мора, а за хвілю да таго, як плюхнуцца ў цёмныя хвалі, дрыгануў нагой і з цяжкасцю размежыў павекі.

Тыя, каму даводзілася прачынацца на падлозе ўласнай кватэры, звычайна адразу ж ішлі на кухню, выпівалі нагбом паўчайніка і, завітаўшы ў прыбіральню, з воклікам: «Ой, бля-а...»— валіліся на канапу. Макар, аднак, не пайшоў на кухню — ён наогул не мог нікуды пайсці, бо не даваў рады падняцца на ногі. Пусціўшы густую сліну і прыклаўшы далонь да пабітага лоба — пабіў надоечы аб дзвярны вушак, — герой аповеду папоўз да тэлефона.

Палец ніяк не патрапляў у дзіркі тэлефоннага дыску, і патрэбны нумар прыйшлося набіраць пяць разоў запар. Была шостая гадзіна раніцы, таму ў слухаўцы доўга спявалі гудкі, чулася мернае рыпенне, падобнае на рыпенне старых спружынаў у ложку, нарэшце гудкі абарваліся і на другім канцы дроту прыспана азвалася Данута.

— Станіслава Данутаўна, — блытана прасіпеў Макар, кашлянуўў, каб прачысціць глотку, і тая, да каго ён звяртаўся, скаланула мембрану страшным воклічам:

— Забудзь мой нумар, жывёліна!

Слухаўка азвалася кароткімі гудкамі, выпала з рукі, матлянулася на вітым шнуры, паўтараючы сцэну са шпіёнскіх фільмаў.

А палове на дзясятую Макар прыйшоў у рэдакцыю і першнаперш зазірнуў у кабінет адказнага сакратара.

Хаміцкі — мужык цёрты, цынічны, які зжыў са свету трох жонак, але і той, пабачыўшы шэфа, спалохана адхінуўся, і ў пашыраных зрэнках ягоных мільганула неспакойная думка: «Вось што робіць з чалавекам каханне!»

На шэфа было страшна глядзець: твар меў зялёнае адценне, валасы ўскудлачаны, на лобе наліваўся сінечай аграмадны гузак, а вочы звузіліся, і цяжка было зразумець — на каго яны глядзяць: на яго, Хаміцкага, ці на брэжнеўскі партрэт, які вісеў на сцяне.

— Ну, як тут? — запытаўся шэф не сваім голасам, і адказны сакратар няўцямна перасмыкнуў плячыма.

Шэфава рука палезла ў кішэнь, кінула на стол скамечаны трульнік, затым храбусткі рубель — усё, што засталося ад аванса, — і адказны сакратар, без слоў зразумеўшы, што да чаго, схапіў грошы і выбег у калідор.

Калі б Макару прапанавалі адарваць палец, сесці на вогнішча альбо выдаліць пару здаровых зубоў, а наўзамен паабяцалі патушыць агонь, які палаў у душы, ён бы без ваганняў пагадзіўся. Але ж ніхто нічога не прапаноўваў, душа гарэла сінім полымем, і Макар не знаходзіў сабе месца. Ён мерыў

кабінет нервовым крокам, — хадзіў ад шафы да акна і наадварот, — потым стаў хадзіць вакол стала, пару разоў парываўся некуды пазваніць, але, падняўшы слухаўку, ізноў кідаў на вагар, а адчуўшы лёгкае ўдушша, падцягнуў непадатныя аканіцы і адчыніў акно.

Мядовы ветрык крануўся лоба, на кароткае імгненне разагнаў пякельныя думкі. Макар заплюшчыў павекі, удыхнуў пахі летняга дня, а калі зірнуў на свет, дык убачыў пляшку гарэлкі ў руках адказнага сакратара.

— У Будулая ўзяў, — паведаміў Хаміцкі і, у спадзеўцы атрымаць свае сто грамаў, праглынуў няпрошаную сліну.

Гарэлку ў Азярышчы, з прычыны ўборачнай кампаніі, давалі толькі ў рэстаране, і ад ранку, калі рэстаран быў на замку, даводзілася бегаць да цыганоў, што жылі ў Зарэччы.

— Давай! — незадаволена выдыхнуў Макар, стомлена ўздыхнуў і стаў лічыць працяглыя Сазонавы глыкі.

...Гарэлка апаліла паднябенне, з натугай прайшла ў нутро. Макар скрывіўся, адрыгнуў, зноў прыклаўся да рыльца, і ў гэты момант на рэдакцыйны падворак выехала, бліснуўшы бамперам, шэрая «Волга». Машына спынілася пасярод двара, каротка газанула, і з яе выйшлі двое: нейкі міліцэйскі чын і сакратар абкама Калупайка.

Прыгнуўшы галаву, Макар выбег у калідор, мерачыся даць дзёру праз заднія дзверы, але згадаўшы, што тыя зачынены, вярнуўся ў кабінет, прыхапіў са стала недапітую пляшку і з грукатам уваліўся ў шафу.

— Ну, хто тут ёсць? — пачуўся неўзабаве прыглушаны Калупайкаў голас, і пад шафаю рыпнулі масніцы.

Разважаючы на добры лад, можна было меркаваць, што Калупайка зазірне ў пусты кабінет дый сыдзе з рэдакцыі. Але ж рыпенне маснічын засведчыла іншае: сакратар абкама сыходзіць не надта спяшаўся.

Макар паміргаў у цямноцці, прыпаў левым вокам да замочнай шчыліны і ўбачыў Калупайку, які набліжаўся да шафы. Сэрца ёкнула, Макар адхінуўся ад шчыліны, стукнуўся патыліцай аб заднюю фанерыну і ад страху перастаў дыхаць. Не дыхаў ён хвіліны тры, а калі зноў прыпаў да шчыліны,

Калупайка ўжо сядзеў у крэсле і з лагоднай усмешкай на твары накручваў тэлефонны дыск.

Голас Калупайкавы гучаў глуха, невыразна, і асобныя словы нават цяжка было разабраць.

— Нам трэба пагаманіць, — стоена казаў сакратар і нават тут, унутры фанернай шафы, было чутна, што сакратар хваляваўся.

Калупайка кашлянуў, са стогнам уздыхнуў і пасля паўзы прамовіў:

— Ну добра, не жадаеце размаўляць са мной асабіста, давядзецца размаўляць з кіраўніком абласнога камітэта партыі. Карацей, я высылаю «Волгу».

Макар бачыў праз шчыліну, як Калупайка падышоў да вакна, махнуў рукой, і на падворку парывіста загула машына.

Потым госць стаў хадзіць па кабінеце, запусціўшы рукі ў штаны і штосьці там перабіраючы, і Макар, падгледзеўшы гэта, скрывіўся і прыпаў вуснамі да пляшкі.

«Волга» вярнулася надта хутка, але галава паспела захмялець, замочная шчыліна плыла перад вачыма і даводзілася штохвілі міргаць, каб яна не сплыла канчаткова.

На калідоры зацюкалі жаночыя туфлікі. Макар прыпаў да рыльца, потым да шчыліны і ўраз працверазеў: у кабінет увайшла Данута. Увайшла рашуча, грацыёзна, пераблытаўшы думкі ў галаве і чарговым разам перацяўшы дыханне.

Данута села ў крэсла, і ў шчыліне сталі бачны толькі частка загарэлай рукі ды мысок лакіраванага туфліка.

Калупайка штосьці сказаў — словы гэтыя праляцелі міма вушэй, — а вось Дануціна фраза: «Жонцы паспавядайся!» — казытнула не толькі слых, але і душу.

— Дана, ну як ты не разумееш, — прамармытаў Калупайка, абхапіўшы рукамі галаву. — Развод для мяне — гэта канец кар’еры. Ты гэтага хочаш?

— Я ўжо нічога не хачу, — адгукнулася Данута, і з відавоку зніклі адразу і рука, і мысок лакіраванага туфліка.

— Твае выбрыкі проста здзіўляюць, — сакратар абкама шаргануў нагой па падлозе. — Тады, на «Качыным востраве»... — У гэтым месцы сакратар уздыхнуў: — «Пакахаю пер-

шага, хто ўваліцца ў залу...» Ну, павісла ты на гэтым п’яным ёлупні. І што? Думала, я пабягу тапіцца?

Пачуўшы пра «Качыны востраў», Макар тузануўся, бухнуў азадкам у заднюю сценку і замёр без духу.

— Э-эх, Данка! — вырвалася з сакратарскай глоткі, і Макар ізноў зірнуў у шчыліну. — Няўжо ж я цябе тут пакіну?

Калупайка дастаў з кішэні нейкую паперку, пачаў чытаць:

— Вуліца Савецкая, 45 А... Трыццаць шэсць квадратаў, санвузел раз’яднаны... — У гэты міг Дануціна рука пацягнулася па паперкі, а Калупайка, схапіўшы Дануту за пальцы, юрліва гукнуў: — Спачатку пацалунак!

І тут надарылася неверагоднае: Данута падхапілася з крэсла і спрытна ўселася на Калупайкавых каленях.

— Ну ты хоць яму аддалася? — пралепятаў сакратар, цалуючы аголены Дануччын плячук.

— Вось яшчэ! — фыркнула Данута, чытаючы паперку, а Калупайка, пасля роспачнага ўздыху, прамовіў: — Ну як жа... гэты ёлупень у цябе цэлых дзве гадзіны адседзеў.

Данута паспрабавала злезці з каленяў, але сакратар надзейна абхапіў яе за сцёгны.

— Гэта табе Мандрык сказаў, шпіён твой?

— Ну, не злуй, — Калупайка прымірэнча перавёў дых, — я гэтага п’янтоса хачу ў Маскву паслаць, у Акадэмію грамадскіх навук.

Валасатая рука накрыла абцягнутае белай панчохай калена, паткнулася пад спадніцу, і ўсё патанула ў тумане. Макар ліхаманкава працёр вочы, і ў галаве ягонай замітусіліся, шукаючы выхаду, абрыўкі фраз: «Павісла на ёлупні... Мандрык... шпіён твой...» Галаве стала горача, цела скаланулі дрыжыкі, ён рассунуў палавінкі дзвярэй і ўбачыў, што з Калупайкам цалуецца не Данута, а нейкая страхамордлівая карга.

— Ведзьма, — прашапталі сасмяглыя вусны, лёгкія ўвабралі паветра, і Макар, выкуліўшыся з шафы, страшным голасам загарлаў: — С-сука!

Жаночы віскат зліўся з рэхам гэтага крыку, перад вачыма мільганулі задзёртая спадніца, расшпілены прарэх і шэрыя мужчынскія туфлі. Туфлі затупалі па падлозе, узняліся ў па-

ветра, імкнучыся да адчыненага акна; Макар ухапіўся рукамі за левую туфліну і пачуў звон разбітага шкла, мацюкі і трэск штыкецін пад вокнамі.

Ён з цяжкасцю падняўся на ногі, перакінуў з рукі ў руку сакратарскі абутак, а згледзеўшы на падворку міліцэйскага палкоўніка, памкнуўся зноў залезці ў шафу. Па дарозе наступіў на пляшку, падскочыў, спалохана паглядзеў сабе пад ногі. Недапітая гарэлка разлілася па падлозе, дакладна паўтарыўшы абрысы Азоўскага мора.

— Ён там, у рэдакцыі, — даляцеў з падворка плаксівы голас, і па правайназе паплыло мяккае і пяшчотнае цяпло. Яно плыло ўсё ніжэй і ніжэй, аж пакуль пад нагою не пачала расцякацца цёмная пляма. Пляма расла ва ўсе бакі і неўзабаве стала нагадваць па форме Чорнае мора. І вось, калі ў калідоры цяжка затупалі, а пад вокнамі жаласна заенчылі, дзве плямы зліліся, адкрыўшы вачам бязмежны прастор, і схаладнелае сэрца парывістым біццём вітала суткі стыхій.

# МІШКА ЧОБАТ

Калі я вучыўся ў інстытуце... не буду казаць, у якім, быў у мяне сябар — Мішка Чобат. Займаліся мы з ім у адной групе, і Мішка той быў добрым знаўцам класічнай расейскай літаратуры. Аднойчы нават выйшаў пераможцам конкурсу мясцовых пушкіністаў. Меў ён са сваіх ведаў і сякую-такую капейчыну: кожнага году, у траўні, пісаў на замову творапісы для школьных іспытаў. Пачыналіся яны так: «Аповесць Мікалая Васілевіча Гогаля "Шынель" згуляла вялікую ролю ў развіцці прыгожага пісьменства». Назвы твораў і аўтары, вядома ж, вар'іраваліся. У наступным сказе Мішка згадваў якога-небудзь літаратурнага аўтарытэта. Скажам, у выпадку з памянёным аповедам цытаваліся словы Хведара Дастоеўскага. Ну, гэтыя: «Усе мы выйшлі з гогалеўскага "Шыняля". Калі-нікалі Мішка даваў пачытаць свае опусы («Зірні, можа памылкі ўбачыш»), і калі я іх чытаў — не ведаю нават, з якой прычыны, — у душы гучалі песні. Прачытаю, for example, словы Дастоеўскага, і ўвушшу гучыць рэвалюцыйны марш: «Вышли мы все из "Шинели", дети семьи трудовой...» І пры гэтым да мужных мужчынскіх галасоў абавязкова далучаўся высокі бабін фальцэт.

Мне найбольш запомніўся творапіс па гогалеўскім «Шынялі», таму яго і згадваю. Надта шчымліва апісаў сябрук галоўнага героя — Акакія Акакіевіча. Прыніжанага і зацкаванага чалавека, які сядзеў доўгімі вечарамі ў цемры, бо эканоміў на свечках. І ўсё дзеля таго, каб набыць сабе прыстойнае адзенне. «Вось ён, свет сацыяльнай няроўнасці і несправядлівасці!» — з пафасам гукаў пры канцы творапісу Мішка Чобат, гарантуючы тым, хто здолеў перапісаць тэкст без арфаграфічных памылак, пяцёрку на выпускных іспытах.

Між тым, як і ў гогалеўскага героя, які марыў пашыць сабе форменны шынель, была ў Мішкі свая мара: набыць фірмовыя джынсы. На календары быў пачатак сямідзясятых. Джынсы

тады каштавалі вялікіх грошай, дый набыць іх можна было толькі ў партовых гарадах, праз надзейных знаёмцаў. І хаця ў Мішкі лішніх грошай ніколі не вялося, мара набыць мадняцкую абнову не адпускала, незаўважна ператварыўшыся ў сэнс жыцця. Атабарылася яна, мара, у Мішкавай душы не проста так. На другім курсе сябрук закахаўся. І не абы ў каго, а ў Ленку Перэльцвайг, лабарантку з факультэта прыродазнаўства. На яе ў нас многія казелілі вокам. Ленчынаму бацьку, галоўнаму рэжысёру тэатра, выпала неяк паехаць на гастролі за мяжу, адкуль ён прывёз дачцэ блакітныя «левайсы». У гэтых «левайсах» Ленка і гойсала па інстытуцкіх калідорах, факусіруючы на сваіх пакручастых клубах захопленыя позіркі не толькі студэнтаў, але і маладых выкладчыкаў. Не дзіва, што Мішку апанавала ідэя зраўняцца з Ленкай, як цяпер кажуць, у прыкідзе, і ў сваіх зманлівых лятунках ён бачыў сябе ў джынсах, у стракатай югаслаўскай кашулі і з цыгарэтай «Кент» у зубах.

На трэцім курсе, у верасні, наш курс выправілі «на бульбу». Завезлі далёка — аж у Глыбоцкі раён. Удзень мы завіхаліся на бульбяных палетках, а ўвечары ладзілі ў вясковым клубе танцы ды біліся з тамтэйшымі мальцамі. Жылі мы з Мішкам у хаце дзядзькі Юзіка. Дзядзька, дарэчы, быў жывым увасабленнем гогалеўскага Башмачкіна: такі ж нізенькі, рабаціністы, з невялічкім плехам, але не на лобе, а на патыліцы, і з тым колерам твару, які Гогаль трапна назваў гемараідальным.

Дзядзька Юзік жыў бабылём, ад самага ранку хадзіў на падпітку і любіў пагаманіць з намі, студэнтамі. Гаманіць ён мог пра што заўгодна, але ўлюбёнымі тэмамі былі: 1) як пагана жыць у калгасе і 2) якое файнае жыццё ў Амерыцы. Яму, вясковаму гаваруну, пашчасціла пабываць у Штатах! Мы спачатку не далі таму веры, але потым, пабачыўшы каляровыя фотаздымкі, на якіх наш суразмоўца — паголены, у фасоністым пінжаку — стаяў на тле нью-ёркскіх небасягаў, зірнулі на дзядзьку Юзіка з захапленнем і павагаю. У Нью-Ёрку жыў ягоны старэйшы брат. Паехаў перад самай вайной на заробкі ў Аргенціну, потым перабраўся ў Амерыку ды там і застаўся.

— Кожны год, на польскія каляды, пасылку прысылае, — плаксіва-падпітым голасам казаў дзядзька Юзік і махаў рукой.

Гаспадар наш уставаў а пятай гадзіне. Доўга, са здушанымі воклічамі, мыўся пад рукамыйнікам, піў на кухні гарбату і выпраўляўся парадкаваць гаспадарку. Абуджаныя дзядзькавай валтузнёй, мы зябка падцягвалі ногі да чэрава і ляжалі з заплюшчанымі вачыма. Такім часам заўсёды карцела пазбыцца лішняй вільгаці, ды лянота была ўставаць. Першым звычайна не вытрымліваў сябрук: выбягаў з хаты ў адных трусах ды майцы.

Выбег ён і тым ранкам. Я, як заўсёды, накрыўся коўдрай з галавой і наструнена чакаў калі рыпнуць дзверы: пасля Мішкі быў мой чарод падавацца на двор. Праз пару хвілін сябар звычайна вяртаўся. Аднак гэтым разам прайшло ладна часу, я ўжо стаў задыхацца без свежага паветра, і, вылезшы з-пад коўдры, падбег да акна.

Тое, што пабачыў, мяне, прызнацца, уразіла. Гаспадар наш раскідваў сахаром гной на лехах, а за ім — на цырлах, пацепваючыся ад халадэчы, — чыкіляў Мішка Чобат.

Я спехам, не патрапляючы нагой у калашыну, апрануўся і пачуў, як Мішка крыкнуў з парога:

— Ды я вам свае аддам. Ім наогул няма зносу. І пляшку «чарніла» наверх...

Мішка наляцеў на мяне ў цёмных сенцах, каротка мацюкнуўся, пабег у святліцу і стаў трэсці заплечнікам, выцягваючы адтуль свае паношаныя, вайсковага крою, нагавіцы.

— Пазыч колькі можаш, заўтра аддам, — мурекнуў сябрук, нават не зірнуўшы ў мой бок.

Я ўдыхнуў паветра, збіраючыся спытаць: чаго ён бегаў у трусах па падворку, — ды тут у хату ўвайшоў гаспадар, і мне стала зразумела Мішкава хваляванне.

На гаспадары былі фірмовыя, па самыя калені завэдзганыя гноем, джынсы. Абноўку, па ўсім відаць, прыслаў брат з Нью-Ёрка, і дзядзька Юзік падумаў, што гэта рабочая вопратка.

У кішэні ў мяне было два рублі з капейкамі.

— Дзеўкі прачнуцца — у іх пазычу, — паведаміў Мішка, дрыготкай рукою пералічваючы грошы. Дзеўкі з нашай групы жылі ў суседніх хатах.

Дзядзька зайшоў за фіранку, што вісела ля ложка, з вохканнем сцягнуў нагавіцы. Мішка схапіў блакітнае, перапэцканае гноем шчасце, шчоўкнуў пальцам па каляным лейбле, сцішана выдыхнуў:

— «Супер-райфл»! Фірма! Нават лепш за «левайсы»! — Але тут жа схамянуўся і, нібыта звяртаючыся да мяне, гукнуў у бок рухавай фіранкі: — Колькі б ты даў за такія порткі?

— Пяцёрку можа б і даў, — прамовіў я ў адказ, і Мішка, задаволена падміргнуўшы, нацягнуў нагрэтыя дзядзькавай шырокай дупай «супер-райфлы» на свой худы азадак.

Таго ж дня сябрук адпрасіўся з’ездзіць дахаты. Паехаў нібыта па грошы, каб вярнуць даўгі, але насамрэч Мішку не цярпелася прайсціся «па броду» ў фірмовых джынсах. Назад ён не вярнуўся.

Праз тыдзень наша група, атрымаўшы ў калгаснай канторы разлік, вярнулася «з бульбы», і я выправіўся наведаць сябра. Мішка ляжаў, дарэшты ўпіты, і кепска варочаў языком. З усяго ім сказанага я разабраў толькі слова «ўкралі». Зрэшты, ужыў ён больш грубае слова. Пра тое, што тут надарылася, дачуўся ад ягонай маці.

«Я якраз бялізну мыла, і раптам Мішка ўвальваецца. «Памый, — кажа, — мама, штаны», — і дае мне нейкія сінія порткі. І дзе ён такія знайшоў? Усё калашынне ў гаўне. Я памыла ды ў двары сушыць павесіла. У нас жа зроду нічога не кралі, а тут...»

Я слухаў Мішкаву маці і ўяўляў, як сябар, адрыгнуўшы піўным духам, увайшоў у хату, спытаў: «Дзе джынсяры?» — і агаломшана кінуўся да акна. Джынсаў на абвіслай вяроўчыне ўжо не было. Там, чорнай меткай лёсу і белым сцяжком капітуляцыі перад яго падступнасцю, матляліся на ветры мужчынскія трусы і праедзеныя ў прамежнасці жаночыя майткі.

У гогалеўскім аповедзе, пасля таго, як у галоўнага героя зладзеі сцягнулі шынель, на начных вулках стаў з'яўляцца прывід, які рабаваў мінакоў. Здымаў з іх шынялі ды футры. Праз пару гадоў у нашым горадзе таксама з'явіўся прывід, які нейкім неверагодным чынам краў з гаўбцоў верхніх паверхаў вывешаныя на прасушку джынсы.

Я тады ўжо вучыўся на пятым курсе, і, вяртаючыся ўначы з пагулянкі, заўважыў на даху аднаго з дамоў цёмную постаць. Чалавек стаяў на краі пляскатага даху і прыглядаўся да развешанай на гаўбцы бялізны. У руках ён трымаў ці то спінінг, ці то кароткае вудзільна. Мне стала зразумелым — хто і якім чынам крадзе з гаўбцоў джынсы. Твару начнога злодзея не ўгледзеў, але быў перакананы, што гэта Мішка Чобат.

# КУРОРТНЫ АПОВЕД

## I

Герману прысніўся страшны сон. Прыснілася, што знік Лукашэнка. Пра тое знікненне небарака дачуўся з інфармацыйнай праграмы «Панарама». Уключыў — у сне, вядома ж, — тэлевізар, а там стрыжаная дыктарка падупалым голасам паведаміла: паехаў, маўляў, гуляць у хакей і назад не вярнуўся... Усіх, хто штосьці ведае пра месцазнаходжанне, просьба паведаміць... і тэлефонныя нумары на ўвесь экран.

Прачнуўшыся, Герман засяроджана паскроб ніз жывата, доўга пацягваўся, а пачуўшы шум вады ў кухні, крыкнуў:

— Ліза!

На кухні бразнула патэльня, і шум вады ўзмацніўся.

— Лізавета Іванаўна!

— Ну чаго ты?! — незадаволена азвалася жонка.

— Сон прысніўся... — Герман прыўзняўся на локці, у ваччу мільганула вясёлая іскрынка. — Чуеш?..

— Я ад ранку на кухні прэю, а яму сны сняцца. Уставай ды смецце вынесі, а то ўжо мухі гудуць.

Усмешка зляцела з вуснаў. Герман ціха мацюкнуўся, змучана падняўся з ложка. Ён хацеў быў пайсці на кухню, каб паведаміць жонцы, што працуе на паўтары стаўкі і ў першы дзень адпачынку мае права паспаць лішнюю гадзінку, ды тут у вітальні — нечакана і трывожна — бомкнуў званок...

— Го-о! Яшчэ ў трусах?! — гаркнуў ад парога швагер — Лізчын брат Мікола.

Мікола перакінуў з рукі на руку вядро шаўкавістай вішні.

— А я ўжо на лецішча з’ездзіў. Сабраў вам тут на кампот...

Хвілін праз пяць швагры селі на кухні, і Лізавета, папярэдне ўздыхнуўшы, паставіла на стол пачатую пляшку гарэлкі. Мікола пацёр далоні, пачаў быў распавядаць пра свайго но-

вага суседа — айца Яўлампія, якога пазбавілі сану, і ў рэшце рэшт сур'ёзным голасам запытаўся:

— Чаго надзьмуты?

— Ды так... — Герман перакрывіў твар, а Лізавета, выходзячы з кухні, незадаволена прабурчала:

— Сніцца яму там нешта...

Мікола падчапіў відэльцам скрылёк маласольнага гурка:

— Што там у цябе? Начныя кашмары з палюцыямі?

Герман сумеўся, насупіў кусцістыя бровы.

— Прыснілася, што Лукашэнка знік.

Зрэнкі Міколавы вомігам звузіліся.

— Як гэта — знік?

— Ну так... знік ды і ўсё тут.

Мікола кінуў жаваць і ўтаропіўся ў швагра:

— А як ты пра тое даведаўся?

— Як даведаўся... Тэлевізар уключыў...

— Ува сне?

— Ну а дзе ж яшчэ, — з нервовай інтанацыяй выгукнуў Герман, і швагер таропка папоўніў чаркі.

— Нікому толькі не кажы, — Мікола хукнуў у руку, адным глытком асушыў чарку. — А то ў «дурку» патрапіш.

Слова «дурка» заварушылася ў мазгах, стала, як той жук-караед, падточваць самалюбства, і Герман з агідаю крэкнуў.

— Змарнеў ты, Гера, апошнім часам, — швагер усхапіўся на ногі, адчыніў фортку. — У цябе, дарэчы, калі адпачынак?

— Сёння першы дзень, — буркнуў Гера, і швагер, прыпальваючы цыгарэту, ад нечаканасці закашляўся. — Слухай, да нас пуцёўкі прыйшлі. На тры тыдні... у Трускавец. Палову кошту прафсаюз аплачвае. Магу пагаманіць...

— І колькі будзе каштаваць? — азвалася са святліцы Лізавета.

— Дзевяноста баксаў без дарогі.

Мікола пусціў у фортку струмень шызага дыму, а Лізавета, памаўчаўшы, з вясёлым адчаем паведаміла:

— Хай з'ездзіць. Са мной ужо тры гады не спіць, дык, можа, хахлушкі ўзбадзёраць? — Лізавета ўключыла пыласмок

і скрозь натужлівы шум выдала нейкую доўгую тыраду, але Мікола пачуў толькі самы канчатак:

— ...МТС няшчасны!

— Ліз, пры чым тут машынна-трактарная станцыя?! — гаркнуў, спрабуючы перакрычаць натужлівы шум, Мікола.

Шаргануўшы насадкай па падлозе, Лізавета адключыла пыласмок.

— Бірка такая... на казытун вешаюць. «Можа Толькі Сцаць» — азначае, — паведаміла сястрыца; брацeнік зарагатаў, і рогат ягоны праглынуў злавесны шум пыласмока, які зноў апанаваў прастору.

## II

Хвілін пятнаццаць, не меней, ён бегаў па пероне, пытаўся: «Дзе тут на Трускавец?» — і знайшоў свой вагон за хвіліну да адыходу цягніка. Маладая, апранутая ў празрыста-белую кашульку праваднічка махнула рукой, маўляў, залазьце хутчэй, а ён, разявіўшы рот, забыўшыся пра ўсё на свеце, атарапела глядзеў на дзявочыя калені. Потым убіўся ў тамбур, праваднічка з грукатам апусціла металёвую прыступку, вагон рэўматычна рыпнуў жалезнымі суставамі, і сасмяглыя вусны шапнулі два кароткія словы: «Якія калені!»

У купэ сядзелі тры кабецiны, якія на яго нават не зірнулі: былі занятыя размовамі.

— А я так раблю, — прамаўляла мажная кабета, якая сядзела ля акна і, пазіраючы ў люстэрка, папраўляла спаленыя пергідролем валасы. — Стаўлю на гадзінку ў духоўку, а потым булёнам заліваю. Ну і на гарнір макарона.

— А ці паліваеш чым? — запыталася кабета, што сядзела насупраць.

— Анягож! Падліўку раблю. А як часу няма, дык смятаны бухну.

— Слухайце, а як гэта запяканку рабіць? — падала голас трэцяя кабета, высокая шатэнка з доўгім носам.

Герман прымружыў вочы, згадваючы, дзе яму даводзілася бачыць такі нос, і тут жа з палёгкай уздыхнуў: дакладна такі нос быў у генерала дэ Голя.

— Запамінай... Бярэш два яйкі, — Пергідроль вытрымала паўзу, з насцярогай пакасілася на Германа, — потым... шклянку манкі, чатыры шклянкі малака, дзве лыжкі масла. Ну і сочывам пальеш, як запячэцца.

— А калі прыгарыць?

— Дык ты ж глядзі, каб не прыгарала, — упікнула суразмоўніцу Пергідроль.

Цягнік матлянула на стрэлках, і дзверы купэ злёгку ад'ехалі.

— Усе да Трускаўца? — маладая праваднічка прысела на хвілінку, дыхнула пахам горнай лаванды, павабіла смочкамі грудзей, што выпіналіся праз тонкую кашулю.

Аддаўшы квіток, Пергідроль падцягнула друзлае чэрава і, калі праваднічка выбегла з купэ, з роспаччу ў голасе выдыхнула:

— Ой, дзеўкі, і як гэта схуднець? Хоць на пару кілаграмаў.

— Кальрабі трэба есці, — з веданнем справы паведаміла даўганосая шатэнка. — У маёй сястры восемдзесят пяць кіло было. А пачала кальрабі есці, адразу пяць кіло скінула.

— А што гэта такое?

— Капуста такая. На рэпу падобная. Я сёлета таксама ў агародзе пасадзіла, ды штосьці кепска расце.

— А як яе гатуюць?

— Яе і сырую есці можна, і тушыць.

— А як тушыцца?

— Спачатку трэба крыху абсмажыць, у муцэ ўкачаўшы, а потым ужо ў рандолю класці. Тушыць на павольным агні сорак хвілінаў. І абавязкова дадаць таматнага соусу...

Слухаць усе гэтыя кулінарныя жахі не было сілы. Герман падняўся, выйшаў у калідор, азірнуўся па баках. У дальнім канцы калідора мільганула белая кашулька; адтуль, з прыцемнай, загрувашчанай чыгунным тытанам праймы, павеяла нясцерпнай пяшчотай і скрозь перастук вагонных колаў пачуўся яму грукат. Гэта абрынулася сцяна, якой ён адгарадзіў сябе ад жанчын, і скамечаная душа ягоная выпрасталася, і — магчыма, упершыню ў жыцці — ён дыхнуў на поўную грудзіну. І грудзіна напоўнілася пахам лаванды, лагодным сонечным святлом, напорлівым скразняком, што струменіў ад акна, і

абяцаннем чагосьці незвычайнага, трывожнага, неспазнанага. Герман заплюшчыў вочы, уцягнуў прагным носам паветра, але замест паху горнай лаванды адчуў нейкі смурод: ягоныя спадарожніцы, выкуліўшы на столік гару рознага едзіва, лупілі нягнуткімі пальцамі сівушна-крутыя яйкі.

— Я дык люблю з гарчыцай, — казала даўганосая шатэнка, ківаючыся, што той рабін, у такт калыханню вагона.

— А я з маянэзам, — няўцямна, з набітым ротам, засведчыла Пергідроль, і Герман з агідаю сцепануўся.

## ІІІ

Гэтаму цяжка даць веры, але за ўсё жыццё ў яго, апроч Лізаветы, не было аніводнай жанчыны. Ён баяўся жанчын. І страх гэты нарадзіўся яшчэ тады, калі ён, смаркаты падшыванец, хадзіў у другі клас агульнаадукацыйнай сярэдняй школы. Яму і цяпер з жахам прыгадваецца той задушны ліпеньскі вечар, п'яная бяседа, застаўлены пляшкамі стол і чырвоная пыса матчынай сяброўкі — цёткі Серафімы. Чаму цётка засталася ў іхнай хаце і куды ў той міг падзеліся бацькі, ён ужо не памятаў, а вось залатыя зубы, што бліскалі ў нетрах разяўленага рота, і смуродліва-віннае дыханне, якім яго душыла цётка Серафіма, запомніліся на ўсё астатняе жыццё... Цётчыны белыя, без ценю загару рукі мітусліва расшпільвалі гузікі, сцягвалі штаны, а складзеныя ў трубачку вусны шматкроць паўтаралі: «Спацькі... зараз будзем спацькі». Потым, хаця ён і супраціўляўся, сцягнула з яго трусы і, закаціўшы п'яныя вочы, гулліва прамармытала: «І дзе тут нашая пісіня?» Яшчэ імгненне — і п'яная цётка схапіла ротам ягоны спалоханаацвярдзелы стручок: «А-ам пісіню! А-ам пісіню! А-ам!..» Ён ляжаў без духу, баючыся, што залатыя зубы злавесна ляснуць, адарвуць стручок — і што ён тады скажа маці...

Матчына сяброўка часцяком потым завітвала да іх у хату і кожнага разу шматзначна пасміхалася; у Германа пры гэтым панічна білася сэрца, і маці, на параду той жа цёткі Серафімы, клала яму на ноч пад падушку прывялы корань валяр'яну. І кот

Базыль — чорны, з белым гальштучкам на шыі, сібірак, — аж да раніцы сядзеў ля ложка і варкатаў свае бясконцыя песні...

Потым, разам з песнямі ўжо Валерыя Абадзінскага і нязводнымі прышчамі вакол носа, надышла маладосць, і Герман, разам з сябрамі-аднакласнікамі, стаў хадзіць у клуб на танцы. Аціраўся там каля сценак, цяжка соп і не мог набрацца смеласці запрасіць дзяўчыну на павольны танец. А калі — такое надаралася вельмі рэдка — яго запрашала якая цыбатая дзеўчынёха, ён сцепаўся і здушана прамаўляў: «Я не танцую».

Мінала вясна, прыходзіла лета, на змену лету пасяшала восень; сыпала жаўталіст у гарадскім парку, стукала мокрымі галінамі ў акно: раз, два, тры... дваццаць тры, дваццаць чатыры, дваццаць пяць... «Трыццаць!» — налічыў ён аднойчы і прыўзняўся на ложку. «Ужо трыццаць гадоў, ужо лысіна з далонь, а я ўсё яшчэ не жанаты!» — і адчуў на твары смуродлівы подых, і з цёмнага кута нехта дарэшты выразна, тры разы запар, прамармытаў: «А-ам пісіню... а-ам пісіню... а-ам».

Ажаніўся ён у трыццаць два гады. Жонка ягоная, Лізавета Іванаўна, дагэтуль перажыла двух мужоў — адзін засіліўся, другі, прыхапіўшы з кватэры ўсё каштоўнае, збег на радзіму — у Краснадарскі край, адкуль — ужо пасля Германавага жаніхоўства, — дасылаў віншавальныя паштоўкі з краявідамі партовага горада Ейска.

Чым такім спакусіла яго Лізавета, Герман і сам не мог адказаць. Ну, пажвавела пару разоў ягоная спалоханая з дзяцінства пісіня, напружана паматлялася ў паветры, потым, пасля вяселля, кульнулася на бок і больш ужо не аджывала. І доўгімі начамі, захінуўшыся падушкай ад смуродлівага жончынага дыхання, ён ляжаў без сну і мроіў пра дзявочыя калені. Загарэлыя, шчыльна ступленыя, яны, ад нядаўняй пары, не давалі спакою, спараджалі хваравітыя фантазіі, і вільготны язык ягоны варушыўся між вуснаў, спрабуючы ўбіцца, наколькі можна, у лагчынку, што бегла між каленяў. Апанаваны такой дзіўнай жарсцю, ён пагартаў аднойчы падручнік сексапаталогіі, спрабуючы ўведаць — як называецца такое адхіленне, але нічога такога не знайшоў. Вычварэнцы млелі ад брудных жаночых майтак, ад зубачыстак, якімі карысталіся незнаёмыя кабеты,

ад унітазаў, на якія сядалі прыгажуні, але каб нехта калаціўся і гарэў чорным агнём, пабачыўшы стуленыя дзявочыя калені, такога вычварэнства сексапаталогія не ведала.

...За вагонным акном бясконцай чарадой мільгцелі асветленыя сонцам хвоі.

— Я б зараз бананіну з'ела, — даляцеў з-за спіны змораны голас Пергідролі.

— Праз паўгадзіны Баранавічы. Там на станцыі іх поўна, — заўважыла шатэнка, і цягнік, у прадчуванні хуткага прыпынку, захістаўся, тузануўся, з аглушальным грукатам прамінуў чыгуначны мост.

— Мой Вася любіць бананы, — прамовіла, змагаючыся з позехам, Пергідроль. — Пакладу манкі — ні за што не будзе есці, а з бананам дык усё начыста з'есць ды яшчэ дабаўкі просіць.

— А я ў кашу «галіну-бланку» кідаю, — падала голас трэцяя кабета і роспачна чхнула.

Цягнік праскочыў яшчэ адзін мост. За мутным акном праплылі карова з цялём, старая воданапорная вежа, несамавітыя, гаўнянага колеру будынкі. Герман прыціснуў нос да шыбы, спрабуючы ўгледзець, якую станцыю прамінаюць, ды тут у канцы калідора зазвінелі шклянкамі і запыталі: «Гарбату будзеце?»

Герман зірнуў на дзявочыя калені — прыгажуня праваднічка ішла па калідоры, — і стоена ўздыхнуў.

— Што ж гэта вы... — нягучна, але патрабавальна прамовілі за спінай, і ён азірнуўся, — грэбуеце нашай кампаніяй? — Давялося, з вінаватай усмешкай на твары, зайсці ў купэ, насцярожліва прымасціцца на лаўцы.

— У Трускавец? — запыталася Пергідроль, і ён моўчкі кіўнуў галавою.

— Які санаторый?

— «Рубін», — азваўся Герман, і Пергідроль, а разам з ёю і даўганосая шатэнка, разам выдыхнулі:

— Як жа там добра кормяць!

Герман пакасіўся на пукатыя, з сінім адценнем, жаночыя калені — акурат такія былі ў Лізаветы, — і стаў чакаць — калі ў купэ, пазвоньваючы шклянкамі, увойдзе прыгажуня. Ён

заплюшчыў вочы і ўявіў галавакружны пах лаванды і ўбачыў пляму сонечнага святла на дзявочых каленях, а калі, праз пару хвілінаў, размежыў павекі, дык убачыў зусім іншую праваднiцу — крутабокую бабізну з чорным пухам пад сінім каўказскім носам.

— А вам гарбату несці? — запыталася бабізна, ён штосьці буркнуў у адказ, залез на верхнюю паліцу і застыў там у паставе нябожчыка — задзёршы галаву і сашчапіўшы рукі на грудзіне.

**IV**

Калі наступным ранкам ён выкуліўся з вагона, маладая праваднічка (а можа, гэта толькі здалося) усміхнулася яму і нават (гэта ўжо дакладна здалося) зрабіла лёгкі рэверанс. Германа падхапіла людская плынь, ён рушыў у натоўпе і пры гэтым увесь час азіраўся. Пры канцы перона ходнік пакручаста збег з пагорка. Наш герой выцягнуў шыю, прыўзняўся на дыбках і апошні раз угледзеў прыгажуню ў белай кашульцы.

На прыстанцыйным пляцы стаялі некалькі раздзяўбанага выгляду аўтобусаў.

— Хто до «Рубіна»?! — крыкнулі ад крайняга «пазіка», і ён, схапіўшы ў ахапак валізу, стаў прабівацца да адчыненых аўтобусных дзвярэй.

«Пазік», няйначай, прыгналі з могілак металалому: пластык у салоне быў парэпаны, лінолеум пад нагамі пузырыста пукаціўся, а кожная заклёпка над галавою была пазначаная ржавым пісягом. Аўтобус, аднак, даволі жвава скрануўся з месца, і Герман, шукаючы апірышча, абапёрся далонню на чыйсьці мяккі азадак.

— Яны тут страшныя нацыяналісты, — прагугнілі пад бокам, і Герман пазнаў па голасе Пергідроль. — Ты ім па-руску, яны табе па-хахляцку...

«Пазік» пайшоў угору, і малады кіроўца, не азіраючыся, гукнуў:

— Санаторый «Каштан». Наступны «Верхавіна».

Герман чарговым разам згубіў раўнавагу, крануўся далонню жаночага азадку, і Пергідроль, азірнуўшыся, ухвальна пасміхнулася. Аднак у той жа міг усмешка зляцела з фарбаваных вуснаў, і кабета, з інтанацыяй нечаканай згадкі, выгукнула:

— Ой, дзяўчаты, зараз міма «Каштана» паедзем — пакажу вам, дзе марозіва прадаюць. Такога смачнага нідзе не ела.

«Ці нажарэцца калі?» — падумаў Герман і ў той жа міг аўтобус абурана страсянуўся на калдабане.

Санаторый «Рубін» — высозная, увабраная ў шкло будыніна, стаяла на пагорку, і ранішняе сонейка навылёт высвечвала яе нутро — дваццаць чатыры лесвічныя маршы. Па маршах увішнымі мурашамі бегалі людзі, і гэта наводзіла на думку, што ў санаторыі не працуе вінда. Калі ж Герман атрымаў у рэгістратуры ключ ад пакоя і падышоў да той самай вінды, аказалася, што працавала толькі адна кабіна, і ёю карысталіся выключна інваліды, пенсіянеры ды новапрыбылыя з валізамі. Ахвочых падняцца на свой паверх было процьма, таму наш герой крахтануў, бязгучна мацюкнуўся і нетаропкай хадою рушыў па лесвіцы, слізгаючы позіркам то па дзявочых каленях, то па сівых карпацкіх пагорках, што ўздымаліся з-за далягляду. Ля дзвярэй 112-га пакоя Герман з хваляваннем перавёў дых.

Ключ аніяк не лез у шчыліну — дзверы, відавочна, былі зачыненыя з адваротнага боку, — і ён пастукаў косткамі пальцаў па вушаку. Стукаў добрых пяць хвілінаў, нарэшце за дзвярыма вохнулі і нехта змучана выдыхнуў: «Зараз».

Адчыніў дзверы нізенькі, лысаваты тыпус, пакамечаны твар якога нагадваў сушаную грушу. Нічога не сказаўшы, сусед пайшоў да ложка, пры гэтым паркалёвыя трусы ягоныя з аднаго боку спаўзлі уніз, напалову агаліўшы прышчаватую кумпячыну. Грымнуўшыся на ложак, тыпус адразу ж засоп, і Герман чарговым разам перавёў дых.

Перш-наперш трэба было памыцца. Падхапіўшы ручнік і мыльніцу, новы пастаялец зайшоў у ванную, і пад нагамі ягонымі гучна бразнула пустая бутэлька. Тузін гэтых самых бутэлек ляжаў поруч з унітазам, а адна — з-пад пярцоўкі — плавала ў ночвах, што стаялі пад душам. Ніякай ваннай у пакоі

не было: вада, відаць, лілася непасрэдна на падлогу, балазе, у куце мелася забітая валасатымі змылкамі вадазліўная адтуліна. Ён крутнуў па чарзе спачатку правы, а потым левы вентыль, і кран, спалохана здрыгануўшыся, адказаў яму смаркатым сіпеннем. «Божухна, куды прыехаў!» — прастагнаў наш герой і з гідлівым прыжмурам абмыў твар вадою з начовак.

Трускавец выглядаў мястэчкам утульным і ў чымсьці нават сімпатычным. Усё наўкол патанала ў зяленіве разгалістых дрэваў — дрэвы былі падобныя да каштанаў, але мелі больш светлае лісце, — і з нетраў зялёнага акіяна там-сям выплывалі на паверхню карпусы санаторыяў, залатыя купалы храмаў, а на асмужаным даляглядзе, у неверагоднай далечыні гарбінамі агромістых драмадэраў пукаціліся Карпацкія горы. Дарога бегла серпанцінам, ля санаторыя «Вясна» паварочвала направа, і далей трэба было спускацца па бетонных сходах. Тут, на сходах, чынілася штосьці неверагоднае. Амаль на кожнай прыступцы сядзелі бязногія калекі, цыганаватага выгляду цёткі, змарнелыя, дарэшты не ацверазелыя гулякі, нарэшце, дзяўчаты-падлеткі, якія цягнулі да мінакоў дрыжачыя далоні і няскладнымі галасамі лямантавалі: «Люды добрыйі, дайтэ копійочку!» Ідучы між жабрачых радоў, Герман цямнеў з твару, адводзіў убок вочы і з пачуццём законнай гордасці думаў пра тое, што ягоныя супляменнікі-беларусы, як бы бедна ні жылі, ніколі не будуць сядзець на прыступках ды прасіць міласціну.

На цэнтральным пляцы віраваў невялічкі кірмаш. Герман паблукаў па кірмашы, прыцаніўся быў да сонечных акуляраў — сонца адбірала вочы, дый на дзявочыя калені зручна назіраць, насунуўшы на нос акуляры, — але згадаў, што яшчэ не мяняў даляры на грыўні, і крутнуў галавой, выглядаючы будку з шыльдай «Exchange». Крутнуў ды тут жа ўвабраў галаву ў плечы, бо ўгледзеў Пергідроль з даўганосай шатэнкай. Кабеты ішлі па пляцы, пра штосьці гучна балбаталі, і да вушэй Германавых даляцела кароткая фраза: «Цікава, што будзе на абед?» І наш герой, згадаўшы, што а першай мусібыць у санаторнай сталоўцы, шырокім крокам рушыў за кабетамі.

## V

Дзе на курортах людзі знаёмяцца? Вядома ж, у сталоўках.

«У вас трэцяя дыета — сорак восьмы стол», — зычны голас сталоўскай распарадчыцы быў чутны нават тут, на другім баку разлеглай залы. Новапрыбылыя курортнікі, два мужчыны сярэдняга веку, валюхастай хадою прайшлі міма Германа, уладкаваліся за суседнім сталом, за якім ужо сядзелі, няроўна дыхаючы, дзве кабеты ў празмерна адкрытых сарафанах. Мужчыны рыпнулі крэсламі, і адзін з іх, папярэдне керхануўшы, запытаў:

— Адкуль прыехалі, прыгажуні? З Дрогобыча? А мы з Херсона.

За суседнім сталом усчалася вясёлая гутарка; кабеты страсянулі грудзямі, бліснулі залатымі фіксамі, і Герман адчуў, як з яго сышла ў зямлю апошняя ясачка надзеі.

Кабет у адкрытых сарафанах ён сустрэў па дарозе ў сталоўку, і адна з іх — бялявая саракоўка — абдарыла яго цікаўным позіркам. Потым, сеўшы за свой стол, саракоўка яшчэ пару разоў зыркнула ў ягоны бок, Герман заклапочана крануўся шорсткіх, два дні не голеных шчок, і толькі тады зразумеў, што кабета цікавілася не ім, а ягоным суседам па стале — хударлявым, інтэлігентнага выгляду тыпусам з клінападобнай барадой. Інтэлігент увесь час круціўся ў крэсле і цішком пазіраў на кабет у сарафанах.

Апроч хударлявага мужчыны за яго сталом сядзелі пахілая бабулька ў старамодным капялюшыку, якая неадрыўна, з пачуццём пакрыўджанай немачы, глядзела на фаянсавую сальніцу, ды суровая, ягоных гадоў жанчына. Інтэлігент, праўдападобна, быў яе мужам. Пры гэтым усе трое зацята маўчалі.

Нечакана наўкол загаманілі, паўскаквалі з крэслаў; Герман азірнуўся і ўбачыў кельнерку. Кельнерка, пад ухвальныя воклічы, каціла перад сабою вазок з двума вялікімі рондалямі і высокім стосам талерак.

— Боршч вязуць, — прамовіў худабзей, скасіўся на жонку, і тая, адвёўшы вочы, злавесна прасіпела:

— І як я яшчэ жыву з такім вырадкам?..

Па абедзе Герман падняўся на адзінаццаты паверх, з насцярогаю зайшоў у свой пакой. Напарнік ляжаў у адных трусах на ложку, а поруч з ім, на крэсле, сядзела нейкая чарнявая дзяўчына. Герман кіўнуў галавой, прысеў на ложак.

— Як тобі нэ соромно. В тэбэ ж жынка е, а ты тут з курвамы крутысся, — з дакорам казала дзяўчына, і сусед ў адказ соладка пазяхаў.

— З якімі курвамі? З табой? — запытаўся сусед пасля хвіліны маўчання. Гаманіў ён па-расейску, і гэта ўсцешыла Германа.

— У-у, підлюга! Шчэ яку холэру мэні підкінэш, — дзяўчына падхапілася на ногі, збіраючыся, як бачна, пайсці, але перадумала і зноўку села на крэсла.

— Не бойся, не падкіну. Бо падкідваць больш не буду, — сусед ізноў пазяхнуў, а Герман, пабачыўшы, што на яго не звяртаюць увагі, ціхенька прылёг на ложак.

Дзяўчына яшчэ доўга ўшчувала суседа, той паціху пачаў сапці, відаць, заснуў, Германа таксама пачало цягнуць на сон, ён кульнуўся на левы бок ды нечакана прыхапіўся, улякнуты тэлефонным званком.

— Слухаю, — азваўся сусед, прыціснуўшы да вуха мабільнік.

Мабільнік азваўся незадаволеным зумканнем.

— Ну я... ну што ты хацела? — голас суседавы дрыжэў і зрываўся. — Якія яшчэ бабы? Што ты там вярзеш?!

— В його тут баб богато, цілу ніч з імі піячыць, — гукнула дзяўчына, і сусед, заціснуўшы слухаўку рукою, паспрабаваў заехаць дзяўчыне нагой у азадак, але тая ўжо гукала ад дзвярэй: — Всі грошы спустыв... на львівську курву.

— Ды гэта прыбіральшчыца, у пакоі прыбірае, — ужо спакойным голасам паведаміў сусед, і слухаўка азвалася доўгай і няўцямнай тырадай. — Якія н-нахер бабы. Ляжым во ў пакоі... з таварышам, — стаўшы на карачкі, сусед прапоўз па ложку, працягнуў Герману слухаўку.

— Ляжы-ым... — выдыхнуў Герман, і слухаўка, памаўчаўшы, зумкліва прамовіла:

— Таксама, відаць, бля...ун?

Герман уражана лыпнуў вачыма, а сусед, адключыўшы мабільнік, працягнуў шырокую пяцярню:

— Сашко. З Кіева? — запытаўся ён, падбіваючыся пад коўдру.

— З Беларусі, — азваўся Герман і цяжка ўздыхнуў.

— Ну як там у вас? Жыць можна?

— Можна, — няўпэўнена адказаў Герман, і душу ягоную апанавала ціхая маркота.

Неўзабаве яны разгаварыліся — Сашко наракаў на здароўе, казаў, што яго змучыла пякотка, што ў жоўцевым пухіры захрас камень дыяметрам 15 міліметраў, што жыць яму засталося не больш як год і што жонка — сваёй недарэчнай рэўнасцю — вырашыла звесці яго са свету.

— А гэта хто была? Ваша сястра? — запытаўся Герман, каб змяніць тэму гаворкі.

— Хто? Аксана? — сусед з уздыхам мацюкнуўся. — На выправу разам ездзілі, у Карпаты. Трахнуў яе пару разоў у кустах, дык яна мне цяпер жыцця не дае.

Герман прыўзняў галаву, з недаверам зірнуў на друзлае Сашковае падбароддзе, але, падумаўшы, што сусед жартуе, убіў патыліцу ў падушку.

— Летась у Есентуках адпачываў, у санаторыі «Украіна», дык пяць баб апрыходаваў, а як дадому ехаў, яшчэ і правадніцу паваліў. Якраз да Растова пад'язджалі. Спёка неверагодная, дыхаць няма чым, а мы ў ейным катуху зачыніліся — і давай! Я там ледзь не памёр, і галаву пабіў аб паліцу.

Сашко памацаў лабешнік, паказваючы тое месца, дзе ён набіў гузак, а Герман, пакінуўшы дыхаць, падкурчыў ногі, каб быць далей ад суседа. Яму і раней даводзілася чуць аповеды пра санаторныя залёты. У аповедах фігуравалі дзве, ну тры спакушаныя жанчыны, але каб спакусіць адразу пяць, ды яшчэ і правадніцу, такое цяжка было ўявіць, і Герман, зірнуўшы на суседа, амаль уголас падумаў: «Хлусіць».

Цэлую гадзіну ён круціўся ў ложку, спрабуючы заснуць, але сон зляцеў з павекаў. Герману мроіліся валасатыя рукі, — дакладна такія былі ў Сашка, — рукі лашчылі дзявочыя лыткі, краналіся гладкіх каленяў, лезлі пад форменную спадніцу; ма-

ладая праваднічка — тая самая, якую ён сустрэў у цягніку, — задыхана вохкала, рассоўвала калені, і Герман, каб пазбыцца хваравітага наслання, куляўся з боку на бок. Кульнуўшыся безліч разоў, ён падхапіўся на ногі і асцярожна, каб не абудзіць суседа, выйшаў з пакоя.

Па калідоры, гулка шоргаючы нагамі, ішоў гурт пенсіянераў, пры гэтым кожны з іх трымаў у руцэ невялічкі імбрык з выгінастым носікам альбо поліэтыленавую шклянку: адпачывальнікі ішлі піць мінеральную ваду.

## VI

Бювет уяўляў сабой вялізную ашклянела-бетонную ратонду, якую таксама працінала сонечнае святло і скаланалі бязладныя зыкі. У гэтым гармідары Герману нават заклала вушы, але тут жа здолеў вылучыць сярод тлуму зацятае чханне і басавітую песню: непадалёку ад увахода, у атачэнні тузіна слухачоў, стаяў брываcты мужчына і густым басам выдыхаў:

— Рідна маты мойа-а-а... ты ночэй нэ доспала-а-а...

Мужчына, відаць, быў прафесійным спеваком, бо голас ягоны натужліва вібрыраваў, прымушаючы звінець залітыя сонцам шыбы.

— Хто цэ? — запыталася нейкая жанчына.

— Цэ ж Грызадуб! — вырвалася адразу з некалькіх глотак, і Герман канчаткова пераканаўся, што брываcты мужчына — оперны спявак.

Ён спыніўся на хвіліну, слухаючы прафесійна-густы бас, але, убачыўшы разгоністы надпіс: «Нафтуся», пайшоў да кранікаў, з якіх лілася мінеральная вада.

Пра «Нафтусю» яму яшчэ дома паведаміла суседка Аляўціна. «Ваду трэба піць праз саломіну, — папярэдзіла абазнаная ў курортных справах суседка, — а то ад яе зубы крышацца». Таму і давялося прыхапіць з дому фаянсавы кубак ды жменю поліэтыленавых саломін.

Вада была агіднай на смак, тхнула нафтай, да таго ж была цёплай. Герман зрабіў пару глыткоў, скасавурыўся, выглядаючы — куды выліць пітво, і выліў у сметніцу.

— Яка погана! — прамовіла, падслухаўшы ягоныя думкі, рабацінiстая кабета. Кабета, відаць, таксама ўпершыню глынула «Нафтусі».

— Не кажыце, — азваўся Герман, і ў гэты момант ля ўвахода ўдарылі ў ладкі, і натоўп, што стаяў вакол спевака, пасунуўся да дзвярэй.

— Як гарно співав... Хто такый?.. Вы нэ чулы? — кабета ўскінула на Германа падфарбаваныя вейкі.

Жаночы позірк — на кароткае імгненне — нарадзіў у душы адчуванне палёту.

— Грызаду-уб, — паведаміў ён з веданнем справы, расцягваючы да немагчымасці апошні склад.

— Грызадуб?! — кабета нават прысела ад нечаканасці, дыхнула пахам дарагіх духоў, кінулася да выхаду.

Лыткі ў кабеты былі незагарэлыя і жылаватыя. Герман праводзіў іх учэпістым позіркам, выйшаў з бювета і адразу ж патрапіў пад шаты трускавецкага парку.

У парку было прахалодна і ціха. Густая зацень лагодзіла зрок, і толькі там-сям асфальтавы ходнік пазначалі плямы сонечнага святла. Дрэвы наўкол былі старыя, пасаджаныя, відаць, яшчэ пазамінулым стагоддзем. На некаторых, самых пракаветных, віселі шыльдачкі: «Дуб звычайны»... «Бук еўрапейскі»... «Ціс ягадны»...

Ціс нагадваў елку, адно што шыпулькі меў мяккія і доўгія. Герман прымружыўся, выглядаючы — ці растуць на дрэве ягады, — і нечакана за спінай ягонай пачуліся нетаропкія крокі. Па ходніку ішлі чацвёра адпачывальнікаў.

— «Ціс ягадны», — уголас прачытала жанчына, што ішла паперадзе, і Герман пазнаў кабеціну з-за суседняга стала.

— А чы можна йіх йісты, ційі ягоды? — запыталася, абцягнуўшы сарафан, яе сяброўка — тая ішла пад ручку з сівагаловым херсонцам.

— Страшна отрута! — наструнена паведаміў сівагаловы. — В нас одын кінь пойів, тай і...

— Падох?! — разам выдыхнулі кабеты.

— Ні-і... відкачалы! — гаркнуў мужчына, і ўсе чацвёра дружна зарагаталі.

Сябрына рушыла ў бок бювета, а Герман, мацюкнуўшыся, пайшоў, прыспешваючы крок, у адваротным кірунку.

«Як хутка людзі сыходзяцца, — думаў наш герой, шыбуючы шырокім ходнікам, — тры гадзіны як пазнаёміліся, а ўжо...» — ён мелькам азірнуўся. Сівагаловы, запаволіўшы хаду, паклаў руку на жаночы азадак, і кабета ў адказ прытулілася скронню да ягонага плечука.

Твару стала горача — нібыта пякельны самум наляцеў з-за дрэваў і апаліў шчокі. Герман правёў па шчацэ далонню, згадаў, што ўжо другія суткі не галіўся, з крыўдаю на сябе самога крэкнуў. Двухдзённае шчацінне рабіла яго старым і неахайным.

Ходнік папятляў між дрэваў, збег з пагорка, вывеў на асветленыя сонцам прысады. Безліч жаночых каленяў асляпіла яго, прымусіла прымружыцца. Жанчыны — усе скрозь у цёмных акулярах — сядзелі на лаўках, гарталі часопісы, некаторыя елі марозіва, і ўсе разам слухалі Кіркорава, голас якога вырываўся з будкі гуказапісу. Былі тут і мужчыны, але іх было няшмат. Герман прайшоўся ў канец прысадаў, прысеў на лаўку поруч з мужчынскай кампаніяй. Кампанія аб нечым зацята спрачалася.

— Та насрав він на цю збірну! — гукаў прафесарскага выгляду мужчына з сівой хэмінгуэеўскай бародкай. — Він там за кордоном такі грошы мае, шчо нам нэ снылыся. Ну на яку холэру він будэ ў Кыйіві ногы собі ломаты?

— Всі збіглы. Нэма кому граты. Дэ тількі «зэлэны» покажуць — воны вжэ там, — абурана прамовіў мужчына, які сядзеў поруч з Германам.

— І збігуць... а шчо тут робыты, в цьйому колгоспі? На підлюгу-Кучму дывытыся? — азваўся «прафесар», нервова тузануўшы бародку.

Мужчыны, што сядзелі на лаўцы, гамузам заспрачаліся, адзін нават замахаў кулакамі, але неўзабаве ўсе разам аціхлі і «прафесар» з уздыхам прамовіў:

— Бэз Тараса Грыгор’евыча нам п...ць.

Слухаючы бязладную гаману, Герман падумаў быў, што гаворка ідзе пра знакамітага паэта, але неўзабаве высветлілася, што Тарас Рыгоравіч, якога раз за разам згадвалі суразмоўнікі, быў футбаліст, які з’ехаў гуляць за мяжу. Пры гэтым тры су-

размоўнікі ганілі футбаліста, а «прафесар», тузаючы бародку, яго абараняў. Герман футболам не цікавіўся, таму, пазяхнуўшы, зірнуў на мажную цётухну, якая сядзела на другім баку прысадаў і, заплюшчыўшы вочы, прыспана тузала галавой. Тут, у засені густалістага каштана, яго неўзабаве таксама змарыў сон. Галава Германава пачала тузацца, і сонная замарач разпораз перарывалася воклічамі футбольных заўзятараў. Яму прымроілася праваднічка; дзяўчына ляжала на ніжняй лаўцы, і яе кароткая спадніца была задзёртая да самых майтак. Герман памкнуўся кранацца спакуслівых каленяў, і ля вуха абурана выдыхнулі: «Та він ворот нэ бачыць! Два голы за сэзон!» На кароткае імгненне вочы апанавала сонечнае святло, потым наплыў мяккі морак. Ён ізноў памкнуўся да дзявочых каленяў, і хтосьці — зусім побач — брахліва выгукнуў: «Знайшлы гравця... Він майжэ два рокі в дублі відсэдзів!»

Хаця наўкол гаманілі, сон прыйшоў ціхі і суладны. Спаў ён добрых паўгадзіны, і калі раптам абудзіўся, футбольных заўзятараў поруч ужо не было, лаўкі наўкол былі пустыя, і толькі мажная цётухна па-ранейшаму сядзела насупраць, звесіўшы галаву на грудзі і даглядаючы такім чынам дзясяты сон.

## VII

Пасля вячэры забег у свой пакой, каб надзець пінжак — збіраўся прайсціся па парку, — крутнуў вентыль, і ў далонь ударыў напорлівы струмень: вада лілася і халодная, і гарачая. Сэрца радасна сцялася, і твар кальнулі спачатку халодныя, а потым гарачыя іголкі.

З нязведанай дагэтуль асалодай ён доўга галіўся пад дожджыкам, потым гэтак жа доўга мыўся, шаруючы прывезенай з дому вяхоткай віслае чэрава, і выкуліўся з душавой дарэшты зморaны і распараны. Ісці ўжо нікуды не хацелася, да таго ж суседа ў пакоі не было, і яму заманулася пабыць на самоце.

Як стаяў — так і грымнуў на ложак; пад ложкам штосьці трэснула, матрац з аднаго боку праваліўся да самай падлогі, а разам з ім абарвалася уніз і трапяткое сэрца: «Сапсаваў майно! А як прымусяць адкупляць?!» Ён ліхаманкава сцяг-

нуў матрац, падняў з падлогі драўляны брусок, што яго трымаў, і тут жа азірнуўся, шукаючы, чым бы прыбіць дзеравяку. Урэшце прыбіў іржавай гантэляй, якую знайшоў у шафе для вопраткі. Дзеравяка, аднак, трымалася кепска, і Герман, з ліхаманкавым бляскам уваччу, памяняў месцамі ложкі — свой і суседаў. Нарабіў пры гэтым ладнага груку, лёг — цяпер ужо з асцярогаю — у пасцель і гучна уздыхнуў.

...Даўно яму не было так добра, так лагодна, як тою хвілінай. Даўно не адчуваў ён такога душэўнага суладдзя. І свежая прасціна, якой накрыўся, крухмальна шапацела і пахла горнай лавандай.

За акном згасаў ружовы вечар. Акно было злёгку прачыненае, і адтуль, знадворку, кволымі хвалямі наплывала музыка: дзесьці ў парку ладзілі танцы. Ён глядзеў на ружовы прастакутнік вакна і ўяўляў людскі натоўп, рознакаляровыя агні вакол летняй эстрады, і праваднічку ў белай кашулі, якая стаяла наўзбоч эстрады з жоўтым чыгуначным сцяжком у руках. Неўзабаве пачулася мелодыя «Шэрбурскіх парасонаў», сэрца захоплена сцялася, душа паляцела насустрач свайму шчасцю, але нават у думках, у віртуальным свеце ружовых фантазій, ён так і не наважыўся запрасіць праваднічку на танец.

Апоўначы, знясілены мілоснымі фантазіямі, ён заснуў і дзесьці праз гадзіну быў абуджаны грукатам дзвярэй і пявучым жаночым голасам:

— Сашко, ты мэні любыш чы ні?

Ён не паспеў раздзерці павекі, як на твар насунулася штосьці мяккае і ўдушліва-цяжкое. Герман тузануўся, хапаючы ротам паветра, і Сашко незадаволена прамовіў:

— Ну куды ты сунешся?... Гэта ж не мой ложак.

Герману ўпершыню ў жыцці селі на галаву, але ён не абурыўся: стаіўся пад прасцінай, спалохана лыпаючы вачыма.

— Уф-ф... — выдыхнула кабета, бухнулася на Сашкоў ложак, чыркнула запалкай.

Герман асцярожна, без дыху, сцягнуў прасціну з твару і ў святле запаленай сярнічкі ўгледзеў ускудлачаную жаночую галаву.

— Скількы мы сьогонні выпылы? — гучна запыталася кабета, дыхнуўшы — у Германа быў чуйны нос — густым гарэлачным смуродам упярэмешку з тытунёвым дымам.

Той, да каго яна звярталася, завіхаўся ў прыбіральні і выйшаў адтуль праз пару хвілінаў.

— Фу, бл...ь, толькі яйцы і памыў, — прамовіў Сашко, ляпаючы босымі нагамі па падлозе.

Сашко ўспоўз на ложак, таксама прыпаліў цыгарэту.

— Ты б хоць у ванную зайшла... — буркнуў Сашко пасля першай зацяжкі.

— Та ж воды нэма...

— Ну ёсць там... у начоўках.

Жанчына з шумам выдыхнула дым.

— Ты там свойі яйцы мыеш, а я буду лыцё мыты?

Сусед вылаяўся.

— Я цябе прашу не твар памыць, а ...

— Якы ты, Сашко, грубы...

Герман ізноў накрыўся прасцінай. «Няўжо будуць мілавацца? У адным пакоі з чужым чалавекам?!» Да апошняга імгнення ён не даваў таму веры, а калі вынырнуў з-пад прасціны і зірнуў адным вокам нам суседскі ложак, дык угледзеў у цемры шырокі азадак, які з ліхаманкавым імпэтам падскокваў угору.

— Ох! Давай! Цілы дэнь цього чакала! — прасіпела кабета; у гэты момант пад ложкам штосьці трэснула, хтосьці з дваіх — відаць, Сашко — пёрнуў, і скаціўся на падлогу.

— Шчё?! Шчё такэ?! — загарлала кабеціна, і сусед, свецячы ў цемры белым азадкам, прамармытаў: — Не бачыш? Ложак зламалі!

Сашко, з мацюгамі на вуснах, прымасціўся каля каханкі, у ложку ізноў штосьці зламалася, і спружынавы матрац пад спалоханы жаночы воклік абрынуў на падлогу.

— Як в труні, — пралепятала кабета і пырснула здушаным смехам.

Герман выцер ражком прасціны ўпрэлы лабешнік, крадком памацаў распаленыя вушы. «Бегчы! Бегчы прэч з гэтага прытону!» — адчайная думка лёгкім свербам азвалася ў патыліцы.

Ён прыўзняўся на локці, выглядаючы штаны і кашулю, ды тут жа падумаў: «І куды ж ты, браток, пабяжыш?»

І сапраўды: куды можна было бегчы цёмнаю ноччу ў незнаёмым горадзе?

Колькі часу Сашко з кабецінай маўчалі і не варушыліся. Нарэшце, аддыхаўшыся, кабеціна штосьці горача зашаптала, і Герман пачуў толькі апошнюю фразу: «Хочаш, я його подійму?»

Герман замёр без духу: падумаў, што кабета вырашыла і яго далучыць да справы. Аднак да таго не дайшло: кабета мела на ўвазе зусім іншае.

На дне суседскага ложка заварушыліся, зашапталіся, Сашко злёгку застагнаў, і Герман памкнуўся бегчы. Ён ужо скінуў нагу на падлогу, ды тут жа схаваў яе пад прасціну: на падвоканні з гучнымі пералівамі заспяваў мабільны тэлефон.

Сашко доўга мацаў рукой па падвоканні, нарэшце змора-на прастагнаў:

— Слухаю...

— А хто гэта там у цябе так сапе? — з натугаю зумкнуў мабільнік.

— Сусед, — няўпэўнена адказаў Сашко.

— Вы што, у адным ложку спіцё?

— У розных, йопт'аюмаць! Ты мне, н-нахер, дома жыцця не даеш і тут штоночы тарабаніш!

— Вось і йопт'аюмаць... вось і нахер... — плаксіва азваўся мабільнік і праз імгненне, ужо адключаны, ляснуўся на падвоканне.

— І як ты з йію жывэш? — прамармытала кабеціна.

— Не звягай... і без цябе млосна, — прамовіў сусед, і кабета рашуча крутнулася на бок.

Крутнуўся на бок і Сашко, а дзесьці праз хвіліну пакой напоўніўся мернымі зыкамі. Пс-с... — суцішна выдавала кабеціна; у-ф-ф... — змораңа, як той дзіравы кавальскі горан, выдыхаў Сашко. Яшчэ праз пару хвілінаў абое захраплі. Захраплі разняволена, аглушальна, раскоціста. Пры гэтым у грудзіне жаночай штосьці агідна клекатала; кабета дзерла тхара з такім шалёным імпэтам, што ў Германа пазакладала вушы.

Хр-р-р! — адрывіста хроп Сашко, маракуючы, што гучней ад яго схрапянуць немагчыма, і тут жа ягоная сяброўка, набраўшыся духу, скаланала паветра клекатліва-зацяжным каскадам гукаў: к-к-кх-х-х-р-р! «А ці будзеш?» — казала тым самым кабеціна, і Сашко на момант сцішваўся і няўцямна мармытаў спрасоння. А чацвёртай гадзіне — Герман зірнуў на гадзіннік — у сценку пастукалі. Спачатку стукнулі кулаком, потым нечым жалезным, ды так хвацка, што ў пакоі дзынкнулі шыбы. Сашко на міг абудзіўся, зварухнуўся і захроп яшчэ гучней, пакрыўшы керхатлівымі абертонамі немы храп сяброўкі.

## VIII

Раніцою — змораны, ускудлачаны, з чорнымі ад бяссоння вачамі, — Герман падбег да акенца санаторнай адміністрацыі і дзве гадзіны чакаў, калі яно адчыніцца.

— Перасяліце ў другі нумар! — гукнуў ён, калі акенца адчынілася, і не пазнаў уласнага голасу.

— А шчё такэ? — буркнула адміністратарка, фарбуючы вусны пунсовай памадай.

Герман на міг сумеўся, правёў далонню па лобе.

— Сусед храпе. Аж сцены дрыжаць. Нават з суседняга пакоя стукалі...

— Сьогонні голоўного лікаря нэма, а а без нього мы вас нэ пэрэсэлымо.

Адміністратарка прыцмокнула нафарбаванымі вуснамі, і Герман, піхнуты ў бок аграмаднай валізай, — за ім стаяла чарга новапрыбылых курортнікаў, — з панылай павольнасцю рушыў да выхаду.

Сонца, як і ўчора, адбірала вочы, галава з недасыпу была пустой, а ў страўніку халодным ледзяком варушылася млосць.

— Каб на вас згуба! — прамовіў Герман, невядома да каго звяртаючыся, і ў гэтым воклічы чулася пякучая крыўда, крыўда на сябе самога: такога затурканага, закамплексаванага, прыніжанага Сашком і яго бессаромнай сяброўкай.

— Чоловік! А чоловік! — гукнулі за спінай, і ён азірнуўся.

Аксана — тая самая чарнявая дзяўчына, што сядзела ўчора ў іхным пакоі, — махнула рукой, подбежкам рушыла насустрач.

— Ну як там... — задыхана запыталася дзяўчына, — ночувала львівська курва?

Герман тузануў плечуком.

— Дывысь: вiн нэ знае! А чому морда така страшна? Нэ спав нiч? Нэ дала... гадзюка та пiдколодна?

Дзяўчына паставіла рукі ў бокі, пачала глядзець некуды ўгору, выглядаючы, па ўсім, вокны іхнага пакоя, а Герман — спачатку прыстаўным, а потым шырокім крокам пашыбаваў па ходніку — прэч ад балбатлівай Аксаны.

«Няўжо-такі азыз? — далонь заклапочана пацёрла запалыя шчокі. — Яшчэ пару такіх начэй — і мяне і родная жонка не пазнае».

Паркавыя лаўкі былі незанятыя, і ён прымасціўся акурат на тое месца, дзе сядзеў учора — пад шатамі старога каштана. На супрацьлеглай лаўцы сядзела ўсё тая ж мажная кабета і гэтак жа, як учора, прыспана тузала галавой.

Хвілін праз пяць яго і самога пацягнула на сон. «Прыкархнуць бы дзе ў цяньку», — падумаў наш герой, змагаючыся з позехам і асавела паглядаючы на дзвюх дзяўчат-малалетак, якія шпурлялі адна адной фасфарычна-салатавы мячык. Мячык шпокаў па асфальце, вясёлкава бліскаў на сонцы, падлятаў да зялёных шатаў. Неўзабаве вясёлкавы скакун зашамацеў за Германавай спінай.

— Дзядуля, дастаньце мячык!

Герман азірнуўся. Дзядуляў навокал не было.

— Хто, я?! — запытаў Герман, і дзяўчынкі разам выдыхнулі:

— Вы!

За лаўкай шчыльнай сцяной стаяла пажоўклая туя. Ён прадзёрся праз зарасці і патрапіў на невялічкую, закрытую з усіх бакоў высокім кустоўем пляцоўку, пасярод якой ляжаў той самы мячык.

— Лавіце! — крыкнуў Герман.

Мячык паляцеў у высокае неба, а наш герой, нядоўга думаючы, лёг на траву, убіў патыліцу ў разгаліну старой туі і адразу ж заснуў. Спаў доўга, пару гадзінаў — сонца тым часам

паспела перапаўзці праз высокія кусты і свяціла ў вочы, — але абудзіла яго не сонца, а нечае няўцямнае мармытанне.

— Ці чуеш? — прамармыталі непадалёку, — сапіць нехта...

Герман стаіўся, асцярожным рухам памасіраваў навярэджаную патыліцу.

На лаўцы, спінамі да яго, сядзелі дзве кабеты.

— Ды хто тут будзе сапці? — прашаптала адна з кабет і, сцішыўшы голас, запыталася: — А што гэта за Нюра?

— Ай... рудая такая... За суседнім сталом сядзела.

— А-а... Нюрка... з Данецка? — кабета яшчэ больш сцішыла голас: — І што там было?

— Пайшла яна да масажыста... ну, да таго, сівога... — міма лаўкі, гучна лаячы футбаліста Шаўчэнку, прайшлі футбольныя заўзятары, і апавядальніца на хвілю перапыніла аповед. — Ну... узяўся ён плечы ціскаць. Нюрка казала, ёй нават дыханне заняло. І так, кажа, захацелася... Узяла і ў штаны залезла...

— Сівому?! — дрогкім голасам перапытала сяброўка.

— Ну не сабе ж... Казала — узялася за казытун, а ён такі кво-олы... Пару разоў ціscанула, ён і пырснуў.

— Хто? Казытун?!

— Ну казытун... казытун...

У нос Герману ўбілася мурашка. Ратуючыся ад невыноснага свербу, пакутнік вылупіў вочы, страсянуў чупринай, аберуч схапіўся за вілавацiну старой туі і чхнуў, ды так хвацка, што галаву заклініла ў вілаваціне, а з суседняга каштана зляцеў да часу зжаўцелы ліст.

Кабеты войкнулі, разам падхапіліся, пашыбавалі па бульвары; Герман, стаўшы на карачкі, гэтак жа імпэтна папоўз у адваротны бок, прадзіраючыся тварам праз вецце пасохлай туі, і на загадкава пачырванелым твары ягоным прысуседзіліся дробныя пісягі, пякучы сорам і душэўная пакута.

## IX

На абед ізноў падалі боршч. Старой у капялюшыку чамусьці не было, і худабзей, пад няўхвальным жончыным позіркам, агораў дзве талеркі, аблізаў лыжку і стаў неўпрыкмет

казеліць вокам на сарафаністых кабет, што сядзелі непадалёку. Герман таксама зірнуў на кабет, і адна з іх — ружавашчокая весялуха, — тыцнуўшы відэльцам на яго, нахілілася да сяброўкі, штосьці прашаптала на вуха, і кабецiны, прыціснуўшы далоні да вуснаў, пырснулі смехам. Зарагаталі, азірнуўшыся, і херсонскія мужланы. Герману перацяло дыханне і боршч заказытаў у носе. Яму падалося, што на лаўцы ў парку сядзелі менавіта гэтыя весялухі.

— Чуеш, паскуда? З цябе смяюцца! — прасіпела худабзеева жонка, і ў Германа адлягло ад сэрца.

Худабзей апусціў вочы, заездзіў на азадку:

— Гэта ўсё твае фантазіі.

— Фантазіі! А чые гэта трусы пад ложкам ляжалі... сцаныя?... — суседка рэзкім рухам адсунула ад сябе талерку. — Пайду зараз, кіну ў пысу сцаннё гэтае...

Суседка паспрабавала ўстаць, але худабзей схапіў жонку за рукаво, стоена прамармытаў:

— Муля, табе шкодна хвалявацца.

— Паскуда, — выдыхнула Муля і з дзіўным для такой хвіліны імпэтам стала есці гуляш...

...Не паспеў Герман адчыніць дзверы свайго пакоя, як да вушэй даляцеў дакорлівы Аксанін голас:

— Ну, Сашко, доеб...сь... Навіць ліжко зламав.

Аксана сядзела ў крэсле, панылымі вачыма глядзела на Сашка. Той ляжаў, як у труне, — на ўбітым да падлогі матрацы, — стуліўшы павекі і склаўшы ў крыж рукі.

— А ты знаеш, шчё вона лекувалася? — запыталася дзяўчына, калі Герман, нацягнуўшы коўдру, кульнуўся на бакавую.

— Хто? — прыспана азваўся Сашко.

— Хто-хто... сучка твоя львівська.

— Ды якая яна львоўская! Тут, каля пошты, жыве. Я нават у яе ў кватэры быў.

— Цэ взагалі нэ йійі квартыра! Цёткіна. Вона тут крутыця, каб на дурняка попіячыць, з такімі дурнямы, як ты.

Аксанін голас паволі аддаліўся, і ў свеце запанавала цішыня. А яшчэ запанаваў шэры мышасты паўзмрок, у якім на-

радзіўся лагодны летні дождж. І чым гучней лапаталі кроплі, тым святлей рабілася ўваччу, і нечакана, як на экране, ён убачыў абмытую дажджом платформу, людскі натоўп і самотную постаць ля крайняга вагона. Гэта была яна, красуня-правадніча! Красуня штосьці крыкнула, ён наструніў слых і пачуў натужны вокліч:

— І як тобі нэ соромно? Ты ж всі свойі грошы на сучок пустыв!

Герман прымружыўся, крутнуўся на левы бок і, ратуючыся ад абрыдлых Аксаніных дакораў, з галавой убіўся пад коўдру.

Ноччу ён ляжаў без сну і слухаў навакольныя зыкі. Дзесьці ля суседняга санаторыя пілікнуў, ды тут жа і аціх, гармонік, выбухнулі смехам жанчыны, прыспана дзяўкнуў шчанюк, а за тонкай — у адну цагліну — перабойкай рыпнуў ложак і нехта спалохана храпянуў.

Суцішнай хвілінай одуму Герман думаў пра жонку.

Ягоная Лізавета была жанчынай сварлівай, наравістай і — Герман ведаў гэта дакладна — мела каханка: міліцыянтадаішніка. Пра міліцыянта ён пачуў зусім выпадкова ад суседкі — Аляўціны Наймушынай. Суседка забегла неяк па соль — жонкі якраз не было ў хаце, — напоўніла сальніцу і, як нічога якога, запыталася: «А хто гэта Лізку на даішнай машыне падвозіць? Сваяк які?» Герман спачатку нічога не адказаў, потым буркнуў няўцямна: «Сваяк», — а дзесьці праз тыдзень, завітаўшы дахаты і адчуўшы ў паветры цыгарэтны пах — сам ён не паліў, — зайшоў у ванную і знайшоў у бачку з нямытай бялізнай складзеную ў столку прасціну, спрэс залітую загуслай спермай.

Ён не раўнаваў жонку, але ўсведамленне, што Лізавета трахаецца з нейкім калхазанам — хто ж яшчэ ідзе ў мянты? — які залівае сямейныя прасціны ліпучай спермай, кроіла сэрца і не давала спакою. Ён стаў употай прыглядацца да жонкі, і кожнага разу заўважаў змены ў яе паводзінах. Лізавета пачала круціцца каля люстра, зрабіла манікюр, набыла на рэчавым кірмашы трусы «танга» і ажурныя панчохі. А яшчэ стала яго пацвельваць, маўляў, што за мужык — ні да дня, ні да ночы, —

кожнага разу прамаўляючы адну і тую ж фразу: «Калі ты са мной не можаш, дык з якой іншай паспрабуй». Казала нібыта жартам, але пры гэтым голас яе дрыжэў і шчокі заліваў гарачы румянец. Лізавету, як бачна, даймалі згрызоты — здраджваць мужу без гэтага немагчыма. Таму і прагнула злапаць Германа з якой маладзіцай, каб такім чынам ачысціць сумленне. Лізавета і ў Трускавец адпусціла яго з лёгкім сэрцам, у спадзеўцы, што муж зблытаецца з якой хахлушкай. І вось, прабаўляючы на мулкай пасцелі сваю другую курортную ноч, Герман уявіў страшную карціну: ягоная жонка, апраненая ў тыя самыя карункавыя панчохі, мілуецца з даішнікам. Даішнік быў цемнаскурым, спрэс голым, і толькі на кучаравай галаве злёгку варушылася, у тахт руху бліскучага цела, даішная, з салатавым аколышам, фуражка. Уражаны мазахісцкай уявай, Герман рохнуў спрасонку, фуражка ўпала з кучаравай галавы, і аднекуль з калідора даляцелі няцвёрдыя крокі.

— Якы ты сёгонні п’яны... — пачулася за дзвярыма, і Герман з галавою падбіўся пад коўдру.

— А чому ліжко нэ адрамантувалы? — запыталася «львівська підлюка», убіўшыся ў пакой. Кабета з цяжкасцю варочала языком.

— Сёння нядзеля... хто табе будзе рамантаваць, — азваўся Сашко і, відаць, не распранаючыся, грымнуўся ў сваю «труну».

— Хоця б штаны зняв, — прабурчала кабета.

Сашко ў адказ мацюкнуўся, упіта прамармытаў: «Не магу... сіл маіх больш няма», — і Герман, ратуючыся ад задухі, вынырнуў з-пад коўдры.

У кволым святле было бачна, як «львіўка» сцягвала ўніз спадніцу. Спадніца зачапілася за пятку, кабета матанула нагой, спадніца заляцела на Германаў ложак, і Герман спалохана падкурчыў ногі.

Сашко з сяброўкаю сцішыліся ў «труне»; сяброўка пачала была пасопваць, ды раптам ачулася, штосьці горача і няўцямна зашаптала.

— Слухай... давай сёння без гэтага... — прыспана буркнуў Сашко.

— Ты шчё, бл...ь... як бэз цього? — паспела абурыцца кабета перад тым, як на падвоканні — настойліва і трывожна — азваўся мабільнік.

— Нэ подымай! — крыкнула кабета, а Сашко, чарговым разам мацюкнуўшыся, са злосцю гаркнуў у слухаўку:

— Ну, чаго ты, йоп... тарабаніш?..

Слухаўка стоена зумкнула, і Сашко змяніў тон:

— Гэта ты, Мікола?

Колькі часу слухаўка штосьці шапялява прамаўляла, Сашко парывіста аддзімаўся, з трывогаю ў голасе выдыхнуў:

— Ну не па тэлефоне... не па тэлефоне... — і, прычакаўшы хвіліну, дадаў: — Паслязаўтра буду.

— Дзе гэта ты будзеш паслязаўтра? — гулліва запыталася кабета, калі мабільнік адключыўся.

Замест адказу Сашко са стогнам перавёў дых, а потым, рыпнуўшы матрацам, прабубніў: — Ды адчапіся ты... у мяне праблемы...

— Мэні шчё... пійты? — ужо ацверазелым голасам запыталася кабета, і Сашко, падхапіўшыся, махнуў у паветры нейкай апранахай:

— Давай, сапраўды, вымятайся. Забірай свае трусы, забірай свае гандоны... дзякуй богу, не выкарысталі...

Герман зноў ныршануў пад коўдру, але коўдра, падхопленая разам са спадніцаю нервовай жаночай рукой, спаўзла да самага пояса.

— Ты шчэ пошкадуеш, козлына марыупольська, — гукнула кабета ад самых дзвярэй, і ў спіну ёй ударыў шпурнуты Сашком чаравік.

## X

Раніцай, а шостай гадзіне, Германа абудзілі тэлефонныя гудкі і сіпавата-непракерханы суседаў голас:

— Дзяўчына... кх-х, як мне... як мне даляцець... к-х... да Марыупаля?

«Божухна, няўжо з’едзе?» — падумаў Герман, асавела мружачыся на зырка асветленае акно.

— Праз Кіеў? А калі самалёт?

— Няўжо буду спаць дасхочу? — прашаптаў наш герой, назіраючы, як сусед, з мацюгамі і вохканнем, выбіраўся са свайго лежбішча. Герман прыкінуўся спячым і потым, скрозь прыжмур, назіраў, як сусед матляўся з канца ў канец пакоя, усхвалявана гамонячы па мабільніку. Хаця Сашко гаварыў алегарычна ды эківокіста, падцягваючы пры гэтым паркалёвыя трусы — яны па старой завядзёнцы спадалі з левага паўзадка, — Герман зразумеў, што сусед заганяе разам з хаўруснікамі металапракат і што мінулым панядзелкам партыю металу затрымалі на мытні.

Не паспеў сусед скончыць размову, як у пакой зазірнула медычка ў белым халаце.

— Затулывада... — жанка з зацятай уважлівасцю зірнула на суседа, — чому вы нэ ходытэ на процэдуры? — Не чакаючы адказу, кабета кіўнула Герману: — А вы колы прыйіхалы?

— У суботу... з раніцы, — прамямліў наш герой, нацягваючы коўдру да самага падбароддзя.

— Після сніданку йдытэ до лікаря. 120-та кімната.

— Будзе мне... працэдура, — муркнуў Сашко, калі дзверы зачыніліся.

Выцягнуўшы з шафы вялізную сумку, сусед стаў пакаваць у яе свае мэтлахі. Пакуючы, выцягнуў з тумбачкі нейкі пачак, пакруціў у руцэ.

— Перадаю эстафету... з бананавым смакам... — гукнуў сусед, і Герман з жахам убачыў на грудзіне пачак кітайскіх прэзерватываў.

Неспакойная ноч — спаў нейкія тры гадзіны — дарэшты затлуміла галаву. Выкуліўшыся са сталоўкі, Герман спыніўся пасярод фае, з утрапеннем, усё адно як прыспешваючы чых, зірнуў на высокую столь, пацёр чырвоныя павекі — яны шчымелі ад бессані, — але так і не даў рады згадаць, куды ён мусіў з’явіцца «після сніданку». І толькі падышоўшы да стэнда з партрэтам Пятра Грызадуба — тут прадавалі квіты на канцэрт, — пачуў, як нейкая кабета спытала ў сяброўкі: «Колы тобі до лікаря?» — і пабег шукаць 120-ы пакой.

Пакуль знайшоў патрэбныя дзверы, да горла падкаціла халодная млосць, і жанкі, што чакалі прыёму, на імгненне патанулі ў шарым мроіве. Герман адсопся, плюхнуўся ў крэсла.

— Зоя казала, трэба пяць баксаў даваць. Іначай ніхто лячыць не будзе, — прамармытала адна з жанок, і тут жа замарачны шум увушшу прарваў барытоністы суседавы голас: — Будзе мне... працэдура!

Герман расплюшчыў вочы. Сашка поруч не было. Сусед, відаць, ужо пад'язджаў да Львова, а голас ягоны яшчэ гучаў і хваляваў сэрца, і Герман, згадаўшы поціск вузлавата-ўчэпістай Сашковай рукі, пашкадаваў, што той так рана з'ехаў у свой Марыупаль.

Санаторны тэрапеўт, маладая і рудавалосая, выхапіла з Германавых рук курортную карту, загадала, не ўздымаючы вачэй, падкасаць рукаво.

— Ужываеце? — запыталася маладуха, напампаваўшы паветра ў танометр.

Паветра з жаласлівым сіпам сышло, аслабаніўшы руку ад халоднага поціску.

— Ціск высокі... для вашых гадоў, — лекарка напісала нешта ў курортнай кніжцы, зыркнула спадылба. — А праўда, што ў вас, у Беларусі, дэманстрантаў б'юць?

— Не, ужо не б'юць, — адказаў Герман, піхаючы кніжку ў кішэнь пінжака.

— А што так?

— На дэманстрацыі ніхто не ходзіць.

Такі адказ прыйшоўся лекарцы даспадобы, і яна задаволена пасміхнулася.

Дзіўныя рэчы чыняцца ў свеце. Яшчэ ад ранку Герман з заміраннем сэрца чакаў ад'езду Сашка, а цяпер, згадаўшы потную лысіну, прышчавы азадак і поўную нутранога адчаю фразу: «Фу, бл...ь, толькі яйцы і памыў», — са шкадаваннем уздыхнуў. Толькі цяпер зразумеў — як яму будзе не ставаць тут, у чужым горадзе, гэтага дабрадушна-цельпукаватага залётніка.

Калі ж зайшоў у свой пакой і пабачыў дробныя трэскі на падлозе — санаторныя цеслі адрамантавалі Сашкоў ложак, —

адчуванне ўласнай закінутасці і нікчэмнасці халоднымі абцугамі сціснула душу. Ён ціха лёг на пасцель, заплюшчыў вочы і на мяжы явы і сну ўбачыў праваднічку. Дзяўчына сядзела поруч, плаксіва смаркалася ў хусцінку і раўніва прамаўляла: «Гера, ну як тобі нэ соромно? Ты ж всі свойі грошы на сучок пустыв...»

Ён праспаў рэшту дня. Раз-пораз скрозь сон прарываліся рыпенне дзвярэй і людскія галасы. Хтосьці — усё адно як з бочкі — гукаў: «Затулывада з'іхав?» Другі голас — дзявочы і бразгатлівы — пытаўся: «Дэ ця кобэліна?» На кароткае імгненне ён расплюшчваў вочы, штосьці мармытаў у адказ і абудзіўся толькі адвячоркам, унюхаўшы агідны пах адэкалону.

— Лазюк, — адрэкамендаваўся хударлявы мужчына перадпенсійнага ўзросту, са стрыманай насцярожлівасцю працягваючы руку.

На вуснах новага суседа блукала невыразная ўхмылка.

— Я ў рэгістратуры адразу сказаў: жыць буду толькі з земляком. Мяне сюды, у 112-ы пакой, і накіравалі.

Сусед, відаць, быў з гаманлівых, бо адразу ж загаварыў пра адведзіны трускавецкай цырульні.

— Дома пастрыгчыся не паспеў, вырашыў тут зайсці. Хаджу, гляджу на шыльды... А ў іх жа ўсё па-хахляцку. Пакуль знайшоў гэтую... як яе? Пярульню... пярдульню...

— Перукарню, — буркнуў Герман, неадрыўна пазіраючы ў столь. На тле шарай, пазначанай бруднымі пісягамі столі яму прымроілася спачатку аголеныя калені праваднічкі, а потым напаўаголены Сашкоў азадак.

— І могуць жа па-расейску шпрэхаць, а ўсё адно па-свойму. Я ім зрабіў заўвагу, маўляў, я з вамі па-расейску, давайце і вы... Дык яны мне пагражаць сталі... сволачы бандэраўскія.

Сусед нахіліўся да люстра, спрабуючы ўгледзець, як яму пастрыглі патыліцу.

— У нас таксама... гэтыя... Янка Купала з Якубам Коласам... мову прыдумалі, — сусед скасіў вока, чакаючы, што Герман падтрымае размову, але той маўчаў, асавелымі вачыма пазіраючы ўгору.

...На сутонні Герман вырашыў схадзіць на пошту — патэлефанаваць дадому. Убіўшыся ў душную кабіну, набраў патрэбны нумар, і слухаўка, як ні дзіўна, азвалася звонкім голасам. Ён пазнаў Алю Наймушыну — суседку, што жыла ў сумежнай кватэры і часцяком заходзіла да Лізаветы пабалбатаць «за жыццё». Аляўціна была дзіўнай асобай — не ўжывала мяса, загартоўвалася па метадзе Парфірыя Іванова, наведвала да таго ж зборкі нейкай секты, і Герман заўсёды трымаўся ад яе ўбаку.

— Перадаю! — гукнула суседка, і слухаўку скалануў незадаволены Лізчын голас:

— Ну... што ты там?

— Ды вось, званю... — Герман насупіўся, спытаў, дзеля прыліку, пра надвор'е, потым пра швагра, а пачуўшы, што той другі дзень запар піячыць з нейкім папом-расстрыгам, буркнуў штосьці на развітанне і больш дадому не тэлефанаваў.

## XI

На абед падалі абрыдлы боршч. Герман лена боўтаў лыжкаю ў талерцы, пазіраў спадылба на інтэлігента-худабзея, што сядзеў насупраць. Гэтым разам худабзей быў без жонкі і ўвесь час круціў галавой, кідаючы трывожныя позіркі ўбок кабет з-за суседняга століка. Калі ж адтуль чуўся вясёлы смех, ён суравеў з твару і ціха ўздыхаў.

— Вы тут колькі ўжо?

Пытанне прагучала знянацку, Герман нават страпянуўся.

— Шосты дзень, — прамовіў наш герой, зварухнуўшы пальцамі, і худабзей з роспаччу ў голасе выдыхнуў:

— А я вось заўтра ад'язджаю.

Больш яны не прамовілі ні слова. Ды яно і добра. За тры дні Лазюк — новы сусед па пакоі — так абрыдзеў сваімі размовамі, што вушы прасілі цішыні, а душа забыцця і спакою.

Новы сусед выглядаў на дзівака. Тры дні адседзеў у санаторыі, а ў горад так і не выйшаў. І нават ідучы ў бювет, сюд-туд азіраўся і стоена прамаўляў: «Ты, Гера, не ведаеш гэтых бандэраўцаў... Яны мне ўжо ў цырульні пагражалі». А яшчэ Лазюк паталагічна баяўся проймы і ўвечары з грукатам зачыняў вок-

ны адразу на дзве форткі. Так што шчымлівыя мелодыі, якія гучалі на танцпляцоўцы і якія Герман прагнуў паслухаць, былі амаль не чутны і замест іх у вушы лезла Лазюковая балбатня. Балбатаў сусед у асноўным пра палітыку: кляў зладзюгу-Кучму і гэтак жа рашуча хваліў Лукашэнку, сцвярджаючы пры гэтым, што калі праз пяць гадоў Беларусь і Расея не аб'яднаюцца, пачнецца трэцяя сусветная вайна.

Учора ўвечары Лазюк набыў у санаторным вестыбюлі брашуру «Урынатэрапія» народнага лекара Сямёна Кандыбы, чытаў яе да самае ночы, тое-сёе цытаваў, і Герман, слухаючы, як трэба збіраць ды кіпяціць мачу, пукаціў вочы ды заціскаў рот далонню. А раніцай, калі ішлі ў бювет, народны лекар падміргнуў ім з плаката, што вісеў поруч з каляровай афішай спевака Грызадуба. Кандыба, як высветлілася, надоечы прыехаў у Трускавец і збіраўся даваць кансультацыі на галоўнай гарадской танцпляцоўцы...

— Ну дык як, Гера, пойдзем? — прамовілі над вухам, і Герман ачуўся ад думак: тою хвіляю ён якраз даядаў сырную запяканку. Сусед па пакоі ўжо паеў і стаяў поруч, выціраючы папяровай сурвэткай сальныя вусны. Ісці на танцпляцоўку не хацелася. Дый ад адных аповедаў пра кіпячэнне сцакаў цягнула на ваніты. Але ў голасе Лазюковым гучала такая пякучая просьба, што ён кіўнуў галавой, глынуў кампоту і здушана вякнуў — небараку падалося, што санаторныя кухаркі насцалі ў кампот — нездарма ж ён быў саланаватым і цёплым.

Ля ўвахода на танцпляцоўку стаяў невялічкі натоўп, прычым сабраліся там адны кабеты. Натоўп хваляваўся, варушыўся, і недзе ў нетрах ягоных гучаў мужчынскі барытон — відаць, гэта прамаўляў той самы Кандыба. З-за людской гаманы словы Кандыбавы гучалі няўцямна. Яны падышлі бліжэй, пачулі немы жаночы воклік: «А чым лячыцца?!» — і пераканаўчы мужчынскі барытон адказаў: «Вось гэтым!»

Над натоўпам узнялася трохлітровая, да грэлкі падобная клізма.

— Вось гэтым! — паўтарыў Кандыба, і Лазюк, заяснеўшы тварам (Кандыба гаварыў па-расейску), уплішчыўся ў натоўп.

— Клізму трэба ставіць пяць разоў на дзень. Толькі тады можна дасягнуць эфекту.

— А ваду цёплую ліць ці якую? — крыкнулі адразу некалькі чалавек.

Натоўп разам зашумеў, і Кандыба, перакрыкваючы гаману, абурана выдыхнуў:

— Вы што... — гамана на момант суціхла, і народны лекар, апусціўшы долу клізму, паведаміў: — Толькі ўрына! Ніякай вады! І не дай вам бог ужываць свежую... Выключна трохдзённую! Адстоеную і адфільтраваную!

— А піць таксама трохдзённую? — крыкнуў з натоўпу Лазюк.

— Пяцідзённую... — жартам гукнуў у адказ чырванатвары бамбіза, што праходзіў міма і спыніўся на імгненне пасярод ходніка. — Навярнуў пару шклянак з пахмялюгі — і як агурок!

Некалькі цётак у натоўпе — усе яны стаялі з нататнікамі і асадкамі ў руках — злавесна зашыкалі. Хвіліну натоўп узбуджана гаманіў, пасля чаго ўладны Кандыбаў голас ізноў апанаваў прастору.

— І яшчэ... Не давайце веры таму, хто заклікае ўжываць урыну як сродак ад аблысення. Каб аднавіць валасяныя цыбуліны, галаву трэба рэгулярна змазваць калам вадкай кансістэнцыі. Намазваеце звечара, нацягваеце на галаву поліэтыленавы мяшэчак...

— І йдзяце на танцы! — чарговым разам гукнуў бамбіза і пад абураныя жаночыя воклікі рушыў па сваіх справах.

Агідны камяк падкаціў да горла. Утаймоўваючы рвотныя сутаргі, Герман заціснуў рукою рот, змахнуў няпрошаную слязіну і, ужо адышоўшы ў другі канец прысадаў, ліхаманкава схапіўся за патыліцу. Яму здалося, што галава ягоная перапэцканая гаўном і на патыліцу нацягнуты поліэтыленавы мяшэчак.

А наступным ранкам, калі нацягваў нагавіцы і ў крэсле адарваўся гузік, ён стаў шнарыць рукою па падлозе і нечакана ўгледзеў пад Лазюковым ложкам бутэльку са сцакамі. Увечары, калі сусед, па старой завядзёнцы, выправіўся на калідор глядзець тэленавіны, Герман — папярэдне абгарнуўшы бутэльку газетай — вынес яе ў прыбіральню, з гідлівай гіморай

адліў палову сцакаў ва ўнітаз і напорлівым струмком дадаў сваіх — як піва цёмных і пеністых.

— Гэта табе за тваю балбатню, — прамовіў уголас і мацюкнуўся.

Праз тры дні Лазюка з падазрэннем на гепатыт — сусед ўвесь час ванітаваў — паклалі ў ізалятар на першым паверсе, і Герман двое сутак цешыўся адзінотай. Адчыняў звечара акно, дыхаў водарам язміну і са слязою ўваччу слухаў шчымлівыя мелодыі, што далятталі з танцпляцоўкі.

## XII

Ля ўвахода ў бювет грувасціліся нехлямяжа-стракатыя шчыты з выяваю карпацкіх краявідаў, і да чарноцця загарэлы мужчына ў пацёртым брылі муэдзініста гарлаў: «Закарпатьтя, Львів, Самбір, Почаевські монастыр... Концэрт народного артыста Україны Миколы Грызадуба... останні концэрт в Трускавці... бэрэмо квіткы!»

Ранейшым часам Герман прабягаў міма тых шчытоў, а сёння прыпыніўся, прымружаным вокам зірнуў на выяву Львоўскага тэатра оперы і балета.

— Пойіздка ў Львіў з навіданнем оперы Джузэпэ Вэрды «Набука», — праспяваў «муэдзін».

Герман, ужо шырока расплюшчанымі вачыма, зірнуў цэтлік з надпісам: «Львів, 30 гр.», палахліва запытаўся:

— А якая выправа самая танная?

Самай таннай была паездка ў пячоры, дзе хаваўся Алекса Доўбуш.

Павагаўшыся, Герман сыпануў з потнай далоні пятнаццаць грыўняў драбязою, і потым, падлічыўшы — колькі гэта будзе ў пераліку на «зайцы», — пашкадаваў, што змарнаваў столькі грошай.

Прыспеў час вадапою, і ў бювеце было шматлюдна. Піць ваду трэба было не похапкам, а паволі, таму адпачывальнікі і блукалі з канца ў канец бювета, цягнучы з носікаў фаянсавых імбрыкаў агідна-цёплую «нафтусю». Герману ж пасля кандыбаўскай лекцыі «нафтуся» здавалася мачой; ён выпіваў ваду ў

два глыткі, імпэтным рухам вытрэсваў з пластмасавага кубка апошнія кроплі і, натыкаючыся на тлустых цётак, бег да дзвярэй. Вось і сёння, хукнуўшы ў далонь, ён навярнуў 150 грамаў гаючай мінералкі, страсянуў кубак і пачуў з-за спіны лагодны жаночы голас.

— Піты трэба процягом п'яты хвылын.

За спінаю стаяла мажная кабета ў гіпюравай кофце. Кабета глядзела на яго з радасным даверам.

— Піць трэба... паволі... маленькімі глыткамі... цягам пяці хвілін, — па-расейску паўтарыла незнаёмка, пабачыўшы здзіўленне ў Германавых вачах.

Герман сарамліва кіўнуў галавой. Дзесьці ён бачыў гэтую мажнуху, але прыгадаць, дзе дакладна, не даваў рады ўспомніць.

— А куды вы падзеліся... ну там, у парку? — пытанне прымусіла страпянуцца. — То вы былі, а то раз... — і зніклі.

Толькі цяпер пазнаў ён кабету, што сядзела... — «Калі ж гэта было, у дзень прыезду?» — на супрацьлеглым баку бульвара ды прыспана ківала галавой. Герман насупіў бровы, згадаў пачутыя калісь жаночыя сакрэты («Схапілася за казытун, а ён кво-олы...») і яму стала ніякавата.

— Дзяўчынкі... мячык за кусты закінулі — я і палез даставаць, — голас Германавы здрыгануўся.

— Мячык? — з пракурорскай іроніяй перапытала мажнуха, — закінулі?..

— Закінулі, — няўпэўнена прамармытаў Герман, адчуваючы, як шчокі і шыя поўняцца гарачай крывёй.

Ногі ў незнаёмкі былі ацёклыя, пакрытыя мярэжай сініх жылаў.

— У мяне квіток лішні... на Грызадуба. Узялі з сяброўкаю, а яна мусіла дахаты з'ехаць. Дык, можа, складзяце кампанію?

Герману стала горача. Ён яшчэ нічога не сказаў, а кабета ўжо тыцнула ў ягоную руку квіток, памкнулася да выхаду і ля самых дзвярэй махнула, на знак блізкай сустрэчы, рукою. Дрыжачыя пальцы разгарнулі квіт. Канцэрт пачынаўся а сёмай гадзіне, у Палацы культуры імя Шаўчэнкі.

— «Рад пяты, месца дваццаць другое», — уголас прашаптаў Герман і аддыхаўся, ды так напорліва, што квіток вырваўся з пальцаў, паляцеў на падлогу, і давялося кідацца за ім пад ногі нейкай бабулі. Бабуля з дзіўным для яе гадоў імпэтам падскочыла, спалохана войкнула і, паправіўшы спадніцу, прамармытала:

— А далібог, шалеюць мужыкі на курорце.

Аж да самага абеду Герман не знаходзіў сабе месца. Доўга і бязмэтна сноўдаўся па санаторным двары, потым цэлую гадзіну стаяў ля газетнага шапіка, гартаючы жыццяпіс Сцяпана Бандэры, нарэшце вырашыў паспаць перад абедам і ў дзвярах пакоя сутыкнуўся з Лазюком. Сусед два дні праляжаў у ізалятары і вярнуўся адтуль няголеным і дарэшты ўсхваляваным.

— Хадзіў зараз... шукаў... паскуду гэтую, — задыхана паведаміў Лазюк, мерачы пакой нервовым крокам. — Ягонае шчасце, што ў Моршын з'ехаў... А то б я яму паказаў... сродак ад рака.

Герман плюхнуўся на ложак, адчайна, да храбусцення ў костках, пацягнуўся.

— Хто з'ехаў? Кандыба?

Пачуўшы прозвішча ўрынатэрапеўта, Лазюк сцяўся, заціснуў далонню рот, здушана вякнуў і, змахнуўшы з правага вока буйную слязіну, прамармытаў:

— Гера... прашу як сябра... не называй больш гэтае прозвішча.

## XIII

Палац культуры імя Шаўчэнкі хаваўся ў засені ліп ды каштанаў і звонку нагадваў бетонную стадолу. Трымаючы ў потнай руцэ запаветны квіток, Герман увайшоў у фае, наструненым позіркам пашукаў кабету ў гіпюравай кофце, і сэрца ягонае ёкнула: сярод стракатага, прапахлага дарагімі духамі натоўпу ён убачыў дзяўчыну сваіх мараў — светлавалосую праваднічку. Праз імгненне кабета, якую ён прыняў быў за праваднічку, азірнулася, бліснула залатым зубам, прыклала далоні да рота,

клікнула праз людскія галовы нейкую Аксану. І прызабытая туга па светлавалосай дзяўчыне ізноў здушыла сэрца, і ўваччу, каторым разам, паўстаў мокры перон, мітуслівыя людзі з валізамі і дзявочая постаць ля крайняга вагона.

Калі ён увайшоў у залу, Грызадуб — невялічкага росту, з пукатым чэравам мужчына — ужо быў на сцэне, і высокая, апранутая ў даўгую сукню кабета, якая стаяла ля раяля, пракураным голасам абвяшчала: «Українська народна пісня “Тай орав мужык край дорогы”».

— Сюды! — гукнулі з залы, і Герман убачыў ускінутую руку.

Ягонае месца, на шчасце, было з краю.

— А я думала, не прыйдзеце, — шапнула кабета, крануўшыся Германавай рукі.

На кабеце быў аксамітны, са шнуроўкай на грудзіне кабат і гэткая ж аксамітная, не па гадах куртатая спадніца.

Пакуль Герман ладкаваўся ў крэсле, спявак кашлянуў, шматзначна азірнуўся, і піянічка, што абвяшчала нумар, захоплена ляснула па раяльных клавішах.

— «Тай орав мужык край дорогы, тай орав мужык край дорогы...» — заспяваў Грызадуб, і Герман незадаволена паморшчыўся: народнай музыкі ён не любіў.

Кабеціне, падобна, такія песні таксама былі не ў жылу, бо яна ўвесь час круціла галавой, абцягвала куртатую спадніцу, а калі піянічка абвясціла другі нумар — песню пра Гамзю, — тыцнула Германа локцем пад бок:

— Можа, пойдзем?

Стуліўшы, як у тым вясковым клубе, спіны, яны выйшлі ў гулкае фае і праз пару хвілінаў з задавальненнем удыхнулі п’янкога, настоенага на паху ліпавай квецені паветра.

— Гэтым Грызадубам усе вушы прабубнілі, — буркнула кабета, мелькам папраўляючы прычоску. — Ну, паслухала я яго... І што ў ім добрага? Голас як голас. Вось у нашу маладосць... памятаеце Абадзінскага? Во была галасіна! Наш спявак, украінскі, хаця і спяваў па-кацапску.

«Колькі ж ёй гадоў?» — з хваляваннем падумаў Герман, а ўбачыўшы, як пагрозліва страсянуліся пад напятай шнуроўкай неабдымныя грудзі, захваляваўся яшчэ больш.

— Я ў «Каштане» жыву. У нас там адна Данеччына адпачывае... шахтары з жонкамі. Божухна, якія абмежаваныя людзі.

«Няйначай, шосты дзясятак размяняла», — Герман пакасіўся на друзлыя калені.

— Учора пазнаёмілася з адной настаўніцай... жыве ў суседнім пакоі. Ну, думаю, інтэлігентка, пра літаратуру пагамонім, пра мастацтва. Пачала я гаманіць, а яна мне: «Ты, Дана, Віктара Дзюдо чытала?» Страсянула галавой, думаю, што за Дзюдо такі? Аж высветлілася, што яна Віктора Гюго мела на ўвазе.

Хваляванне, якое спарадзілі неабдымныя грудзі, не толькі не мінала, але займала ўсё большы прастор у душы. Герману згадаўся аповед пра тое, як нейкая хворая на СНІД кабеціна, прыехаўшы на курорт, заражала смяротнай хваробай залётнікаў, і неўпрыкмет выцер рукавом халодны пот з лабешніка.

— Мяне, дарэчы, Данай завуць, — кабета, як нічога ніякага, узяла Германа пад локаць, і яны сышлі па гранітных сходах у засень густых каштанаў.

Хвіліну ішлі моўчкі — кабета відавочна чакала, што ён назаве сваё імя, але Герман маўчаў, бо ад хвалявання язык прысох да паднябення, і неўзабаве, на мастку праз ручай, кабета агучыла тую думку, што неадвязна зумкала ў Германавай галаве.

— І чаго гэтая баба да мяне прычапілася?

Кабета засмяялася, спрытней абхапіла ягоную руку, і яны рушылі па бульвару, прыканцы якога ружавелі на вечаровым сонцы выгінастыя лоджыі санаторыя «Каштан».

— Ву-унь маё акно, — прамовіла Дана, паказаўшы пальцам на верхнія санаторныя паверхі, — бачыце, там яшчэ чырвоная саколка сушыцца.

Герман прымружыў вочы, але ніякай саколкі не ўгледзеў.

— І даўно вы тут... адпачываеце? — прамовіў, нарэшце, наш герой голасам дрогкім і задушлівым.

— Хто адпачывае, а каму і працаваць даводзіцца.

Словы такія яшчэ больш устрывожылі, і Герман паспрабаваў вызваліць руку.

— Да вы не хвалюйцеся. Я пісьменніца. Збіраю тут матэрыял для свайго новага рамана. Рабочая назва: «Даследаванні ўкраінскага сексу». Як вам назва?

Герман тузануў плечуком, напружана пасміхнуўся.

— Што ні кажыце, а матэрыял для падобнай рэчы можна сабраць толькі тут, у санаторыі, — кароткае імгненне пісьменніца глядзела на ружовае сонца, потым чхнула, гукнула пахахляцку: — Выбачайтэ, — і палезла ў кішэнь па насоўку. — Вы мяне адразу зацікавілі... як тыпаж, — пісьменніца гучна смаркнулася, склала насоўку ў тры столкі.

Пасля таго суразмоўнік таксама дастаў насоўку і выцер упрэлую шыю.

Як ні натурыўся Герман, а мусіў, цягнуты за рукаво, пайсці разам з пісьменніцай у кавярню «Марозіва». Кавярня тая — скрозь шкляная і круглая — стаяла поруч з санаторнай будынінай. і з дынамікаў, што віселі ля ўвахода, вырываўся на прасцяг знаёмы голас: «Тай орав мужык край дороги, тай орав мужык край дороги...».

Яны селі за крайні столік, пісьменніца замовіла чарнявай кельнерцы два келіхі кагору, два марозівы з вішнямі, а Герман тым часам з трывогаю памацаў кішэнь, у якой бразгала пяць грыўняў.

Даследніца ўкраінскага сексу прыпаліла цыгарэту, з лёгкай ironіяй зірнула на Германа, але тут жа — паўзверх Германавай галавы. У тым баку, куды яна глядзела, гучна засмяяліся і нейкая кабета з інтанацыяй блізкага шчасця прамовіла:

— Прыеду дахаты-ы, улагоджу мужыка-а... — і-і на кухню... Бульбу дзерці. Паміраю тут без дранікаў.

Ён не азірнуўся, адно ўвабраў галаву у плечы, і калі праз хвілю Пергідроль з даўганосай шатэнкай прайшліся міма, сарамліва адвёў убок вочы.

— Знаёмыя? — запыталася пісьменніца, пусціўшы ў суразмоўніка струмень разрэджанага дыму.

— Зямлячкі... у цягніку разам ехалі, — буркнуў суразмоўнік.

— І адкуль жа вы ехалі? Мяркуючы па акцэнце, з Чарнігава.

— Ды не... з Беларусі.

Пачуўшы пра Беларусь, пісьменніца зірнула на яго з яшчэ большай іроніяй.

— Вас яшчэ там за мяжу пускаюць?

— Як бачыце, — з нервовымі ноткамі ў голасе выгукнуў Герман, і пісьменніца, каб улагодзіць сітуацыю, узняла келіх з кагорам.

Віно прайшло ў нутро з цяжкасцю; нібыта жыклёр нейкі паставілі ў шлунках. Герман здушана кашлянуў, і ў той жа міг віно напоўніла страўнік прыемнай цеплынёю.

Колькі часу яны сядзелі моўчкі. Герман еў марозіва, а пісьменніца, адкінуўшыся на прыслон крэсла, пускала колцы тытунёвага дыму і раз за разам прыкладвалася да келіха з віном.

— Я тут надоечы паўгода ў Таронта жыла, — азвалася, нарэшце, даследніца сексу, насунуўшы на стол свае аграмадныя грудзі. — Усё-о дні лічыла — калі дахаты паеду. І вось прыехала... Гляджу цяпер на ўсіх гэтых кацапаў ды назад у Канаду хачу вярнуцца.

Суразмоўніца адным дыхам дапіла кагор, правяла сурвэткай па фарбаваных вуснах, скоса зірнула на трох наведнікаў, якія ладкаваліся за суседнім столікам. Усе трое гаманілі парасейску і былі на лёгкім падпітку. Адзін з іх — высокі, стрыжаны «пад вожык» бамбіза, — разгарнуў меню, голасна прачытаў: — «Морозыво з горіхамы», — і дакорліва паківаў галавой. — Хаця б па-руску прадублявалі, ёкалэманэ... «маро-озыва». Прачытаеш такое і есці не захочаш.

Пісьменніца зыркнула на бамбізу з непрыхаванай пагардай.

— У нас у палку быў адзін гуцул... Астапам звалі, — бамбіза махнуў рукою кельнерцы. — Кампалка выклікаў аднойчы: «Ну, таварыш сяржант, як будзе па-ўкраінску “Я не буду есці марожанае, бо яно халоднае і дарагое”?» Той лоб пачухаў: «Ну, як будэ... “Я нэ буду йісты морозыво, бо воно холоднэ та дорогэ”?» Кампалка рагатнуў і кажа: «Ну і х... з табой, еш тады гаўно: яно цёплае і дармавое».

Тройца выбухла рогатам, а пісьменніца, падхапіўшыся на ногі, кінула на талерку пяць грыўняў адной паперкай, шпаркай хадою рушыла да выхаду. Герман пабег быў следам, але тут жа вярнуўся, залпам дапіў віно і, пужліва азіраючыся, выбег з кавярні.

Ён ужо збіраўся бегчы ў бок свайго санаторыя, ды тут пачуў сярод людской гаманы ўладны воклік:

— Шчё став? Пішлы! — і, насуперак уласнай волі, пайшоў да кабеты, якая чакала яго ля ўвахода ў «Каштан».

Пісьменніца жыла на восьмым паверсе, у аднамесным нумары, з акна якога былі бачныя залаціста-ружовыя Карпацкія горы. Краявід уражваў, але глядзець у акно доўга не давялося, бо позірк адцягнуў каляровы плакат, што вісеў на сцяне і на якім дзве абсалютна голыя жанкі — адна зусім маладая, а другая зусім старая, — стаялі, абняўшыся, і цалаваліся прысмокам. Шчокі Германавыя сарамліва загарэліся, і ён перавёў позірк на закіданы паперамі стол. Гаспадыня пакоя і сапраўды, відаць, была пісьменніцай, бо паперы валяліся не толькі на стале, але і на падлозе, а пасярод стала стаяў мініяцюрны камп'ютар — гэткая скрыначка з экранам.

Гаспадыня тым часам дастала з лядоўні пачатую, нетутэйшага выгляду бутэльку, покнула коркам, напоўніла залацістай вадкасцю два маленькіх кілішкі.

— «White Horse»... яшчэ з Таронта...

Гаспадыня села на скураную канапу, ляпнула далонню па канапнай спінцы, і госць нясмела прысеў поруч.

Цёплая жаночая рука балюча схапілася за чупрыну, і Герман з перапуду ўвагнаў галаву ў плечы.

— Я ведаю, чаму вы хаваліся ў кустах. Вы слухалі жаночыя сакрэты, — пісьменніца паслабіла спохват, правяла рукою па ўстаўбураных Германавых валасах. — Мне падабаюцца такія мужчыны. Бо я перакананая — мужчыны павінныя ведаць пра жанчын усё! Толькі тады сексуальнае пачуццё набудзе сапраўдную сілу.

Даследніца сексу кульнула чарку, кранулася Германавага калена і неўзабаве знікла ў ванным пакоі.

За сценкай перарывіста зашумела вада.

«Бегчы... бегчы прэч ад гэтай кабылы!» — гарлаў на ўсе застаўкі нутраны голас, вочы неадрыўна глядзелі на ключ, што тырчаў у дзвярах, але ногі не рухаліся і нейкая чортава сіла не давала падняцца.

— Збачэнка! — прашапталі дрыжачыя вусны, дзверы ваннага пакоя адчыніліся, і пісьменніца паўстала перад ім ва ўсёй

сваёй распусце. На ёй быў серабрысты купальнік з вялікімі дзіркамі на тых мясцінах, якія жанкі прыхоўваюць ад чужых вачэй. Герман з ашалелым адчаем зірнуў на цёмныя плямы грудзей, на жарыя валасы, што вытыркаліся з дзіркі, і ўзмакрэлая спіна ягоная намёртва ўбілася ў прыслон скураной канапы.

Гарачыя вусны крануліся шыі, зачапілі мочку вушэй, з млявай павольнасцю прашапталі:

— Ідзі, прымі душ... ад цябе пахне марозівам.

Герман споўз на падлогу, пралез між тоўстых ног, на карачках дапаў да дзвярэй і, крутнуўшы ключ, выкуліўся на калідор.

— Дывысь, Оксана, другі за дэнь вылітае! — крыкнула ў канцы калідора прыбіральшчыца, што мыла падлогу. Герман паслізнуўся на мокрай падлозе, але, на шчасце, не ўпаў, адно туфель зляцеў з нагі, і так, з прыціснутым да грудзіны туфлем, прыпадаючы на правую, бестуфельную нагу, небарака прачыкільгаў восем паверхаў і толькі ў фае перавёў дых.

Да свайго санаторыя ён шыбаваў нервовым подбегам, а заляцеўшы ў пакой, плюхнуўся на ложак і, па старой звычцы, з галавой схаваўся пад коўдру.

— Гера, здарылася што? — запытаўся Лазюк, але Гера змаўчаў.

— Вечарам не трэба швэндацца. А то тут і забіць могуць. Мне вунь у цырульні так і сказалі: «Будзеш вякаць — дахаты не даедзеш», — прамармытаў Лазюк і тужліва ўздыхнуў.

## XIV

Наступным ранкам Герман, як заўсёды, прачнуўся а шостай гадзіне, але ў бювет не пайшоў. Ляжаў, закінуўшы рукі за патыліцу, згадваў свае ўчарашнія прыгоды ды слухаў краем вуха Лазюковую балбатню. Сусед яшчэ дасвеццем збегаў на вадапой і цяпер наракаў, што ад «нафтусі» могуць раскрышыцца зубы і што калі б замест Гарбачова абралі генсекам Лукашэнку, дык мы б зараз гора не ведалі.

Герман згадваў жарую валасню, цёмныя смочкі грудзей, што выпіналіся праз дзіркі серабрыстага купальніка, і пасля кожнай такой згадкі цела ягонае скаланалася ад дрыжыкаў.

Самае крыўднае было тое, што ад пісьменніцы ўчора ўжо выкульваўся нейкі небарака. «І я туды ж», — скрушна падумаў Герман і стаў падлічваць, колькі такіх ёлупняў выкульваецца за тыдзень. «А хто не выкульваецца, з тымі як? Можа, прыдушыла каго сваімі кавунамі?» Каб пазбыцца ганебных успамінаў, Герман крутнуўся на правы бок, стаў аднаўляць у памяці дзявочую постаць на мокрым пероне, але не аднавіў, забыўся неглыбокім сном і прачнуўся праз дзве гадзіны, пачуўшы суседаў голас:

— Уставай, пара на сняданак!

Тыцкаючы лыжкаю ў талерку з бурачнай салатай, Герман глядзеў спадылба на херсонскіх мужланаў і стоена, амаль зларадна, пасміхаўся краёчкамі бурачна-чырвоных вуснаў. Сарафаністыя саракоўкі падаліся дадому, — надоечы яны сталі з валізамі на аўтобусным прыпынку, — і іх месцы занялі дзве стагадовыя порхаўкі. Херсонцы з тае нагоды сядзелі насупленыя, уторкнуўшы насы ў талеркі, і за ўвесь сняданак не прамовілі ні слова. Ужо п'ючы кампот, яны раптам заспяшаліся, падхапіліся на ногі і пабеглі на хаду, на хаду выплёўваючы на далоні косткі сухафруктаў.

«Відаць, на выправу позняцца», — падумаў Герман, і ў той жа міг усмешка збегла з вуснаў, і ён, па прыкладу херсонцаў, падхапіўся на ногі: згадаў, што сёння субота і што а дзявятай гадзіне ён сам мусіць ехаць на выправу — глядзець пячоры, дзе хаваўся Алекса Доўбуш.

...Струмок гарэзлівага ветрыку варушыў валасы на патыліцы, і сэрца захоплена сціналася, калі мікрааўтобус з шалёным імпэтам з'язджаў з пакатай гары. Даўно не зазнаваў Герман такога задавальнення ад хуткай язды. Ён сядзеў, адкінуўшыся на прыслон мяккага крэсла, і праніклівымі, па-дзіцячы іскрыстымі вачыма глядзеў на гарбатыя пагоркі, на разлеглыя, кранутыя шызай павалокай лагчыны, па якіх блукалі авечыя чароды, і сэрца ягонае прасіла песні.

Наперадзе, каля кіроўцы, сядзеў той самы мужчына ў пацёртым брылі, што прадаваў квіткі, і залівіста распавядаў у

мікрафон пра нейкіх апрышкаў ды іхнага верхаводу Алексу Доўбуша. Зрэшты, Герман не надта і слухаў выпраўцу — быў захоплены карпацкімі краявідамі, — і толькі зрэдзьчасу наструньваўся, прыслухоўваючыся да галасоў за спінаю. Там, на заднім сядзенні, голасна гаманілі і разняволена смяяліся херсонскія мужланы з дзвюма расфуфыранымі кабетамі. У адной з кабет на носе былі люстрана-чорныя акуляры.

— Дывытэся, панове... Он там, в долыне, лэжыць місто Стрый, — крахтануў дынамік, а тым часам за спінаю выбухнулі смехам херсонцы.

— Ну, а адкуль вы прыехалі, прыгажуні? — пытаўся адзін з мужланаў.

— Мы з Кіева, а вы?

— З правінцыі, — з жартаўлівым уздыхам прамовіў мужлан, і ягоны сябрук таропка дадаў:

— Але мы не правінцыялы.

— Глянуўшы на вас, гэтага не скажаш, — выдыхнула адна з кабет, і ўсе разам — херсонцы робленым смехам, а кіеўкі залівістым і шчырым — засмяяліся.

Мікрааўтобус тым часам заехаў у цяністую даліну, і за акном зыркім срэбрам заблішчэла рака.

— Ой, як прыгожа-а! — хорам заспявалі кіеўкі.

Чалавек у брылі ляпнуў кіроўцу па локці, і той з’ехаў на край дарогі.

— Дзяўчынкі налева, хлопчыкі направа, — пажартаваў адзін з херсонцаў, і адна з кіевак, вылазячы з салона, прамармытала:

— Божухна, якія банальныя жарты.

Усе разам падаліся да ракі.

— А што за вёска... ву-унь на тым беразе? — запытаўся нехта з экскурсантаў.

Чалавек у брылі прыклаў далонь да лоба.

— Білогоршча. У сорок дэв’ятым році з цього сэла всіх высэлылы. Тут Шухэвыч з хлопцямы гуляв. Командыр УПА.

— Правільна зрабілі, — буркнуў лысы экскурсант — той самы, што сядзеў з Германам на адным сядзенні, — і з жарсцю шпурнуў у ваду пляскаты галыш.

Камень адскочыў ад вады аж восем разоў.

Калі кабеты адышлі ўбок, адзін з херсонцаў таксама шпурнуў камень і запытаўся ў сябра:

— Ты якую бярэш? У чорных акулярах?

— Бяры ты... дзвюх адразу, — муркнуў сябрук, выглядаючы сярод галькі пляскатага галыша. — Два тыдні з драгобыцкімі сцыкухамі правалэндаліся, цяпер з гэтымі будзем халявы смаліць? У мяне ўжо яйцы апухлі... Трэба шукаць якіх паппрасцей. Чатыры дні засталося, сёння ўжо дваццаць першае...

— Як дваццаць першае? — усхапіўся Герман.

Толькі цяпер згадаў наш герой, што курортнае жыццё заканчваецца, што заўтра ад ранку ён мусіць хапаць валізу і бегчы на цягнік, і, зірнуўшы на спусцістую, зацягнутую шызай смугой гару, адчуў прагнае жаданне зліцца з ёю душою.

## XV

Ад самага ранку ў грудзіне, як гэта бывае напярэдадні ад'езду, пасяліўся трапяткі халадок. Герман завітаў — раз астатні — у бювет, выпіў на развітанне дзве шклянкі «нафтусі» і потым доўга блукаў сярод натоўпу, слухаючы, як трывожна бухае знямелае сэрца ў прадчуванні спаткання з праваднічкай.

Адразу ж пасля сняданку ён стаў пакаваць валізу, і зямляк Лазюк з уздыхам прамовіў:

— Куды ты столькі набраў? Рукі адарвеш.

У валізе ляжалі аж чатыры пляшкі «Кадаркі» — віно тут было зусім таннае, таму і набраў столькі. Герман кляцнуў зашчапкамі, узважыў валізу на руцэ і, таксама з уздыхам, запытаў:

— Штопар ёсць?

Яны таропка, за нейкіх дзесяць хвілінаў, расціснулі пляшку, закусілі нейкімі піражкамі; Герман хацеў адразу развітацца, але сусед памкнуўся праводзіць яго да вакзала і падараваў на памяць свой зроблены ў выглядзе ключа штопар.

— Бяры, бяры... Захочаш у дарозе адкаркаваць — і не будзе чым, — гукнуў Лазюк, упіхнуў падарунак Герману ў кішэнь і, падхапіўшы валізу, падаўся ў калідор.

Да вакзала ішлі кружной дарогай, праз стары парк. Заманулася дыхнуць апошні раз водарам язміну ды адчуць гарачым днём прахалоду паркавай засені.

У тым месцы, дзе шырокі ходнік выбягаў на бульвар, Герман спыніўся, зайшоў у кусты, зірнуў адтуль на лавы, што стаялі ўздоўж ходніка, а ўгледзеўшы на крайняй ад парку лаве знаёмую пісьменніцу, выхапіў з Лазюковых рук валізу і, крыкнуўшы: «Пайду напрасткі!», кінуўся ў зарасці калючай акацыі.

— Гера, ты куды?! — галёкнуў Лазюк, але той не адказаў. Ляцеў па кустах, абмінаючы бульвар і тое страшнае месца, дзе сядзела распусная бабізна.

Да свайго вагона ён падбег у той момант, калі праваднічка — тая самая, з чорным пухам пад сінім каўказскім носам, — падымала вагонную прыступку. Дарэшты задыханы, з булькатлівым вінinformal у чэраве, Герман улез у тамбур і доўга, аж пакуль цягнік не набраў хаду, стаяў там, асавела пазіраючы на перон. Потым, калі правадніца зачыніла дзверы і рушыла па калідоры, пайшоў следам, утрапёна-трывожнымі вачыма зазірнуў у катух, дзе сядзяць праваднікі, і, набраўшыся смеласці, запытаў:

— А дзе тая маладзіца, што з вамі працавала?

Кабета азірнулася.

— Пра каго вы кажаце? Пра Верку ці Светку?

— Ну, белая такая...

— Верка? Узяла тыдзень за свой кошт. Замуж выходзіць.

Правадніца пайшла ў канец вагона, цягнік тузануўся, і небарака балюча стукнуўся галавой аб край напалову прачыненых дзвярэй. З купэ даляталі знаёмыя галасы.

— Прыеду, паспрабую варэнікі згатаваць... з тварагом і вішнямі. Аксана рэцэпт напісала, — зяхліва гугніла Пергідроль.

— Якая гэта Аксана? Тая, што з капітанам круцілася? — пыталася даўганосая шатэнка.

Герман шырока рассунуў дзверы.

— О-о! Старыя знаёмыя! — праспявала Пергідроль, разразаючы нажом квадратны торт. — Заходзьце, зараз будзем гарбату піць.

Герман сеў на лаўку, памацаў пабіты лоб.

— І не здароўкаецеся, — прамовіла ў сваю чаргу шатэнка, згадаўшы іх сустрэчу ў кавярні «Марозіва».

— А гэта хто з вамі быў? Ваша мама? — пажартавала Пергідроль, ды тут жа асеклася, пабачыўшы, як наліліся крывёю Германавы вочы.

Дзень быў спякотны, і ў купэ панавала задуха. Пергідроль падскочыла, апусціла вагоннае акно, і купэ працялі напорлівыя струмені ветрыку.

— Вам, мужчына, блага? — запыталася шатэнка.

Герман нічога не адказаў, і спадарожніцы, пераглянуўшыся, выйшлі ў калідор.

...Валасатая рука лашчыць дзявочыя калені... Уява была такая яскравая, што Герман нават застагнаў, і яму стала страшэнна горача. Ён скінуў кашулю, выцер ліпучы пот з пабітага лоба, спруцянелымі пальцамі адкрыў валізу. Небарака вырашыў напіцца.

Калі праз гадзінку жанчыны вярнуліся ў купэ, іхны распрануты па пояс спадарожнік ляжаў на лаўцы і штосьці няўцямна мармытаў. Поруч, на століку, стаяла пустая пляшка «Кадаркі».

— Дык ён, аказваецца, алкаш! — выдыхнула Пергідроль, ладкуючыся на лаўцы; жанчына піхнула азадкам Германавы ногі. — Як капітан. Той усё спаў, п'яны, на Аксаніным ложку. Аднойчы нават абасцаўся.

— Можа, гора якое ў чалавека? — нясмела прамовіла сяброўка, кіўнуўшы на Германа.

— Якое там гора! Звычайны курортны раман, — Пергідроль выцягнула з сумачкі люстэрка і губную памаду. — У «Каштане», казалі, нейкі дзівак нават застрэліўся.

У гэты момант Герман зварухнуўся і змучана прастагнаў:

— Вера...

— Чула? — выдыхнула Пергідроль, падмалёўваючы прыпухлыя вусны. — Відаць, тая старамордзіна сніцца, з якой марозіва еў.

Жанчына ўважліва паглядзелася ў люстэрка, падправіла кудзеркі на скронях.

— Заўтра ж пайду зраблю стрыжку.

— А дзе ты стрыжэшся? — шатэнка гідліва, двума пальцамі ўзяла са стала пустую пляшку, піхнула пад лаўку.

— Як дзе? У «Экстрыме». У мяне там свой цырульнік.

— «Экстры-ым», — шатэнка, нібыта прыгадваючы штосьці, прымружылася.

— Ай, ну глядзі... — Пергідроль акінула купэ імклівым паглядам і, не знайшоўшы нічога лепшага, правяла памадай па Германавай спіне. — Во гэта праспект, вось тут, — памадная рыса дапаўзла да аголенага хвастца, — паварот на Сурганава. Далей там нейкая крама, а тут, — над левай кумпячынай з'явіўся нязграбны крыжык, — дзевяціпавярховы дом. Уваход з двара. Там яшчэ шыльда вісіць.

Пергідроль хацела было падмаляваць верхнюю губу, але тут жа шпурнула памаду ў прачыненае акно і падчапіла на нож вялікі кавалак торта.

## XVI

На чацвёрты паверх ён уздымаўся паволі, прыпыняючыся на кожнай пляцоўцы. Дый дзіва што: сэрца з перапою лезла вонкі, а слых поўніўся замарачным шумам. Дапяўшы да сваёй кватэры, ён выцягнуў ключы, але адчыняць не стаў — тыцнуўся носам у дэрмацінавую абіўку і замер, згадваючы густыя акацыі, старыя дубы і цяністыя сцяжынкі трускавецкага парку. Гаротны ўздых вырваўся з грудзіны.

Ён доўга не мог патрапіць ключом у шчыліну, а калі патрапіў, дзверы здрыгануліся ад грымотных выбухаў. Усхваляваны, Герман спалохана ўвайшоў у святліцу. Скаланаў свет швагер Мікола — стаяў на ўслоне і біў малатком па дзюбелі.

— О-о! Гера! Даўно чакаем!

— Гзымс прыбіваеце? — Гера зірнуў на ўбіты ў сценку шпень.

— Прыбіваем. Мужыка ж у хаце няма. Два гады ляжыць, не прыбіты, — Лізавета выйшла з кухні, цягнучы пад пахай каробку з дэкаратыўным гзымсам. Халеру тую Лізавеце падаравалі калісь таварышкі па службе.

— З паўабарота заводзіцца, — буркнуў Гера і рушыў у ванную, на хаду здымаючы кашулю.

— Э-э! А што гэта? — выдыхнула Лізавета, і каробка з гзымсам пляснулася на падлогу. — Коля, ты глянь. У яго ж уся спіна памадай спісана!

Улякнуты жончыным крыкам, Герман падбег да люстра, што вісела ў вітальні.

— Яшчэ глядзецца будзе, паскуда! Я дзень да ночы працую, пуцёўку яму ўзяла, а ён... прыехаў... курвамі размаляваны!

У Германа было такое адчуванне, што ўсё гэта адбываецца не з ім.

Мікола саскочыў з услона, пачухаў малатком за вухам.

— Гера... ты нам павінен усё распавесці, — голас Міколы набыў трывожныя ноткі. — Дзе ты быў? Мы цябе ўчора чакалі.

— Ты што, не бачыш, дзе ён быў?! — плаксіва выдыхнула Лізавета, і Мікола махнуў перад яе носам малатком. — Ды сціхні ты... справа сур'ёзная. Не бачыш — сатанінскія знакі намаляваныя!

— Ты мне зубы не загаворвай. Знайшоўся тут... адвакат Рэзнік.

Мікола пачухаў малатком ніз жывата і, выставіўшы палец: маўляў, я зараз, — падаўся з хаты.

— П-паскуда, — прасіпела Лізавета, удыхнула паветра, каб сказаць нешта яшчэ больш крыўднае, ды тут у вітальню заляцела пакліканая Міколам суседка Аляўціна. На твары яе была мядовая маска, а ў валасах матава бліскалі бігудзі.

— Гера, што такое?! — не сваім голасам азвалася суседка, а ўбачыўшы Гераву спіну, у жаху заціснула мядовы рот абедзвюма далонямі.

Хвіліну стаяла напятая цішыня, якую перарвала дарэшты ўсхваляваная суседка.

— З правага боку зорка Люцыпара... а гэта... — дрыжачы палец паказаў на размытую чырвоную рысу, якая паўзла ўздоўж хрыбціны... веліярава маланка... і б'е яна... — куды б'е маланка, Аляўціна не сказала, бо тую мясціну прыкрывалі трусы, і зноў у жаху заціснула рот — цяпер ужо адной далонню.

— Ды хрысціся ты, Аля... якія маланкі?.. Хахлушкі размалявалі, п'янага...

Лізчыны словы абурылі Міколу.

— Ты што, не бачыш, які ён прыехаў? Ды ён жа на сябе не падобны, — з гэтымі словамі — з малатком у руцэ — Мікола ізноў выбег з кватэры.

Праз паўгадзіны, калі Герман выціраўся пасля душа, да вушэй ягоных даляцеў сакавіты барытон:

— «Да воскресе Бог и расточатся врази Его...»

Ад хвалявання Герман доўга не мог патрапіць нагой у трусы.

— «И да бежат от лица Его ненавидящие Его...»

Сівабароды бацюхна — у расе, але без крыжа на грудзіне, — хадзіў па пакоях і махаў мокрай мяцёлкай. Следам за ім хадзіла ўсхваляваная Лізавета.

— «Яко тает воск от лица огня, тако да погибнут беси от лица любящих Бога...» — прамовіў бацюхна, махнуў мяцёлкай, і Герман пацепнуўся ад халодных пырскаў.

— Ну як? — шматзначна шапнуў Мікола, калі расстрыга, піхнуўшы пад расу пляшку прывезенага Германам віна, падаўся прэч. — На жанчын дзейнічае безадказна.

— Далібог, не ведаю — адкуль тая памада... — буркнуў Герман, і швагер з вясёлым адчаем ляпнуў яго па плячы.

— Ды ладна, чаго ўжо там... У нас адзін дык наагул прыехаў... з педыкюрам на нагах. Бабы ў апошнюю ноч намалявалі, а ён, па п’янцы, не ўгледзеў, — швагер крэкнуў, з разважлівай павольнасцю напоўніў шклянкі.

Яны не паспелі выпіць пляшку «Кадаркі», як у дзверы — працягла і патрабавальна — пазванілі. Герман, як быў — у адных трусах, — выйшаў на калідор і сутыкнуўся з маладой кабетай, якая таропка выцягвала з сумкі нейкія шнуры. З-за яе спіны выглядвала суседка Аляўціна.

— Карэспандэнт «Гарачай лініі» Святлана Запартыка, — маладзіца азірнулася на Аляўціну, — ці маглі б вы распавесці нашым слухачам пра свой палон?

— Пра які палон?

— Вы ж, я чула, да сатаністаў патрапілі...

Ад злосці ў Германа нават сцягнула скуру на лобе.

— А пайшлі б вы ў сраку! — гаркнуў Герман на ўсе пяць паверхаў, бразнуў дзвярыма і схаладнеў душою, зразумеўшы,

што Аляўціна — кабета амбітная і звяглівая — яму гэтага ніколі не даруе.

Познім вечарам у кватэру ізноў пазванілі, потым пагрукалі і жалезным голасам загадалі:

— Адчыняйце! Міліцыя!

Цэлую гадзіну ён распавядаў участковаму пра сваю сустрэчу з сатаністамі, апісваў знешнасць спадарожніц, з якімі ехаў у купэ, і ў рэшце рэшт і сам паверыў у тое, што Пергідроль са сваёй сяброўкай з'яўляюцца агентамі Сатаны.

У панядзелак Герман выправіўся на працу і ледзь дачакаўся шасці гадзінаў — адвык сядзець за кульманам. Вылецеў са свайго інстытута і на аўтобусным прыпынку пачуў з вуснаў рабацішістай бабулі страшны аповед. Бабуля стаяла пасярод людскога збою і распавядала сяброўцы, як нейкі мужчына ехаў — «з гэнага... як яго... Трускавецку» — і ў цягніку на яго напалі дзве сатаністкі.

— Кажуць... аддай нам сэрца, і будзеш багатым.

— І што — аддаў? — перапытала перапужаная сяброўка.

— Аддаў! Прыехаў дахаты, і твару няма... увесь ссінелы. А на спіне сэрца намаляванае, і чорт з рагамі. Жонка адразу бацюхну паклікала. Бацюхна прыйшоў, малітву чытае, а гэнага як затрасе — вось так! вось так! — паказваючы, як калаціла небараку, бабуля страсянула ў паветры кулакамі.

Ад такога аповеду Герману стала ніякавата. Яму падалося, што ўсе, хто стаяў у чарзе, прызналі ў небараку яго самога і, не чакаючы аўтобуса, подбегам рушыў па ходніку.

Падымаючыся па прыступках, торкнуў пальцам у дзірку паштовай скрыні. У скрыні ляжала нейкая паперка. Спачатку падумаў, што гэта накіраванне на флюараграфію, і хацеў быў яе скамечыць, ды тут угледзеў, што паперка з псіханеўралагічнага дыспансера.

— Вось уліп, дык уліп, — прашаптаў наш герой і прамакнуў паперкай вільготную лабаціну.

**Эпілог**

— Ну-с, — выдыхнуў сухарлявы, чэхаўскага выгляду псіхіятр, калі пацыент уладкаваўся на крэсле. — Расказвайце...

— Што расказваць? — прамармытаў пацыент, зірнуўшы на медсястру, якая сядзела на другім баку стала і штосьці пісала ў журнале.

— Раскажыце — як патрапілі ў Трускавец, што там рабілі...

Лекар паляпаў косткамі пальцаў па стале.

— Надарылася непаразуменне. Мой швагер вырашыў пажартаваць... — таропка загаварыў пацыент, але псіхіятр ляпнуў па стале пяцярнёй.

— Я ўсё цудоўна разумею, але пачнем спачатку. Дык вось, вы паехалі ў Трускавец лекаваць пячонку.

— Ды пячонка ў мяне здаровая... Гэта ўсё швагер... ён пуцёўкамі загадвае. Ну і прапанаваў з'ездзіць... на 24 дні.

— Проста так прыйшоў і прапанаваў?

Пацыент кашлянуў у жменю, пакасіўся на медсястру.

— Ну, карацей, прысніласе мне аднойчы, што знік Лукашэнка...

— Як знік? — выдыхнулі адначасова і медсястра, і лекар.

— Ну так... знік і ўсё тут... — прамовіў пацыент і, зразумеўшы, што сказаў лішку, асуджана апусціў галаву.

Псіхіятр сціснуў рукамі скроні... Іншым разам можна было абысціся пігулкамі, ну, у крайнім выпадку, накіраваць на дзённы стацыянар, але пасля такіх прызнанняў ён мусіў адпаведна рэагаваць. Дый як не прарэагуеш, калі пад бокам сядзіць шпегоўка. Псіхіятр быў перакананы, што новую медсястру да яго падсадзілі знарок. Не давяраюць, курвы. «Кінуць усё... з'ехаць у Хайфу, да брата», — падумаў быў усхваляваны лекар, але тут жа ачуўся і кіўком галавы загадаў сястры пісаць накіраванне...

Герман другі год сядзіць у Навінкаўскай бальніцы, у 17-й палаце, не адказвае ні на якія пытанні і няўцямна мармыча штосьці пра дзявочыя калені.

Жонка ягоная, Лізавета Іванаўна, пабралася са сваім дачнікам, а швагру Міколу абралі дэлегатам Усебеларускага сходу і выдалі прэмію ў пяць «мінімалак» дзеля набыцця выхаднога гарнітура.

# ПАЛЁТ НАД БУСЛІНЫМ ГНЯЗДОМ

На дварэ канец траўня, і сонца грэе амаль па-летняму. Мы сядзім з сябрам на траве, прытуліўшыся спінамі да сцяны роднай школы, і слухаем, як за акном гугнявіць Элеанора Захараўна Гнядых — дзябёлая кабета, якую вучні міжсобку называюць Ужас. Школьныя вокны разнасцежаны, і чуваць, як у класе зумкаюць мухі і як засоплена дыхае настаўніца. Элеанора Захараўна мае сем пудоў вагі і ў спёку цяжка дыхае.

— Стихотворение Сергея Михалкова «А что у вас» нам прочтё-от... — Ужас, праўдападобна, перагарнула старонку класнага журнала, — Нюра Конопелько.

Я тыцкаю сябра локцем. Нюрка — ягоная малодшая сястра, якая вучыцца ў другім класе.

— «Кто на лавочке сидел, кто на улицу глядел...» — зычна пачала Нюрка, ды Ужас яе перапыніла:

— Конец урока, всё прочесть не успеешь. Начни вот с этого места: «Всех важней, — сказала Ната...»

— «Усех важней, — сказала Ната, — Мама вагонауважаты...»

— Вагоновожатый, — паправіла настаўніца, аддыхаўшыся.

— «Мама вагона... важаты,
Патаму што да Зацэпы
Водзить мама два прыцэпы...».

— Прицепа, — незадаволена папраўляе Ужас.

— «Патаму што да Зацэпа
Водзиць мама два прыцэпа...»

— До Зацепы! — голас Элеаноры Захараўны прыкметна дрыжыць.

— «Патаму што да Зацэпы...» — ледзь чутна выдыхае Нюрка, і Элеанора Захараўна са стогнам прамаўляе сваё ўлюбёнае слова:

— Ужас...

У класе запаноўвае ціша, якую парушае здушаны гук; усё адно як штосьці булькнула ў сажалцы. Гэта Элеанора Захараўна чхае. Дзіўны ў яе атрымліваецца чых, не такі, як у

нармальных людзей: паветра не вырываецца вонкі, а захрасае недзе ў грудзіне. І зіркачы пры гэтым лезуць з вачніц.

Мішка мружыцца на сонца, лыпае вейкамі і таксама чхае, ды так, што над нашымі галовамі бразгаюць аканіцы — Элеанора Захараўна зачыніла акно.

З апошняга ўрока нас адпусцілі — захварэла русічка. Але мы з сябрам дахаты не йдзем. Чакаем званка. Лёшка Гнядых, сын той самай Элеаноры Захараўны, прынёс у школу цікавую штуковіну. Пластмасавая ручка, унутры шпуля з лёскай; на яе насоўваюць прапелер, і, калі тузануць за лёску, прапелер шугае ў вышыню. Гэтую цацку Лёшку прывёз з камандзіроўкі бацька — сівагаловы маёр, які страшэнна падабаецца вясковым кабетам. На пярэрвах між урокамі Лёшка запускаў круцёлку, даваў пускаць пяцікласнікам, але да нас з Мішкам чарга так і не дайшла. І вось мы сядзім ды чакаем, калі ў Лёшкі скончацца заняткі. Сябар прагне даведацца, як тая штуковіна змайстравана, і ці то жартам, ці то ўсур'ёз мерыцца згламэздаць такую ж.

Сядзець і чакаць званка ўжо няма ніякіх сіл, таму — каторым разам на дзень — дастаю з кішэні нататнік. Скураны, яшчэ не пацёрты, з азбукай Морзе на адваротным баку вокладкі, я знайшоў яго надоечы ля клуба, і нават ведаю, хто згубіў. Кінамеханік Лябёдка! Бо там алоўкам былі напісаныя назвы «кін» і даты, калі іх будуць круціць. Я, вядома, гэтыя старонкі акуратна выдзер. Цяпер вось, як надараецца вольная хвіліна, завучваю азбуку Морзе. А калі казаць шчыра, пацвельваю сябра, бо ў яго такога нататніка няма.

Мішка хіліцца на мой плячук, шэпча аднымі вуснамі: «Кропка — працяжнік — А», у гэты міг лена бомкае званок, і мы подхопліваемся на ногі.

Першымі са школы вылятае малеча. Мы стаім ля ганка, цікуем Лёшку і чуем пагрозлівы голас Элеаноры Захараўны:

— Конопелько! Где твой пионерский галстук?

Лёшкава маці выйшла з бакавых, «настаўніцкіх» дзвярэй і свідруе Мішку сваімі ўедліва-калючымі вачыма.

Сябрук выцягвае з кішэні пакамечаны гальштук, і Элеанора Захараўна, пляснуўшы далонямі, выдыхае:

— Ужас!

Лёшка Гнядых выкульваецца са школы ў атачэнні гаманкой грамады.

— Лёш, дай запусціць, — гукаюць навокал, але Лёшка нікому нічога не дае — паважнай хадою ідзе ў бок старых прысадаў, што стаяць наўзбоч дарогі. На вялікім перапынку круцёлку пускалі ля самай школы, і яна заляцела на дах.

— Лёша, куды ты пайшоў? Зараз будзе аўтобус! — крычыць услед яму Элеанора Захараўна. «Гарадскіх» — так мы называем шкаляроў, што жывуць у ваенным гарадку, — штодня падвозіць дахаты зялёны вайсковы аўтобус.

Ужас яшчэ спрабуе дакараць Мішку Канапельку, але той не слухае: бяжыць за Лёшкам, хапае за рукаво.

— Пускаць не буду. Дай толькі паглядзець...

Сябар аглядае штуковіну, зазірае ў шчыліну, з якой тырчыць лёска, і з крыкам:

— Усё зразумела! — запускае круцёлку ў неба.

У канцы цяністых прысадаў нас даганяе аўтобус і накрывае аблачынай шэрага пылу. Праз пыльную смугу мы бачым, як Лёшка Гнядых, прыціснуўшы нос да шыбы задняга акна, крывіць твар. Маўляў, я еду, а вы пехам шнуруеце. Ды нам што... прайсціся такой парой на другі бок вёскі адно задавальненне. Гэта вунь Ленка Кудзелька з нашага класа — пяць кіламетраў тупае, ды ўсё лесам.

— Я надоечы ў Невель ездзіў, да стрыечнага брата. Дык у яго такая ж круцёлка... — сябар керхае, сплёўвае пыл з языка.

— Як у Лёшкі? А дзе ён купіў?

— Ды не купіў... — незадаволена крывіцца сябрук, — сам зрабіў. І лётае не горай ад Лёшкавага. Я быў запусціў, дык круцёлка таксама на дах заляцела. І не такой хаціны, як наша школа, а трохпавярховага дома. Так адтуль і не дасталі. Давялося новую выразаць.

— А з чаго выразалі? — я кідаю на сябра недаверлівы позірк, і Мішка, крэкнуўшы, сядае на кукішкі.

— У нас пад страхой стары серп уторкнуты. Дык вось, выцягваю з яго ручку, — сябар малюе пальцам на пяску штосьці

дарэшты невыразнае, — упіхваю аловак, на аловак насоўваю шпулю ад нітак, на шпулю намотваю лёску, — Мішка малюе даўжэзную рысу, — а прапелер выразаю з кансервавай бляшанкі... толькі, — сябар падымаецца на ногі, чухае макаўку, — бляшанку трэба ад тушонкі, яна большая.

Я гляджу на Мішкавы крамзолі і нічога не разумею.

— Ну што тут незразумелага? — азываецца сябар і пачынае маляваць схему ўжо не пальцам па пяску, а рукамі ў паветры. — Аловак абразаем, на аловак набіваем невялічкі шпянёк — у мяне дома такі валяецца, — на шпень насоўваем прапелер, і застаецца толькі тузануць за лёску.

— І што — паляціць?

Мішка дакорліва трасе галавой.

— І высока?

Сябрук глядзіць па баках, маракуючы, на якую вышыню можа заляцець круцёлка.

— А вунь да той буслянкі даляціць.

Прыканцы вясковай вуліцы, непадалёку ад Мішкавай хаты, стаіць старая ліпа з кудлатым гняздом на вяршаліне.

— Да буслянкі? — крыўлю я твар, і Мішка, зразумеўшы, што перабраў з вышынёй, чухае ўжо не макаўку, а патыліцу.

Я выцягваю з кішэні нататнік, ляпаю ім па далоні.

— Калі даляціць да буслянкі — так і быць, запісная кніжка твая.

Сябар цягнецца за нататнікам, нібыта паглядзець, ці вартая рэч угавору, але я адводжу руку.

— А ты мне што дасі, як не даляціць?

— Патрон! — не раздумваючы выпальвае Мішка. — Надоечы сябрук знайшоў у лесе ржавы патрон, адшараваў жарствой, і цяпер той блішчыць, як новы.

Я чухаю падбароддзе. Усё ж такі няроўны заклад: у мяне нататнік з азбукай Морзе, а ў Мішкі нейкі там патрон, якіх процьма валяецца ў лесе. Урэшце мы, на знак згоды, ляпаем далонню аб далонь.

Па дарозе збочваем да хаты цёткі Сцепаніды. Летась цётка пабралася шлюбам з вайскоўцам, і ў яе пад плотам ляжыць процьма тых самых тушоначных бляшанак. Ды што там ту-

шонка. Уся вёска бегае да цёткі, каб набыць спісаную вайсковую бялізну. Вось і ў іхнай хаце прасціны ды ручнікі пазначаны па ражках размытымі пячаткамі.

— Карацей, усё ёсць, апроч шпулі, — мармыча Мішка, выціраючы жмутом травы перапэцканую тлушчам бляшанку.

— А з ніткамі шпуля?

— Ну з якімі ніткамі? Я ж табе кажу: лёску намотваем, бо нітка парвецца.

Мне карціць зараз жа бегчы да сябра майстраваць «верталёт», але мушу ісці дахаты. Маці мая працуе на ферме, гэтым часам у яе дзённая дойка, і трэба быць дома, каб выгнаць карову. Дый шпулю трэба з дому прыхапіць.

...У печы, як заўсёды, забелены панцак, які абрыдзеў да смерці. На мінулым тыдні маці прынесла ад цёткі Сцепаніды торбачку грэцкіх круп, але кашы з іх так ні разу і не зварыла. Сказала: на чорны дзень.

Панцак не лезе ў глотку, таму наліваю ў конаўку цёплага яшчэ сырадою і п’ю, косячы вокам на матчыну швейную машынку. Машынка яшчэ дарэвалюцыйная, з аблупленымі нямецкімі літарамі: «Singer». Потым поркаюся ў скрынцы, дзе маці захоўвае рознае швейнае прычындалле, выглядаю шпулю, на якой мала нітак, і, схапіўшы гамёлку хлеба, бягу да сябра.

Мішка часу не губляе: сядзіць на лаве пад яблыняй і выразае нажніцамі прапелер з кансервавай бляшанкі. Тут жа, на лаве, ляжыць ручка ад сярпа з уторкнутым у яе алоўкам. Сястра Нюрка толькі што вярнулася са школы і шморгае носам — відаць, атрымала шчаўбана, бо надта ж любіць лезці ў братавы справы.

Сябар торгае галавой, і я працягваю шпулю з-пад нітак.

— Тое, што трэба, — ухвальна кажа сябар, а я наструньваю вуха: на дальнім канцы вёскі ўжо чутно каровіна рыканне і авечае бляянне.

— На вось, прывяжы да лёскі якую гладкую палачку, каб спрытней было торгаць.

Я тыцкаю пальцам у бок хаты, маўляў, няма калі, трэба выганяць карову, і Мішка махае рукой.

— Давай я прывяжу, — азываецца Нюрка; брат ускоквае на ногі, раз'юшана выдыхае:

— Ты яшчэ тут? — і мы з Нюркай выбягаем з двара. Дзеўчынёха бяжыць да сваіх сяброўак, што таўкуцца непадалёку, а я дахаты — выганяць Субоху.

Карова цягне вільготную мысу, чакаючы заўсёднага кавалка хлеба, але мне не да таго. Ліхаманкава скідваю з каровінай шыі ланцуг, цягну Субоху за рог. Маўляў, выходзь хутчэй, няма калі з табой важдацца. Карова незадаволена выходзіць на двор, але да весніц не ідзе: пачынае лізаць шурпатым языком уздзеты на парканіну гарлач.

— Пайшла ў поле, каб на цябе ліха! — гарлаю штомоцы. Словы гэтыя я часцяком чую ад маці. Пхаю карову пяткай у сцягняк, і Субоха, каротка рыкнуўшы, ганарыстай хадою сунецца да весніц.

Я прыспеў у самую пару: сябар ужо стаяў на ганку і рыхтаваўся апрабоўваць круцёлку.

Лопасці выразанага з бляшанкі прапелера нагадвалі пялёсткі зайцавай капусты: па краях былі шырокія і звужаліся да цэнтра. Пры гэтым край кожнай лопасці быў загнуты ўгору, рыхтык як у магазінным прапелеры.

— Толькі ўважліва глядзі, куды паляціць, а то потым не знойдзем.

Мішка перавёў дых, тузануў лёску, прапелер крутнуўся, але нікуды не паляцеў.

— Заклінавала. Трэба большую адтуліну зрабіць, — з гэтымі словамі сябар рынуў у хату і неўзабаве ізноў з'явіўся на ганку, кухонным нажом калупаючы круцёлку.

Я глядзеў на такія завіханні з усмешкай на вуснах, пераканаўшыся, што круцёлка не тое што не даляціць да буслянкі, а наогул не зляціць са шпулі. Сябрук між тым прымацаваў прапелер, торгнуў лёску. І — вось дзіва! — круцёлка загула, размытай плямай мільганула ў паветры і захрасла ў кроне старой яблыні.

— Бачыў? — на Мішкаву чупрыну зваліўся ссечаны прапелерам лісток. — Дык гэта ж я толькі злёгку крутнуў, а як з усяе сілы рвануць?

Да ліпы шыбуем, не чуючы ўласных ног, сюды-туды пазіраючы на буслянку. Убачыўшы нас, бусел пачынае клекатаць, але нягучна, як бы з апаскаю.

— Хвалюецца, — мармыча Мішка, на хаду намотваючы лёску, — адчуў, што мы тут будзем нешта выпрабоўваць.

«Не даляціць, — думаю я, чарговым разам задзёршы галаву, — надта высока».

Мішка таксама глядзіць на бусла, усхвалявана пераводзіць дых:

— Ну што, нататнік прыхапіў? Быў твой — стаў мо-ой... — гукае сябар. — Я нават не заўважыў, як Мішка тузануў лёску. Убачыў толькі, як прапелер, шоргнуўшы па Мішкавых валасах, зашамацеў у кустах.

Сябар войкнуў, упаў на калені, прыціснуў далонь да левага вока. І ў той жа міг між пальцаў прабілася, як мне падалося, не чырвоная, а чорная юха.

«Вока! Круцёлка выбіла Мішку вока!» — сэрца маё абліла халадзёнка, а ногі наадварот, наліліся нечым гарачым.

— Міш... ты што-небудзь бачыш? — пытаюся сябра і ўпершыню ў жыцці не пазнаю ўласнага голасу: ён здаецца мне чужым і страшным.

Стоячы на карачках, сябар на момант прымае руку, глядзіць долу і буйныя кроплі крыві раз за разам падаюць на пясок.

Мы бяжым на фельчарскі пункт, і я раз-пораз пытаюся ў сябра:

— Ну як, Міша, баліць?

Але сябар не адказвае, цісне далонь да вока і ледзь чутна стогне.

Да фельчарскага пункта дарога не блізкая. Месціцца ён на ўскраіне вёскі, на бальшаку, што вядзе ў Азярышча. Па дарозе да нас далучаецца цэлы гурт падшыванцаў.

— Мішка вока выбіў! — гучыць у мяне за спінай разам з пляскуннем босых ног, і ў мяне ад гэтых воклічаў абрываецца сэрца.

Маладая фельчарка, якая працуе тут толькі першы год, сустракае нас на парозе, спалохана сашчэплівае пальцы.

— Што з вокам?

Міша і сам не ведае. Мармыча штосьці, ужо не адной, а дзвюма далонямі прыкрываючы крывавую рану.

Падшыванцы пхаюць мяне ў спіну, я пнуся ўвайсці ў медпункт разам з Мішкам, ды фельчарка зачыняе дзверы перад самым носам.

— А дзе ён вока выбіў? — навыперадкі пытаецца малеча, я даю аднаму з іх лёгкага выспятка, іду ўздоўж сцяны, папераменку зазіраючы ў вокны, але яны шчыльна зацягнутыя белымі фіранкамі.

Абышоўшы медпункт — фарбаваны блакітнай фарбай фінскі дамок — разоў дваццаць, сядаю на парозе, і ў гэты момант дзверы адчыняюцца і з іх вылятае ўсхваляваная фельчарка.

— Станьце на бальшаку і, як пойдзе якая машына, спыняйце. Трэба ў раённую бальніцу везці.

Доўга машыну чакаць не даводзіцца. Адразу ж з-за павароткі, уздымаючы страшэнную пылюку, выязджае малакавозка. Я стаю пасярод бальшака, махаю рукой, і машына, даўшы натужны сігнал, спыняецца.

— Што, Юрка, у раён сабраўся? — пытаецца вадзіла, наш сусед па вуліцы Пецька Ліхаманаў.

— Канапелька вока выбіў!

Вадзіла хацеў быў прыпаліць папяросіну, але так і застыў з запаленай сярнічкай.

— Як выбіў? Зусім?!

Я не паспеў адказаць, бо да машыны ўжо беглі фельчарка ў запэцканым крывёй халаце і Мішка з забінтаванай галавой. На белым бінце разлівалася чырвоная пляма.

— Вы куды, у Азярышча? — яшчэ здаля крычыць фельчарка, і вадзіла спалохана адчыняе дзверцы.

— У Азярышча, куды ж яшчэ.

— Завязіце хворага ў бальніцу. Трэба швы накладаць.

Фельчарка яшчэ штосьці кажа, але тут у канцы вуліцы гучна вохкаюць, тупаюць, і з нетраў не аселай пылюкі выкульваецца Мішкава маці. Валюхаста хістаючыся ўбокі, яна бяжыць у атачэнні малечы па бальшаку і роспачна галосіць:

— А сыночак жа ж ты мой, а што ж ты з сабою нарабі-іў?!

У мяне ад таго ляманту варушацца валасы на галаве. Усе глядзяць у канец вуліцы, а я крадком, незаўважна, сігаю ў кусты, што густым жываплотам буяюць ля дарогі.

Калі трэба прыхавацца ад маці, я лезу на гару і кладуся там у зацішку, за комінам, паклаўшы пад галаву аблезлы бацькаў кажух. Маці, калі мяне шукае, звычайна адчыняе паддашкавыя дзверцы, аглядае гарышча, але за комін ніколі не зазірае.

Бацькі ў мяне няма. Дакладней, ён ёсць, але з намі не жыве. Я яшчэ ў школу не хадзіў, як бацька выправіўся на цаліну. Збіраўся праз два месяцы вярнуцца, але так і не прыехаў. Маці кажа — зблытаўся там з нейкай сучкай. А ў Мішкі Канапелькі бацька патануў пазалетась, разам з мужам цёткі Сцепаніды. Рыбу з лодкі лавілі, а тая ўзяла ды перакулілася...

«Няўжо й сапраўды выбіла вока?» — віруе ў галаве неадчэпная думка, і я, паправіўшы кажух, тулюся патыліцай да цёплага коміна.

«А можа, нічога страшнага? Кажуць, як вока выб'еш, дык яно адразу выцякае. А ў Мішкі ж нічога не выцекла. Толькі кроў тачылася», — каторым разам супакойваю сам сябе і тужліва, са стогнам, уздыхаю.

І тут жа ўяўляю, як Элеанора Захараўна, даведаўшыся пра сённяшняе здарэнне, плясне тоўстымі рукамі і голасна заенчыць: «Ужас!.. Это просто ужас!»

У школе гэтую гаваруху ніхто не любіць. Мінулай зімы да нас у хату завітвала, на нейкія выбары запрашала. Пераступіла праз парог, агледзелася, спытала, дзе я ўрокі раблю. Я і паказаў на кухонны стол. Дык падвяла зекры і раз пяць выдыхнула свой «ужас». Маці яе таксама незалюбіла. Казала цётцы Сцепанідзе: фарсіць у мутонавым футры, а іх, калгасніц, так у ватоўках і пахаваюць.

Заўтра ў школе, пасля заняткаў, лінейка. Элеанора Захараўна стане гарлаць пра тое, што перад намі, вучнямі, адчынены ўсе дарогі. Потым «гарадскія» паедуць у свой гарадок і там ім зладзяць «салодкі стол». Будуць есці торт з хатнімі піражкамі ды запіваць ліманадам...

На гары задуха, а тут яшчэ патыліца добра-такі ўгрэлася, і я адсоўваюся ад коміна.

«Цікава, а ці даляцела б круцёлка да буслянкі?» — думаю я, закінуўшы рукі за ўгрэтую патыліцу. Пайсці да ліпы, знайсці «верталёт» ды шмаргануць за лёску. Але ж можна і без вачэй застацца. Цяпер толькі мне стала зразумела, чаму ў магазіннага прапелера, які пускае Лёшка Гнядых, лопасці абхоплены абадком. Гэта каб вочы не параніць.

Згадваю, што дзесьці на гарышчы валяюцца бацькавы камбайнерскія акуляры з трэснутым шклом. Парываюся зараз жа іх адшукаць, але тут жа асуджана кладуся на кажух. Ну добра, вочы закрыеш, а як па лобе лясне ці нос адсячэ? Я спалохана мацаю нос і, пераканаўшыся, што ён на месцы, пераводжу дых і зморана пазяхаю.

...Мяне абудзілі галасы знадворку.

— Во... толькі што Пецька Ліхаманаў з Азярышча прывёз. Брыво да косткі парэзаў, швы наклалі.

Я пазнаю па голасе Канапельчыху — Мішкаву маці — і шчасна пацягваюся. Вока ў сябрука цэлае, а гэта галоўнае.

— Нюрка кажа, нейкі верталёт рабілі, а потым пускалі каля ліпы...

— А я думаю — чаго гэта ён хаваецца цэлы дзень, — гэта ўжо азываецца мая маці. — Во я яму зараз усыплю!

Здалёк чуваць каровіна рыканне, і Канапельчыха са сполахам у голасе выдыхае:

— Авой-авой, статак гоняць! Штосьці рана сёння. Пайду пераймаць сваю карміцельку.

На падворку бразгае вядро ў калодзежы — гэта маці чэрпае ваду для каровы.

— Юрка, ты дзе?! Зноў на гары хаваешся? Злазь зараз жа! — задыхана гукае маці, бразгае вядром і йдзе ў хату — узяць акраец хлеба. Субоха не зойдзе ў хлеў, пакуль ёй не дасі пачастунку.

І вось ужо рагуля рыкае ля весніц, і маці здушана гукае з хаты:

— Бягу ўжо, бягу!

Ад цяжкой каровінай хады гарышча злёгку здрыганаецца, і да кіславатага паху аўчыны далучаецца саладкаваты пах сырадою. Карова доўга і прагавіта п'е ваду, зморана аддзімаецца, нарэшце бразгае вядром, каротка рыкае.

— Ну ідзі ўжо, ідзі, — падганяе маці Субоху, і тая па старой звычцы грукае капытам аб парог хлява.

— Вядро! — уголас шапчу, прыўзняўшыся на локці. Праз імгненне ўжо паўзу да паддашкавых дзверцаў, асцярожна, каб не пачула маці, злажу па драбінах, хапаю вядро, з якога кагадзе піла карова, і падаюся з двара.

Матчын вокліч даганяе мяне ўжо за весніцамі:

— Юрка... ашалеў? Куды ты пабег з вядром?

Вестка пра тое, што сябар параніў брыво, а не вока, зрабіла цела лёгкім, амаль бязважкім. Я то іду, то бягу подскакам, і адна думка не дае спакою: «Ці ляжыць пад ліпай круцёлка?» Удзень там часцяком таўчэцца малеча — хтосьці мог і падабраць Мішкаву цацку.

Цацка ляжыць там, дзе яе і кінулі: на лапіку жоўтага пяску. Прапелер таксама доўга шукаць не даводзіцца. Ён вісіць непадалёку, пачапіўшыся за куст вербалозу.

Дзяржальна старога сярпа пазначана брунатнай плямай крыві.

Я задзіраю галаву. Бусел стаіць на краі гнязда і глядзіць на мяне, ледзь чутна шчоўкаючы дзюбай.

— Зараз, боцька, да цябе верталёт прыляціць! — крычу буслу, і той пачынае клекатаць усё гучней і гучней.

Насоўваю на галаву вядро, уздрыгваю ад рэшткаў халоднай вады, што патрапілі за каршэнь. Тузануўшы лёску, ліхаманкава скідваю з галавы вядро. Круцёлка з ціхім гудам ляціць угору і на кароткае імгненне завісае ў паветры — якраз насупраць гнязда — і бусел, раскрыўшы дзюбу, уражана адводзіць назад галаву. Круцёлка ляціць долу, з гучным шорхатам занурваецца ў кусты.

Мне падалося, што тарганеў лёску не на поўную сілу, таму другім разам насоўваю вядро, тузаю як мае быць, але тут надараецца неспадзяванка: дужка вядра чапляецца за падбаро-

дак і, пакуль вызваляю галаву, круцёлка бясследна растае ў вечаровым небе. Я наструньваю слых — мусіць жа яна шорхнуць у траве ці кустах, — і слых мой цвеліць далёкая зязюля.

Іду дахаты, прыстасоўваючы разгоністы крок да мернага рыпання вядра, якое раз за разам перакідваю з рукі ў руку. Круцёлку я так і не знайшоў. Дый як знойдзеш, калі сонца ўжо села і бляшанка, зашыўшыся кудысьці ў траву, ужо не блішчыць і нябачная для вока. Але нічога. Заўтра яе знайду. А не знайду, дык выражу новую.

Ля Мішкавай хаты сцішваю хаду і выцягваю шыю, выглядаючы сябра. Аднак замест забінтаванай Мішкавай галавы з-за агароджы вытыркаецца павязаная выцвілай хусцінкай рухавая Нюрчына галоўка.

— Нюр... — ціха гукаю, матлянуўшы ў паветры пустым вядром, і Нюрка спрытна выбягае з весніц.

— Маці дома?

— Дома... карову доіць, — адказвае Нюрка, свідруючы мяне дапытлівымі вачанятамі.

— А як братан? Вочы цэлыя?

— Цэлыя... толькі брыво рассек. Паслязаўтра да фельчаркі пойдзе, на перавязку.

Я дастаю з кішэні нататнік. Шкада, вядома, яго аддаваць, ды што зробіш...

— На во... перадай Мішку.

— А сам чаму не аддасі? — Нюрка прыкладае нататнік папераменку то да адной, то да другой шчакі.

— Чаму-чаму... таму... што за Зацэпы водзіць мама два прычэпы, — адказваю з усмешкай, і Нюрка, чмыхнуўшы носам, бяжыць, смешна раскідваючы ўбокі галянастыя ногі.

— Скажы Мішку: даляцела! — крычу наўздагон дзяўчыне.

У гэты міг па асветленым згасальным сонцам Нюрчынай спіне мільгануў імклівы цень і нізка над зямлёю, несучы штосьці важкае ў дзюбе, праляцеў бусел. Дакладней, бусліха, бо ногі ў птушкі былі такія ж, як у Нюркі, галянастыя і гэтак жа смешна раскінутыя ўбокі. Бусліха, стомлена махнуўшы

крыламі, падляцела да гнязда, і бусел, як ніколі дагэтуль гучна, закінуўшы ўгору галаву, заклекатаў, распавядаючы сяброўцы пра блішчастую круцёлку, што кагадзе праляцела над іхным котлішчам.

# ЧАЛАВЕК З САЖНЕМ

## I

У вокны цадзілася дрымотнае святло.

Іван праводзіў позіркам варону, якая з зычным карканнем паляцела ў бок праспекта, пацёр далонню лоб, соладка пазяхнуў і ўторкнуўся ў паперы.

Літары ўвішнымі мурашамі мітусіліся ўваччу. «Аб ходзе выканання ў камсамольскіх арганізацыях рэспублікі пастановы ЦК КПСС... — уголас прачытаў Іван і зноў пазяхнуў, гэтым разам з непрыхаваным адчаем — ...аб рабоце па падборы і выхаванні ідэалагічных кадраў у партыйных арганізацыях Беларусі і рашэння 13-га пленума...— Івану падалося, што мурашы перапаўзлі з паперы і замітусіліся ў портках, — ...ЦК КПБ “Аб далейшым павышэнні дзейснасці ідэйна-палітычнай работы ў святле рашэнняў XXIV з’езда КПСС”».

Хвіліну, а можа і больш, Іван сядзеў нерухома, спрабуючы дапяць да сэнсу прачытанага, а потым, з неспакоем у душы, стаў чухаць пахвінне: стваралася ўражанне, што мурашы апанавалі самую датклівую частку цела...

На калідоры затупалі, заляпалі дзвярыма, у нетрах калідорных штосьці замарачна, як вада ў душы, зашумела, і шэфава сакратарка Жанна з лёгкай панікай у голасе абвясціла:

— Уключайце прыёмнікі! Цяжэльнікаў выступае!

Іван крутнуў ручку аднаканальнага «Сожа» і тут жа, нібыта спужаўшыся, закруціў у адваротны бок: вырашыў паглядзець выступленне па тэлевізіі.

Пакуль бег па калідоры, грымотныя воплескі сціхлі і прастору апанаваў натхнёны, па-камсамольскаму бадзёры голас Яўгена Міхайлавіча Цяжэльнікава. Голас угнездаваўся ва ўсіх кутках вялікага будынка. Словы прамовы вырываліся з няшчыльна зачыненых дзвярэй, блукалі па калідоры, сутыкаліся адно з адным, рассыпаліся дробным макам і ціха замі-

ралі, даючы места ў прасторы іншым, гэткім жа натхнёным і няшчырым словам.

У аргаддзеле, куды ён убіўся, была процьма народу. Іван махнуў рукой загадчыку аддзела, Мішку Гармозіну, парукаўся з двума інструктарамі і ўтаропіўся ў тэлеэкран. Каляровы «Рубін» даваў задужа зялёнага калёру, і твар «камсамольскага бога» выглядаў, як у дзесяцідзённага нябожчыка.

— Даклад Леаніда Ільіча раскрывае захапляльную па сваіх маштабах стратэгію далейшага руху да камунізму, да ўсеагульнага міру, нясе ў сабе ідэйны зарад нечуванай сілы...— прамаўляў першы сакратар, трасучы чупрынай. — Выказваючы волю 35-мільённага камсамола, усёй савецкай моладзі, мы цалкам і поўнасцю адабраем ленінскі палітычны курс і практычную дзейнасць Цэнтральнага Камітэта КПСС, праграмныя палажэнні і вывады даклада таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева... — тэлевізар скалануўся ад гучных воплескаў, а Іван, злавіўшы вокам калена Нінэль Абуховіч, прытаіў дых. Хаця інструктарка аргаддзела — яна ж гармозінская каханка — толькі тыдзень не была на працы, Івану здаліся гэтыя дні вечнасцю. У думках ён пацалаваў абцягнутае белым капронам калена, душа на імгненне сцялася, але тут жа і выпрасталася, бо Мішка Гармозін тыцнуў локцем пад рэбры і кіўнуў у бок «скрыні».

Яўген Міхайлавіч Цяжэльнікаў — Бацька, як называлі яго цэкісты, — трымаў у руцэ нейкую паперыну і глядзеў у залу ўжо не зухавата, як дагэтуль, а сурова і патрабавальна.

— Перад намі лютаўскі нумар шматтыражкі «Знамя Дзержинки» за 1935 год. Тут невялічкі артыкул, які называецца «Імя яго — бальшавік». У ім гаворыцца: «Я не магу ўявіць, адкуль у гэтага чалавека бярэцца столькі энергіі і працаздольнасці. Сын рабочага, сам працаваў на заводзе качагарам, потым слесарам... З вытворчасці яго накіроўваюць на партыйна-гаспадарчую працу. Нагрузка вялікая: ён вучыцца ў нашым інстытуце, ён жа лепшы группарторг пятага цепласілавога курса, ён жа лепш ад усіх, на «выдатна», абараніў дыпломны праект! Малады інжынер абяцае даць многае, і ён дае многае. Бо выкуты з моцнага матэрыялу!» — прамоўца зрабіў паўзу, узняў угору газеціну, хапнуў, што той тапелец, паветра, і словы

ягоныя патанулі ў шалёных воплесках: — Гэта сказана... пра маладога камуніста... Леаніда Бр-рэ... — «Рубін» стрэльнуў лямпай, і сакратарская галава, з'ехаўшы з тулава, прыляпілася да левага плечука. Хтосьці ляпнуў па тэлевізары кулаком — раз, другі, — але галава на старое месца так і не вярнулася...

Праз хвіліну яны з Гармозіным выйшлі ў калідор. Загадчык аргаддзела паслабіў вузел квяцістага гальштука, абурана прамармытаў:

— У ногі гатовы кінуцца, абы пасаду далі.

Мішка дастаў пачак «Саюза-Апалона», пстрыкнуў газавай запальнічкай.

— Як думаеш, — струмок цыгарэтнага дыму з лёгкім шумам вырваўся з Мішкавага рота, — газета сапраўдная ці, можа, згламэздалі?

Гаманіць на такія тэмы, хай і ў пустым калідоры, было няёмка, і яны рушылі да выхаду. На ганку, аднак, таксама стаялі людзі, і давялося, пацепваючыся ад золкага ветру, прайсціся ў бок Інстытута гісторыі партыі.

— А што ты хацеў, — гукнуў Іван у працяг размовы, — Бацьку сорак сем гадоў... Вось і ўзяўся... выдаваць шматтыражкі.

— Не... ну так... без мыла... лезці... — Мішка Гармозін зацягнуўся цыгарэтай і, не выпускаючы яе з зубоў, наструніўся. З адкрытай форткі вырываўся надрыўны Бацькаў голас.

— Верны сын партыі, яе вялікі працаўнік і мужны салдат, Леанід Ільіч заўсёды быў там, дзе цяжка...

— Во залівае... — буркнуў Мішка Гармозін і нечакана, бліснуўшы раскосымі вачыма, запытаў: — Якое сёння чысло?

— Дваццаць сёмага лютага, — азваўся Іван і толькі тады ўзгадаў: у Мішкі сёння дзень нараджэння.

— Пасля працы, — сябрук мелькам зірнуў на гадзіннік, — бяры Жанну і вяслуй у «Журавінку». Я там столік замовіў. І запомні: ніякіх падарункаў. Цярпець іх не магу, — Мішка дасмаліў прагнай зацяжкай цыгарэту, зноўку наструніўся.

— Леанід Ільіч здабыў велізарны аўтарытэт, бязмежны давер і шчырую, чыстую любоў Ленінскага камсамола, савецкай

моладзі, усяго прагрэсіўнага чалавецтва... — гукаў з адчыненай форткі першы сакратар ЦК ВЛКСМ.

Мішка страсянуў галавой, плюнуў, і сябрукі, разам павярнуўшыся, пайшлі ў адваротным кірунку.

Мішка Гармозін з'явіўся на Карла Маркса, 36* увосень пазамінулага года. У той шэранькі панылы дзень Іван, як заўсёды, забег у аргаддзел і сутыкнуўся з высокім хлопцам у мадняцкім замшавым пінжаку. Яго тады, памятаецца, уразілі раскосыя васільковыя вочы, якія — Іван адразу ж адчуў гэта — мусілі падабацца дзяўчатам. Сэрца Іванава ў той міг захлынулася гарачай крывёю, і ён дакорліва зірнуў на Нінэль — сваю тайную сімпатыю, якая працавала ў аддзеле і цяпер сядзела пры стале, апусціўшы аксамітныя вейкі.

Мішка запрасіў у свой кабінет, прапанаваў пагартаць французскі часопіс і, раскінуўшыся ў крэсле, расказаў, дзеля знаёмства, вясёлую показку пра Брэжнева — як Леанід Ільіч уздымаў цаліну. Іван пры гэтым сціпла пасміхаўся, і левая лытка ягоная злёгку дрыжэла. Ён упершыню чуў, каб адказны работнік ЦК вёрз антысаветчыну, ды яшчэ на сваім працоўным месцы.

«Гэбіст», — падумаў тады Іван, а гаспадар кабінета, пабачыўшы спалох у Іванавых вачах, прыпаліў прытухлую цыгарэту і напаўголаса прамовіў: «І чаго гэта вы, бульбашы, такія дрыслівыя?»

А ўвечары, прыціснуўшыся лобам да шыбы, ён з мазахісцкай жарсцю назіраў, як новы загадчык аддзела са знарочыстай галантнасцю, закінуўшы за спіну правую руку, падсаджваў Нінэль у жоўтыя «жыгулі». І, не ведаючы, што з рабіць з сабой і як пазбыцца пякучай рэўнасці, прыгаломшаны Іван у той жа вечар выклікаўся праводзіць дадому рудавалосую сакратарку Жанну — Нінэльчыну сяброўку. І ўсю дарогу, нібыта жартам, пытаўся — ці даспадобы ёй новы загадчык аддзела?

Тады ж, ад Жанны, ён даведаўся, што бацька Гармозін працуе ў Маскве, у Дзяржплане, а сам Мішка два гады заві-

---

* Будынак, дзе месціўся ЦК ЛКСМБ.

хаўся ў Міністэрстве знешняга гандлю, ды вымушаны быў адтуль сысці з-за нейкай непрыгожай гісторыі і прыхавацца ў Менску — тут жыла ягоная маці.

А яшчэ праз дзень Мішка Гармозін прапанаваў пайсці ў рэстаран — абмыць новае месца працы. І хаця Іван напачатку адмаўляўся, казаў, што ў яго баліць зуб, але, пачуўшы, што там будзе Нінэль са сваёй сяброўкай, пайшоў да тэлефона — паведаміць жонцы, што затрымаецца на працы. З той пары, прыкладна раз на месяц, яны гулялі за Мішкавы грошы ў рэстаранах, і пасля адной такой гулянкі жонка Іванава падала заяву на развод ды з'ехала ў свой Барысаў.

* * *

У дальнім канцы залы грукнуў бубен, зафаніў мікрафон і рэстаранны ансамбль азваўся мелодыяй з «Хроснага бацькі».

— Што ж, так і будзем маўчаць? — Мішка Гармозін выцер сурвэткай вільготныя вусны, паварушыў пальцам, і кельнер, які прыбіраў посуд, з разуменнем кіўнуў галавой.

Вось ужо гадзіну яны сядзелі ў рэстарацыі, і за гэты час Нінэль не прамовіла ні слова. Яна нервова, адну за адной, паліла цыгарэты, цадзіла з фужэра шампан і пры гэтым з нянавісцю зыркала на Мішку. Той сядзеў як мыла з'еўшы, і апанаваны зларадная цікавасцю Іван чакаў таго моманту, калі яны застануцца з Жаннай адны і ён даведаецца: чаму яе сяброўка сёння такая негаваркая.

— Ну, дзяўчаткі... ну давайце, сапраўды, пра нешта пагамонім, — Мішка адсунуўся ад стала, прымусіў сябе ўсміхнуцца. — Ці ведаеце вы такі факт, што стваральніца «новага рамана» Наталка Чарняк... пардон, Наталі Сарот, абвясціла традыцыйную прозу стаадсоткавай архаікай?

— А Франсуаза Саган... пардон, Фрося Чыгункова, наадварот — пісала ў традыцыйным рэчышчы, — адпарыравала Нінэль, і Мішка задаволена пацёр рукі: — Брава, брава... Нарэшце пачулі ваш дзіўны голас.

Мішка падхапіў бутэльку, стаў поўніць келіхі, збіраючыся, відаць, сказаць нейкі тост, але ў гэты момант дзяўчаты падхапіліся на ногі і, абмінуўшы двух каўказцаў, якія спрабавалі

запрасіць іх на танец, пабеглі па сходах — няйначай, у прыбіральню.

Дзесьці пад столлю загуў, пакрываючы людскія галасы і мелодыю «Хроснага бацькі», выцяжны вентылятар, і пасмы цыгарэтнага дыму паважна паплылі па-над Мішкавай галавой. Іван, па прыкладзе сябра, таксама ад'ехаў на крэсле ад стала і адчуў на сваёй шыі дотык выцяжнога ветру.

Звычайна яны ладзілі гулянкі за горадам — у гатэлі «Юнацтва». Там было зацішней, кожны столік быў адгароджаны перабойкай, ды і збіралася там адпаведная публіка — у асноўным іншаземцы. Але сёння ў «Юнацтве» сустракалі мангольскую дэлегацыю, таму сядзець давялося ў шумнай, поўнай падпітых студэнтаў і юрлівых каўказцаў «Журавінцы».

На стале з'явілася чарговая пляшка шампану: гнюснага пойла, якое тхнула гнілымі яблыкамі і распірала нутро вуглякіслым газам: не дзіва, што дзеўкі раз-пораз бегалі ў прыбіральню. Іван заплюшчыў вочы і ўявіў, як Нінэль, закінуўшы на спіну спадніцу, з жаласлівым зыкам выпускае паветра.

— Запрасі Нінку на танец... можа, палагаднее, — прамовіў Мішка Гармозін; Мішка сёрбнуў шампана, выставіў ніжнюю вусну, і на ёй утварылася маленькая бурбалка.

Праз пару хвілін ансамбль зайграў «Зорачку»*, і Нінэль, шчасна абмінуўшы аж трох армянаў, падышла да Івана...

...Ён прытуліў да сябе дзяўчыну і адразу ж адчуў цеплыню пругкіх грудзей. Галава пачала кружыцца — ці то ад гэтай цеплыні, ці то ад паху Нінэльчынай скуры. Яму раптам да змогі, да свербу ў ядрах заманулася лізнуць дзявочую шыю. Язык — амаль незаўважна, самым кончыкам — тыцнуўся ў мочку вуха і адчуў прыемную гаркоту. Ужо зусім ачмурэлы, ён прыпаў да гаркавай ад ласьёну шыі і пачуў напяты і, як для такой хвіліны, надта сур'ёзны Нінэльчын голас:

— А вы здольныя на ўчынкі?

Нінэль — мякка і шматабяцальна — прыціснулася да яго сцягном, і Івана працяла нервовая дрыготка.

---

* Песня з рэпертуару ансамбля «Цветы».

— Давайце збяжым.

Такая прапанова ацверазіла Івана і ён, пралепятаўшы: «Як гэта?», пашукаў вачыма Гармозіна. Мішка піў шампан, і на келіху ягоным цьмяна бліскала святло ўсіх рэстаранных люстраў.

— Няёмка неяк, — адно і здолеў выціснуць з сябе Іван, і дзявочая далонь саслізнула з пляча.

Ён бег па прыступках, удыхаў галавакружны пах ласьёну, спрабаваў зазірнуць у Нінэльчыны — заўсёды халодныя, а таму халерна звабныя — вочы, і ў галаве ягонай віравалі, не знаходзячы выйсця, трывожна-юрлівыя думкі.

Ля шатні — раздзявалкі — яны спыніліся. Іван, апусціўшы руку ў кішэнь, выцягнуў два нумаркі — свой і Жаньчын — і застыў у непаразуменні...

...Сяброўчына паліто было крыху куртатае. Нінэль абцягнула рукавы, дастала з сумачкі нататнік, штосьці ў ім размашыста напісала.

— Аддайце дзяўчыне ў сіняй спадніцы, — прамовіла, перадаўшы лісток швейцару, і яны выйшлі з рэстарана.

З цёмнага неба падаў бухматы снег, і навакольныя ліхтары паўсталі перад Іванам вялізнымі, падсветленымі знутры дзьмухаўцамі. І здалося на міг, што гэта не снег кружыў-віраваў у паветры, а мірыяды парушынак сарваліся з дзьмухаўцоў, завіравалі ўваччу, халоднымі дотыкамі кранаючы гарачы лабешнік. Некалькі парушынак заблыталіся ў Нінэльчыных валасах, і Іван, нахіліўшыся, растапіў адну з іх сваім парывістым дыханнем. І ў тую хвілю, калі ён сабраўся з духам і ўзяў дзяўчыну за руку, да вушэй даляцеў недарэчны воклік:

— Чаму, Жануля, так рана?

Васька Сёмін — вадзіла дзяжурнай цэкоўскай «волгі» — спехам працёр ветравое шкло, хацеў яшчэ нешта сказаць, ды, убачыўшы, што перад ім не Жанна, а Нінэль, сумеўся і таропка расчыніў дзверцы.

— На Ванеева? — запытаўся вадзіла, пайшоў на разварот, і Іван, шукаючы апірышча, наткнуўся далонню на халоднае дзявочае калена.

— Нінэль...— вымавілі вусны, і валасы зварухнуліся пад шапкай, і цела салодка здрыганулася ад гуду святочных званоў, што бомкнулі ў вушах і глухім рэхам азваліся дзесьці ўнутры, пад самай селязёнкай.

Нінэль зняла з калена ягоную гарачую руку, але зрабіла гэта паволі, з неахвотаю, як бы кажучы: «Мы не адны...»

За шклом мільгацелі агні Партызанскага праспекта, а ў галаве, гэтак жа размыта і бязладна, мільгацелі і блыталіся пажадныя лятункі. Асабліва хвалявала Івана тое, што Нінэль была без станіка. Калі яны танцавалі, ён правёў кончыкамі пальцаў па дзявочай спіне і не намацаў сушпілкі. «Ну чаму, чаму яна без станіка?» — ледзь не ўголас мармытаў Іван і, мацаючы ўласныя калені, адчуваў цеплыню і падатнасць дзявочых грудзей. Ён заплюшчыў вочы і ў той жа міг апынуўся ў прыцемным пакоі, пасярод якога, на леапардавай шкуры, — шкуру тую ён надоечы бачыў у дацкім часопісе, — ляжала голая Нінэль. Млява закінуўшы галаву, яна мяцёлкай леапардавага хваста кранала смочкі пульхных грудзей, праводзіла далонню па нізе жывата, і нечакана, прыўзняўшы галаву, не да места бадзёрым голасам выгукнула: «Прыехалі!»

Іван расплюшчыў павекі. Машына падкацілa да цёмнага пад’езда, віскнула тармазамі.

— Мяне не чакай, вяртайся ў «Журавінку», — буркнуў ён у адказ на запытальны позірк вадзілы, вылез з машыны і кульгавым подбегам — пабіў нагу, як вылазіў, — рушыў адчыняць супрацьлеглыя дзверцы.

Нінэль, аднак, выйшла без ягонай дапамогі, абцягнула паліто, зірнула ўгору.

— Маці ўжо спіць, — прамовіла з уздыхам і падала руку на развітанне.

З расчыненых пад’ездных дзвярэй павеяла салодкай гнілізнай і кашэчымі сцакамі.

— Давяду да дзвярэй, у пад’ездзе цёмна, — пралепятаў Іван у спадзеўцы, што Нінэль запросіць на каву, але дзяўчына крутнулася на абцасах, пайшла, таямніча дыхнуўшы парфумай, і Іван, задыхаючыся ад нясцерпнага кахання і такой жа нясцерпнай крыўды, схапіў дзяўчыну за рукаво.

— Ніна... пачакайце... — Іван уздыхнуў, апусціў вочы, нібыта рыхтуючыся спытаць аб нечым вельмі важным, і адным духам выпаліў: — А дзе гэта вы былі цэлы тыдзень?

— Аборт рабіла, — са злосцю прамовіла Нінэль і знікла ў цёмным пад'ездзе.

На лесвіцы абудзіліся і аціхлі крокі, бразнулі дзверы і дзесьці, ці не ў Нінэлінай кватэры, прыспана брахнуў сабака.

Іван стаяў як халадзёнкай абліты, і пыжыкавая шапка на ягонай галаве з трагічнай павольнасцю спаўзла з патыліцы на самыя вочы. Было такое адчуванне, што яго, адказнага работніка цэка, прылюдна аблілі памыямі... Нінэль хацела дапячы Мішку — таму і збегла з рэстарана... А ён, ёлупень, раскатаў губу...

На першым паверсе запалілі святло, і страшэнна тоўстая кабета, запаланіўшы сваім аб'ёмам цесную кухню, матлянула, спраўджваючы, ці ёсць там вада, бліскучы чайнік. Іван ссунуў шапку на патыліцу, паклыпаў, прыпадаючы на правую нагу, уздоўж аснежаных кустоў і неўзабаве азірнуўся, выглядаючы квадрат святла на прысыпаным снегам асфальце — месца, дзе ён зазнаў прыніжэнне і дзе выразна пазначыліся ягоныя сляды.

Пакуль датупаў да праспекта, снег змяніў імжысты дождж; пыжыкавая шапка ўраз намокла, галава ўпрэла, і калі ён, а палове першай ночы, убіўся ў сваю кватэру, скінуў верхнюю вопратку і зірнуў у люстэрка, дык убачыў дзіўную праяву: з упрэлай галавы ўздымалася пара.

— Парапаветраны манекен, — прашаптаў Іван, падхапіў ручнік, збіраючыся выцерці мокры карак, і страсянуўся ад тэлефоннага званка.

— Што за фокусы? Куды вы падзеліся? — Мішка, відаць, званіў з аўтамата, бо голас ягоны прападаў.

— Я дома сяджу, сяброўка твая таксама.

Хвіліну Гармозін маўчаў, потым з палёгкай уздыхнуў і са словамі: «Заўтра пагамонім» павесіў трубку.

Так, з гудлівай слухаўкай у руках і, як той Ясір Арафат, з ручніком на галаве, Іван і праседзеў паўночы. У жываце ягоным брадзіў пракіслы шампан, ва ўскудлачанай галаве брадзілі панічныя думкі; ратуючы жывот, ён раз-пораз прыўздымаў кумпячыну, выпускаў паветра, і толькі галаву не было

як ратаваць, і калі, уявіўшы сцэну аборту, ён адчуў, што мазгі пачынаюць закіпаць, падхапіўся з крэсла, пабег у ванную і з воклічам: «Ай, бля-а!» — піхнуў галаву пад халодны струмень.

Наступным ранкам — як гэта бывае на сходзе зімы — за акном дзьмуў вятрыска ды ішоў мокры снег з дажджом. Пад бокам званілі тэлефоны, у куце шалёным дзятлам стукаў тэлекс, сакратарка Жанна два разы зазірала ў кабінет і клікала на нейкае пасяджэнне, але Іван нічога не чуў і не бачыў: сядзеў з заплюшчанымі павекамі, мыляў вуснамі і ўяўляў Нінэль — голую, на леапардавай шкуры, зморaную ад асалоды.

Пару месяцаў таму да іх прыязджала дэлегацыя Звязу польскіх студэнтаў. Кіраўнік дэлегацыі, рудавалосы фацэт у джынсах, падараваў яму на знак сяброўства дацкі парнаграфічны часопіс, на вокладцы якога лашчылася на леапардавай шкуры светлавалосая прыгажуня. Прыгажуня дзіўным чынам нагадвала Нінэль: такія ж пісаныя бровы, такія ж па-дзіцячы пульхныя вусны. Іван у сваіх фантазіях часцяком уяўляў той юрлівы здымак, і кожнага разу прагнуў прыпасці да гладкага Нінэлінага калена і шаптаў у забыцці ласкава-бессаромныя словы.

А яшчэ ў свядомасці гучала слова «аборт»; пякучая рэўнасць вярэдзіла душу, і ўсведамленне таго, што ён далучыўся да чужой тайны, рабіла пачуцці яшчэ больш вострымі; ён даваў волю фантазіям, і светлавалосая прыгажуня глядзела на яго вільготнымі ад пажады вачыма, прыўздымала тугія грудзі і з жарслівым прыдыханнем шаптала: «Вазьмі іх... яны не Мішкавы... яны твае...»

Салодкае трызненне перарваў зумклівы тэлефонны званок.

— Дзе ты ходзіш? Цэлую гадзіну званю, — другі сакратар ЦК кашлянуў і ўжо прытоеным голасам паведаміў: — Апранайся і заходзь.

Перціся некуды ў такое надвор’е зусім не хацелася. Нацягнуўшы на плечы прамоклы паліто, Іван мацюкнуўся, міжволі прыслухаўся.

— Натхняльным прыкладам для ўсёй партыі, для ўсіх камуністаў з’яўляецца нястомная, самаахвярная, мэтанакірава-

ная і тытанічная дзейнасць Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева...

— Зусім ахалуелі, — ледзь чутна прамармытаў Іван, прыкруціў гучнасць радыё і выйшаў з кабінета.

Лёва Аўдошка — суровы, апранены ў «малянкоўскі» жакардавы плашч — сядзеў за сталом і з нецярплівасцю стукаў пальцамі па лістках перакіднога календара.

— Ну, дзе цябе носіць? — Лёва заклапочана насупіўся, падхапіў асадку, штосьці таропка напісаў у каляндарных кантычках. — Бацькаву прамову слухаў?

Іван кіўнуў, а Лёва, зусім як Мішка Гармозін, раскінуўся ў крэсле і таргануў галавой, паказваючы на кніжную шафу:

— Вазьмі там... другі том.

Дрыготкая рука падхапіла другі том Поўнага збору твораў, і Лёва незадаволена перакрывіўся:

— Ды не Леніна... энцыклапедыю цягні.

Дагэтуль Іван разумеў Лёву з паўслова, а тут ніяк не мог уцяміць — на якую халеру таму спатрэбілася энцыклапедыя.

— Адгарні чатырыста шаснаццатую старонку...

Пальцы таропка перагарнулі старонкі.

— Ну, чытай...

— «Брыялогія», «Брэгман», «Брэднік»... — нясмела прачытаў Іван, і Лёва роблена змучаным голасам прастагнаў: — Брэжнеў Леанід Ільіч.

— «Брэжнеў Леанід Ільіч...— прачытаў Іван і, як той двоечнік ля дошкі, шморгнуў носам, — выдатны дзеяч Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, міжнароднага камуністычнага і рабочага руху...»

— Гэта прапусці. Далей чытай.

— «З сям'і рабочага-металурга... Працоўнае жыццё пачаў з пятнаццаці гадоў. Пасля сканчэння ў 1927 годзе Курскага землеўпарадкавальна-меліярацыйнага тэхнікума працаваў землеўпарадчыкам у Коханаўскім раёне Аршанскай акругі...»

Яны з Лёвам пераглянуліся, і другі сакратар, са словам «Усёк?», выцягнуў з сейфа пачатую пляшку каньяку.

— Пяцьдзясят гадоў мінула — каго цяпер знойдзеш? — прамармытаў Іван, і Лёва, перакрывіўшыся, прыклаў палец да вуснаў.

Яны кульнулі па паўшклянкі, заелі шакаладнымі цукеркамі — у Лёвы ў стале быў цэлы харчовы склад — і падаліся з кабінета.

— Па-першае — нікому ні слова, — дыхнуў каньячным духам другі сакратар, — а па-другое...— Лёва на хвілю сумеўся, — цябе ў Талачынскім райкаме ў твар ведаюць?

— Здаецца, не, — мовіў Іван, і яны, плячо ў плячо, пабеглі па сходах.

«Камандзіроўка... у Талачын... гэта ж чорт ведае дзе... — мільгалі ў галаве адрывістыя думкі, — хочуць, як той Бацька, “Коханаўскай праўдай” патрэсці... ці ўспаміны якога старога ёлупня запісаць... пра каморніка Брэжнева...» — Іван спрабаваў ісці ў нагу з Аўдошкам, ды ўвесь час збіваўся, і лядыш непакою непрыемным халадком казытаў селязёнку.

— Пайшлі, пройдземся, а то ў кабінеце не пагамоніш...— захінаючыся ад ветру, Лёва прыпаліў цыгарэту, прыхаваў яе ў жменю і разам з дымам выдыхнуў: — Паедзеш у якасці карэспандэнта радыёстанцыі «Юность». Журналісцкі рэйд па месцах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. Агледзішся, прынюхаешся, вызначыш перспектыўных кандыдатаў, якія маглі б штосьці распавесці пра маладога Брэжнева. Пажадана, жанчын ад сямідзесяці да сямідзесяці пяці гадоў...

— Дык што... містыфікацыя? — Іван прыкусіў язык. Лядзяк непакою, слізгануўшы па селязёнцы, закаціўся на дно пустога страўніка.

Пабачыўшы спахмурнелы Іванаў твар, суразмоўнік крутнуў галавой, зацягнуўся пякучым дымам:

— А ты думаеш газетка тая сапраўдная? Ды я нават ведаю, хто яе зграмэздаў. Ёсць там у Бацькі два памагатыя — з блыхі вала зробяць... — Аўдошка кінуў размяклы на дажджы недапалак, расціснуў падэшвай. — Мы, у адрозненне ад Бацькі, будзем дзейнічаць чыстымі рукамі. Ніякіх містыфікацый. Ну ты сам памяркуй: знаходзім кабету, якая памятае, што ў іхнай хаце, яшчэ да калектывізацыі, жыў нейкі пастаялец. Паказваем

фотку. Той? Кабета прыглядаецца, мружыцца, а мы ў гэты момант перахопліваем ініцыятыву. Пераконваем старую, што гэта і ёсць той пастаялец: вунь і кепка тая самая, і бровы густыя...

Яны спусціліся да Ульянаўскай, і Іван убачыў на ўзбочыне шэрую цэкоўскую «Волгу».

— Што ж... так і паеду... з пустымі рукамі? Трэба ж мець хоць нейкія дакументы, мапу Коханаўскага раёна, нарэшце, — прамармытаў Іван, і Аўдошка з камсамольскім імпэтам ляпнуў яго па плячы.

— За гэта не хвалюйся. Атрымаеш не толькі архіўныя дакументы, але і дакументальную прозу, — Аўдошка сунуўся ва ўнутраную кішэнь, выцягнуў пашэрханы нататнік. — Ягонае прозвішча-а...— старонкі нататніка ніяк не жадалі перагортвацца, — Алесь Эвенкаў... аўтар дзесяці гісторыка-дакументальных аповесцяў. Чуў пра такога?

Іван страсянуў галавой.

— Мы яму неяк кнігу замаўлялі — пра камсамольскае падполле. Ну, і панадзіўся хадзіць са сваімі творамі. Летась прыйшоў з таўсценнай тэчкай. Аповесць, кажа, напісаў, пра маладога Брэжнева. Як той у Коханаве каморнікам працаваў... Назву вось толькі забыў. «Чалавек зз...»— Аўдошка прымружыўся, увабраў праз сцятыя зубы паветра, на нос яму ўпала яршыстая сняжынка. — Ну, з чым гэта каморнікі ходзяць? — запытаўся Лёва, выціраючы мокрую нюхаўку.

— З «казой»? — выгукнуў Іван, і другі сакратар зірнуў на яго смяшлівым і разам з тым дакорлівым вокам.

— Брэжнеў... з казой... — Аўдошка мелькам азірнуўся. — Ну, карацей, паглядзелі мы тую пісаніну... — Аўдошка ізноў прымружыўся, згадваючы, як мянуецца «каза» па-навуковаму, плюнуў і прыпаліў новую цыгарэту. — Паглядзелі, пачыталі — і вярнулі аўтару. Такія рэчы без узгаднення з Масквой не надрукуеш, — Лёва выпусціў дым, суцішна дадаў: — Пёрнуць ва ўласнай хаце, і то трэба дазволу прасіць...

Яны падышлі да «Волгі», Аўдошка абабіў мокры плашч, узяўся за ручку дзверцаў.

— Возьмеш у касе шэсцьдзясят рублёў — на прадстаўнічыя выдаткі — і выпраўляйся да Эвенкава, толькі патэлефануй

папярэдне. Адрас Жанна ведае. Заўтра абгаворым дэталі, а ў пятніцу паедзеш на месца.

— А можа, у панядзелак? — падаў голас Іван, і Аўдошка, які ўжо адчыніў быў дзверцы, з грукатам іх зачыніў і падышоў да падначаленага.

— Адкрою табе дзяржаўную тайну. Інстытут марксізму рыхтуе да брэжнеўскіх угодкаў біяграфічны нарыс. Бацькавы прайдзісветы шукаюць матэрыялы дзе толькі можна. Перакулілі дагары нагамі ўсе архівы; не сёння-заўтра ў Коханаве з'явяцца. Мы іх мусім апярэдзіць. Зразумеў? І вось яшчэ што, — Аўдошка керхануў у жменю, — скажаш пісаку, што будзем друкаваць ягоную аповесць. Гэта на выпадак, калі не захоча аддаваць матэрыялы... Карацей, пакруцішся ў Коханаве пару дзён, а там прышлем падмацунак, — Аўдошка ляпнуў Івана па спіне, рушыў да машыны, і цяпер ужо на Іванаву нюхаўку апусцілася яршыстая сняжынка; сняжынка ўмомант растала, дрыготкай кропляй завісла на кончыку носа, адбіўшы ў сваёй глыбіні счарнелыя ліпы, міргатлівы святлафор і аўдошкаву «Волгу», якая з прыглушаным вуркатаннем паехала па вуліцы.

На калідоры панавала цемра. Іван пстрыкнуў запалкай, выглядаючы нумар кватэры, тыцнуў пальцам у званок, і яму адразу ж адчынілі.

— Заходзьце-заходзьце...— азваўся гаспадар і ступіў два крокі назад, падставіўшы сваю бліскучую лысіну пад зыркае бра.

На гаспадары былі зашмальцаваныя піжамныя нагавіцы і салатавага колеру саколка, пад якой узбуджана калыхаўся па-жаночы пукаты жывот.

Іван пераступіў парог, расшпіліў два гузікі palітона і тут жа спалохана ўсхапіўся: пад нагамі ягонымі круціўся вялізны шэры кот.

— Барсік! Псік! — гукнуў гаспадар, няўклюдным рухам запрашаючы госця прайсці ў бакавы пакой.

— Дык што... вырашылі выдаваць?

Пытанне прагучала нечакана, таму Іван і адказаў не адразу: патрабавальна нюхнуў паветра і, вызначыўшы, што ў пакоі пахне старымі газетамі і кацінымі сцакамі, кіўнуў галавой.

Палову пісьменніцкага катуха займала кніжная шафа. Тут жа стаяў дыхтоўны, прыціснуты дапатопнай друкаркай і гарою папяровага хламу стол, а над сталом вісела ўвабраная ў залачоны багет карціна. Іван мелькам зірнуў на яе і знерухомеў: пасярод неабсяжнага поля стаяў брывасты дзяцюк у кірзавых ботах і, наваліўшыся грудзінай на каморніцкую «казу», зачаравана глядзеў на асветлены ранішнім сонцам далягляд. «У. Сцяпук. “Светлая раніца”. Л. І. Брэжнеў на Коханаўшчыне», — прачытаў Іван на таблічцы.

— Валодзя Сцяпук намаляваў... па матывах маёй аповесці, — сказаўшы так, пісьменнік пакутліва ўздыхнуў. — Ездзіў у Талачын, у райкам партыі. Думаў, набудуць...

— Хто ездзіў? Сцяпук? — перапытаў Іван, але пісьменнік як і не чуў ягоных слоў; яшчэ больш спахмурнеў, змахнуў рукавом скупую мужчынскую слязіну. — Вось тое ж і з аповесцю. Цэлы год пісаў... з архіваў не вылазіў...

Пачуўшы пра архівы, Іван неўпрыкмет пацёр далоні.

— А што, знайшлі нешта? Дакументы там, ці людзей, з якімі Леанід Ільіч працаваў?

Пісьменнік адвёў вочы, пацёр вуграватую шыю.

— Столькі гадоў мінула... Дый прабыў ён у Коханаве зусім няшмат — некалькі месяцаў.

Цяпер ужо Івану давялося спахмурнець і правесці далонню па карку.

— А дзе гэты Коханаўскі раён знаходзіцца?

Пісьменнік падхапіў са стала тоўстую тэчку, ляснуў ёю па сцягне, і ў паветры расплылася і паволі растала пыльная аблачынка.

— Вось тут! — мовіў творца, тузануўшы — спачатку дрыжачымі пальцамі, а потым рэдкімі зубамі — непадатны матузок.

Развязаўшы тэчку, творца прысмаліў папяросу.

— Раён той даўно зліквідавалі, — над лысай пісьменніцкай галавой прывідным німбам узнялося колца тытунёвага

дыму. — Вось, зірніце, мапа 27-га года выдання, і спіс сельсаветаў...

Мапа была дарэшты пацёртая, падраная на згібах.

— Усяго ў дваццаць сёмым годзе ў складзе раёна было дванаццаць сельсаветаў: Аболецкі, Алёнавіцкі, Палюдаўскі, Шыбецкі, Малатынскі, Сялецкі...

— А вы на месца выязджалі? — перапыніў Іван бясконцы пералік.

— Быў, — незадаволена выдыхнуў пісьменнік. — Як на добры лад, там трэба было цэлы месяц працаваць — людзей апытаць, сустрэцца з ветэранамі, а гэтыя сволачы з Саюза пісьменнікаў камандзіроўку на два дні выпісалі. Толькі і паспеў, што ў райкам зайсці ды з мясцовым краязнаўцам сустрэцца. Міла Сяргееўна... маладая яшчэ жанчына. У Коханаўскай прафтэхвучэльні працуе. Яна мяне там з адной цётухнай пазнаёміла. Цётухне восемдзесят гадоў: памятае, як у іхнай хаце, прыканцы дваццатых, каморнік жыў. Паказаў фотаздымак — паглядзела, прымружылася, кажа: «Здаецца, ён...»

— Адрас ёсць... той кабеты? — запытаўся Іван, выцягнуўшы з кішэні нататнік.

— Клічуць Сазоніхай, а жыве-е...— пісьменнік паскроб лысіну. — Як ад шашы ехаць на Коханава, дык першая вёска. Там яшчэ царква стаіць... разбураная...

— Значыцца, так, — Іван піхнуў у кішэнь нататнік, зірнуў на гадзіннік. — Зараз едзем у рэстаран і там абгаворым усе дэталі. Аповесць вашу занясу ў выдавецтва. Тэчку з дакументамі таксама забіраю. За сабраныя матэрыялы будзе налічаны дадатковы ганарар. Ну і карціну, відаць, прыхаплю, — госць прыкусіў губу, калупнуў пальцам багетавую раму, — пойдзе ў якасці ілюстрацыі да кнігі.

Іван памкнуўся зняць карціну са сцяны, да гаспадар кватэры схапіў за руку.

— Трэба ў Валодзі спытаць, — муркнуў творца няпэўным голасам.

— Ды што там пытацца... Паслязаўтра еду ў Маскву, узгадню на мастацкай радзе. Так што праз пару месяцаў, — зды-

маючы карціну, Іван гучна крэкнуў, — павіншуем таварыша з Дзяржаўнай прэміяй.

Іван яшчэ раз крэкнуў, здзьмуў з карціны пыл і крутнуў пальцамі, паказваючы, што яе трэба ў нешта загарнуць.

— Толькі ж глядзіце, не згубіце... — прамармытаў пісьменнік, але, сустрэўшы дакорлівы Іванавы пагляд, матлянуўся ў суседні пакой і вынес адтуль прасціну.

...Да рэстарана ехалі, трымаючы карціну над галовамі. Займала яна ўвесь салон і перад кожным святлафорам стукалася то ў задняе, то ў пярэдняе шкло. Пры гэтым вадзілу — Ваську Сёміну — даводзілася раз-поразу прыбіраць з ветравога шкла прасціну, якая вісла долу, і ціхенька мацюкацца. Пазіраючы на вадзілу ды на пісьменніка, які сядзеў на заднім сядзенні і лыпаў у змроку пужлівымі вачыма, Іван спачатку пасміхаўся, а потым закалаціўся ад смеху, і напятае карціннае палатно дробна заляпала па вадзілавай патыліцы. «Нервы», — падумаў тады Іван, умомант пасур’ёзнеў, выцер ражком прасціны ўпрэлы лабешнік. Нервам было з чаго ўсхадзіцца: выправа ў Талачын, якая адранку здавалася пустой і нікчэмнай забавай, цяпер, імжыстым адвячоркам, атачыла душу нечым цёмным, палітычна небяспечным, і вужака неўсвядомленай трывогі сціснула душу сваімі халоднымі колцамі.

«Журавінка», як заўсёды такім часам, зіхцела агнямі і скаланалася ад натужлівага бомкання бас-гітары. Рэстаранныя дзверы былі зачыненыя, а таму давялося доўга грукаць, а потым, калі прыдзвернік бязгучна закрычаў штосьці за тоўстым шклом, на імгненне прыляпіць да шкла цэкоўскае пасведчанне.

Швейцар у шатні сустрэў яго як старога знаёмца.

— Сябры вашы, з якімі вы палітонамі мяняліся, ужо гадзіну як прыйшлі.

Іван замёр на імгненне, падумаў — ці не падацца ў другі рэстаран? — але тут жа страсянуў чупрынай, тыцнуў швейцару металёвы рубель і кіўком галавы натхніў спадарожніка на рэстаранныя подзвігі.

Аўтар гісторыка-рэвалюцыйных аповесцяў, па ўсім бачна, у рэстараны завітваў зрэдку. Пісьменнік увесь час азіраўся,

папраўляў гальштук, а ступіўшы ў асветленую залу, страпянуўся і ўвабраў галаву ў плечы.

«Нічога. Кульне пару чарак — агойтаецца», — з гэтай думкай Іван стаў на дыбкі, агледзеў залу. Нінэль з Гармозіным сядзелі за тым жа столікам, што і ўчора, і ў абаіх — гэта адразу кінулася ў вочы — былі нервова-напружаныя твары.

— А вось і мы! — выгукнуў Іван праз людскія галовы, але Мішка яго, відаць, не пачуў, бо ў той жа міг здушыў у попельніцы цыгарэту і запрасіў Нінэль на танец.

— Дык гэта ж таварыш Гармозін... з аргаддзела, — уражана прашаптаў пісьменнік і, не адрываючы позірку ад шырокай Мішкавай спіны, прысеў на падстаўленае Іванам крэсла.

На стале з'явіўся букач «Белавежскай», бутэлька «Мінскай № 3», дзве фаянсавыя місы з салатай «Зара», і Іван, ляпнуўшы ў далоні, напоўніў чаркі.

— Ну, за вашу новую кнігу!

Гарэлка апякла нутро, Іван выцер сурвэткай вусны, тыцнуў відэльцам у салату, зірнуў на суседні стол і толькі тады заўважыў пляміста-звільгатнелы чырвонец на залітай шампанам талерцы. Кельнерка прыхапіла талерку, прыбрала пустыя келіхі.

— А дзе тыя... што тут сядзелі? — з неспакоем у голасе запытаўся Іван, і кельнерка, не павярнуўшы стрыжанай галавы, каротка адказала: — Разлічыліся.

Сітуацыя была зразумелай: учора Нінэль адкрыла сваю тайну, а сёння пазбягала ягонай кампаніі. Іван расшпіліў верхні гузік кашулі, памацаў запалены лоб і, схапіўшы букач, напоўніў фужэры.

— Узялі! — мовіў уладным голасам, але спазніўся: субяседнік ужо глытаў белавежскую, пагрозліва варушачы квадратным кадыком.

Праз дзве гадзіны, калі яны цягнулі ўпітага субяседніка да машыны, Васька-кіроўца запытаў:

— А хто гэта такі?

— Пісьменнік, — адказаў Іван, з натугаю варочаючы языком.

— А як яго прозвішча?

Іван закаціў бельмы, згадваючы прозвішча, але не згадаў і няўцямна прабубніў:

— Іван Шамякін. Чуў пра такога?

— Чуў! У школе праходзілі, — прамовіў кіроўца, падхапіў капялюш, які саслізнуў з пісьменніцкага плеха, і з дакорлівым уздыхам дадаў: — А ён алкашом аказаўся.

## II

Пасярод разлеглай і плыткай лужыны мыліся-дурэлі вераб'і. Лямант стаяў неверагодны, і Іван, пазіраючы праз акно на птушынае завіханне, міжволі падумаў, што і ў Менску таксама свеціць сонца, і таксама дурэюць у плыткіх лужах вераб'і, і Нінэль глядзіць на іх з акна, падпёршы далонню русявую галаву.

«Вось і вясна прыйшла», — прачулая фраза ўжо гатовая была сарвацца з языка, ды тут за спінаю — млява і недарэчна — рыпнулі дзверы і гучна бразнула вядро.

— Мужчына...

Ускудлачаная, пагрозлівага выгляду цётка стаяла ў дзвярной пройме, трымаючы ў напятых руках вядро і швабру.

— Мне прыбірацца трэба.

Іван пакутліва, як ад зубнога болю, перакрывіўся, выйшаў у калідор і ледзь не ўпаў, паслізнуўшыся на кагадзе памытай падлозе.

У нумары насупраць натужна гула электрабрытва. «Харкаў» — вызначыў Іван, зрабіў пару крокаў, рупячыся ступаць ля самай ліштвы, дзе лінолеум быў пааддзіраны, і зноўку прыслухаўся. Пастаяльцы дзясятага нумара лаяліся, у адзінаццатым зморана, відаць пасля п'янкі, аддзімаліся, а ў наступным, дванаццатым, была ўключана радыёкропка і звонкі голас з шалёным запалам апавядаў аб тытанічнай, самаахвярнай дзейнасці Леаніда Ільіча на пасадзе Генеральнага сакратара.

— Яшчэ ідзе, — прашаптаў Іван, маючы на ўвазе партыйны з'езд, і пачуў раптам здушанае вяканне: у прыбіральні, што месцілася ў канцы калідора і смярдзела на паўсвету, некага ванітавала.

Агідныя зыкі сцягнулі скуру на патыліцы. Іван таксама вякнуў, прыціснуўшы далонь да вуснаў, і спешна рушыў у другі канец калідора.

Ён блукаў па калідоры з выглядам чалавека, які толькі што абудзіўся і яшчэ дарэшты не ўцяміў, дзе знаходзіцца. Івана, ці не ўпершыню ў жыцці, уразіла зменлівасць уласнага лёсу. Яшчэ пару дзён таму ён сядзеў у сваім кабінеце, поркаўся ў паперах, піў на пару з Эвенкавым «Белавежскую горкую», а цяпер вось блукаў уздоўж аслізлых сцен у чаканні, калі буркатлівая цётка — «П'яніцы няшчасныя... увесь туалет засцалі...»— пакіне ганяць па падлозе швабру і выкуліцца з нумара.

Канец даўгога дзяржальна раз за разам вытыркаўся з-за дзвярнога вушака, нарэшце цётка грукнула швабрай аб падлогу, падхапіла вядро і, пазіраючы на карціну, якую Іван павесіў над ложкам, насмешліва-лагодным голасам запытала:

— Ці не Лёнька Брэжнеў намаляваны?

— Ды не... гэта так... перадавы аграном, — няўцямна прамовіў Іван, а калі пакаёўка падалася ўпрочкі, прыкрыў карціну газетай.

Ён паваліўся на ложак, зірнуў на гадзіннік — аб адзінаццатай за ім мусіў прыехаць райкамаўскі ўазік, — і схапіў з тумбачкі важкую тэчку.

— «Алесь Эвенкаў. "Чалавек з сажнем", гісторыка-дакументальная аповесць», — прачытаў Іван, лізнуў палец, з уздыхам перагарнуў старонку.

«Восеньскі вецер гнаў па небе свінцовыя хмары, зрываў з прыдарожных бярэзін жаўталіст. Наваколле, як кінуць вокам, было ўслана зялёнымі паплавамі, а непадалёку ад дарогі, у атачэнні лазняку, бегла рэчка з рудою балотнаю вадой. Лісце падала ў цёмную ваду, рабіла яе жывой і рухавай.

На паплавах стаялі парыжэлыя ад дажджу копы, і кожны парыў ветру даносіў адтуль саладжавы пах прэлага сена.

"Дык вось якая ты, Беларусь", — падумаў Леанід, перакінуўшы з рукі ў руку фанерны куфэрак.

З Курска да Воршы дарога няблізкая. Іншыя выпускнікі, што ехалі на працу па размеркаванні, прыхапілі ў дарогу шмат сала, акраец духмянай курскай сітніцы, а то і пляшку

самагону. А ў Леанідавым куфэрку знайшлі сабе месца толькі вышываны матчын ручнік ды кніжкі, сярод якіх была і дарэшты зачытаная ленінская брашура «Задачы саюзаў моладзі». З гэтай брашурай ён ніколі і нідзе не разлучаўся».

Іван паправіў пад галавой падушку, збіраючыся чытаць далей, ды тут пад вокнамі засігналіла машына, і ён падхапіўся з ложка.

Райкамаўцы не падманулі: у вызначаны час машына — заляпаны граззю «казёл» — стаяў каля гасцініцы.

«Паважаюць у нас маскоўскіх журналістаў», — незадаволена падумаў Іван, ідучы па сходах з магнітафонам у руцэ і з нязграбнай карцінай пад пахай. На Іване былі новы гэдээраўскі плашч і лакіраваныя «цэбошныя» туфлі.

Райкамаўскі кіроўца, сугней з выгляду, без лішніх пытанняў перахапіў карціну, загарнуў у брызент і са словамі: «У машыну не ўлезе» — прытарочыў вяроўкай да запаснога кола.

— Не згубім? — запытаўся Іван, ладкуючыся на сядзенні, кіроўца буркнуў:

— Не павінны, — крутнуў ключ запальвання.

— У Коханава! — загадна вымавіў Іван, пазяхнуўшы ў жменю.

Праз пару хвілінаў пад колы з аднастайным шумам пабегла мокрая шаша. За акном праплыло некалькі гарадскіх будынкаў, мільганулі панурыя хаты і вочы запаланіла белае наваколле. Усюды, як кінуць вокам, яшчэ ляжаў пажухлы снег, і толькі ля рэчкі, што віхлялася ўздоўж дарогі, снег падтаў і агаліў невясёлыя, парослыя леташняй травой берагі.

— Дык вось якая ты, Беларусь, — жартам паўтарыў Іван словы маладога Брэжнева і працяжна ўздыхнуў.

— А вы што, з Масквы? — зададзенае кіроўцам пытанне было разлічана на доўгую гутарку.

— З Масквы, — азваўся Іван і, дэманструючы, што гутарка скончана, змежыў павекі.

Уваччу закружлялі вясёлкавыя шары, машына паехала неяк бокам, і Іван адчуў галавакружны пах парфумы. «Ніна»,— бязгучна прашапталі вусны, і цела салодка абамлела, і дрогкія

пальцы кранулiся халодных Нiнэлiных каленяў. «Божухна, як я люблю гэтыя каленi», — бязгучна прашаптаў Іван i ляснуўся патылiцай аб напяты тэнт. Яго яшчэ раз падкiнула, i кiроўца, скiнуўшы газ, мацюкнуўся. Машына ўжо ехала не па асфальтавай шашы, а па раздзяўбанай брукаванцы i натужлiва, з плаксiвай iнтанацыяй, гула на пад'ёме. З-за пагорка паказалася невялiчкая вёска: купка цёмных хат, iржавая вадавежа, руiны царквы ля дарогi.

— Што за вёска? — запытаўся Іван.

— Марцюхi... каб яны спрахлi, — кiроўца паддаў газу, i «казёл» iзноў падкiнула. — Жонка мая адсюль, жыла вунь там, ля царквы. Хату пазалетась у Талачын перацягнулi.

— А дзе Сазонiха жыве — ведаеш?

— А во... крайняя хата, — машына рэзка затармазiла, вадзiла адкiнуў дзверцы, голасна крыкнуў: — Нюрка! — i, павярнуўшыся да Івана, патлумачыў: — Нявестка ейная.

У двары збуцвелай, цi не да рэвалюцыi стаўленай хатыпяцiсценкi дзябёлая кабета развешвала на вяроўках мокрыя прасцiны. Прасцiны лапаталi на ветры i былi пазначаныя жоўтымi плямамi.

— Добры дзень, Нюра... — Іван не пазнаў уласнага голасу i крахтануў у далонь. — Сазонаўна дома?

Кабета зiрнула на Івана з вясёлым здзiўленнем.

— А вы, вiдаць, з Менску?

Іван скасiў вока на машыну, кiўнуў галавой.

— Прыязджаў тут адзiн... лысы... з Менску. Усю ноч пiлi з маiм Пецькам — каб iх парвала. На ранiцу яшчэ тры рублi пазычыў. І цяпер аддае.

Сiтуацыя вымагала чыну. Іван спехам палез у кiшэнь, выцягнуў пакамечаны трульнiк.

— Вось... прасiў якраз перадаць.

Атрымаўшы грошы, кабета палагаднела, насунула апошнюю зашчэпку, падхапiла пад пахi мяднiцу.

— А навошта вам свякроў? Будзеце, як той лысы, пра станаўленне калгаснага ладу пытацца?

Госць разгублена пасмiхнуўся.

— У інтэрнат здалі. Што ж яна... ужо не ўстае... абасцыцца ды ляжыць цэлы дзень. На майскія святы ў бальніцу паклалі. Месяц ляжала. Прывезлі... пытаюся: ці вылечылася? Вылечылася, кажа. Я ўзрадавалася, паслала ўсё новае, а яна адразу ж і ўсёрлася. Во як у нас лечаць: баба толькі сцалася, а цяпер яшчэ і срацца пачала. Ды і загаворваецца...

Іван, ні слова не сказаўшы, пайшоў да машыны, і кабета пасунулася следам:

— Лысы ёй там нешта нагаварыў, дык баба зусім ашалела. Стала ўсім казаць, што з Брэжневым сустракалася. Яе ўжо, як у бальніцы ляжала, неўрапатолаг глядзеў, і псіхіятр з Воршы прыязджаў... круціў малатком перад носам ды між вачэй стукаў. Два гады ў інтэрнат не бралі — усё месцаў не было. А тут, як пра Брэжнева загаварыла, ураз забралі...

Іван убіўся ў кабінку, ляснуў дзверцамі.

— Вы б зайшлі ў хату, малака выпілі, — гукнула кабета, але вадзіла паддаў газу, спачувальна зірнуў на Івана, і яны разам перавялі дых.

На приступках вучэльні яго сустрэла маладая кабета ў дэмісезонным плашчы і дарэшты скалелая дзеўчынёха ў навюткай, з выпадку надзетай спяцоўцы.

— Цэлую гадзіну чакаем, — паведаміла маладая кабета, расчыніўшы перад карэспандэнтам непадатныя дзверы.

Іван, аднак, не спяшаўся пераступаць парог — паказаў рукой, што ўвойдзе толькі пасля жанчын.

— Нам яшчэ ўчора патэлефанавалі — сустракайце, кажуць, карэспандэнта. Збірае матэрыял аб маладых гвардзейцах пяцігодкі.

Іван мелькам азірнуўся: такія гучныя сустрэчы яму не надта падабаліся.

— Зараз правядзем невялічкую экскурсію, а потым Таня Акачонак — яна ў нас адзіная дзяўчына на трактарным патоку — раскажа аб сваёй прафесіі.

Цэлую гадзіну давялося хадзіць па класах і кабінетах, глядзець на расфарбаваныя белай і чырвонай фарбай трактарныя вузлы, кідаць роблена цікаўныя позіркі на плакаты з

выяваю гідраўлічнай сістэмы трактара МТЗ-50 ды слухаць захопленыя аповеды Мілы Сяргееўны і Тані Акачонак — той самай дзяўчыны ў спяцоўцы — пра гісторыю стварэння і станаўлення прафесійна-тэхнічнай вучэльні. Нарэшце, у завешаным выцвілымі плакатамі кабінеце тэхнікі бяспекі, Іван выцягнуў з сумкі магнітафон, з непрафесійнай павольнасцю разблытаў шнуры, пстрыкнуў клавішай.

— Ну а зараз Таня Акачонак з 23-й групы распавядзе нам пра сваё вучылішча.

Іван з лёгкай гідлівасцю паднёс «дудку» — рэпарцёрскі мікрафон — да збялелых дзявочых вуснаў, вусны задрыжэлі, прамовілі кароткую фразу:

— У нашым вучылішчы... — і змоўклі.

— Ну, не хвалюйся ты, не хвалюйся! — падбадзёрыла дзяўчыну Міла Сяргееўна.

Таня Акачонак страсянула бялявымі кудзеркамі, звяла вочы да мікрафона.

— У нашым вучылішчы...

— Ну што там, у вашым вучылішчы? — Іван міжволі і сам пачаў хвалявацца.

— У нашым вучылішчы... я вучуся, — адказала Таня Акачонак і зноў занямела.

— Таня, раскажы пра пошукавую работу, — падала голас Міла Сяргееўна.

— У нашым вучылішчы... вядзецца вялікая...— прамовіла Таня пераселым ад хвалявання голасам, махнула рукой і выбегла з кабінета.

— Ой, вы ведаеце, яна ўсю ноч не спала, да інтэрв'ю рыхтавалася, — усхвалявана загаварыла Міла Сяргееўна, а Іван, кляцнуўшы клавішай, дабрадушна прабубнеў: — Нічога страшнага, раскажу сваімі словамі.

Магнітафонныя бабіны з ціхім гудам круціліся, перамотваючы тасьму.

— Вы вось займаецеся пошукавай работай, — Іван накруціў шнур на мікрафон, — а ці ведаеце, што ў вашым вучылішчы... э-э-э... у вашым раёне жыў і працаваў Леанід Ільіч Брэжнеў?

Акрэсленыя тушшу вочы суразмоўніцы прыкметна акругліліся.

— Ведаем! І ўжо два гады вядзем пошук. Куды толькі ні пасылалі запыты: і ў архівы, і ў ЦК партыі, і ў абласны музей... і ніякага адказу. Тут неяк, — Міла Сяргееўна шумна ўздыхнула, — пісьменнік прыязджаў... якраз займаўся гэтай тэмай. Мы з ім знайшлі адну кабету...

— З Марцюхоў? — перабіў Іван.

— Ды не... тую ўжо ў вар'ятню адвезлі. Гэтая ў Апалоніках жыве. Восем кіламетраў ад Коханава.

— Дык, можа, з'ездзім? — выпаліў Іван, і Міла Сяргееўна з прытоенай радасцю перасмыкнула плячамі.

Даўно не адчуваў Іван такой асалоды, такога трапяткога задавальнення ад поціску цёплай жаночай рукі. Падсаджваючы Мілу ў «казёл», ён схапіў раўнівым позіркам вострае калена, плюхнуўся поруч з кіроўцам, і па целе ягоным разлілося салодкае здранцвенне. Вушы нібыта заклала ватай, і Іван не пачуў таго, што сказала Міла Сяргееўна, а вось словы кіроўцы прарвалі густую вату: «Да Апалонікаў, відаць, не даедзем. Дарогу развезла».

Машына скранулася з месца, закалацілася на выбітым бруку, вытрэсваючы з душы салодкае здранцвенне і поўнячы гудам матора.

Пару кіламетраў ехалі з ветрыкам, а потым пачалася дарога ў пекла. Лёд у калюжынах падтаў, колы круціліся ўхаластую, а таму даводзілася штораз пхаць «казла», і брудны снег, што вылятаў з-пад колаў, завэдзгаў Івана з галавы да ног. Неўзабаве ўазік убіўся пярэднім колам у яміну, Іван добрых паўгадзіны, мацюкаючыся і адплёўваючыся, упіраўся сцягном у бампер ды налягаў плечуком на запаску, нарэшце, выбіўся з сіл, і ў гэты момант за спінай ягонай перарывіста затарахцеў «Беларус».

...Да Апалонікаў ехалі на прычэпе. Трактарыст, хлопец у марскім бушлаце, добра разагнаўся, прамінуў патрэбную хату, хаця кіроўца безупынна сігналіў, і спыніўся на другім канцы вёскі.

— Ну ты і гоніш, — са стомаю ў голасе прамовіў Іван, падышоўшы да трактара.

— Да швагра па самагонку еду, — азваўся хлопец, скочыўшы на зямлю.

Іван тыцнуў трактарысту металёвы рубель і, вяртаючыся да машыны, кінуў праз плячо:

— Назад паедзеш — пасігналь.

У хату Надзеі Пятроўны Аблавух — так звалі гаспадыню — увайшлі не адразу. Гаспадыня адчыніла была дзверы, але тут жа зноў прычыніла, пакінуўшы вузкі атвор. У гэтым атворы лыпнула слязістае старэчае вока.

Старой было з чаго ўлякнуцца: на парозе стаяў нетутэйшага выгляду мужчына з нейкай халерай пад пахай — гэта была спавітая ў брызент карціна, — і выціраў насоўкай брудныя рагі на белым плашчы.

— Надзея Пятроўна! Гэта я, Міла! Памятаеце, мы да вас прыязджалі? — з жарсцю засакатала Міла Сяргееўна, старая пашырыла пройму, выглядаючы — хто там сакоча, — і стомлены ўсім гэтым дурноццем Іван наваліўся на дзверы.

— А хто ж гэта лезе-е?! — зусім па-дурному заспявала гаспадыня, тры разы перахрысцілася, але, угледзеўшы Мілу, пакінула лямантаваць, сцягнула з левага вуха хусцінку.

— Карэспандэнт гэта, з Масквы! Адмыслова прыехаў, каб з вамі пазнаёміцца! — гукнула Міла, старая схамянулася, замірґала вільготнымі вачанятамі; Міла паўтарыла фразу, ды так гучна, што на кухні загулі саганы.

«І жывуць жа людзі... у такой убогасці», — падумалася Івану, калі ён аглядаў бабчыну святліцу. Адзіным упрыгожаннем жытла былі фотапартрэты, якія віселі пад столлю і з якіх пазіралі апухлыя, няпэўнага ўзросту мужчыны ў будзёнаўках, кабеты ў белых хустках ды стараверскага выгляду дзяды з кудлатымі барадамі.

Іван наблізіў твар да партрэта мужчыны ў будзёнаўцы.

— Сцёпка, брат мой, царства яму нябеснае. Загінуў у фінскую, — прашамкала старая, перахапіўшы Іванавы позірк.

Іван уздыхнуў, надаў твару неабходную ў такіх выпадках суровасць, але праз хвілю ўсхапіўся і пачаў без прэамбул.

— Ну дык распавядзіце нам, Надзея Пятроўна, пра каморніка, які ў вас кватараваў.

Старая сцягнула ўжо з абодвух вушэй хусцінку, Міла, удыхнуўшы паветра, крыкнула:

— Пра каморніка, пра каморніка раскажыце! — і ад таго крыку загулі шыбы ў хаце, а разам з імі і Іванава галава.

— Ай во... жыў каморнік. Усё з рагазой хадзіў, зямлю мерыў, — старая выцерла ражком хусткі слязлівыя вочы. — Дужа добра на гармоніку граў. Выйдуць, бывала, са Сцёпкам, братам маім, на вуліцу, кадрылю зайграюць, дык ад дзевак потым няма адбою. А Манька Казюліна, суседка наша, — у гэтым месцы старая сцішыла голас, — дык загрубела ад яго. Во як! Бацька даведаўся — з сякерай кінуўся, ды не дагнаў — збегла на Асінбуд, на будоўлю электрастанцыі.

Іван пачухаў патыліцу.

— Ну, а як яго звалі?

— А во забылася, добры чалавек. Здаецца, Цімох...

«Добра яшчэ, што не Леанід», — з развагаю падумаў Іван. Ён ужо збіраўся пайсці, ды згадаў пра карціну. «Пакажу на ўсялякі выпадак — а раптам пазнае».

Пад вокнамі гучна залескатаў, а потым натужліва засігналіў «Беларус».

Пакуль Іван раскручваў дрот ды выцягваў карціну з брызенту, на ганку затупалі і хату ўваліўся ўжо ладна падпіты трактарыст.

— Ну дык... начальнік... мне ехаць трэба.

— Ды пачакай ты, — перакрывіўся Іван, выцягнуў з кішэні два рублі, і трактарыст, сціснуўшы грошы ў прамазучаным кулаку, выкуліўся з хаты.

— Ці гэты? — Іван паднёс карціну бліжэй да акна.

Старая зірнула на карціну са здзіўленнем, схіліла галаву, а Міла, гэтым разам зусім ціха, прашаптала: — Дагары нагамі трымаеце.

Іван перакінуў карціну з рукі на руку і з сардэчным клёкатам у горле заўважыў вялізную трохкутную дзірку. Палатно было прадзёрта ў тым месцы, дзе ўзыходзіла сонца.

«Як жа гэта я?» — бязгучна выдыхнуў Іван, згадаўшы, як піхаў машыну, налягаючы плячом на запаску.

— Ды не-е, той быў меншы расточкам, ды і бровы былі не такія кусцістыя, — паведаміла старая, але Іван яе ўжо не слухаў.

Ён зморана, як пасля доўгай беганіны, аддыхаўся, перадаў карціну Міле Сяргееўне, і жанчына таропка, з пачуццём уласнай віны, стала спавіваць яе ў мокры брызент.

Як ехалі назад — не прысніцца і ў страшным сне.

Не паспелі яны праехаць і ста метраў, як машына тузанулася, падскочыла на калдабане, і Іван, стукнуўшыся галавой аб ветравое шкло, нема закрычаў:

— Ён што — ашалеў?!

— Цэлы слоік навярнуў, — азваўся вадзіла, густа дыхнуўшы самагонам. — Ад першака заўсёды шалеюць.

— Стой, йоп... — крыкнуў Іван, расчыніў дзверцы і траха не выпаў з машыны.

Трактар пайшоў на паварот, трос зазвінеў струною, і Іван з жахам убачыў, што правыя трактарныя колы адарваліся ад зямлі і «Беларус» вось-вось перакуліцца.

— Мамачка-а! — галёкнула за спінай Міла Сяргееўна. Жанчына кулялася па сядзенні, задзёршы ногі і загаліўшы зялёныя панталоны.

«Казёл» пайшоў юзам, наехаў на камень; Іван, падляцеўшы, ляснуўся макаўкай аб каркасную трубу, і ў вачах ягоных пацямнела.

— Стой, бл...ь! — цяпер ужо вадзіла адчыніў дзверцы, ступіў на падножку, крыкнуў: — Трымай мяне! — і Іван схапіўся за нешта цёплае і мяккае.

Вадзіла нема закрычаў, шпурнуў у бок трактара металёвы болт, трактар скінуў абароты, але тут жа зноў тузануўся, і кіроўца, згубіўшы адразу два кірзачы, павіснуў на дзверцах. Слых працяў драпежна-плаксівы голас:

— Дай што-небудзь... Прыб’ю, с-суку!

Іван намацаў пад нагамі гаечны ключ, піхнуў у заграбушчую руку, і да надрыўнага трактарнага ракатання далучыўся

звон разбітага шкла. Трактар заглух, праехаў па інерцыі колькі метраў, захрас у глыбокай каляіне.

Выкуліўшыся на ватных нагах з машыны, яны спехам адчапілі трос, і вадзіла пачыкіляў, свецячы голымі пяткамі, шукаць кірзачы.

— Пысу трэба біць за такія жарты! — гукнуў Іван, звяртаючыся да трактарыста: задняе шкло было напалову разбіта, і ў пройме тырчала стрыжаная патыліца. — Чуеш?

Трактарыст, аднак, змаўчаў, і гэта паддало злосці.

— Чуеш, ты...— Іван адчыніў кабінку; штосьці абмяклаважкае навалілася на яго, збіла з ног; ён бразнуўся спінай аб лёд і суціх на імгненне, прыціснуты да зямлі разамлелым і, як падалося, мёртвым целам.

«Забілі... гаечным ключом забілі!» — думка працяла мазгі, ён роспачным рухам паспрабаваў скінуць з сябе страшны цяжар, і трактарыст, ікнуўшы спрасонку, няўцямна мацюкнуўся. У Івана адлягло ад сэрца; з апошніх сілаў ён скінуў з сябе прапахлую салярай тушу, папоўз па мокрым лёдзе.

— Дык што з ім будзем рабіць? — запытаўся Іван, калі кампаньён, адшукаўшы кірзачы, падбег да трактара.

Вадзіла падцягнуў халявы, памацаў, азірнуўшыся на машыну, прыпухлыя ядры.

— Садзім за руль! — мовіў, скрывіўшыся, таварыш па няшчасці, і яны схапілі трактарыста пад пахі.

З цяжкасцю ўпіхнулі разамлелае цела ў кабінку.

У кабінцы знайшлося пакарабачанае вядро, вадзіла пачарпнуў талай вады, выліў на стрыжаны кумпал. Потым, стоячы на падножцы, завёў трактар, паддаў газу, скочыў на зямлю, і «Беларус» заскакаў па калдобінах, страляючы выхлапным газам і высякаючы іскры тросам, які валокся следам.

— Даедзе? — насцярожліва запытаўся Іван.

— А куды ён дзенецца? Кожнага вечара на аўтапілоце ездзіць, — пачуў Іван у адказ і неўпрыкмет перахрысціўся.

У гасцініцу ўбіўся а восьмай вечара. Прайшоў, хістаючыся ад стомы, міма акенца адміністратаркі — адміністратарка нават патушыла настольную лямпу, каб лепей разгледзець пастаяль-

ца, — падняўся, стукаючы краем карціны па ўсходах, на другі паверх, прамінуў дзвюх уражаных цётак, відаць, дзяжурных па паверху, і, дастаючы ключ, пачуў злавесны шэпт:

— Да нашых дзевак цягаўся, вось і натаўклі.

Не распранаючыся, абрынуўся на ложак, заплюшчыў вочы і паплыў на хвалях страшэннай стомы. Цела стала хваравіта-лёгкім, думкі выпетрыліся з галавы і на бяскроўных, злёгку пасінелых вуснах адбілася кволая ўсмешка. Хвалі гойдалі бязважкае цела, і аднекуль здалёк далятаці перарывісты трактарны рокат, здушаныя мужчынскія мацюгі, вісклівы, дарэшты прыглушаны лямант Мілы Сяргееўны і зацятае бубненне Тані Акачонак: «У нашым вучылішчы... у нашым вучылішчы... у нашым вучылішчы...» Неўзабаве ўсе гукі сціхлі, Іван расплюшчыў вочы і зірнуў на гадзіннік. Стрэлкі «камандзірскіх» паказвалі палову на дзявятую. А дзявятай у яго была замоўлена размова з Аўдошкам, і ўсведамленне таго, што можна цэлых паўгадзіны ляжаць, ізноў зрабіла цела бязважкім і напоўніла слых бязладнымі гукамі.

Праз паўгадзіны ён падняўся на ногі, скінуў брудны плашч і мокрыя нагавіцы, надзеў спартовыя штаны і тоўсты швэдар, потым, падумаўшы, прыхапіў пісьменніцкі рукапіс і выйшаў у калідор.

Наўкол было ціха, і толькі ў нумары насупраць з той жа натугай, што і раніцай, гула электрабрытва і хтосьці напаўголаса спяваў цыганскія рамансы.

— Гэта вы Менск замаўлялі? — адміністратарка зірнула з свайго паўкруглага акенца сурова і недаверліва.

— Я-а, — прастагнаў Іван, і па целе ягоным прабеглі лёгкія дрыжыкі. — Калі дадуць — не ведаеце?

— Цягам гадзіны, — быў адказ, і Іван плюхнуўся ў фатэль.

Гэтым разам, зморана пазяхнуўшы, ён узяўся чытаць з сярэдзіны, і друкаваныя радкі мітусліва заварушыліся ўваччу.

«Дарога ішла ўздоўж лесу і расіста свяцілася ў прыцемку, — прачытаў Іван і роспачна, да хрусту ў пашчэнках, пазяхнуў. — Далёка на захадзе дагаралі рэшткі зараніцы, і там, на тле загуслай чырвані, цёмнымі ценямі мільгалі начныя птушкі.

Таго вечару ў вёсцы Заазер'е ладзілі камсамольскі сход. Леанід Брэжнеў мусіў на ім выступіць з лекцыяй. Пасля лекцыі вясковая моладзь доўга не адпускала яго з трыбуны, пыталася, ці хутка ў Заазер'і арганізуюць калгас, прасілі дапамагчы абсталяваць хату-чытальню, наладзіць выпуск насценгазеты. Сход зацягнуўся, і дахаты давялося ісці ў цемры.

Заазерская моладзь прапаноўвала застацца начаваць: хадзіць міма Кувечанскага лесу было небяспечна — там днямі бачылі банду Хведзькі Рванага. Аднак Леанід падхапіў на плячо каморніцкі сажань, развітаўся з заазерцамі і рушыў у дарогу.

Ён глядзеў на гулкі лясны краявід і міжволі згадваў дняпроўскае прыволле. Сэрца шчымела ад тугі па родным краі, і Леанід, паскорыўшы крок, ціха прашаптаў: "Не расслабляцца!" І з пачуццём хмельнай палёгкі падумаў, што і гэтыя лясныя прасторы — яны таксама родныя, як і ўся Савецкая краіна.

Ад цёмных кустоў аддзяліліся змрочныя цені, нерухома паўсталі на дарозе.

"Кулакі!" — мільганула трывожная думка, і пальцы да сінечы ў пазногцях сціснулі сажань», — у гэты месцы радкі канчаткова расплыліся, і Міла Сяргееўна ціха паманіла яго да сябе лебядзінымі рукамі.

Бразнуў тэлефон, Іван здрыгануўся, выпусціў з рук тэчку, і старонкі аповесці з ціхім шумам зляцелі на падлогу.

Пакуль збіраў гісторыка-дакументальную аповесць да кучы, адміністратарка, гукнуўшы ў слухаўку: «Месцаў няма, толькі па броні!» — вытыркнула нос з паўкруглага акенца.

— Вунь яшчэ адна, — гукнула кабета, і Іван выцягнуў з-пад суседняга, парэзанага лязом фатэля згубленую старонку.

Змораныя вочы паспелі выхапіць толькі адну фразу: «Не пазнаеш?! — страшным голасам выдыхнуў Хведзька Рваны», — і цішыню ізноў разарвалі натужна-нецярплівыя званкі. Ён кінуўся да акенца, і ўсхваляваная адміністратарка спехам перадала яму слухаўку.

Напачатку ў слухаўцы штосьці гуло і рыпела, потым застагнала, і нарэшце пачулася прыемнае сапрана:

— Ало-уу...

— А Леў Мітрафанавіч дома? — запытаўся Іван, і ўладальніца сапрана незадаволена выдыхнула:

— З'ехаў у камандзіроўку.

— Як з'ехаў? — уразіўся Іван.

— А вось так — узяў ды з'ехаў, — яшчэ з большай незадаволенасцю адказала кабета і каротка выпаліла: — Што перадаць?

— Скажыце: званілі з Талачына, прасілі тэрмінова прыслаць падмогу.

Слухаўка азвалася panылымі гудкамі, і з кожным новым гудком галава Іванава хілілася долу. Напярэдадні ад'езду Аўдошка загадаў званіць вечарамі на ягоны хатні тэлефон, цяпер жа званіць не было куды, ён застаўся сам-насам са сваімі праблемамі, і вусны ягоныя ледзь чутна, з працяглай паўзай паміж словамі, прашапталі:

— Больш не магу... заўтра... з'еду.

Хваравітыя дрыжыкі праймалі да костак. Ён выкуліўся з гасцініцы, спытаў нейкага алкаша, дзе знаходзіцца рэстаран, дробным трухам пабег па цёмнай вуліцы. Пляшку гарэлкі на вынас узяў без праблем, а калі вяртаўся назад, пачуў шаргатлівыя крокі за спінай. А яшчэ за спінай нехта задыхана выгукнуў:

— Ён!

Іван схаладнеў. «Кулакі!» — мільганула трывожная думка і пальцы да сінечы ў пазногцях сціснулі пляшку. «Кулакі? Якія кулакі?.. яны ж зліквідаваныя як клас», — Іван азірнуўся. Дзве змрочныя постаці імкліва рухаліся следам.

Ён уляцеў у гасцініцу, узбег, пераскокваючы праз дзве прыступкі, на другі паверх і замёр ля свайго нумара. Унізе бразнулі дзверы, стрымана загаманілі, але наверх не пайшлі: адчынілі, бразгаючы ключамі, адзін з нумароў на першым паверсе.

«Можа, гэта Бацькавы памагатыя?» — Іван пастаяў яшчэ троху, потым, па-кацінаму асцярожна, стаў спускацца па лесвіцы — хацеў запытаць адміністратарку, ці ёсць сярод пастаяльцаў масквічы, — але перадумаў і пайшоў у свой нумар.

... Тае ночы яму снілася Нінэль. Нінэль была ў празрыстай начной кашулі, праз якую прабіваліся чорны трохкутнік, цёмны пупок ды ружовыя смочкі грудзей. Дзяўчына штосьці казала, але голас гучаў як бы здалёк і ён не мог разабраць анівод-

нага слова. А калі прыслухаўся, дык да вушэй даляцела фраза «У нашым вучылішчы» і роспачныя крыкі Мілы Сяргееўны.

На раніцу страшэнна балела галава. З вохканнем ён абхапіў балесную галаву рукамі, і дрыжачыя пальцы намацалі два свярблівыя гузакі — адзін на макаўцы, другі на патыліцы.

«Няўжо цэлую пляшку агораў?» — войкнуў Іван, зірнуўшы спачатку на пустую пляшку, што стаяла на тумбачцы, а потым на брудны плашч, які ляжаў на падлозе.

Пачалі вяртацца нейкія думкі, пачалі будавацца нейкія планы, і Іван, памацаўшы пабітую макаўку, вырашыў зараз жа пайсці ў хімчыстку, каб адшараваць завэдзганы плашч.

Праз пятнаццаць хвілін ён ужо цёпкаўся па вуліцы ў пошуках хімчысткі, а дайшоўшы да шклянога павільёна, аблізнуў сасмяглыя вусны.

Хаця чарга была невялічкай — чалавек пяць, не болей, — стаяць давялося доўга. Праз галаву ўвесь час перадавалі пустыя кухлі, сіпла гукалі:

— Паўтарыць! — а аднойчы нават лінулі за каршэнь піўныя рэшткі. Нарэшце ён узяў два пенныя кухлі, угледзеў у дальнім куце вольную мясціну і стаў прабівацца туды, на хаду глытаючы гаючае пітво.

Прыемная цеплыня разлілася па целе; Іван, перавёўшы дыханне, узяўся за другі кухаль і тут толькі заўважыў падпітага бамбізу, які сядзеў насупраць і глядзеў на яго ўчэпіставаўкаватым позіркам.

— Не пазнаеш? — сіпата выдыхнуў бамбіза.

Іван выцер пену з вуснаў, адвёў вочы, і сусед ужо зусім страшна прамовіў:

— У вочы глядзець... у в-вочы...

Іван падхапіў скручаны плашч, хацеў быў пайсці, ды рука патрапіла ў жалезныя абцугі.

— Сядзе-эць, бл-ля-а...

«Божухна, і на якую халеру я сюды прыцёгся?» — Іван паспрабаваў вызваліць руку.

— Сядзе-эць, — паўтарыў заўсёднік піўнушкі, да хрусту ў суставах сціснуўшы Іванавы пальцы.

Праз паўгадзіны, адкупіўшыся ад п’янага бамбізы трыма кухлямі піва, Іван выкуліўся на свежае паветра, пабег, забыўшыся на ўсё, па гразкай вуліцы і ўжо ля самай гасцініцы згадаў, што пакінуў у піўнушцы свой плашч. Назад, аднак, вяртацца не выпадала. Ды і наогул — той хвіляй ён гатовы быў бегчы з гэтага страшнага горада не тое што без плашча, але і без штаноў.

— Усё! З мяне хопіць! — задыхана прашаптаў Іван, уляцеў у свой нумар і застыў, аслупянелы.

На ягоным ложку сядзеў Мішка Гармозін і з павольнай руплівасцю рэзаў сцізорыкам лімон.

— Міша! — жаласліва прастагнаў Іван, змахнуўшы рукавом няпрошаную слязіну.

Мішка глянуў на Івана так, як глядзяць псіхіятры на сваіх пацыентаў.

— Штосьці ты не па сезону апранены. Цябе што — білі?

Іван плюхнуўся на ложак, абхапіў рукамі галаву.

— Адкупіўся... трыма кухлямі.

Гармозін схапіўся за пляшку:

— Давай па адной. Потым раскажаш.

«Белавежская горкая» лягла на збружэлае піва, і Іван адразу ж захмялеў. Кінуўшы на зуб скрылёк цытрыны — іншай закускі не было, — ён змучана ўздыхнуў і са здзіўленнем адзначыў, што Мішкавы пальцы дробна дрыжаць, а вочы ліхаманкава бліскаюць. Гармозін, які, здаецца, ніколі ў жыцці не хваляваўся, нервова прыпаліў цыгарэту, тут жа яе прыдушыў і зноўку схапіўся за пляшку.

Ад выпітага ў Івана зазвінела ўвушшу, і сярод гэтага звону прагучаў зрывісты Мішкавы голас:

— Ну, распавядай — як ты тут...

Мутнае вока зачапілася за нешта пагрозліва-ільснянае, і Іван здрыгануўся.

У нумар рашучай ступой увайшлі два фацэты ў доўгіх скураных палітонах. Адзін, бугаісты, стаў ля дзвярэй, другі, шчуплы і нізенькі, усутыч падышоў да Мішкі.

— Ну што, хлопчыкі... і сапраўды, распавядзіце — як вы тут... Хто вас сюды прыслаў? І наогул — чаму п’яце сярод белага дня?

Мішка запытальна зірнуў на Івана, і той перасмыкнуў плячыма.

— Цябе кепска выхоўвалі, — прамовіў Гармозін, зірнуўшы спадылба на госця, — стукацца трэба, як у чужую хату ўваходзіш.

Знянацку Мішка, прыхапіўшыся з ложка, заехаў госцю ў ніжнюю сківіцу, потым баднуў у грудзіну, і той з цяжкім грукатам абрынуўся на падлогу.

Усё надарылася так хутка, што Іван нават не паспеў перапудзіцца...

Бугай, які дагэтуль стаяў ля дзвярэй, прафесійным ударам злева прывёў Мішку ў стан грогі. Мішка хіснуўся, грымнуўся на ложак і быў накрыты карцінай, якая звалілася са сцяны. Гэта яго і ўратавала: пакуль Бугай разглядаў маладога Брэжнева, Гармозін імклівым рухам уздзеў карціну на Бугаёву галаву, а потым, наваліўшыся на сценку, заехаў крыўдзялю нагой між вачэй, ды так, што карціна крутнулася вакол Бугаёвай шыі — спачатку ў адзін, а потым у другі бок. Затым Мішка, ужо двума нагамі, адкінуў Бугая ад сябе, і небарака, разламаўшы багет, вылецеў у дзвярную пройму.

Іван увесь схаладнеў: «Божухна, што цяпер будзе?»

Няпрошаныя госці затупалі па калідоры, а Мішка, прыціснуўшы далонь да налітага крывёю вока, засоплена крахтануў:

— Тэлефон тут ёсць?

Наступнай хвіляй яны таксама пабеглі па калідоры, і ногі Іванавы пры гэтым не гнуліся ў каленях.

На доле, ля акенца адміністратаркі, стаяў, ліхаманкава накручваючы тэлефонны дыск, адзін з гасцей — той самы, што атрымаў у сківіцу. Ягоны сябрук, на шыі якога бруднай манішкай матляліся рэшткі карціны, стаяў поруч, выціраючы насоўкай густую юху.

— Ах вы, с-сукі! — не сваім голасам загарлаў Мішка Гармозін, ляснуў кулаком аб далонь, і госці, піхаючы адзін аднаго, выкуліліся з гасцініцы.

Слухаўка матлялася на шнуры, з перарывістым трэскам зумкала: «Ало. Дзяжурны слухае».

— Ало! Міліцыя?! Тэрмінова пад'язджайце! — гукнуў Мішка, падхапіўшы слухаўку. — Так, у гасцініцу. Здзейснены

тэрарыстычны напад на адказных работнікаў цэка камсамола, — Мішка крахтануў, пачухаў слухаўкай пабітую сківіцу і ўжо вясёлым голасам параіў адміністратарцы, якая сядзела са страху пад сталом, пакінуць сховішча.

— Чувакі нетутэйшыя, — узбуджана канстатаваў Гармозін, калі яны вярнуліся ў нумар.

— Бацькавы памагатыя, — дрогкім голасам азваўся Іван, закрыў твар рукамі і, па прыкладу вядомага кінагероя Казладоева, з роспаччу ў голасе дадаў: — Усё скончана!

— Э-э, браце, усё толькі пачынаецца. — Мішка сеў на ложак, укінуў у рот цыгарэту. — Ну, выганяць нас з гэтай канторы, дык хоць нейкай справай зоймемся.

Іван змаўчаў: пляснуўся поруч, пацёр знямелыя скроні. Хвілін пяць сядзелі моўчкі, і толькі калі ўнізе бразнулі дзверы, Іван ачнуўся і запытаў:

— Як там Нінэль?

— З'ехала ўчора.

— Куды?!

— У Крым. З Аўдошкам.

Іван адчуў раптам душэўную палёгку. Сэрца ягонае парывіста забілася, і ўваччу, зусім нечакана, паўстала Міла Сяргееўна. Жанчына ляжала на леапардавай шкуры, лашчыла мяцёлкай леапардавага хваста мочкі грудзей і клікала, клікала ў свае абдоймы.

# ЗАБОЙЦА АНЁЛА

У хаце, куды я ўладкаваўся на пастой, спяваў цвыркун, ціха рыпелі сцены і гучна, з хваравітым надрывам, кашляў гаспадар. Хата была вялікая, стаяла на высокім падмурку, і з вокнаў былі бачныя руіны царквы, лапікі руні на пагорках і шыхт згалелых таполяў на волжскім беразе...

Я напісаў гэтыя два сказы з неадчэпнай думкай: ці не перанесці дзею на родныя гоні? Бо што, уласна, зменіцца? Тая ж хата будзе ціха рыпець па начах, у цёмным запеччы будзе спяваць такі ж самы цвыркун, а на самой печы зойдзецца ад кашлю які-небудзь Ахрэм ці Базыль. Адно берагі будуць ужо не волжскія, а дняпроўскія, і на рачных берагах паўстануць не пірамідальныя таполі, а белабокія бярозкі. Палец ужо крануўся клавішы delete, каб сцерці набраны тэкст, ды тут жа адскочыў, падуладны ліхаманкавай думцы пра тое, што на дняпроўскіх берагах зроду не забівалі анёлаў.

У сакавіку 1988 года лёс закінуў мяне на Ніжнюю Волгу, у вялікую, на пяцьсот двароў, вёску Сіняглазку. У тых мясцінах, па глеістым волжскім дне, мусіла пралегчы нітка нафтаправода; я мусіў сачыць за тэхналогіяй зваркі труб, але будаўнікі часова з’ехалі на другі аб’ект і давялося цэлы тыдзень гультаяваць, блукаючы па рачных берагах, азіраючы руіны аграмаднай царквы, што грувасціліся пасярод Сіняглазкі, і штовечара чытаць мясцовую газетку «Комсомолец Каспия», якую выпісвалі гаспадары, у якіх кватараваў.

...«Я б на тваім месцы набыў ладны спінінг. Якраз лешч пайшоў», — казаў мне на развітанне напарнік — хударлявы дзядзька з татарскім прозвішчам Зіганшын, які дагэтуль кантраляваў якасць трубнай зваркі, а цяпер ехаў на адпачынак у родную Самару. Напарнік паклаў у бяздонны заплечнік пару балыкоў, вязанку сухарэбрыцы, спавіты ручніком трохлітровы слоік паюснай ікры: «Як трэба будзе ікра, звяртайся да

чачэнцаў. Жывуць ля царквы, — ускінуў заплечнік на спіну і здушана прамовіў: — Толькі б да аўтобуса дацягнуць».

Хата стаяла на выселках, і да аўтобуса трэба было тупаць два кіламетры. Палову дарогі ішлі моўчкі — калега адно крэкаў ды тузаў напятыя лямкі, мне таксама было не да размоваў, бо руку адрывала цяжкая валіза, і толькі калі мы спыніліся, каб перавесці дух, Зіганшын зморана выдыхнуў: «Жыць тут можна... адно што хата далёка ад вёскі, ды гаспадар... таго... — палец напарніка крутнуўся ля скроні. — Блукае цэлымі днямі па двары, ні з кім не размаўляе».

Жыць у адной хаце з вар'ятам не надта хацелася, і я заклапочана пацёр навярэджаныя далоні.

«Ты не хвалюйся. Ён, Іван, ціхі: курыцы не пакрыўдзіць, — Зіганшын палез у кішэнь па цыгарэты, ды згадаўшы, што паліць няма калі — аўтобус праз дваццаць хвілін адыходзіў, — падхапіў заплечнік. — Кажуць, нармальны быў мужык: піў, на гармоніку граў. А гадоў пяць таму анёла падстрэліў».

«Як гэта?» — уразіўся я, намацваючы ручку валізы.

«Ну як... стрэліў у баклана, а з неба анёл зваліўся», — хмыкнуў Зіганшын, зірнуў на гадзіннік і патупаў, па-птушынаму ківаючы лысаватай галавою.

Аўтобус знік за паваротам, пакінуўшы па сабе гнятлівую цішыню і адбіткі колаў на тупкім жвіры. На душы стала непамысна, і я, не ведаючы, куды сябе падзець, два разы абышоў разбітую царкву, зірнуў пад знявечаныя скляпенні і, убачыўшы выяву Васіля Вялікага, траха не перахрысціўся: святы глядзеў на мяне з суровай пагардай, палічыўшы, відаць, што я забег у храм справіць малую патрэбу.

Да спісанай мацюгамі сцяны былі прыстаўленыя драбіны. Драбіны былі хісткія, небяспечна зыбаліся, і, пакуль па іх уздымаўся, ногі злёгку занямелі і сцяліся ад халодных дрыжыкаў. Па вышчарбленым уступе давялося сунуцца на карачках, а дапяўшы да цёмнага атвора, за якім пачыналіся вітыя ўсходы, я аддыхаўся і пашкадаваў, што палез на верхатуру.

Усходы заканчваліся невялічкай, спрэс заседжанай галубамі пляцоўкай, і першае, што ўбачыў, ступіўшы на рыплі-

вы памёт, быў той самы чырвоны аўтобус. За хвілю рухавая кропка знікла з відавоку, і я з раўнівым сумам падумаў, што чырвоны мураш вернецца толькі праз месяц: гэтак жа павольна прапаўзе па стэпе і, ператварыўшыся ў рэйсавы аўтобус, страсяне на заднім сядзенні распаўнелага і пасвяжэлага пасля адпачынку Зіганшына.

Дзень быў пахмурным, краявід — урачыстым і простым, і чарада таполяў, што пазначала волжскі бераг, падзяляла сіратліва-насупленае неба і шэрую, нядаўна вызваленую ад снегу зямлю. Позірк слізгануў па хвалістым, падобным да дыяграмы павольнага дыхання, паску, за якім плыла матухна-Волга, і дзесьці над галавой незадаволена забуркавалі галубы. Я не ведаў птушынай мовы, але да сэнсу буркацення дапяў: галубы былі незадаволеныя тым, што я цэлы дзень блукаў па волжскіх берагах, а самой ракі так і не бачыў.

У стэпе відаць далёка, і далягляд здаецца блізкім, як дастаць рукою. Волжскі бераг таксама падаўся блізкім, але ішоў я да яго цэлую гадзіну, сюд-туд азіраючыся на бязвокую царкву, і радаваўся ёй, як старой сяброўцы, сустрэтай у далёкай і чужой краіне. Напачатку мясцовасць была пляскатай, як патэльня, потым пачалася шырокая лагчына, на дне якой ляжаў клін бруднавата-шэрага снегу, а калі я выбраўся з лагчыны і зірнуў наперад, дык не ўбачыў прырэчных таполяў. Перад вачыма распасціраўся неабсяжны стэп, і лінія небакраю была як ніколі высокай і раўнюткай. Шыхт шэраствольных, зачасаных угору таполяў знік у вечаровым сутонні, а разам з таполямі прыхавалася ад вачэй і вялікая расейская рака. Я прайшоў яшчэ пару сотняў метраў, пастаяў у непаразуменні, з трывогай назіраючы, як марнее дзённае святло, як цямнее і расплываецца відарыс царквы, і няпэўным крокам рушыў у адваротным напрамку. Пакуль ішоў лагчынаю, стала зусім цёмна, і я з вясёлым адчаем падумаў, што і Сіняглазка можа знікнуць, як зніклі прыбярэжныя таполі. Давялося паскорыць крок, потым кінуцца подбежкам і перавесці дых, пабачыўшы гронку мігатлівых агнёў на даляглядзе.

Цемра насунулася знянацку; яна пужала і адначас вабіла нейкай сваёй загадкавасцю. Мне чуліся далёкія крокі. Здавалася, нехта ішоў за мною, ступаючы след у след, і калі я спыняўся і наструньваў слых, да вушэй далятаў тупат ботаў і здушаны кашаль. Дзесьці я ўжо чуў гэткі кашаль, чуў грукат цяжкіх ботаў... Мне нават здалося, што ззаду ідзе гаспадар хаты! Здагадка халодным ледзяком кранулася душы, але тут жа растала, і я, працягла ўздыхнуўшы, падзівіўся сваім дзіцячым страхам.

Зрэшты, перапужацца было з чаго: незнаёмая мясціна, апраметная цемра... забіты анёл на балоце... Зіганшын распавёў пра анёла з вясёлым смяшком, маўляў, чаго не прытрызніцца па п'янцы. Але мяне той аповед уразіў. Уваччу нават паўстала карціна: балотная купіна, чалавек з дубальтоўкай і ля ягоных ног скрываўлены анёл — ляжыць, глядзіць на чалавека нежывымі вачыма. Карціна атрымалася такой яскравай, што давялося страсянуць галавой і — чаго раней ніколі не рабіў — перахрысціцца.

Я доўга блукаў у цемры. Мігатлівыя агні, на якія арыентаваўся, прывялі да нейкай фермы. На мяне накінулася вялізная псіна, якая сіпла брахала і намагалася кнуснуць за пятку. І, відаць, куснула б, калі б яе — кароткім мацюгом — не паклікалі з нутра прысадзістай, прапахлай выпетраным гноем будыніны. Псіна, падкурчыўшы хвост, пабегла на ферму, а я рушыў у супрацьлеглы бок, наіўна маракуючы, што менавіта туды і трэба ісці, а калі выйшаў на пагорак, убачыў за спінай новыя агні, і абуджаныя навакольныя сабакі віталі мяне залівістым брэхам.

Перад тым як пастукаць у дзверы, пацёр далонню тое месца, дзе білася знясіленае сэрца.

Адчыніў мне гаспадар — сівагаловы, сярэдняга веку чалавек: ён ліхаманкава бліснуў вачыма і засоплена, як пасля доўгай беганіны, адкашляўся.

«А раптам і сапраўды бег за мною? І ўляцеў у хату перад маім прыходам?» — я праслізнуў у пройму прачыненых дзвярэй, забег у свой пакой і, скінуўшы вопратку, падбіўся пад коўдру. Цела гуло ад стомы, павекі гарэлі ад недасыпу, але я баяўся іх звесці — неадрыўна ўзіраўся ў цёмныя вокны і слу-

хаў, як рыпаюць масніцы, як роспачна, з глухім прыдыханнем кашляе гаспадар і дзесьці ў запеччы, як ніколі бадзёра і гучна, спявае цвыркун. Потым усё аціхла, вушы заклала пухнатай ватай; на кароткае імгненне я прачнуўся, бо здалося, што нехта — злавесны і няўклюдны — схіліўся над маім ложкам, і тут жа зноў абрынуў у сон, і ў сне, страшэнна стомлены, я ішоў голым стэпам і на даляглядзе дрыжэла і расплывалася ўваччу сцяна згалелых таполяў.

Абудзілі мяне зыркае святло і пранізлівы птушыны галас. Раніца выдарылася сонечная, і пад вокнамі, у разлеглай і плыткай лужыне, з шалёным імпэтам мыліся вераб'і. Я спехам апрануўся, падагрэў на пакінутай Зіганшыным электраплітцы бляшанку свіной тушонкі, паснедаў і выйшаў на падворак.

— Ці не заблудзілі вы ўчора? — гаспадыня хаты, цемнатварая, злёгку прыгорбленая жанчына, узрост якой цяжка было вызначыць, мыла пасярод двара пакарабачаныя начоўкі.

— Было крыху, — я прымружыўся ад сонечнай зыркоты, — цямнее тут хутка... і цемра егіпецкая.

— Цямнее ў нас, як у кінатэатры. Не паспееш азірнуцца — ужо ноч на двары, — жанчына шухнула ваду пад плот. — Летась да сястры ездзіла, у Архангельскую вобласць, дык там, паверце, і ночы няма: светла, як днём. Я там і спаць не магла...

Гаспадыня, відаць, была з гаваркіх; мне ж балакаць не выпадала — трэба было прайсціся ўчарашняй дарогай і паглядзець, куды падзеўся волжскі бераг, — таму, буркнуўшы штосьці дзеля прыліку, я скочыў з ганка, прайшоўся ўздоўж плота і быў спынены кароткім воклікам:

— Федзя з'ехаў?

Ля весніц суседняй хаты сядзеў на кукішках мужчына майго веку і поркаўся ў матацыкле.

— З'ехаў, — паведаміў я, палічыўшы, што гаворка ідзе пра Зіганшына, прыпыніў крок, і мужчына, падхапіўшыся на ногі, запытальна ўзняў падбародак:

— У пасёлак ідзеш?

Я кіўнуў у адказ.

— Сядай, пракоцімся з ветрыкам, — мовіў аднагодак, рупліва выцершы вяхоткай перапэцканыя далоні.

Стары К-750 — на такіх матацыклах калісьці ездзілі даішнікі — здрыгануўся жалезным нутром, сарваўся з месца, пайшоў на пад'ём, прарэзаўшы коламі схіл пяшчанага пагорка.

— Рыбалкай цікавішся? — запытаўся, не паварочваючы галавы, мужчына, а калі я гукнуў яму на вуха:

— Не-а! — паддаў газу і з робленым абурэннем крыкнуў насустрач ветру:

— Што ж ты за мужык такі?!

Учора, калі глядзеў з царкоўнай верхатуры, рачны бераг падаўся блізкім, а сёння ён адсунуўся да небакраю і прывідна калыхаўся ў працятай сонцам смузе.

— Ці далёка да ракі? — крыкнуў я, не пачуўшы ўласнага голасу.

— Пяць з паловай кэмэ, — крутнуў галавой матацыкліст і з вясёлым адчаем дадаў: — Мяне Мікалаем клічуць.

Даўшы кругаля на невялічкім пляцы, Мікалай спыніўся матацыкл ля мясцовай крамы і заглушыў матор.

— У краме нічога няма. Можна ўзяць толькі ў чачэнцаў: сем рублёў бутэлька.

Піць не хацелася, дый здароўя не было: апошнім часам даймала пякотка, але мусіў лезці ў кішэнь і адлічыць рубель і два трульнікі.

Назад ляцелі як на крылах. На паваротах кола вазка адрывалася ад зямлі, матацыкл матляла ўбокі, і я ляпаў Мікалая па спіне, каб той скінуў хуткасць.

— Даедзем, — адзываўся Мікалай; на адным з паваротаў ён скінуў газ і тыцнуў мяне локцем: — Ты Волгу хоць бачыў?

Волгі я не бачыў, і мой новы знаёмца рашучым рухам крутнуў руль управа. Ехалі ледзь прыкметнай сцяжынай, потым узбіліся на праселіцу, і я, уважліва пазіраючы наперад, крыкнуў:

— Чаму жывяце так далёка ад берага?

— Залівае. Пяць гадоў таму нават дамбу знесла, — Мікалай кіўнуў галавой, паказваючы наперад, і я прымружыў вочы.

Там, наперадзе, прарэзаўшы стэп раўнюткім ценем, уздымалася пакатая дамба. Учора на змярканні дамба злілася з наваколлем, прыхавала ад вачэй бераг, перакрывіла свет, а

сёння лагодзіла позірк маладою травою і казытала сэрца лёгкім сорамам: было няёмка за свае ўчарашнія страхі.

Матацыкл нырцануў у прахон, які быў прарыты ў дамбе, праехаўся па абалоні, і ў прасвеце між дрэвамі зырка бліснула рачное люстра.

Вада стаяла ля самых таполевых карэнняў, здавалася нерухомай, і дзіўна было назіраць, як імклівa, што той пенапласт па ручаіне, плыў па рацэ рыхлы лёд. Дзесьці зусім побач загарлаў певень — раз, потым другі. Я нават азірнуўся, выглядаючы пяюна, і Мікалай, спрытным рухам адкаркаваўшы пляшку, прамармытаў:

— Гэта на тым беразе.

Да супрацьлеглага берага было добрых два кіламетры.

— Там месца высокае, жывуць ля самай вады, — прысеўшы на стаўбур паваленага дрэва, Мікалай з гэткім жа спрытам адкрываў сцізорыкам бляшанку бычкоў у тамаце. — На тым баку калісь Сарай-Бату стаяў, сталіца Залатой Арды. Чуў пра такі горад?

Я наставіў далонь да брывоў, намагаючыся захаваць у памяці тое месца, дзе была сталіца Залатой Арды, а тым часам за спінаю керханулі і з нецярплівым натхненнем выдыхнулі:

— Ну, давай, за знаёмства...

Пластмасавая пасудзіна з-пад смятаны была амаль поўная. Я зрабіў пару ашчадных глыткоў, вярнуў пасудзіну Мікалаю, і той, падліўшы гарэлкі, варухнуў кадыком. Піў ён паволі, звёўшы вочы да пераносся, а дапіўшы, размашыста махнуў рукою, збіваючы з пасудзіны апошнія кроплі, і кіўнуў у бок матацыкла.

— Колькі я ў ім поркаўся — доўга распавядаць, — бяседнік падчапіў на хлеб пратамачаны бычок, драпежна заварушыў сківіцамі. — З міліцыі спісаны. Мянты ў слуп урэзаліся, пярэднюю вілку пагнулі, таму і спісалі. Я па тую вілку аж у Ахтубінск матляўся. Выпрасіў у аднаго пенсіянера. Затое цяпер гойсаю як мае быць. Звер-машына! Па нашых пясках ні на «Іжы», ні на «Яве» не праедзеш: мігам матор нагрэецца.

Мікалай працягнуў мне пачак цыгарэт, я страсянуў чупрыною і, у сваю чаргу, запытаўся:

— А што... чалавек, у якога жыву... з ім нейкая гісторыя надарылася?

Бяседнік прыпаліў цыгарэту, з глухім посвістам выпусціў дым. Хвіліну ён сядзеў нерухома, потым схапіў бутэльку, дрыжачай рукой напоўніў пасудзіну.

— Мы з ім тады разам паехалі. Ружжы ўзялі, сабаку ў вазок пасадзілі — добрая была псіна... акалела летась, — і на ільмені махнулі. Кожнай восені туды ездзілі, гусей стралялі. Гусей там, скажу табе... — суразмоўнік уздыхнуў, выпіў гарэлку, з каменным тварам глянуў на неба. — У мяне на ільменях швагер жыве — участковым працуе: ён мне, дарэчы, і матацыкл узычыў... Ну, прыехалі, узялі па чарцы. Іван, праўда, не піў. Штосьці на яго найшло — выправіўся проці ночы на азярыну. «Пайду, кажа, пагляджу — ці ёсць што страляць». Ну, выправіўся ён, а мы з шваграм яшчэ пляшку расціснулі, ды адразу ж спаць леглі, каб на золку падняцца. І вось чую сярод сну — поркаецца нехта на падворку. Падняўся, адчыніў дзверы і аслупянеў: стаіць Іван — збялелы, расхлістаны, без ружжа; плямкае ротам і нічога сказаць ня можа. «Што такое?! — кажу, — што здарылася?!» Стаіць, пальцам на неба паказвае, а на левай назе балотніка няма — згубіў недзе. Тут і швагер прачнуўся. Уцягнулі небараку ў хату, улілі ў глотку чарку самагонкі, потым яшчэ адну, а яго і хмель не бярэ — лупіць вочы, штосьці сказаць хоча.

Як толькі развіднела, клікнуў Азора, пайшлі на бліжэйшы ільмень — ружжо з балотнікам шукаць. Сабака адразу след узяў, наперад кінуўся. Я за ім: бягу, а ногі кісельныя. А раптам, думаю, на якую халеру ўзаб'юся дый сам ачмурэю. Тут Азор заліўся брэхам. Я — да яго... Бачу, на суку «тулка» вісіць ды поруч балотнік валяецца. Пахадзіў наўкол, паглядзеў. Нічога такога. Качыны пух расцярушаны, сям-там трава прыбітая... — суразмоўнік уздыхнуў, ізноў падхапіў бутэльку. — Адвезлі ў дурку. Два месяцы адкачвалі, ды так і не адкачалі. Блукае па двары, не пазнае нікога...

— Ну а размаўляе хоць?

— Аляўціне, жонцы, пару словаў скажа за месяц — і то добра.

Кульнуўшы чарку, я падышоў да ракі. Сонца вісела над зарэчнай вёскай і сваёй гарачай зыркасцю адбірала вочы. Уваччу плылі чорныя пачучкі, і, каб іх пазбыцца, давялося зможыць павекі і прыслухацца да навакольных зыкаў: плёскату вады, жаўруковага спеву і п'янаватага Міколавага мармытання.

— Глюкі — страшная рэч. Мне вось аднойчы таксама... штосьці такое прымроілася. Піў па-чорнаму... ну і ўбачыў... чорта на падвоканні. Сядзіць, паскуда, і хвастом варушыць... — за спінаю пачуліся прагныя глыкі і задаволеная керханіна, — шпурнуў у яго прасам... Высадзіў шыбу разам з рамаю. Маці — яшчэ жывая была — да шаптухі вадзіла, замоўленай вадой пырскала...

Затрашчала галлё, і Мікалай, падляцеўшы да вады, з усяе сілы шпурнуў у ваду пустую пляшку; дзве кагаркі слізганулі па вадзе, выглядаючы — што гэта звалілася ў матухну-Волгу, — і незадаволена загарлалі хрыпатымі галасамі.

Уначы я доўга не мог заснуць; круціўся з боку на бок, спрабаваў лічыць да тысячы, нарэшце ўкінуў у рот валідоліну і стаў паволі заглыбляцца ў нешта замарачнае, тужлівае і яшчэ больш глыбокае, чым сон. І ўжо на самым дне соннай замарачы пачуліся мне невыразныя зыкі; яны мацнелі, рабіліся больш выразнымі, я пасправаваў прачнуцца, але не мог раздзерці цяжкіх павекаў; душа памкнулася насустрач зыкам, і ў вочы мне зірнулі шэрыя перадсвітальныя вокны.

За сценкай здушана ўсхліпвалі.

— Я забіў яго, — знявечаны плачам голас абарваўся, пачуўся ляскат босых ног, і Аляўціна, уздыхнуўшы, прамовіла:

— На, выпі вадзіцы.

Потым яшчэ добрую гадзіну Аляўціна сунімала мужа, казала, што анёл жывы і па-ранейшаму лётае над ільменем, пырскала ў мужаў твар вадою, спявала калыханку, а я ляжаў, закінуўшы рукі за патыліцу, глядзеў у світальныя вокны і прагнуў, як той анёл, зляцець куды-небудзь ад гэтай бязмежнай чалавечай тугі.

Раніцай Аляўціна запрасіла на гарбату. Напачатку я адмовіўся, а потым, прыхапіўшы пару бляшанак тушонкі — на

той час дэфіцытнага далікатэсу, — падаўся на кухню. Дэфіцыт зрабіў гаспадыню лагоднай. Яна адставіла ўбок шклянку гарбаты, наліла ў гліняную місу гарачай капусты.

Напачатку сядзелі ўтрох. Гаспадар сёрбаў гарбату, раз-пораз выціраючы ручніком упрэлы лабешнік, і нечакана, адсунуўшы недапітую шклянку, падаўся да дзвярэй і ўжо ў прысенку выбухнуў густым і натужлівым кашлем.

— Ешце-ешце... са свежай бараніны, — паведаміла гаспадыня, абдарыўшы мяне ўсмешкай. Жанчына, відаць, хацела яшчэ нешта сказаць, ды не рашалася і, апусціўшы вочы, стала перабіраць пальцамі махры накінутай на плечы хусткі.

— І даўно з ім... гэта здарылася?

— Пяць гадкоў ужо. І ў Астрахані ляжаў, і ў Валгаградзе... І да празорцы яго вазіла. Ёсць тут у нас адна калмычка... за руку бярэ і кажа — калі памрэш і ад чаго. Тая павадзіла па пакоі, зірнула ў вочы і кажа: забіў свой цень, а без ценю жыцця не будзе. І нават грошай не ўзяла.

— Ну, а што ён наагул распавядаў? Анёл гэты... з крыламі быў, ці як?

— Казаў, увесь белы, у пакрывала спавіты. І рукі белыя, і твар. А крылаў не было — я сама пыталася. А яшчэ казаў, што анёл — гэта ягоная маці. А маці ж яшчэ ў вайну памерла, з галадухі. Яго, Івана, потым родная цётка гадавала.

Аляўціна наліла мне дабаўкі, перахрысцілася на атвор пашарпанай, сто гадоў не беленай печы і, падхапіўшы рагач, прашаптала:

— Не дай нам Бог забіць свайго анёла.

Праз месяц дажджыстым красавіцкім ранкам я з’язджаў з Сіняглазкі. За мокрай аўтобуснай шыбай мільганула самотная постаць Мікалая, чырвоная ад дажджу царкоўная руіна, на паўсвету разлітая Волга, потым усё знікла, пакінуўшы на душы непазбыўнае пачуццё ці то віны, ці то трывожнай тугі па невядомым. Там, у Сіняглазцы, душу маю кранула тайна чалавечага жыцця, і ці не таму, што я ўвесь час думаў пра гэтую тайну, мой анёл адкрыўся мне. Адкрыўся праз тры гады, на золку красавіцкага дня. Я расплюшчыў вочы і ў прыцемку

дзвярной праймы ўбачыў белую постаць. На мяне глядзела штосьці да болю знаёмае і блізкае сэрцу і адначас таямнічае і пагрозлівае. Я адарваў галаву ад падушкі, спрабуючы ўгледзець, хто гэта, ды ў гэтае імгненне постаць памкнулася да акна і знікла ў малінавых промнях. І я зразумеў, што ніколі не бываю на самоце. Што нехта нябачны ўвесь час глядзіць на мяне, бачыць мяне навылёт і задуменна ківае галавою, калі я маню альбо раблю якое паскудства. Уражаны, я доўга ляжаў, аж пакуль ізноў не заснуў і прачнуўся аб адзінаццатай гадзіне — з цяжкой галавой і з салодкай асцою ў правым вусе. І душу, як колісь у Сіняглазцы, апанавала непазбыўнае пачуццё ці то віны, ці то трывожнай тугі па невядомым. Матэрыялістычная свядомасць, як тая аслізлая жаба, варушылася пад дыхніцай, патрабавала нейкіх тлумачэнняў, і я іх хуценька знайшоў: рэшткі сну не выпетрыліся з галавы — вось і прымроілася белая постаць.

А праз год, гэткім жа красавіцкім ранкам, анёл ізноў з'явіўся мне — ён ізноў стаяў у дзвярной пройме і зноў праплыў да акна, растаўшы ў малінавых промнях дзянніцы. Тым ранкам я больш не заснуў. Ляжаў, нерухома-анямелы, думаў аб тайне нашага быцця, аб патрэбе самаачышчэння, і ў думках паўтараў некалі пачутыя словы: «Не дай нам Бог забіць свайго анёла».

# ЗМЕСТ

**Мудроў, В.**
М11 Забойца анёла : аповесці і апавяданні / Вінцэсь Мудроў. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 256 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 93).
ISBN 978-985-7180-14-1.

Зборнік складаюць 13 апавяданняў, большасць якіх публікавалася ў перыядычным друку. Апісаныя ў іх падзеі разгортваюцца ў недалёкім савецкім мінулым, перабудовачнай парой і ў наш час.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

